# Дзіўныя

# паведамленьні

**пра**

# езуітаў

**у**

**Беларусі.**

У лістах.

---

З італьянскай мовы.



Другое выданьне

 

**Франкфурт і Ляйпцыг**

**1786**



# Уступ.

Арыгінальны твор зьявіўся ў 1780 у Італіі пад назовам: “Lettere Critiche in schiarimento del vero stato attuale dei Gesuiti nella Russia Bianca, e loro difesa nel Noviziato da essi apertoci; col seguito delle altre cose favorevoli ai medesimi accordate negli Stati dell‘ Imperatrice delle Russie, del Re di Prussia, nel Portogallo, ed altrove; dirette al Sig. Marchese... In Firenze 1780. 8.”[1]

Яго канчатковая мэта, пры расповедзе таго, што адбывалася зь езуітамі ў Беларусі з 1772, калі здарыўся падзел Польшчы, па 1780, давесьці з рэальнага становішча, што яны там дагэтуль цалкам і законна існуюць. Ён таксама пралівае сьвятло на тое, што часткова бянтэжыць нас у грамадзкіх газэтах, а часткова было няслушна выказана. Адна з прычын гэткіх няверных паведамленьняў высьвятляецца сама па сабе, бо чалавек знаходзіць, што існуюць дзьве партыі, адна зь якіх змагаецца за, а другая супраць езуітаў.

Расповед усяго працэсу пашырае ўзвышаны лад мысьленьня і любоў да справядлівасьці Расейскай Манархіні, часткова ў дачыненьні Яе цьвёрдасьці ў аднойчы прынятых рашэньнях атрымаць езуітаў як карысных чальцоў Яе Імперыі, ня гледзячы на ўсе спробы Міністра Замежных Спраў накіраваныя супраць гэтага; часткова прымаючы да ўвагі Яе мудрасьць, зь якой Ёй удалося заўважыць, выкрыць і спыніць яго падрыўную дзейнасьць; часткова з-за Яе такой слаўнай заклапочанасьці тым, каб каталіцкія падданыя, якія дасталіся Ёй пры Падзеле, у іх рэлігіі не былі б ні пакрыўджаныя, ні маглі б паскардзіцца на тое, што яны былі вылішаны чагосьці з дапаможных сродкаў дзеля дасягненьня гэтага. Гэтае прыхільнае стаўленьне Манархіні да каталіцкай абшчыны, якая ў гэтым сэнсе шматразова была кранутая з самай адпаведнай пахвалой, дае рымскім летапісцам грунтоўную прычыну шанаваць яе вечнымі ўспамінамі пашаны.

[1] Крытычныя лісты ў ачыстку сапраўднага бягучага стану езуітаў у Беларусі, і абарона іх набору паслушнікў, які яны адчынілі; і таксама іншыя рэчы, да таго ж спрыяльныя, прадстаўленыя ў дзяржаве Імпэратрыцы Рускай, каралевы Прускай, Партугальскай і іншых краін; накіраваныя на пана Мархезэ... Фларэнцыя, жнівень 1780.

Месца нараджэньня гэтага сачыненьня высьвятляецца пры чытаньні само сабой, і менавіта, што ім зьяўляецца Рым. Вострае пяро, якое накіроўвае складальнік, завострана не столькі ім, колькі Вялікімі [асобамі], якім было жадана знайсьці магчымасьць нанесьці антыезуіцкай партыі моцны ўдар. Можна было б падумаць, што прадметам гэтага твору павінны былі б быць не столькі езуіты, але значна больш іх супраціўнікі. Дарэчы, ён цікавы таксама дзякуючы многім расповедам, якія тут сустракаюцца; дзякуючы вызначэньню актуальнага стану рымскага двара, таксама таму, што ён паказвае, як яго міністры зь ім часам абыходзіліся, і яшчэ будуць. Ён шчыра расчыняе перад вачыма частыя інтрыгі, якія вяліся ў гэтым мерапрыемстве; калі аднак на расейскім двары вернасьць мясцовых міністраў заставалася непахіснай, бо яны не дазвалялі асьляпляць сябе залатым бляскам. 1786.





# Першы ліст.

## Сябра!

Учора ў суполцы ў пана N. N. быў публічна зачытаны цыркуляр з рымскай дзяржаўнай канцылярыі, які знаходзіцца ў звароце праз усе нунцыятуры паведамляючы пра абранае паслушніцтва езуітаў у Беларусі. Ён зьяўляецца верна зробленай копіяй з арыгіналу, які наш пан Нунцый паказаў кожнаму, нават супраць яго волі, і запэўніў, што ён быў складзены панам Кардыналам дзяржаўным сакратаром, чый стыль яму добра знаёмы; ён адначасова папрасіў усіх, ці яны хочуць прапусьціць гэты тэкст праз усе суполкі гораду, што зьяўляецца лепшым і найкарацейшым спосабам выканаць зроблены яму загад, які складаецца з таго, што ён павінен зрабіць намаганьні, каб грамадзкія размовы аб гэтым матэрыяле ўзгадняліся з настроямі, якія зьмяшчаюцца ў пазначаным цыркуляры.

Наша кола складалася зь сяброў, з ворагаў і з асоб, якія раўнадушна ставяцца да езуітаў; але ўсе былі сьветлыя галовы і разумелі сьвет; такім чынам нават пра езуітаў казалі па-рознаму, некаторыя хвалілі, а некаторыя асуджалі іх паводзіны. Але што да цыркуляра, усе былі зьдзіўлены, што Рым, якому з даўніх часоў у любым бедзтве і ў найдалікатных становішчах атрымлівалася вынайсьці самы геніяльны сродак, зараз вымушаны шукаць сховішча ад зацяганых і зусім не вартых пахвалы хітрыкаў сьвецкага кабінэту; і што ён не задумлячыся абслугоўвае іх, губляючы пры гэтым тую палітычную прадбачлівасьць, якую неабходна падрымліваць тым, каму любы і варты іх асабісты гонар. Гэта ўжо стары прыём, раскідваць напісаныя старонкі, якія даюць народнай гаворцы той выгляд і міну, якую жадае двор; але калі ў тых тэкстах пагарджаюць пашанай да каранаванай асобы, якая запярэчвае гэта і можа атрымаць найбольш адчувальную сатысфакцыю; калі ў тых тэкстах абыходзяцца ганарліва і хамскі зь біскупам, які ведае ўсю справу, якую спрабуюць схаваць, і ўсе яе абставіны; і які нарэшце будзе вымушаны раскрыць яе дзеля свайго апраўданьня, і пакрыць ганьбай аўтара, і распаўсюднікаў гэтай хлусьні; калі тыя тэксты, пры тым, што яны акрамя таго падрыхтаваны коратка, цёмна і проста ў агульных выразах; і часта маюць падвойны сэнс, заходзяць

настолькі далёка; што распавядаюць да найдрабнюткіх і найбязгустоўных падрабязнасьцяў неверагодныя, немагчымыя і раздражняльныя рэчы; калі нарэшце ў іх сустракаецца подпіс кардынала, дзяржаўнага міністра, і калі загад на распаўсюд іх даецца гэткім шаноўным асобам, якімі зьяўляюцца нунцыі: гэта сапраўды азначае адсутнасьць нават паловы унцыі як палітыкі, так і валоданьня розумам.

Патрабуецца нешта большае за кардынала ці нунцыя, каб прымусіць сьвет паверыць у гэтыя бязглуздыя выхадкі: кажа нехта. Вер, хто хоча, што Папа даслаў езуітам у Беларусі пасьведчаньне, што яны зьяўляюцца цьвердалобымі; бо іх Манархіня не жадала дазваляць, каб ім іх біскуп вызначыў і накіраваў да выкананьня крымінальнае абвінавачваньне, якое было выдадзена супраць іх без папярэдняга судовага дасьледаваньня; гэткаму невуцтву ў Рыме я б ніколі не паверыў. Вер, хто хоча, што Папа выкарыстоўваў супраць біскупа, які выклікаў ва ўсіх заснаваныя на глыбокай павазе ўяўленьні, гэткія выразы, што сустракаюцца ў цыркуляры, настолькі ўладарныя і нязветлівыя выказы, на якія звычайна нічога не адказваюць і нічога нельга адказаць; падобнаму дэспатызму ў Рыме я б ніколі не паверыў. Вер, хто хоча, што Папа, які праінфармаваны сваім уласным біскупам, што ў Беларусі ў адсутнасьць езуітаў няма ніякіх прыдатных служыцеляў Царквы – што, адпаведна, толькі ставіць веру, рэлігію і душы ў надзвычайную небясьпеку; што, кажу я, адказаў Папа, нібыта езуіты ня гледзячы на гэта мусяць прэч адтуль, нават не прадбачыўшы для агульнай бяды; гэткай несправядлівасьці ў Рыме я б ніколі не паверыў. І гэткія неадпаведнасьці мусіць кардынал і дзяржаўны сакратар пісаць ад імя Папы, і нунцый мусіць дапамагаць у іх распаўсюдзе? Да таго ж, сказаў нехта іншы, цэлы каталіцкі сьвет будзе мець агульнае злачынства праз гэта. Ворагі езуітаў, з гэтым цыркулярам у руцэ, скажуць, што езуіты і ўся Царква ў Беларусі зьяўляюцца схізматыкамі; і гэта ёсьць злачынства. Сябры езуітаў, з гэтым цыркулярам у руцэ, скажуць, што нянавісьць да езуітаў нават у вышэйшага Сьвятара каталіцкай царквы пераважае над найсьвяцейшымі абавязкамі рымскага стальца; і гэта ёсьць іншае, яшчэ большае злачынства. І каб абавязаць гэтыя злачынныя языкі змоўкнуць, голас Айца веры дае пачуць сябе толькі праз сьмешныя выкрутасы і праз каналы, якія на сёньняшні дзень зьяўляюцца сумнеўнымі ды супрацьзаконнымі?

Я, бо я насамрэч з аднаго боку цалкам працяты глыбокай павагай да Апостальскага Стальца, але з другога боку менш цікаўлюся інтрыгамі сьвету, не мог стрымаць сябе ад адказу. Мае панове, сказаў я, ці гэта магчыма, каб вачэй складальніка гэтага цыркуляру пазьбеглі настолькі агульныя і настолькі натуральныя меркаваньні? Ён, калі ён падпісаў бы сачыненьне, якое мусіла быць прадстаўлена народу, і дзе зьмяшчаецца настолькі відавочная хлусьня, быў бы дурным і звар'яцелым чалавекам. Паколькі ён укладае ў вусны Папы дэспатычныя, грубыя і злачынныя адказы, ён фактычна склаў бы сапраўдны пасквіль хутчэй супраць Папы, чым супраць езуітаў і супраць біскупа ў Беларусі. Я не магу ўявіць сабе, што гэтыя паны ў складальніка дадзенага цыркуляру, за якога яны выдаюць такую паважаную асобу, бачаць настолькі вялікую дурасьць і бязбожнасьць. Я б не паверыў чамусьці падобнаму. Адказам быў поўны прыпадак гучнага сьмеху, і ўся суполка закрычала разам: **мы верым гэтаму, мы верым гэтаму**. Я вымушаны быў стаяць там моўчкі і зьбянтэжана.

Зараз мне хацелася б ведаць, што Рым, і што Вы думаеце аб гэтым цыркуляры і аб гэтай новай манеры, якія зьняважаюць попел патухлай Суполкі

Езуса. І каб Вы не маглі апраўдаць сябе адгаворкай, што гэты цыркуляр яшчэ не трапіў Вам у рукі, то тут маеце Вы дакладную копію зь яго:

## Лацарус Апіцыюс Палавічыні[2] да нунцыяў. Цыркуляр.

s.§.I. Каб Ваша Яснавяльможнасьць аб не-
§.III. чаканым здарэньні, якое ва ўсім каталіцкім сьвеце мусіць зрабіць вялікую сэнсацыю, і якое кінула сьвятога Айца ў
§.II. вялікі жах і зьбятнэжанасьць, была цалкам праінфармаваная, мушу я расповед аб гэтым далей прывесьці.

§.IV. Падчас ажыцьцяўленьня Падзела ***)** Польшчы перайшлі амаль усе дыяцэзіі Ліфляндыі ды Смаленску, і частка віленскай дыяцэзіі лацінскага абраду, пад расейскую ўладу. Непераадольнае непадпарадкаваньне царыцы адносна таго, каб дапусьціць практыкаваньне ранейшай юрысдыкцыі польскіх біскупаў у Яе ўласных дзяржавах, і неадкладнае хадайніцтва перад гэтай Манархіняй, каб духоўныя ўлады шматлікіх лацінскіх каталікоў былі аб'яднанмі ў адзіную паству, падштурхнула нарэшце Яго Сьвятасьць, хаця гэта і адбылося неахвотна, абраць на такую разгалінаваную і важную пасаду пана Станіслава Сестранцэвіча, біскупа Малінскага[3].

§.V. Поўная глыбокай пашаны ўвага, якую гэты прэлат спачатку выказваў Кангрэгацыі распаўсюджваньня веры і папскаму нунцыю ў Варшаве, давала сьвятому Айцу надзею, што ён з аналягічнай руплівасьцю і з аналягічнай стойкасьцю будзе аддаваць належнае абавязкам свайго пастырства і асабліваму даверу, які ён яму аказаў.

§.VI. Ён таксама не замарудзіў, з дапамогай вышэй узгаданага нунцыя, адкрыць

***)** 1772

[2] Кардынал Лацара Апіцыя Палавічына (Lazzaro Opizio Pallavicino), (1719-1785 гг.) - італьянскі курыяльны кардынал і папскі дыпламат. Тытулярны архіепіскап.

[3] Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч з 3.10.1773 зьяўляўся тытулярным біскупам Малінскім (Mallus). Магчыма маецца на ўвазе мястэчка Маляцічы (пад Крычавам), якое належала біскупу Станіславу, і дзе ён пабудавай касьцёл, паменьшаную ў 32 разы копію базылікі сьв. Пятра ў Рыме.

Яго Сьвятасьці свой неспакой, які ў ім выклікаюць езуіты, што пражываюць у Беларусі; якія пад адгаворкай, што загад аб скасаваньні Суполкі Езуса ў іх асяродзьдзі ня быў агучаны, працягваюць унутрана і зьнешне паводзіць сябе так, нібыта скасаваны інстытут насамрэч яшчэ існуе.

§.VII. Ён дадаў, што, паколькі царыца не пажадала дазволіць афіцыйнае скасаваньне, а ён у сваю чаргу мае недахоп іншых дасьведчаных сьвятароў для духоўных адпраўленьняў, ён бачыць сябе вымушаным пакінуць тыя разгалінаваныя дыяцэзіі, калі яму Яго Сьвятасьць праз дабратворнае настаўленьне не дазволіць выкарыстоўваць вышэй пазначаных асоб.

§.VIII. З улікам гэтага дакладу і відавочнай небясьпекі, у якой апынуліся бы ка-
§.IX. талікі, у выпадку, калі біскуп Малінскі пакінуў бы сваю рэзыдэнцыю, было яму панам Аркецi[4] ад імя Папы адказана,
§.XIII. што пасьля таго, як Клеменс XIV[5], дабраславёнай памяці, скасаваў паўсюль так званую Суполку Езуса, усе асобы, якія не жадаюць сябе да найвышэйшых
§.XII. распараджэньняў Ватыкана прыста-
§.XI. соўваць, павінны разглядацца як свавольныя: таму павінен ён іх паслугамі не карыстацца, выключаючы толькі надзвычайную патрэбу; і павінен пры кожнай магчымасьці ня ўстрымлівацца ад таго, каб указваць ім на скасаваньне іх інстытута, якое афіцыйна ўжо адбылося, на зьняцьцё іх старых прывілеяў, і на іх поўную пакору ды залежнасьць ад біскупскай юрысдыкцыі, аналягічна епархіяльным сьвятарам, з
§.X. асаблівай стараннасьцю і ціскам. Далей было яму прапанавана перашкодзіць прынятаму імі адраджэньню ў якасьці паслушніцкіх дамоў і выступіць супраць іх; ціхі шэпт аб чым ужо дайшоў да Італіі.

[4] Кардынал Джавані Андрэа Аркеці (Giovanni Andrea Archetti), (1731-1805 гг.) - італьянскі кардынал, апостальскі легат Сьвятога Стальца ў Расійскай Імперыі.
[5] Клеменс XIV (Clemens PP. XIV), сьвецкае імя Ларэнца Джавані Вінчэнца Антоніа Ганганэлі (Lorenzo Giovanni Vincenzo Antonio Ganganelli), (1705-1774 гг.) – папа рымскі з 19.05.1769 па 22.09.1974.

§.XIV. Біскуп Малінскі прыняў папскія інструкцыі і прапановы так добра, што ён не толькі адмыслова растлумачыў, што жадае кіравацца гэтым, але яшчэ й заверыў яго, што ён адвёў расейскую Ўладу ад ужо прынятага адкрыцьця паслушніцкага дому.

Сьвятой Айцец ужо на працягу некалькіх месяцаў быў спакойны наконт гэтага пункту, калі ад пана Аркеці раптам дайшоў да яго надрукаваны пастырскі ліст пазначанага біскупа, якім ён сьцьвярджае стварэньне павіннага існаваць паслушэнства скасаванай Суполкі, і чыю легітымнасьць ён выводзіць праз прыкрае махлярства і паклёп з самога загаду аб скасаваньні Клеменса XIV, дабраславёнай памяці, і з аднаго іншага загаду сьвятой Кангрэгацыі па прапагандзе[6].

§.XV. Хаця несумленнасьць гэтага прэлата высьвятляецца ня толькі з прачытаньня загаду, але й са зьместу рэскрыпту, які толькі замацоўвае яго ў якасьці Візытатара і Апостальскага агента для нагляду за сьвятарамі, якія яшчэ існуюць, але не за скасаваным Інстытутам; тым ня менш, каб аспрэчыць хлусьню пазначанага пастырскага ліста, Яго Сьвятасьць тэрмінова загадаў свайму нунцыю ў Варшаве пісьмова абвясьціць усіх расейскіх міністраў, якія там знаходзяцца, аб празьмерных паўнамоцтвах, якія прысвоіў сабе біскуп Малінскі, і аб перайначаньні і недапушчальнасьці незаконным чынам прысвоенай ім сабе ўлады.

Адначасова сьвяты Айцец зрабіў даручэньне пану Аркеці абвясьціць біскупу Малінскаму яго папскае незадавальненьне, і жорстка папракнуць яго ў такім дзёрзкім прадпрыместве; ён павінен загадаць яму адазваць той дзёрзкі пастырскі ліст і замест яго выдаць іншы, які скасоўвае першы і ўсё, што мае да яго нейкае дычыненьне; нарэшце павінен ён пагразіць яму, што ён будзе

[6] Кангрэгацыя прапаганды веры (Sacra Congregatio de Propaganda Fide) ці ў наш час Кангрэгацыя евангелізацыі народаў – адна з дзевяці кангрэгацый Рымскай курыі, займаецца пытаньнямі евангелізацыі і місыянэрства. Заснаваная ў 1622г. Булай Inscrutabili divinae providentiae папы Рыгора XV.

вылішаны ўсёй атрыманай дзякуючы Прапагандзе ўлады, якою ён злоўжыў да вялікай спакусы тых каталікоў і зь відавочнай шкодай нязьменным пераканаганьням Яго Сьвятасьці.

§.XVI. Сьцíслы пераказ прыведзеных вышэй фактаў, падтрыманы ўстойлівым характарам адкрытасьці і шчырасьці, якімі найсьвяцейшы Айцец кіруе і вымярае ўсе свае справы, будзе служыць Вашай Яснавяльможнасьці, каб мець магчымасьць даць грунтоўную даведку аб гэтых матэрыялах, кожны раз, калі аб тым будзе размова, і каб разьвеяць двухсэнсоўнасьць, якая можа крыху з-за глупства ці з-за нядобразычлівасьці сказіць пераказ.

Такім чынам Вы маеце цыркуляр, які тут цалкам быў асьвістаны і абвешчаны як шэдэўр некампетэнтнасьці і глупства ў палітычным, і як мноства прыкрасьцяў у духоўным сэнсе; поўны педантызму ў выразах, ілжы ў фактах, невуцтва ў правах; непрадбачлівы, дэспатычны, грубы ў тым, што тычыцца Біскупа, дзёрзкі ў тым, што тычыцца Імпрератрыцы ўсяе Русі, і паклёпніцкі ў тым, што тычыцца езуітаў. Я, бо я бараню глыбокую павагу да беднага чалавека, якому гэта прыпісана, хацеў бы адмовіць, што ён зьяўляецца аўтарам гэтага. Адна толькі рэпутацыя нунцыя і надзейных асоб, якія ведаюць яго стыль, вымушаюць мяне схіліць маю шыю. Я прашу Вас, растлумачце мне ўсё і парвіце, ці спаліце гэты мой ліст, каб, калі я прыбуду ў Рым, я мог свабодна перасоўвацца там не будучы вымушаным баяцца барджэла[7].

Ваш N.N.

[7] Барджэла (фр. Barigel) – гэтую назву ў сярэднявеччы атрымліваў вайсковы капітан, які бараніў мір і спакой (“капітан правасудзьдзя”). Сучасны аналаг – кіраўнік паліцыі.



# Другі ліст.

## Адказ.

### Сябра!

Такім чынам, Вы жадаеце ведаць, што мяркуе Рым наконт гэтага цыркуляру, які павінен быў быць адпраўлены Яго Эмінэнцыяй пану Кардыналу Л.А. Палавічыні да нунцыяў аб навіне вызначанага паслушніцкага дому езуітаў у Беларусі? Вы патрабуеце зашмат ад мяне. Рым – гэта вялікі горад і адначасова гэта маленькі сьвет, не толькі таму, што ён зьяўляецца цэнтрам адзінства веры, якая распаўсюджана праз усе народы, але й таму, што ўсе народы зьмяшчаюць там штатных апекуноў сваіх інтарэсаў. Гэтыя інтарэсы вельмі разнастайныя, што да езуіцкай справы, і такім жа чынам павінны быць таксама разнастайнымі і адно аднаму супярэчлівымі настроі, пачуцьці і размовы аб цыркуляры. У Рыме ёсьць скасаваныя і тыя, хто касуе; ёсьць абгавораныя і паклёпнікі, гэта вынаходнікі, аўтары, друкары, пакупнікі і прадаўцы паклёпаў супраць езуітаў. Ёсьць некаторыя, хто з падзеньнем суполкі самі былі зрынуты зь вяршыні сваіх надзеяў; і іншыя, хто з пагарды, з адчаю і зь няшчасьця ўскінуў сябе ў вышыню. Аднаму скасаваньне суполкі было літасьцю і аховай Двара, другому яго пасады; аднаму яго пенсіі, другому яго мацэты[8]; аднаму яго пурпурнага капялюша[9], а другому яго права быць удзячным заставацца беспакарным за кожнае злачынства, якое ён зрабіў ці зробіць. Ёсьць яшчэ іншыя, што падняліся ў школах, на катэдрах і ў іншых духоўных адпраўленьнях, якія ў езуітаў былі насамрэч цяжкай працай, але для наступнікаў зьяўляюцца толькі заробкамі. Нават тут пабудавана асобная пазыцыя наконт езуіцкай справы. Нарэшце выяўляецца бясконцая разнастайнасьць настрояў датычна сачыненьня, якое, калі разглядаць яго пры сьвятле, зьяўляецца нічым іншым, як вартым жалю рухам антыезуіцкай партыі на коле фартуны гэтага Ордэну, якое хоча павярнуцца. І аб гэтым усім Вы хочаце грунтоўную справаздачу? Вы жадаеце

---

[8] Мацэта (іт. mozzetta) – кароткая накідка з капялюшам, якая ахоплівае плечы і зашпільваецца на грудзях. Яна зьяўляецца элементам царкоўнай вопраткі часткі духавенства Рыма-каталіцкай царквы: папы рымскага, кардыналаў, біскупаў і абатаў. Мацэта звычайна мела маленькі капялюш ззаду, але ён быў скасаваны папай Паўлам VI.

[9] Пурпурны капялюш, ці Кардынальскі капялюш – адзін з галоўных сымбаляў вопраткі кардыналаў Рыма-каталіцкай царквы. Упершыню чырвоны капялюш быў падараваны кардыналам папай Інакенціем IV у 1245г. Чырвоны колер быў сымбалем гатоўнасьці яе носьбіта праліць кроў за веру і Царкву. Спачатку толькі капялюш быў сымбалем атрыманьня чалавекам кардынальскага сану, але пасьля ўся вопратка кардыналаў стала чырвонай і іх пачалі называць пурпураносцамі. Выразы “даць кардынальскі капялюш” ці “атрымаць кардынальскі капялюш” азначалі атрыманьне кардынальскай пасады.

зашмат, мой Сябра. Вы жадаеце, каб я накіраваў на гэта ўвесь мой час; і нават гэтага яшчэ недастаткова, каб цалкам задаволіць Вас.

Але мяне таксама зьдзіўляе, што хтосьці на вас падобны можа верыць, што гэтае вартае жалю сачыненьне мусіць зьяўляцца творам такой паважанай асобы. Я трымаюся вельмі далёка ад таго, каб учыніць вам гэткую несправядлівасьць. Я ніколі не паверу, што падобны шэраг неадпаведнасьцяў у кожнай галіне, у граматычнай, у лягічнай, у маральнай і ў палітычнай, мог быць пабудаваны чалавекам у стане, хрысьціянінам, духоўнікам, біскупам, кардыналам і міністрам. Дарэмна Вы толькі кажаце, што асобы, якія разумеюць стыль гэтага пана, сьцвярджаюць, нібыта вобраз мысьленьня, стыль напісаньня, усё належыць яму; тое, што вы Вашага нунцыя, нават з прад’яўленьнем подпісу, публічна зачыталі перад шматлікай грамадой, і што вы кожнага зь іх, нават супраць яго волі, прымусілі зрабіць копію з гэтага: прабачце мне, але мяне гэта не можа пераканаць. Бо як такое можа быць, што ў падобнага чалавека розум і сэрца могуць быць настолькі звар’яцелымі? Як мог ён так зламысна і адначасова так нясkладна выдумляць? Як гэта можа быць, што ён даў сябе так асьляпіць, што ён, калі ён хацеў выдаць праўду, не зважаў нават драбнейшай верагоднасьці? Наколькі ён павінен быў сабе лісьлівіць, каб вырашыць, што цывілізаваныя і адукаваныя асобы паверацць яму, калі ён распаўсюджвае рэчы, якія настолькі супярэчаць здароваму чалавечаму розуму? Не, мой Сябра, сумленны чалавек не выдумляе, а палітычны інтрыган выдумляе іншым чынам. Прачытайце гэты мой ліст, які насамрэч атрымаецца ня надта кароткім. Я зьбіраюся падзяліць цыркуляр, у тым выглядзе, як Вы мне даслалі, на розныя падзелы і грунтоўна зрабіць мае меркаваньні на іхны конт. А Вы зробіце вашы, і тады мы будзем адзінымі ў тым, што аўтарам гэтага зьяўляецца не тая паважаная асоба, якую за яго выдаюць.

## §. I.

„Каб Ваша Яснавяльможнасьць аб нечаканым здарэньні, якое ў цэлым каталіцкім сьвеце павінна зрабіць вялікую сэнсацыю, і якое кінула сьвятога Айца ў вялікі жах і зьбятнэжанасьць, была цалкам праінфармаваная, мушу я расповед аб гэтым далей прывесьці.“

Тут маем мы ў некалькіх радках дзьве ілжывасьці і адно прароцтва. Першая ілжывасьць складаецца ў тым, што адкрыцьцё расейскага паслушніцтва зьяўляецца нечаканым здарэньнем; а другая ў тым, што яно сьвятога Айца кінула ў вялікі жах і зьбянтэжанасьць. Нарэшце аўтар прарочыць тую сэнсацыю, якую падобнае здарэньне будзе выклікаць ва ўсім каталіцкім сьвеце.

Чаму мусіць адкрыцьцё паслушніцтва езуітаў у Беларусі называцца нечаканым здарэньнем? Нейкая справа завецца нечаканай, па-першае, калі яна здараецца нечакана; па-другое, калі яна, хаця й была прадказана, празь вялікія складанасьці зрабілася неверагоднай; па-трэцяе, калі справа зьяўляецца незвычайнай і ня мае прыкладаў. Нічога з гэтых трох ня можа быць ужыта да нашага выпадку.

Ня першае. Скасаваньне езуітаў праз выкананьне загаду (афіцыйнае паведамленьне, як таго патрабуе права, на сёньняшні дзень яшчэ не адбылося) яшчэ наогул не было абвешчана, калі ўжо праз увесь сьвет было

распаўсюджана, што Імператрыца ўсяе Русі загадала, каб гэта не ажыцьцявілася ў Яе краінах, і што яна згодная з тым, і гэта яе шчырае жаданьне, каб любой цаной езуіты ў Беларусі далей заставаліся законнымі і пашыраліся. Больш чым адзін ліст ад намесьніка той правінцыі зьявіўся ў публічных паперах і казаў пра гэтае паслушэнства. Кажуць, Яе Імпэратарская Моц хацела даверыць езуітам гадаваньне дваранства яе Імпэрыі; зь незадаволенасьці місыянэрамі прапаганды і зь перасычанасьці разыходжаньнямі, якія спараджаюцца паміж каталікамі розьніцай грэцкага[10] і лацінскага абрадаў, Яна патрабавала, каб усе каталікі прытрымліваліся лацінскага абраду, і настаўленьне народу ў дачыненьні веры павінны на сябе ўзяць езуіты; ня будучы запалоханай ані праз Парахавую змову[11] ў Англіі, ані праз манеты караля Нікаласа[12], ані праз вучэньне пра забойства каралёў, ані праз прапанову агульнай езуіцкай манархіі, ані праз хваляваньні ў Гішпаніі[13], ані праз замах на жыцьцё караля ў Партугаліі[14], ані праз кожны з тых паклёпаў, якія распаўсюдзілі паўсюль парляманты Францыі, манахі ў Італіі ды дробныя цэрквы***)**[15][16]. Кажуць, гэтая Манархіня хацела скарыстацца езуітамі, каб цывілізаваць Сібір, гэтаксама, як імі карысталіся Гішпанія, Францыя і Партугалія, каб адбудаваць Амэрыку ды Індыю; чыстыя намеры, якія было немагчыма ажыцьцявіць з тымі нешматлікімі езуітамі, што пад імпэратарскай аховай пазьбеглі агульнага зьнішчэньня; пры тым, што яны на той момант складалі прыкладна сто галоваў (з улікам парафіян, студэнтаў не сьвятароў, і тых, хто ад узросту быў непрыдатны). Адсюль відавочна, што жаданьнем Яе Імпэратарскай Моцы было, каб езуіты мусілі далей пашырацца ў Яе краінах. Клеменс XIV, які перажыў гэтае скасаваньне на 13 поўных месяцаў і 7 дзён, ведаў усё гэта і не хацеў гэтаму перашкаджаць; ці яму было не па сэрцу; ці ён, як яно далей будзе бачна, нават ухваляў гэта.

Тыя гаворкі ніколі не былі аспрэчанымі; бо яны ж былі на працягу шасьці год тэмай для суполак па ўсёй Эўропе і асабліва ў Рыме, дзе выдатна ўспрымалі гнеў і адчай антыезуіцкай партыі, і дзе былі бачныя частыя сходы, якія зьбіраліся на Monte Cavallo[17] ля трох фантанчыкаў (le tre cannelle), каб

***)** тут маюцца на ўвазе янсяністы, так званая Утрэхцкая царква

[10] Верагодна, маюцца на ўвазе уніяты, якія толькі адміністратыўна былі каталікамі, але ж захоўвалі абрады грэка-праваслаўнай царквы.

[11] Парахавая змова 1605 г. – няўдалая спроба гурту ангельскіх каталікоў узарваць будынак парляменту з мэтай забойства караля Якава I, які сімпатызаваў пратэстантам і ажыццяўляў рэпрэсыі супраць каталікоў.

[12] Антыезуітамі Гішпаніі ў 1757 г. была сфабрыкавана плётка, нібыта езуіты з дапамогай індэйцаў захапілі ўладу ў парагвайскіх калёніях і абвясьцілі там езуіцкую манархію з міфічным каралём Нікаласам на чале. За падставу былі ўзяты сапраўдныя ваенныя сутычкі паміж гішпанцамі і мясцовымі плямёнамі (Вайна гуарані). Плётка была сфабрыкавана на вышэйшым узроўні, у справу пайшлі нават нібыта адбітыя парагвайскімі езуітамі манеты з выявай Караля Нікаласа. Усё гэта мела мэтай парушыць пазіцыі езуітаў у вачах Караля Гішпаніі і абвінавачыць Ордэн у спробах дзяржаўнага перавароту.

[13] Хваляваньні ў Мадрыдзе ў Вербную нядзелю 1766 г. Былі арганізаваныя антыезуіцкімі агентамі, каб потым перад каралём абвінавачыць у іх езуітаў і дасягнуць тым самым скасаваньня Ордэну ў Гішпаніі.

[14] Замах на жыцьцё Жазэ I (парт. "D. José I, o Reformador") караля Партугаліі (1714-1777) ў 1758м годзе стаў падставаў да выгнаньня езуітаў з Партугаліі.

[15] Янсяністы – пасьлядоўнікі неартадаксальнага цячэньня ў каталіцызьме, атрымаўшае разьвіцьцё ў Францыі, Бельгіі, Галандіі ў XVII—XVIII стт. Атрымалі назву ад імя галандскага тэолага К. Янсэнія (1585-1638).

[16] Утрэхцкая царква, ядро т.з. старакаталіцызму, была заснаваная ў 1724г.

[17] Monte Cavallo – Монте Кавала, ці Квірынал (Quirinale), самы высокі з рымскіх узгркаў. Папа Сыкст V у 1587г. загадаў перанесьці на Квірынальскую плошчу з Тэрмаў Канстанціна фігуры Дыяскураў – Кастара і Палукса, якія вядуць коней. Пасьля гэтага Квірынальскую плошчу пачалі зваць Монте Кавала ("узгорак коней"). На плошчы таксама стаяў летні палац Папы Рымскага.

параіцца наконт такой важнай справы; там нарэшце было зроблена дурное і дзёрзкае рашэньне, якое, аднак, не было рэалізавана, паслаць у Пецярбург абата Амадуці[18], каб перашкодзіць намерам таго двара, ды менавіта на выдаткі Генэрала аўгустынаў Васкеса, які зь нянавісьці да езуітаў і з надзеі на пурпурны капялюш, дзеля пашаны сваіх дзікіх перуанцаў, пазабыўся на яго пазыку ў 60 тысяч рымскіх талераў, якую ён даў для новага будынку della scrofa[19]. Такім чынам, паведамленьне аб расейскім паслушэнстве не прыйшло нечакана; зыходзячы з гэтай прычыны яго нельга назваць нечаканным здарэньнем.

Не другое. Што за вялікая складанасьць павінна была проціпастаўляць сябе адкрыцьцю паслушэнства, якую Катарына II не магла б пераадолець? Што падаецца Вам цяжкім, што 1 ці 2 манархі далі скасаваць Суполку Езуса не толькі ў сваіх краінах, але ва ўсім Сьвеце, нягледзячы на пратэсты больш чым 300 біскупаў ***)** каталіцкай царквы да Клеменса XIII у больш чым 500 лістах, якія, як я спадзяюся, у спакойныя часы пабачаць сьвятло; нягледзячы на меркаваньне поўнага Сходу французскага духавенства; нягледзячы на новую сьцвярджальную булу, якая была выдадзеная сыходзячы зь неадкладных хадайніцтваў такой колькасьці біскупаў, якой зь лішкам хапіла б для агульнай Царкоўнай Рады, і якая была даведзеная найнадзейным чынам, што ніводны біскуп не зрабіў відавочнага пратэсту супраць гэтага; Што, кажу я, падаецца вам цяжкім, што яны, нягледзячы на ўсё гэта, далі скасаваць тую[20], і што яны ўзьнялі Рым дзеля сваёй неадкладнай патрэбы, без папярэдняга працэсу, без судовага дасьледаваньня, без таго, каб прыцягнуць для рады кардынальскі калегіюм, проста (паводле ўжо падпісанага загаду) з прыцягненьнем надзвычайнай таемнай Кангрэгацыі, якя складалася з 5-ці кардыналаў, што прадаліся партыі, з 2-х прэлатаў (якія вядомыя ў Рыме як 2 флюгеры, якія паварочваюцца крыху туды-сюды ў залежнасьці ад ветру, куды ён дзьме) і з 2-х манахаў, адзін зь якіх грэк, і Сьвет знаёмы зь яго прадажным ды пераменьлівым вучэньнем; а другі ня мае нават ніякага імя сярод сваіх басаногіх субратоў; ці гэта ўсё, я паўтараю гэта ў трэці раз, не зьяўляецца значна больш складаным, чым проста даць гэтаму Ордэну стварыць паслушэнства па неадкладным хадайніцтве ня менш магутнай Манархіні ў Імпэрыі, дзе скасаваньне не было ні азначана, ні абвешчана, ні выканана, і гэта не з прычын, якія трэба хаваць у сэрцы, але наадварот трэба пакласьці перад вачыма, якія зьяўляюцца настолькі важнымі, што немагчыма нічога супраць іх запярэчыць? Зараз, калі Кароль Гішпаніі і Кароль Партугаліі здолелі пераадолець першую складанасьць, чаму

***)** у некаторых тэкстах стаіць 150 біскупаў; толькі з-за таго, што Рым лічыцца надзейнай крыніцай, можна атрымаць колькасьць больш, чым 300, сярод якіх у той час знаходзіліся таксама 3 духоўных Курфюрста Нямеччыны

[18] Абат Амадуці (Giovanni Cristofano Amaduzzi), 18.08.1740-21.01.1792 – выбітны італьянскі філолаг, суперінтэндант прэсы, зьвязаны з Кангрэгацыяй прапаганды веры, прафесар грэцкай мовы пры рымскім універсітэце Ла Сапіенца.

[19] Верагодна, маецца на ўвазе вуліца Via della Scrofa, на якой знаходзіцца бібліятэка Ангеліка (Biblioteca Angelica). Гэтая бібліятэка ў 1761 г. была папоўненая кнігамі кардынала Даменіка Сільвія Пасіёнэ (Domenico Silvio Passionei), набытымі Ордэнам Аўгустынаў на грошы іх генерала Васкеса. Сутнасьць гэтага пасажа, відавочна, наступная: за грошы Генерала аўгустынаў Васкеса меркавалася адправіць абата Амадуці ў С. Пецярбург, каб ён адгаварыў Кацярыну II захоўваць у Расійскай імпэрыі ордэн езуітаў. Наўзамен Васкес разьлічваў атрымаць кардынальства. Дзеля гэтага ён таксама дараваў пазыку, за якую была набытая бібліятэка. Набыцьцё гэтай бібліятэкі мела важнае значэньне для Царквы, бо яна ўтрымлівала дакументы, што кідалі цень на інстытут папства.

[20] Тую Суполку. Маецца на ўвазе скасаваньне Суполкі Езуса.

тады наймагутная Імпэратрыца ўсяе Русі мусіць не пераадолець другую, значна меншую?

Як мала мусіць ведаць пра сучасны сьвет той, хто хоча верыць, нібыта заступніцтва і дагляду Манархіні, якая бясспрэчна зьяўляецца найвялікшым упрыгожваньнем нашага стагодьдзя, Манархіні, якая зьяўляецца настолькі магутнай на зямлі ды на вадзе, і якая была ў стане адна скарыць непакорны аттаманскі гонар, Манархіні, якая робіць такую вялікую славу Пасаду, і пад ценем якой надзейна спачываюць бязьвіннасьць, законнасьць, чалавечнасьць, вучонасьць і таксама вера ды рэлігія, якія штодзень усё больш і больш пагражаюць пакінуць прысутнасьць у няшчаснай Італіі; нібыта, кажу я, заступніцтва такой Манархіні можа не хапіць, каб пераадолець тыя невялікія складанасьці, якія маглі б стаяць на шляху адкрыцьця паслушэнства?

Згода Папы: гэта тая важная падстава, якая робіць **гэтае здарэньне нечаканым** для антыезуіцкай партыі. Згода Папы, чым больш яна з аднаго боку патрэбная, тым, зь іншага боку, цяжэй яе атрымаць. Гэтая прычына, у пэўным сэнсе, можа мець вагу, калі будзе прынесеная ўскудлачаным абатам у бабскую суполку. Нават уладары, пачынаючы з каталіцкага Караля, ніколі ня скажуць, што згода Папы патрэбная, каб не прымаць папскі загад, які не тычыцца ні веравучэньня, ні нормаў паводзін. Спытайце Францыю, бо яна не прыняла Царкоўнай дысцыпліны трыдэнтыйскай Царкоўнай Рады, ці падыходзіць да гэтага папская згода? Спытайце Нямецкую Імпэрыю, ці чакала яна папскай згоды, каб адкінуць булу Cänä[21]? Спытайце ўсе каталіцкія Манархіі, ці яны запытвалі папскай згоды, каб замацаваць закон каралеўскай Exequatur-ы[22]?

Паглядзім на гэты выпадак - скасаваньне езуітаў - быццам бы ён здарыўся не па хадайніцтву Караля ў Гішпаніі супраць жаданьня Пецярбурга, а наадварот па хадайніцтву Пецярбурга супраць волі Гішпаніі: ці разглядаў бы тады каталіцкі Кароль папскую згоду, як патрэбную дзеля таго, каб загадаць, што загад[23] не павінен быць ажыцьцёўлены, і што калегіюмы мусяць захавацца, і паслушэнства мусіць пашырацца? Што б тады адказаў на гэта аўтар цыркуляру? Я ведаю дакладна, што ён бы сябе вельмі засьцярог ад прыняцьця рашэньня супраць каталіцкага Манарха. У якім толькі эвангельлі можна знайсьці, што Езус Хрыст надзяліў Папу большай уладай над Царквой у Расеі, чым над той у Гішпаніі?

І дзе ж загадаў Госпад, каб каталікі ў Расеі мусілі быць больш залежнымі ад Папы і менш залежнымі ад Манарха, чым каталікі ў Гішпаніі? Падобная партыйнасьць і падобныя няроўныя ды абсурдныя паводзіны ў духоўным кіраўніцтве азначалі б таксама шмат, як злоўжваньне рэлігіі бессаромным чынам і як яе падпарадкаваньне ганарлівасьці і несправядлівасьці. Першая характарыстыка сапраўднай Царквы гэта Адзінства: адна вера, адно хрышчэньне, адно Эвангельле, адзін закон, заўсёды аднолькавае кіраўніцтва, аднолькавая павага да ўсіх уладароў, аднолькавая справядлівасьць да ўсіх падданых, аднолькавая вага і аднолькавыя меры ў народаў: гэтае адзінства нязьменнае, ні Папа, ні Царква не могуць яго парушыць. Выказваньні, што

[21] Магчыма маецца на ўвазе була In coena domini (лат. "за трапезай Гасподней"). Найстарэйшы тэкст яе паходзіць прыкладна з 1229 г. ад папы Рыгора IX. У 18 ст. була была адхілена шматлікімі дварамі Эўропы. І ў 1770 папа Клеменс XIV скасаваў зачытваньне гэтай булы. Гэтае скасаваньне паслужыла падставай Імпэратару Ёзафу II, каб загадаць вырваць тэкст булы з усіх рытуальных кніг.

[22] Exequatur – экзэкутура, праваўжываньне.

[23] Аб скасаваньні.

прадпісаньні Апостальскага Стальца маюць большую ці меншую вагу ў Гішпаніі, чым у Расеі, ці ў Расеі чым у Гішпаніі, гэта лухта, гэта невыносны зман. Тыя, што Гішпанія, нават з папскай нязгодай, не магла б прыняць, тыя можа таксама і Расея, нават з папскай нязгодай, не прымаць; і калі Кароль у Гішпаніі і Герцаг Пармы бяз папскай згоды маглі рабіць пазбаўленымі сілы прадпісаньні Клеменса XIII[24], то тады і Імпрэратрыца Расейская таксама можа бяз папскай згоды рабіць пазбаўленымі сілы прадпісаньні Клеменса XIV.

Але хачу прызнаць, што дзеля стварэньня расейскага паслушэнства патрэбная адмысловая папская згода: ці будзе гэта нечаканай выпадковасьцю, калі вялікая Імпэратрыца яе атрымае? Па логіцы нашага стагодзьдзя, гэта мусіць быць дзівам. Папа пагаджаецца із скасаваньнем пэўнай колькасьці сьвятароў, якіх па ўсім Сьвеце лічуць невінаватымі ды карыснымі; ён пагаджаецца з паза-законным выракам 20 тысячам духоўнікаў, якіх у судзе не разглядалі, не перадавалі, не заслухоўвалі і ніколі афіцыйна не абвінавачвалі ні ў якім злачынстве; ён пагаджаецца із значным расколам Царквы; ён пагаджаецца з тым, каб пазбавіцца ад вялізарнай колькасьці настаўнікаў, місыянэраў, прапаведнікаў ды служыцеляў культу, якія былі без асабістай зацікаўленнасьці адданыя сваёй службе; ён пагаджаецца з апаганьваньнем такой колькасьці цэркваў, са зьнішчэньнем такой колькасьці тастамэнтаў, з канфіскацыяй такой колькасьці царкоўнай маёмасьці і з такім падзеньнем, з такім спусташэньнем ды такім злачынствам, падобных якім па агульнасьці і ахопу яшчэ ня бачыў Сьвет; і ён пагаджаецца з патрабаваньнем некаторых двароў, нават не прыводзячы пераканаўчай падставы; і потым мусіць быць нечаканым здарэньнем тое, што іншы Папа робіць нешта, каб дагадзіць абгрунтаванаму патрабаваньню іншага, ня менш паважанага, уладара, які хоча там разбураны будынак зноў адбудаваць, расколатую абшчыну зноў аднавіць, шкоду пакрыць, сьлёзы асушыць, непрыемнасьці выдаліць, прыйшламу ў заняпад хрысьціянству дапамагчы падняцца, сьвятыні яе выкрадзеныя скарбы зноў вярнуць, і Сьвету забясьпечыць хаця б невялікую кампэнсацію за тое, што ён вымушаны быў цярпець на працягу апошніх 15-ці гадоў? Ці мог бы нават зьлейшы вораг Рыма казаць, ці думаць нешта горшае? Рым, сыходзячы з настрояў, якія выказвае дадзены цыркуляр, зайшоў так далёка, што ён заўсёды схільны спрыяць злосным справам; і гэта было б сапраўды нечаканае здарэньне, калі б ён не выступаў супраць добрых справаў. Ці ня відавочна тут, што складальнік цыркуляру спрабуе надзвычайна дыскрэдытаваць Рым, Папу і сьвяты Апостальскі Сталец? І вы, тым ня менш, верыце, што падобны твор мусіць паходзіць ад аднаго з чальцоў Апостальскага Калегіюма? Я больш лічу яго працай прадажнага найміту Утрэхта[25]. – Вяртаючыся зноў да нашага пытаньня, такім чынам, Вы ўжо бачыце, што, калі чалавек таксама хоча дапусьціць, што складанасьці пры гэтым могуць быць пераадоленыя, дык тым ня менш гэта не было б ніякім **нечаканым здарэньнем**, што Кацярына II магла іх пераадолець.

Але што было б, калі б не было нават ценю складанасьцяў? Адзіная складанасьць, якая можа процістаяць паслушэнству і на якую, здаецца, указвае аўтар, складаецца ў тым, што Суполка Езуса ўжо была скасаваная. Нават калі нягледзячы на агульнае скасаваньне Яе Імпэратарская Моц магла захаваць

[24] Клеменс XIII (Clemens PP. XIII), сьвецкае імя: Карла дэля Торы ды Рэцоніка (іт. Carlo della Torre di Rezzonico) 7.03.1693 — 2.02.1769 — папа рымскі з 6.07.1758 да 2.02.1769 гг.

[25] Маецца на ўвазе Утрэхцкая царква.

Езуітаў у сваіх краінах, чаму Яна тым жа чынам не магла загадаць, што яны за дапамогай паслушэнства мусяць пашырацца? Для сталага духоўнага Ордэна пашырэньне зьяўляецца неабходным наступствам яго існаваньня; езуіты існуюць у Беларусі, як і раней; таму яны маглі таксама і пашырацца, як і раней. Якраз папскі загад, які касуе існых езуітаў, забараняе недзе набіраць паслушэнствы; але там дзе гэты загад не прынялі, дзе яго падавілі, не агучылі, не прапанавалі, не выканалі, там застаўся таксама і ўплыў таго ці іншага распараджэньня бясьсільным; і існыя маглі працягваць сваё існаваньне і прымаць новыя паслушэнствы. Вось, загад быў ужо падаўлены, такім чынам гэты вялікі камень быў ужо падняты, і таму гэта было яшчэ менш **нечаканае здарэньне**, што ў Беларусі прымаюцца паслушэнствы і існуюць манаствы.

Вы скажаце, што Кацярына ў Расеі не магла зрабіць бясьсільным уплыў Клеменсаўскага загаду; што процістаяць выкананьню яго зьяўлялася неправамерным паўнамоцтвам; і што адпаведна існаваньне манастваў і прыняцьці паслушэнстваў зьяўляюцца незаконнымі, іх калегіюмы зьяўляюцца былымі калегіюмамі, а іх паслушэнствы – былымі паслушэнствамі. Сябра, раз і назаўсёды, дайце мне працягваць па парадку, і не прымушайце мяне, праз Вашы недарэчы прыведзеныя запярэчаньні, прыносіць у Сьвет бязладныя рэчы. Тут пытаньне стаіць ня ў тым, ці зьяўляецца паслушэнства законным або не; а ў тым, ці магло наогул стварэньне паслушэнства езуітаў у Беларусі называцца **нечаканым здарэньнем**?

Гаворка аб яго законнасьці магчыма пойдзе ў другім месцы; і я Вам лёгка пакажу, якім грубым невуцтвам зьяўляецца, калі гэта называюць былым паслушэнствам. А зараз, каб не пакідаць Вас без адказу, скажу толькі, што тыя калегіюмы і тыя паслушэнствы, якія па загадзе Імпэратрыцы зноўку былі створаныя ў Беларусі, зьяўляюцца ні болш і ня менш, чым яны б зьяўляліся ў Гішпаніі і Францыі, калі б яны існавалі там па загадзе каталіцкага і агульнахрысьціянскага Каралёў; што ў Беларусі, каб атрымаць існаваньне і пашырэньне езуітаў, выказалі значна больш увагі Папе, чым гэта прасочваецца ў аналягічных выпадках у Францыі і Гішпаніі, якія дзеля адрыцьця паслушэнства нейкага Ордэна, які Рым супраць іх жаданьня скасаваў, вядома не сталі б чакаць, пакуль у іх каралеўстве прадстаўнік Папы будзе надзелены Апостальскімі паўнамоцтвамі; што пакуль ніводны Папа ніколі не абвяшчаў, што ўсталяваньне рымскага распараджэньня, аналягічным якому зьяўляецца клеменсаўскае ў дычыненьні да езуітаў, павінна выходзіць за межы сьвецкай улады; што гэта ніколі не абвесьціць ані сёньняшні, ані нейкі будучы; і што, калі гэткая абвестка калісь адбудзецца, ні Кароль Францыі, ні Кароль Гішпаніі, ніякі іншы каталіцкі ўладар ня будуць гатовыя яе прыняць, бо яны лічаць гэта замахам на іх бясспрэчныя правы. Ну, што Вы скажаце? Ці Вам яшчэ падаецца **нечаканым здарэньнем**, што Імпэратрыца ўсяе Русі ў аналягічных выпадках у сваіх краінах валодае такой жа моцнай уладай, як і каталіцкі, самы надзейны, самы хрысьціянскі, і апостальскі Кароль у сваіх?

Адзінае пярэчаньне я не магу схаваць ад Вас, якое можна зрабіць на адной відавочнай падставе. Паўнамоцтвамі прымаць паслушэнствы валодаў кожны правінцыял у сваёй правінцыі. У правінцыі Мазовія, да якой належалі езуіты ў Беларусі, якраз не было больш ніякага правінцыяла; апошнім быў а.

Казімір Сабалеўскі[26], які падчас скасаваньня знаходзіўся ў Варшаве і адпаведна таксама быў скасаваны. А. Станіслаў Чарневіч[27] у Беларусі быў толькі віцэ-правінцыялам, які ня меў паўнамоцтваў прымаць паслушэнствы; такім чынам гэтыя паўнамоцтвы ўжо зьніклі ў Беларусі. Гэтая складанасьць не належыць да нашай тэмы, але яе можна лёгка вырашыць.

Скажу першае, і адкажу таксама на той выпадак, калі паслушэнствы маглі быць створаны нават праз звычайныя паўнамоцтвы віцэ-правінцыяла. Віцэ-правінцыялы ў Беларусі былі залежныя ад правінцыялаў у штатных і звычайных выпадках; толькі калі не было правінцыяла, тады яны мелі поўныя паўнамоцтвы над сваімі віцэ-правінцыямі да новага больш высокага прадстаўніка. Зараз, праз скасаваньне астатняй правінцыі правінцыяла больш не было; такім чынам да а. Станіслава перайшлі поўныя паўнамоцтвы правінцыяла, і ён мог адпаведна прымаць паслушэнствы, пакуль яму на гэты конт не быў бы дасланы адваротны загад.

Скажу другое: гэтае пярэчаньне не належыць да нашай тэмы; паколькі паслушэнства было створана не з моцы паўнамоцтваў віцэ-правінцыяла, а з моцы Апостальскіх паўнамоцтваў, якія былі дадзеныя біскупу Малінскаму над усімі сьвятарамі, не выключаючы езуітаў, і якія былі значна большыя за тыя, што мелі правінцыялы і нават генералы. Паводле гэтага рэскрыпту адкрыцьцё паслушэнства было такім жа натуральным, як натуральным чынам дзень зьмяняе ноч.

Сябра, аб'яднайце ўсё гэта разам у Вашых думках, што адбывалася напярэдні адкрыцьця расейскага паслушэнства, якое аўтар называе **нечаканым здарэньнем**. Імпэратрыца лічыць, што можа спыніць агульнае скасаваньне; і робіць гэта насамрэч; яна прызнае езуітаў як кананічна існых сьвятароў ордэна, і выказваецца, што яна зьбіраецца замацаваць іх пашырэньне праз прыняцьце паслушэнстваў. Біскуп, якому было даручана выкананьне загада на скасаваньне, падпарадкоўваецца жаданьню Манархіні, спыняецца і прызнае езуітаў сьвятарамі. Каб адкрыць паслушэнства не патрэбна нічога іншага, як той, хто мае на гэта кананічныя паўнамоцтвы і жадае імі скарыстацца. А. Чарневіч, які адзіны меў гэткія паўнамоцтвы, не жадаў імі карыстацца з празьмернай павагі да сьвятога Стальца. Рым ведае ўсё гэта і пры гэткіх абставінах надзяляе біскупа Малінскага неабмежаванымі паўнамоцтвамі над усімі сьвятарамі, не выключаючы езуітаў; паўнамоцтвы на паляпшэньне, на скасаваньне, на аднаўленьне, і на стварэньне новых устаноў; такія паўнамоцтвы павінны разглядацца, што Біскуп і будзе заўсёды рабіць, як непасрэднае пастанаўленьне Апостальскага Стальца. Ці не было гэта натуральнай зьявай, што падобны рэскрыпт паўстаў перад вачыма Манархіні? Ці не было гэта натуральнай зьявай, што яна пажадала сваёй асабістай працавітасьцю скласьці аналягічны, каб увесьці ў дзеяньне вырашанае адкрыцьцё паслушэнства; што яна пажадала даць біскупу правы, і што біскуп сам лічыў сябе надзеленым дастатковымі правамі, каб у законным парадку стварыць паслушэнства? Ці не было гэта натуральнай зьявай, што яна схіляла

[26] Казімір Сабалеўскі (1719 – 1791) – прафэсар таэлёгіі, правінцыял Ордэна Езуітаў у Літве і Польшчы, якія складалі ў той час адну езуіцкую правінцыю. Пасьля абвяшчэньня булы аб скасаваньні Ордэна, пакінуў пасаду і перадаў паўнамоцтвы С. Чарневічу, зрабіўшы яго віце-правінцыялам.

[27] Станіслаў Чарневіч (15.08.1728 Коўна – 7.07.1785 Стайкі) – з 17.10.1782 займаў пасаду генэральнага вікара Суполкі Езуса. Выбітны езуіцкі дзеяч, зрабіў сваёй мэтай падтрымаць усімі сродкамі існаваньне Ордэна і дамагчыся афіцыйнага прызнаньня яго права на існаваньне.

біскупа адкрыць тое самае [паслушэнства], і што біскупу належыць выказваць пакорнасьць перад яго Манархіняй?

Калі Рым пры складаньні гэтага рэскрыпта не прадбачыў такія натуральныя наступствы, то ён быў сьляпы; але калі ён іх прадбачыў, то, вынікае, ён выказаў згоду адкрыцьцю паслушэнства. І тым ня менш аўтар цыркуляра называе гэта **нечаканым здарэньнем**; і гэткую бязглузьдзіцу пускаюць распаўсюджвацца па найвысакародным гарадам Італіі, каб аб гэтым размаўлялі ў выкшталцоных суполках; гэта сапраўды не ўладкоўваецца ў маёй галаве! Што ж можа азначаць у слоўніку аўтара "**нечаканае здарэньне**"? Мяркую, на яго мове "**нечаканае здарэньне**" азначае тое самае, што ўзімку марозна, а ўлетку сьпякотна бывае, і што за днём ноч, а за ноччу дзень прыходзіць.

Трэцяя прычына называць новае паслушэнства ў Беларусі **нечаканым здарэньнем**, а менавіта што гэта зьяўляецца незвычайнай справай без прыкладаў, яшчэ менш падыходзіць да нашага выпадку. Я пакіну аўтару цыкруляра час; ён мусіць мне прайсьці праз усю гісторыю Царквы; і я выпрабую яго; ён павінен знайсьці мне хаця б адзіны прыклад таго, што скасаваны Ордэн калісь устрымаўся ад пострыгу паслушэнстваў там, калі скасаваньне не было прынята ўладаром краіны; я таксама выпрабую яго, каб ён аспрэчыў наступныя пункты:

1-е. Што шматлікія біскупы ў Нямеччыне і Фландрыі працягваюць пастрыгаць бегінак[28], бо канстытуцыя Клеменса V[29], якая іх скасавала, не была прынятая.

2-е. Што сэрвіты[30] ў часы жыцьця сьвятога Філіпа Беніцыюса[31], іх ордэнскага генэрала, працягвалі паводзіць сябе і пашырацца як сэрвіты, нягледзячы на рашэньне Інакенція V[32], якое абвяшчала, што яны скасаваныя Рыгорам X[33] і дзьвума царкоўнымі радамі ў Ліоне.

3-е. Што нягледзячы на скасаваньне сэрвітаў, якое было афіцыйна прад'яўлена іх генэралу сьвятому Філіпу Беніцыюсу, тым ня менш у той самы

---

[28] Бегінкі (лац. beguine, beguinae) – рэлігійны рух у сярэдневечнай Эўропе узніклы ў XII ст. У XV ст. перажыў заняпад, але праіснаваў да Француcскай Рэвалюцыі 1789 г. Членамі гэтых рэлігійных абшчын былі па большасьці жанчыны, якія трымаліся блізкага да манаскага ладу жыцьця. Бегінкі жылі ў бегінажах (інтэрнатах), але маглі сяліцца і ў асобных жылішчах. Яны маглі ствараць сем'і, выходзіць з абшчын і не даваць манаскіх зарокаў. Рэлігійны статут абшчын, што імкнуліся да манаскага ладу, быў менш суворы, чым у кляштарах, але духоўнае жыцьцё бегінак было падчас такім жа насычаным. З-за рэлігійнай непісьменнасьці ніжэйшых слаёў грамадзтва, якія складалі большую частку бегінак, іх пропаведзі часта мелі ерэтычныя погляды. Таму ў XIII – XV сст. Царква змагалася супраць ерэтычных рухаў бегінак. Апошняя бегінка памёрла ў 1890 г. Мужчынская філія руху – бегарды, зьявілася а другой палове XIII ст.

[29] Клеменс V (Clemens PP. V), сьвецкае імя: Раймон Бертран дэ Го (фр. Raymond Bertrand de Got) 1264 - 1314 — папа рымскі з 5.08.1305 да 20.04.1314 г.

[30] Сэрвіты – Ордэн служкаў Панны Марыі (Ordo Servorum Mariae, OSM), манаскі каталіцкі ордэн, адзін з жабрацкіх ордэнаў, заснаваны ў 1233г. у Фларэнцыі.

[31] Філіп Беніцыюс ці Бенізі (Philip Benitius, Benizi) 15.08.1233 - 22.08.1285 – 5-ты генеральны настаяцель ордэна сэрвітаў. Пасьля сямі сьвятых фундатараў ордэна названы "другім фундатарам" і аднавіцелем ордэна. Ён перапрацаваў законы ордэна і заснаваў жаночае крыло, сэрвітак.

[32] Інакенці V (Innocentius PP. V), сьвецкае імя: П'ер дэ Тарантэз або П'етра дэ Тарантасія (фр. Pierre de Tarentaise) 1225 – 22.06.1276 гг. – папа рымскі з 21 студзеня па 22 чэрвеня 1276.

[33] Рыгор X (Gregorius PP. X), сьвецкае імя: Тэабальда Вісконці (іт. Teobaldo Visconti) 1210 - 10.01.1276 — папа рымскі з 1.09.1271 па 10.01.1276 г.

час прынялі ордэнскі сан і пострыг блаславёны Банавентура Пістойскі[34], блаславёны Андрэас Боргоскі[35], блаславёны Убальд Фларэнскі[36] і сьвяты Перэгрын Лацыёзус[37].

4-е. Што пасьля афіцыйна прад'яўленага скасаваньня сьвяты ордэнскі генэрал бяз новага Апостальскага сьцьвярджэньня пашырыў свой інстытут на жаночы пол, стварыў Ордэн Служак Марыі, якія названыя мантэлаткамі[38], сваёй рукой перадаў ордэнскі сан сьвятой Юліяне Фальконьерская[39], дапусьціў яе да ўрачыстага пострыга.

5-е. Што, пасьля таго як рыцарскі ордэн сьвятога Лазаруса быў скасаваны Інакенціям VIII[40], той зьвярнуўся ў Францыі да парляманта Парыжу, які загадаў, што скасаваньне не павінна ажыцьцявіцца; Ордэн застаўся тады і пашыраўся без таго, каб яго кананічнае існаваньне было пад сумневам.

6-е. Што міласэрныя браты[41] ў Гішпаніі, дзе калісь прападобны Ян Пэкадор[42] ***)** жыў, кіраваў і памёр, працягвалі без якіх-кольвек зьмен паводзіць сябе як ордэнскія сьвятары і прымаць паслушэнствы, нягледзячы на агульнае скасаваньне ордэна Клеменсам VIII[43], якое аднак не было прынята ў Гішпаніі.

***)** якому зараз робяць працэс беатыфікацыі, і чые гераічныя дабрачыннасьці прызнаў сам Клеменс XIV

7-е. Што піяры[44] ў Польшчы, Маравіі, Багеміі і Аўстрыі пры жыцьці сьвятога

---

[34] Банавентура Пістойскі (Bonaventura von Pistoia) 1250 - 1350 – манах одэна сэрвітаў, уступіўшы ў ордэн натхнёнlöны ўзорам сьв. Філіпа Беніцыюса. Прапаведнік і фундатар жаночага кляштара сьв. Агнэсы.

[35] Андрэй Доцці з Борго (Andrea Dotti) 1256 - 31.08.1315 – італьянскі прапаведнік з ордэна сэрвітаў. Належыў да шляхетнага роду і быў капітанак лучнікаў аховы фр. Караля Філіпа IV Прыгожага. У 20 год зрабіўся вучнем сьв. Філіпа Беніцыюса, калі той пажадаў заснаваць філію свайго ордэна ў Борго. Потым Андрэас зрабіўся генэралам філіі, а потым стаў адным з духоўных лідараў кангрэгацыі.

[36] Убальд Фларэнскі (Ubald von Florenz) ??? — 1315 — у 1276 Убальд Адымары быў маладым багатым лідэрам партыі гібелінаў. Пачуўшы прамову сьв. Філіпа Беніцыюса ўступіў у яго ордэн сэрвітаў.

[37] Перэгрын Лацыёзі (Peregrinus Pellegrino Latiosus von Forlì) пр. 1265 - 01.05.1345 – паходзіў з багатай сям'і, прымаў удзел у паўстаньні супраць рэжыму царкоўнай дзяржавы. У 1283 ён зьбіў сьв. Філіпа Беніцыюса. У якасьці пакаяньня ён уступіў у ордэн сэрвітаў, а потым служыў пастырам у Форлі.

[38] Мантелаткі (Mantellate) – італьянская назва кармелітак, жаночага манаскага ордэна, зьвязанага агульнай духоўнай традыцыяй з камрелітамі.

[39] Юліана Фальконьерская (Juliana von Falconieri) 1270 - 19.06.1341 – фундатарка ордэнскай суполкі сэрветак, служак Марыі.

[40] Інакенці VIII (лац. Innocentius PP. VIII), сьвецкае імя: Джанбатыста Чыба (іт. Gianbattista Cibo) 1432 — 25.07.1492 — папа рымскі з 09.08.1484 да 25.07.1492 г.

[41] Міласэрныя браты – Баніфратры, Шпітальны Ордэн Сьвятога Яна Божага (лац. Ordo Hospitalarius Sancti Joannis de Deo), іх таксама звалі "міласэрнымі братамі" ад bonus- добры і frater- брат. Манаскі ордэн, заснаваны ў 1537г. у Гранадзе, Гішпанія. Яго манахі даглядалі хворых і разьвівалі мэтады лекаваньня. На тэрыторыі Беларусі кляштары баніфратраў былі ў Менску, Навагрудку, Ракаве, Гродна, Высока-Літоўску.

[42] Ян Пэкадор – сьв. Ян Грандэ, які сам зваў сябе Грандэ эль Пэкадор ("вялікі грахоўнік"). Нарадзіўся ў 1546г. у Кармоне (Андулузыя, Паўднёвая Гішпанія). Спачатку быў купцом, але кінуўшы працу ў 22 гады цалкам заняўся служэньнем сярод вязьняў, занядбаных і хворых. З гэтай мэтай зрабіўся манахам у ордэне "баніфратраў". Памёр у 1600г.

[43] Клеменс VIII (Clemens PP. VIII), сьвецкае імя: Іпаліта Альдабрандыні (іт. Ippolito Aldobrandini) 24.02.1536, Фано, герцагства Урбіна - 5.03.1605, Рым — папа рымскі з 30.01.1592 да 5.03.1605 года.

[44] Піяры (лац.: patres scholarium piarum – айцы набожных школ) – каталіцкі манаскі ордэн. Ордэн піяраў заснаваны ў 1597 гішпанскім сьвятаром Хасэ Каласанцам. На чале ордэна стаялі генэрал, 4 асістэнты і 4 кансультанты. Мэтай піяраў было выхаваньне і навучаньне юнацтва праз стварэньне шыро-кай сеткі сваіх калегіюмаў, а не палітычная ці місіянэрская дзейнасьць. У 1641 кароль Уладзіслаў IV папрасіў Каласанцу прыслаць піяраў у Рэч Паспалітую, каб пазбавіцца ад манаполіі езуітаў у галіне адука-цыі. У 1642 піяры прыбылі ў Варшаву. У 1736 у краіне былі створаны 2 правінцыі ордэна — Каронная (Польская) і Літоўская.

Ёзафа фон Каласанца[45], іх фундатара, працягвалі прымаць паслушэнствы, пасьля загаду Інакенція X[46], які іх касаваў, і што сьвяты фундатар найнастойлівым чынам рэкамэндаваў уладарам краін празь лісты не прымаць гэткі папскі загад; але сваім ордэнскім сынам загадаў, што яны ў сваіх калегіюмах і пад наглядам іх інстытута павінны надалей захоўвацца. Алтары і Неба поўняцца такімі ўпартымі ілбамі, як і езуіты ў Расеі.

8-е. Што канонікі[47] сьвятога Яна Эвангеліста ў Партугаліі працягвалі, і сёньня яшчэ працягваюць прымаць паслушэнствы; бо яны не лічылі, што іх закранае агульнае скасаваньне Клеменса IX[48] Кангрэгацыі сьвецкіх канонікаў[49] са сьвятога Гэорга на Алзе[50], галіной якога яны таксама зьяўляліся.

Калі гэтага не дастаткова, то я прывяду яшчэ колькі падобных канстытуцый, якія былі яшчэ больш урачыста выдадзены Рымам, але ніякім чынам не былі ажыцьцёўленыя, бо ўладары ім запярэчвалі, нават калі Папы пратэставалі супраць гэтага. Я пакажу, што распараджэньні, якія тычыліся інквізыцыі, забароненых кніг, канцэлярскіх правілаў і бенэфіцый, мелі ва ўсіх каталіцкіх імпэрыях столькі моцы, колькі ім жадалі дазволіць уладары і біскупы. Я пакажу, што нават дысцыплінарныя распараджэньні агульных кансілій, ад нікейскіх да трыдэнцкіх, уладары часам прымалі, часам адкідвалі, а часам зьмякчалі. Нарэшце я пакажу, што справа езуітаў у Беларусі пад Кацярынай II была праведзена такім жа чынам, як гэта звычайна адбываецца пры ўсіх каталіцкіх дварах, нават пад уладарамі, якіх у нашы дні шануюць на алтарах. Дык, я паўтараю гэта яшчэ раз, што нарэшце мусіць азначаць “**нечаканае здарэньне”** ў галаве нашага аўтара? Рэчы, якія прадбачыў нават найнікчэмны натоўп, найпрасьцешыя рэчы, рэчы, якія адбываліся ва ўсе часы, іх ён называе **нечаканым здарэньнем**?

# §. II.

Мы падыходзім зараз да другой складанасьці: **гэтае нечаканае здарэньне кінула сьвятога Айца ў вялікі жах і зьбянтэжанасьць**. Калі б цырклуяр быў сапраўды зроблены тым кардыналам, якому яго прыпісваюць, то я добра адчуваю, што ён мяне па праву мог бы назваць саманадзейным. Як ён мог бы сказаць: ты, як нахабны чалавек, будзеш лепш ведаць – ці Папа змрочны, ці павесялелы, – чым я, калі я зьяўляюся яго міністрам, калі я заўсёды зь ім побач,

---

Пасьля скасаваньня ў 1773 ордэна езуітаў і стварэньня Адукацыйнай камісіі, піяры адыгралі вялікую ролю ў рэфармаваньні сістэмы асьветы краіны ў 1770-80-я г.: падрыхтавалі вялікую колькасьць праэктаў рэформ, пісалі падручнікі (А. Каменскі, А. Паплаўскі, М.Пракаповіч). За заслугі ў галіне адукацыі піярам было дазволена ў 1775 набываць новыя зямельныя ўладаньні, у 1783 іх школы ў Польшчы вылучаны ў асобную акругу (вучылішчы піяраў у ВКЛ увайшлі ў яе склад у 1790). У канцы 18 ст. на тэрыторыі ВКЛ дзейнічала 18 кляштараў піяраў.

[45] Ёзаф фон Каласанц – Іосіф (Хасе) Каласанц, Святы Юзаф дэ Каласанс (1557 — 25 жніўня 1648) — каталіцкі сьвятар, заснавальнік ордэна піяраў.

[46] Інакенці X (лац. Innocentius PP. X), сьвецкае імя: Джамбатыста Памфілі (іт. Giambattista Pamphili) 7.05.1574 — 7.01.1655 — папа рымскі з 15.09.1644 да 7.01.1655 г.

[47] Канонікі – аўгустыны-канонікі (рэгулярныя канонікі, канонікі-абсэрванты сьв. Аўгустына, The Canons Regular of Saint Augustine, CRSA).

[48] Клеменс IX (Clemens PP. IX), сьвецкае імя Джуліё Расьпільёзі (іт. Guilio Rospigliosi) 28.01.1600 - 9.12.1669 — папа рымскі з 20 чэрвеня 1667 да 9 сьнежня 1669.

[49] Сьвецкія канонікі – canonici saeculares, чальцы царкоўных суполак, якія не давалі ордэнскіх зарокаў.

[50] Сьв. Гэорг на Альзе – кляштар і галоўная рэзыдэнцыя сьвецкіх канонікаў на востраве Альга ля Венецыі.

калі я атрымліваю загады зь яго вуснаў, і калі я ведаю самыя таемныя і непранікальныя сакрэты царкоўнага кіраваньня?

Сябра, Вы жадаеце вырашыць гэтую складанасьць, бо Вы лічыце цыркуляр працай той высокай асобы. Я, бо я гэта адмаўляю, ужо адказаў на гэта. Я ведаю, што і Вы таксама знойдзеце адказ. Вы скажыце, што гэты выпад мог бы мець сваю вагу ў іншы час, пры іншых абставінах; але ў нашы часы, калі крыху вядома няшчаснае становішча рымскага двара ў дачыненьні да вернасьці (і цэлы Сьвет ведае гэта), з гэтага сьмяюцца. Вы скажаце, што гэта не рэдкае і ніяк не нечаканае здарэньне, што Папа ня верыць свайму міністру, што ён засьцярагаецца адкрываць яму сваё сэрца, што міністар глядзіць Папе скрозь лоб, і што, калі ён нават верна бачыць, ён, нягледзячы на гэта, гаворыць супраць таго, што бачаць яго вочы. Хопіць, я гэтага ніколі не скажу. Вы можаце казаць, што Вам заўгодна, але мне трэба вырашыць іншы сумнеў.

Адкуль вядома, скажаце Вы, што Папа не трапіў у жах і зьбянтэжанасьць ад навіны пра расейскае паслушэнства? Я ведаю гэта, па-першае, зь яго паводзін. Ужо больш чым за чатары гады Папа прадбачыў адкрыцьцё гэтага паслушэнства, не абураючыся на гэты конт. Ён мог гэта прадухіліць, калі б ён або не даслаў Біскупу рэскрыпт Апостальскіх паўнамоцтваў над сьвятарамі, або езуітаў дакладна адтуль выключыў. Ён мог гэтаму найнастойліва запярэчыць; ён мог скласьці загад да Біскупа, з даручэньнем, што ён мусіць гэта прадухіліць; ён мог паведаміць віцэ-правіныялу, які яму хаця б тры разы пра ўсё паведаміў і яго так тэрмінова спрабаваў пераканаць, вырашальны адказ, што Яго Сьвятасьць жадае выказаць сваё меркаваньне на гэты конт (і, вядома, што Папа не выказаў бы найменшы недавер а. Станіславу, а наадварот, значна больш жадаў бы, каб нават драбнюткая частка адданасьці, шчырасьці і павагі да сьвятога Стальца з боку гэтага духоўніка была пашыраная сярод асоб яго непасрэднага кіраваньня), між тым ён не зрабіў нічога з гэтага. І як рыфмуюцца гэткія паводзіны зь вялікім жахам ды зьбянтэжанасьцю? Ці для Папы бяда і турботы настолькі абыякавыя рэчы, што ён – бо ён іх так лёгка мог прадухіліць – не зьвяртае на іх увагі?

Аўтар цыркуляру сапраўды кажа, што некаторыя прадстаўнікі Папы ў Рыме і нунцый Аркеці ад імя Папы выступалі супраць. Адное гэта ўжо даказвае адсутнасьць вялікага жаху ды зьбянтэжанасьці ў Папы, які зьяўляецца такім жа разумным, як Пій VI[51]. Справа ня ў тым, што Папа выступіў супраць асабіста ці толькі дазволіў, каб некаторыя і надзвычай верныя прадстаўнікі Папы выступілі супраць ад яго імя. Хто паверыць, што такі разумны Папа, каб вызваліць сябе ад вялікага жаху ды зьбянтэжанасьці, не зрабіў нічога іншага, як пакінуць усю справу цалкам аднаму нунцыю, які дакладна не зьяўляецца Камендонам[52] ***)**, аднаму сакратару Кангрэгацыі і пэўным асобам, якія будуюць сваё шчасьце любым спосабам, які можа быць як на карысьць так і на шкоду для сьвятога Стальца? Пій VI не такі бязразважны, каб не спасьцігнуць, што гэта ня ёсьць выйсьце, каб вызваліць сябе зь вялікага жаху ды зьбянтэжанасьці.

---

[51] Пій VI (Pius PP. VI), сьвецкае імя Джананджэлё граф Браска (іт. Giovanni Angelo Graf Braschi) 27.12.1717 – 29.08.1799 — папа рымскі з 15 лютага 1775 г., займаў пасаду ў часы, апісаныя ў кнізе.

[52] Джавані-Франчэска Камендоні (итал. Giovanni Francesco Commendoni; 1524 - 1584) — папскі нунцый і дыплямат. На працягу 20 год карыстаўся вялікім даверам Рыма. Паслугі Рыму, зробленыя ім у Польшчы, былі такімі вялікімі, што ў 1565г. ён стаў кардыналам. Але пасьля другой польскай місіі (1571 - 1573) ён значна страціў давер, бо ў яго не атрымалася пасадзіць аўстрыйскага эрцгерцага Эрнэста на польскі трон.

Што да пана Аркецi **)[53], дык ён дакладна ня быў тым чалавекам, які мог прадухіліць вышэй узгаданы жах. Чаму? З-за аналягічнай заклапочанасьці, якая даходзіць зь Пецярбурга, ці ня будзе зроблены загад нунцыю Варшавы, кім Імпэратрыца мала задаволеня, што гэтаму прэлату больш не дазваляецца нават мінімальна ўмешвацца ў рэлігійныя справы яе краін? У тое, што Папа дазволіў яму рабіць тое, што ён лічыць добрым, у гэта лёгка паверыць: і прычына гэтага дастаткова зразумелая; але ў тое, што Папа не заўважаў, што ўсе гэтыя варушэньні будуць марныя, і што выказваць пратэст праз пана Аркецi значыць столькі ж, як і нічога не рабіць, каб у гэта паверыць, трэба быць вельмі нізкага меркаваньня пра Пія VI. Маленькая, ветлівая, абгрунтаваная папера (я не хачу вырашаць, ці можа гэткая папера быць абгрунтаванай), у якой бы гаварыў непасрэдна сам намесьнік Езуса Хрыста, зрабіла б у сэрцах Імпэратрыцы ды Біскупа зусім іншае ўражаньне, чым непрыемная балбатня нунцыя пры замежным двары ды сакратара Кангрэгацыі, якая пры дварах, і нават у Рыме, стаіць не на лепшым ліку. Гэткія пратэсты даказваюць жах дыі заклапочанасьць з боку таго, хто іх так агідна прывёў, але не з боку Папы.

Па-другое, я ведаю гэта са сьведчаньняў надзейных асоб, якія штодня маюць размовы са сьвятым Айцом; якія сьведчаць, што яны не заўважылі ў ім нават ценю жаху ды заклапочанасьці, на працягу ўсяго часу, калі ў Рыме можна было чуць буянства ды лямант цэлай навалы шалёных людзей, якія ад езуіцкіх навінаў зь Беларусі павыйшлі зь сябе.

Па-трэцяе, я ведаю са скаргаў і з нападак, якімі не саромячыся разразіліся перад Папай антыезуіты. Падчас майго знаходжаньня ў Рыме, я добра чуў ад пэўных фантазёраў лаянку супраць Папы пры двух падставах; першае, калі была склікана знакамітая кансісторыя[54], каб абвясьціць адрачэньне Фебронiюса[55], і потым на падставе сёньняшніх навін зь Беларусі. Як пры першай, так і пры другой, яны вінавацілі Папу ў тым, што Яго Сьвятасьць, калі амаль увесь Рым знаходзіцца ў вялікім жаху ды зьбянтэжанасьці, выказваў суцэльны спакой і весялосьць. Гэта не магло быць невядома аўтару, бо ён, магчыма, быў адным з тых, хто асабіста былі ў найбольшым жаху ды зьбянтэжанасьці і спрабавалі зьбянтэжыць Папу. Адзін толькі просты расповед

*) Камендон – вядомы ў 16-м ст. вучоны нунцый і кардынал, які пры 6 Папах выкарыстоўваўся для самых важных місій і спраў.

**) Пра пана Archetti (зараз кардынала), які ў гэтым тэксьце будзе яшчэ шмат разоў сустракацца, праз адну паперу з Польшчы я атрымаў паведамленьне, што ён сам па сабе ёсьць добры пан (Archetti, crede mihi, vir bonus est, fed a fuis &c.), але дазволіў зашмат улады над сабой сваім чыноўнікам, якія не пакідаюць, натхняючыся Рымам праз абяцаньні і ўзнагароды, спакушаць свайго пана рабіць тое, што патрабуюць рымскія ахайнікі, чым сапсаваў сваю справу пры расейскім двары. Але пасьля таго, як ён асабіста прыбыў у С. Пецярбург і пабачыў там усё сваімі вачыма, ён, аналягічна раней прызначанаму супраць езуітаў біскупу Малінскаму, зьмяніў свае меркаваньні і зараз выказвае сваю схільнасьць да езуітаў.

---

[53] Archetti, crede mihi, vir bonus est, fed a fuis &c. – Аркецi, паверце, добры чалавек, карміцель дзяцей і г.д.

[54] Кансісторыя (лац. consistorium - месца сходу; рада) – кардынальскі сход, які склікае і ўзначальвае Папа рымскі.

[55] Ян-Мікалай фон Гонтхайм (Johann Nikolaus von Hontheim, 27.01.1701 - 2.09.1790) — вікарны біскуп Трырскі. У 1763 г. надрукаваў пад псеўданімам Юстына Фебронія свой знакаміты твор «De statu ecclesiae et legitima potestate romani pontificis liber singularis», у якім ён выступаў супраць папсіх дамаганьняў і патрабаваў падпарадкаваньня Папы Сусьветнаму Сабору і вяртаньня біскупам усіх правоў, якія прысвоілі Папы. Кніга была спаленая ў Рыме. А калі сапраўдны аўтар быў знойдзены, у 1778 г. Ян-Мікалай мусіў адрачыся ад свайго твору.

аб гэтым раскрые Вам тры справы: па-першае, што вялікі жах ды зьбянтэжанасьць былі не з боку Папы, а з боку той партыі; па другое, што Папа ня меў ніякай прычыны трапіць у зьбянтэжанасьць; і па трэцяе, што прычына, якую яшчэ можна было б прывесьці, рабіла Папе мала пашаны.

У верасьні 1778 г. людзі пачалі казаць адно аднаму на вуха, што ў прапагандзе адбылася сустрэча, якая складалася з кардыналаў і прэлатаў, што гаворка шла пра езуітаў, і што ў сьпешцы ды вялікім маўчаньні быў надрукаваны нейкі тэкст, зьместу якога ніяк немагчыма даведацца. Тут адразу ўзьніклі разнастайныя гаворкі; адны казалі, што гэта ішла па дварах сьцьвярджальная була ганганэльскага[56] загаду, якая, аднак, не была прынятая Мадрыдам, бо яна не адпавядала кансісторыі і не была падпсіана ўсім кардынальскім калегіюмам: старое патрабаваньне гішпанскага двара, якое, аднак, ніколі не магло быць задаволена. Іншыя запэўнівалі, што расейскія езуіты былі абвешчаны схізматыкамі. Яшчэ іншыя сьцьвярджалі, што папскі загад аб адчужэньні ўсіх езуіцкіх дамоў па ўсяму Сьвету, пачынаючы з Gesù[57] ў Рыме, зь якой мусіць быць зроблены шпіталь для гішпанскай нацыі, гэта было б для папскай казны заменай будынку сьвятога Якуба на плошчы Навона, і дало б адзін мільён наяўных грошай. Іншыя нарэшце казалі, што ўсім езуітам па ўсім Сьвеце без выключэньня мусіць быць забаронена прапаведваць і спавядаць: усё гэта былі толькі сумніцельныя чуткі; толькі дзьве рэчы былі верныя. Па-першае, што сакратар прапаганды накіраваў адну паперу аднаму свайму даверанаму сябру і сказаў: **праз гэты ліст езуіты атрымаюць апошні ўдар, і гэтым мы нарэшце цалкам вызвалім сябе ад гэтай халеры**. Па-другое, што скасаваньне езуітаў у Беларусі было даручана біскупу Малінскаму, пасьля таго, як ўсе нарэшце былі такімі шчасьлівымі, наогул унушаць гэтаму прэлату поўную нянавісьць да езуіцызму.

У наступным кастрычніку памножыліся гэтыя плёткі пры нагодзе, што сьвяты Айцец зьняў вечныя дазволы, якія ён даў некаторым асобам у Рыме, каб спавядаць al Gesù любых экс-езуітаў. Толькі наступнай вясной пры прыбыцьці некаторых манахаў з Расеі зрабілася вядома, што тым тэкстам з прэсы прапаганды быў загад Апостальскай дэлегацыі, які быў дасланы біскупу Малінскаму. І на пачатку жніўня з нунцыятуры ў Варшаве прыйшоў у пакеце той ненавісны пастырскі ліст, які кінуў антыезуіцкую партыю ў такі вялікі жах ды жудасьць. Паколькі ў ім зьмяшчаецца поўны загад аб надзяленьні яго паўнамоцтвамі, то тут Вы маеце дакладную копію зь яго:

Пад кіраўніцтвам Катарыны II

Імпэратрыцы і Самадзержацы

ўсяе Русі і г.д.

нашай усеміласьцівай пані.

---

[56] Ганганэлі – Папа Клеменс XIV, сьвецкае імя якога было Ларэнца Джавані Вінчэнца Антоніа Ганганэлі.

[57] Il Gesù (Езус) – Іль-Джэзу, Царква Джэзý (італ.: Chiesa del Sacro Nome di Gesù, г. зн. «царква ў святое імя Езуса») — саборная царква ордэна езуітаў, у якой пахаваны яго заснавальнік Ігнацый Лаёла. Знаходзіцца на аднайменнай плошчы ў цэнтры Рыма. Пабудаваная ў 1568 — 1584 гадах. Царква была прынята за канон для езуіцкіх храмаў па ўсёй Еўропе (асабліва ў Рэчы Паспалітай, на цяперашняй Украіне, у Літве і Беларусі), а таксама ў Лацінскай Амерыцы.

Станіслаў Сестранцэвіч фон Богуш Божай міласьцю біскуп у Беларусі, Апостальскі дэлегат, Ордэнскі рыцар Белага Арла і сьвятога Станіслава.

Шаноўным сьвецкім і ордэнскім духоўнікам, а таксама нашай рымска-лацінска-каталіцкай пастве па ўсёй Імпэрыі, збаўленьне ды бласлаўленьне.

Паколькі Папа Клеменс XIV, варты найслаўнейшай памяці, праявіў такую вялікую схільнасьць выконваць пажаданьні магутнейшай расейскай Імператрыцы, нашай найлітасьцівай пані, што ён, каб дагадзіць Яе Моцы, адмовіўся ад выкананьня ва ўсіх раёнах Яе Імпэрыі загада, які пачынаецца з: Dominus ac Redemptor noster; паколькі таксама Яго не менш годна славы кіруючая Сьвятасьць Папа Пій VI праяўляе такую самаю падпарадкаванасьць жаданьням Яе імпэратарскай Моцы і не забараняе, каб звычайныя сьвятары суполкі Езуса, нягледзячы на раней узгаданы загад, захавалі на землях Яе Моцы свой стан, сваё адзеньне і сваё імя: такім чынам мы (бо мы менавіта гэтай найвялікшай Манархіні, нашай літасьцівейшай пані, як з-за гэткай вялікай колькасьці каталіцкіх цэркваў у яе вялікай Імпэрыі, так і з-за нас саміх, так моцна абавязаны, асабліва таму, што сама Яе Сьветласьць вусна і пісьмова загадала, што мы павінны ўсёй магчымай для нас карыснасьцю падтрымліваць вышэй узгаданых сьвятароў суполкі Езуса, і клапаціцца аб іх далейшым існаваньні) ня можам у справе, якая нам па сілах, адмовіцца ад нашага абавязку і ўдзячнай рыхтоўнасьці да службы. Паколькі на гэтых землях раней не было ніякага паслушэнства, і паколькі вядома, што іх колькасьць паступова так памяншаецца, што яны болей ня ў стане працягваць выкананьне сваіх функцый, каб служыць сваім грамадзянам, таму мы паклапаціліся перадаць ім дазвол прымаць паслушнікаў.

Пасьля таго, як мы з гэтай мэтай падчас фэсту сьвятых апосталаў Пятра і Паўла выканалі ахвярапрынашэньне імшы, заклікалі іх заступніцтва зьверху для прасьвятленьня і выслухалі справаздачу нашага сабранага кіраўніцтва сабору Беларусі; мы яшчэ раз зачыталі дэкрэт Яго Сьвятасьці Пія VI, які ён выдаў 9 жніўня 1778, і які з дазволу Яе Моцы быў цалкам і без абмежаваньняў публічна абвешчаны 2 сакавіка гэтага году, і які гучыць наступным чынам:

"З аўдыенцыі Найсьвяцейшага Айца, якая адбылася 9 жніўня 1778.

Яго сьвятасьць Пій VI, божым наканаваньнем Папа, дзеля захаваньня і аховы распаўсюджваньня рэлігійных

ордэнаў у мясьцінах, якія знаходзяцца ў расейскім рэгіёне міласьціва выдаў, бо я, які падпісаўся ніжэй як Сакратар сьвятой Кангрэгацыі па распаўсюджваньню веры, прадставіў яму справу, на тры гады дазвол прападобнаму пану Станіславу Сестранцэвічу, біскупу Малінскаму, у Беларусі, ажыцьцяўляць штатную юрысдыкцыю над ордэнскім духавенствам у тых частках дыяцэзій, якія яму давераныя, і менавіта такім чынам, каб гэты біскуп сыходзячы з гэтага папскага дазволу ці самастойна, ці празь іншых пабожных і дасьведчаных людзей, так часта, як ён гэта знойдзе добрым, мог сыходзячы са сьвятога Прадпісаньня трыдэнтыйскай Царкоўнай Рады наведваць з Апостальскім паўнамоцтвам рэгуляваныя мужчынскія і жаночыя кляштары, прыяраты, прэпозытуры[58], усіх, і таксама жабрачых, ордэнаў, як і Гаспітальераў, калі б яны таксама былі прывілеяваныя і непасрэдна падпарадкаваныя Апостальскаму Стальцу, ці забясьпечаныя ячшэ нейкімі прывілеямі, то таксама і іх кіраўніцтва, нарады, універсытэты, калегіюмы і асоб, каб ён мог іх стан, арганізацыю, правілы, звычаі, звычкі, побыт, норавы, распаўсюджваньне, разам, ці лепш як у вярхах, так і сярод чальцоў, добра дасьледаваць і так часта, як ён, характэрна абставінам, у адпаведнасьці з Апостальскім Вучэньнем і прадпісаньнямі сьвятых канонаў і агульных кансілій, і сьвятых айцоў знойдзе неабходным нешта зьмяніць, палепшыць, адмяніць, абнавіць і аднавіць, мог нешта зьмяняць, паляпшаць і зноў ствараць, мог ды імкнуўся, як яму падказвае справядлівасьць і розум, зноў створаныя, калі гэта не супярэчыць сьвятым канонам і трыдэнтыйскай Кансіліі, сьцвярджаць, публікаваць і выконваць, скасоўваць усе злоўжыванні, аднаўляць і абнаўляць усе статуты, канстытуцыі і царкоўныя дысцыпліны паўсюль, дзе яны прыйшлі ў заняпад, і дакладна дасьледваць, паляпшаць, караць, і вяртаць сьвятароў да ладу жыцьця, які ўзвышае душу, таксама й прывілеяваных, і прывілеяваных асоб, калі яны жывуць вольна ці адхіляюцца ад сваіх статутаў; і тое, што ён загадае і пастановіць, тое павінен ён, нібыта гэта была пастаноўлена Апостальскім Стальцом, дакладна накіраваць да выканананьня без таго, каб нейкае неспрыяльнае прадпісаньне стаяла на яго шляху і яму перашкаджала. Выдадзена ў Рыме, з палацу сьвятой Кангрэгацыі, 15 жніўня 1778.

Стэфан Борджыа[59], сакратар сьвятой Кангрэгацыі па распаўсюджваньні веры."

---

[58] Рэзыдэнцыі пробашчаў.

[59] Стэфан Борджыа (Stefano Borgia, 3.12.1731 - 23.11.1804) — італьянскі кардынал і антыквар, які знакаміты праз сваё зьбіральніцтва розных артэфактаў, такіх, як старажытныя егіпецкія рэчы і рукапісы на старажытных мовах.

Сыходзячы з гэтай нашай штатнай юрысдыкцыі і ўлады над усімі манахамі па ўсёй расейскай Імпэрыі, і таксама над усім сьвятарамі Суполкі Езуса, мы даем, з найважкіх на тое прычын, уладару вышэй узгаданых сьвятароў Суполкі Езуса дазвол стварыць паслушэнства і набіраць паслушнікаў у іх Суполку, і даем ім у той жа час наша біскупскае бласлаўленьне.

Але каб гэта зрабілася вядома ўсім, хто належыць да нашай паствы, то загадваем мы, каб гэты тэкст быў зачытаны народу перад катэдрай на працягу трох першых нядзель месяца, растлумачаны ў скарочаным варыянце на мясцовай мове, прыбіты на царкоўную браму, і каб ад кіраўнікоў нам было дадзена паведамленьне аб яго атрыманьні. Выдадзена ў Мале[60] на Дняпры, у нашай звычайнай рэзыдэнцыі, у дзень пасьля фэсту сьвятых апосталаў Пятра і Паўла 1779.

Станіслаў, Біскуп.

Гэтую копія я зрабіў непасрэдна з надрукаванага экзэмпляру, які быў прама дасланы аднаму польскаму шляхціцу, майму сябру. Гэты экзэмпляр мае на сабе наступныя адбіткі засьведчаньня праз руку натарыюса:

“Я сьведчу, што дадзеная копія супадае са сваім арыгіналам; з гэтай нагоды я прыкладаю сваю пячатку ды распісваюся сваёй рукой. Выдадзена як пазначана вышэй. Ігнаць Мунегевіч, натарыюс кансісторыі ў Беларусі.”

Такім чынам Вы маеце пастырскі ліст біскупа Малінскага і той тэкст ад прапаганды, празь які Сакратар Кангрэгацыі меркаваў нанесьці апошні ўдар рэшткам скасаваных езуітаў, але які, як ён мусіў да свайго найвялікшага расчараваньня бачыць, паслужыў Богу ў якасьці насеньня, каб іх зноўку вярнуць да жыцьця. На працягу пэўнага часу публіка нічога аб усім гэтым ня ведала; і паведамленьне ды пастырскі ліст заставаліся толькі пры невялікай колькасьці асоб, якія паклалі іх пад самыя патаемныя паперы кабінэту, таму што яны магчыма ўсьцяшалі сябе тым, што яшчэ перад дэкрэтам Біскупа будзе абвешчана афіцыйнае прызнаньне яго нядзейнасьці. Толькі гэта не магло цягнуцца доўга. На другім ці трэцім тыдні жніўня праз пошту прыйшла вялікая колькасьць надрукаваных і рукапісных копій, сярод якіх шмат было засьведчаных рукой натарыюса, каб ніхто не мог падумаць, нібыта гэта было вынаходкай езуітаў зь іх трэцяга ордэну.

Такім чынам усё ў Рыме йшло далей ды далей. Шпіёны супраціўнай партыі як шалёныя беглі цераз усе вуліцы горада і распаўсюджвалі гэтае паведамленьне самым цынічным чынам з такім паваротам, які наносіў шкоду добраму імені езуітаў, Біскупа і расейскай Улады. Цяпер тэмай для размоў ва ўсіх высакародных суполках, у рызьніцах, у корчмах і ў кавярнях было наступнае: езуіты адасобіліся ад рымскай суполнасьці і, аб’яднаўшыся зь Біскупам схізматыкам зноў паставілі сябе ў стан, які быў зьнішчаны Рымам; што дарэчы для Рыма, дадаюць яны, зьяўляецца фатальным, так выхваляюцца

---

[60] У першым выданьні было пазначана “у Магілёве на Дняпры”. Магчыма, гэта памылка другога выданьня, бо ўдакладненьне не пазначана ў сьпісе выпраўленьняў, і Маляцічы стаяць далёка ад Дняпра.

Біскуп і езуіты Папскай Згодай. Адсюль і ўзьнікаюць тады жах, боязь, гнеў, перасьлед па кожным інтарэсе.

Сябра, я ня маю часу, каб намаляваць вам усе тыя розныя пачуцьці, якія з’явіліся на тварах і на языках рымлян. Вы ведаеце Рым і магчыма самі асабіста чулі тое, аб чым без перапынку гаманілі пад уладай Клеменса XIII, і таксама ў першыя гады Ганганэлі. Усё пачалося з пачатку; дзякуючы ветру антыезуіцкай партыі агонь запалаў зноўку ясным полымем: у Гішпаніі, казалі яны, нянавісьць да гэтага ордэну яшчэ жывая і нязгаслая; і намаганьні, каб вынішчыць невялікія рэшткі езуітаў, што ўцяклі пад лядовую зону, ніколі не стануць меншымі, чым патрабуецца для агульнага зьнішчэньня; зараз дакладна мусіць Рым трымаць свае плечы падрыхтаванымі да новых удараў; Авіньён[61] і Бэнэвэнта[62] будуць хутка згублены; Неапалітанскія войскі прыйдуць, каб атачыць Рым; на Тыбры магчыма можна будзе пабачыць некаторых нунцыяў, зь якімі абышліся яшчэ горш, чым тое, што перажыў нунцый Акіаэлі ***)**[63]; нічога не застанецца ад пустога імя Датарыі[64] і Кангрэгацыі; Рым не атрымае больш ніводнага баёка[65] ні для епархій, ні для бенэфіцый, ні для кананізацый, ні для ільгот; курыялісты, агенты, экспэдытары не толькі не пагрэбуюць канямі і вазамі і здымуць сваю шаўковую вопратку, але й будуць шукаць свой хлеб у іншых мясьцінах і будуць вымушаныя жабраваць пры сьв. Яне каля Латэрана[66], каб атрымаць пражытак для сваіх бедных дачок; Рым хутка застанецца без улады, біскупы будуць вымушаныя вярнуцца ў свае палацы, васалы ў іншыя дзяржавы, а міністры замежных спраў у свае двары; прададзеныя езуіты страцяць свае пансіёны; таму будуць яны, зрынутыя ў жабрацтва, забіраць хлеб у беднякоў з рота; і нарэшце не застанецца ў Рыме саслоўя, ад Папы да апошняга жабрака, якое б не было для езуітаў цяжарам і нібыта бізуном. Усё гэта, крычыць тая партыя, мусіць адбыцца, калі сьвяты Айцец устрымаецца адлучыць біскупа і расейскіх

***)** Які быў выгнаны з Партугаліі партугальскім усемагутным міністрам і тыранам Помбалем.

[61] Авіньён (фр. Avignon) — горад у Францыі, адміністрацыйны цэнтар дэпартамэнта Ваклюз у Правансе на левым беразе ракі Роны. Адзін з найвыбітных і адначасова прыгажэйшых гарадоў Францыі.

[62] Княства Беневента – лангабардзкая дзяржава ў паўднёвай Італіі, якая існавала ў VI – XI сст. У 1081 г. паменьшылася да памераў стольнага гораду і стала часткай папскай уласнасьці.

[63] Себасьцян Хасэ Помбаль, поўнае імя Себасьцян Хасэ дэ Карвалью-і-Мэлу, граф дэ Оэйраш, маркіз дэ Помбаль (парт. Sebastião José de Carvalho e Melo, Conde de Oeiras, Marquês de Pombal) 13.05.1699 — 8.05.1782) — самы магутны партугальскі палітык эпохі Асьветы. Фактычна кіраваў краінай пры каралі Жазэ I (з 1750 па 1777). Ажыцьцявіў шэраг рэформаў, у чым яму вельмі перашкаджалі езуіты. Таму, пасьля няўдалага замаху на караля (3.09.1758), які шмат хто прыпісваў езуітам, Помбаль дамогся іх выгнаньня з краіны. Пасьля раскрыцьця "езуіцкай змовы" (якая была, на думку гісторыкаў, сфабрыкаваная) Помбаль атрымаў абсалютную ўладу і займаўся далейшай рэфармацыяй жыцьця краіны, жорстка падаўляючы любы пратэст. Але яго ўлада трымалася толькі дзякуючы безумоўнай падтрымцы з боку караля. Адразу пасьля яго сьмерці каралева Марыя загадала вызваліць палітвязьняў. Помбаль быў абвінавачаны ў шматлікіх злоўжываньнях і ў 1780 асуджаны на сьмяротнае пакараньне. Каралева зьмяніла яго на пажыцьцёвае выгнаньне са сталіцы, амаль усе помбалеўскія рэформы былі скасаваныя.

[64] Апостальская Датарыя (лац. Datāria Apostolica) — дыкастэрыя Рымскай курыі (узьнікла пр. ў 1420 пры Папе Мартыне V, а магчыма і раней), зь якой дасылаліся розныя папскія загады і міласьці апроч кансісторыі. Датарыя займалася справамі па невялікіх бенэфіцыях, скасаваньню шлюбаў, зарокаў і т.п. Скасавана 15.08.1967 у выніку курыяльных рэформаў Паўла VI.

[65] Баёка (Bajocco) - старажытная манета Царкоўнай Дзяржавы, якая адбівалася з 1592 па 1867. 12-ці грамовы медны баёка складаў сотую частку аднаго скуда.

[66] Маецца на ўвазе калёна сьв. Яна каля Латэрана, папскага палацу, дзе была заснаваная манаская суполка Латэранскіх канонікаў (Ordo Canonicorum Regularium Sancti Augustini Congregatio), рэгуляваная кангрэгацыя на падставе статута сьв. Аўгустына.

езуітаў і зьнішчыць **дзёрзкі пастарскі ліст**.

І гэта праўда, такі вялікі роў, які адбыўся ў мінулыя гады, ужо нельга падняць, бо партыя страціла шмат сваёй рэпутацыі. Не хапае кіраўнікоў і грошай; кааліцыя пяці кардыналаў была расьсечаная; Шуазёль[67], Танучы[68], Карвалью[69], магутная падтрымка пыртыі ў Парыжы, Неапалі і Лісабоне былі зрынутыя; і тое уражаньне, якое гэта выклікала, кінула таксама і тых, хто яшчэ застаўся у Мадрыдзе і Рыме, у жах. Мністры замежных спраў пры сьвятым Стальцы былі ўжо ня тыя, што раней; паміж імі больш не панавала старая гармонія і ранейшае адзінства стаўленьняў і намаганьняў. На шалёнай Альмадзе[70] падпаў пад перасьлед партугальскі міністр, самы сьціплы і богабаязьнены чалавек, якога толькі бачыў Рым у гэтым стагодзьдзі. Гішпанская шчодрасьць да рымскіх шпіёнаў, ня ведаю зь якой нагоды, паменшылася; таму зрабілася немагчыма трымаць такую колькасьць такіх выбітных, такіх раскошных і такіх шматлікіх сходаў; больш немагчыма абяцаць такую колькасьць пенсій, падтрымліваць такую колькасьць шпіёнаў; больш ніколі не знайсьці яшчэ аднаго абата Бэнцы, каб напісаць яшчэ адну мярзотную газэту супраць езуітаў. Пасьля падзеньня Бішы[71] астатнія страцілі мужнасьць. Нават спэцыялісты па подласьці далі ўпасьці сваёй мужнасьці. Грэцкі тэолаг ***)**[72] пасьля таго, як ён страціў міласьць Кампаманэса[73], ня ведаў, куды сябе накіраваць. Палафоксава праваслаўе[74], якое ён стварыў сабе да шкоды, наклікала да яго падазронасьць Рыма. Абарона мёртвае рукі[75] супраць

[67] Эцьен Франсуа Шуазёль (фр. Étienne François de Choiseul), гэрцаг д'Амбуаз і граф Стэнвіль 28.06.1719 - 8.05.1785 — выбітны французскі палітычны дзеяч, які арганізаваў выгнаньне езуітаў у 1764. Пасьля сьмерці Пампадур, улада Шуазёля пачала слабець. Абвінавачаны ў здрадзе як прыхільнік апазыцыі ў парлямантах, Шуазёль 24.12.1770 атрымаў загад сысьці ў свой маёнтак Шантэлу і сышоў у адстаўку.

[68] Бернанда Танучы (іт. Bernardo Tanucci) 20.02.1698 - 29.04.1783 — неапалітанскі палітык эпохі Асьветы, глава ўраду пры Карле VII і яго сыне Фердынандзе. Калі ў 1767 г. з Нэапалю былі выгнаныя езуіты, і папа Клеменс XIII выступіў супраць гэтага, Танучы захапіў Бэнэвэнта і Пантэкорва і скасаваў штогадовы падарунак Папе: іінаходца і 7000 экю, які быў сымбалям васальскай залежнасьці Нэапалітанскага Каралеўства ад Рыма. Якраз у гэты момант уладзе Танучы прайшоў канец. Фэрдынанд IV ажаніўся з аўстрыйскай прынцэсай Марыяй-Каралінай; гішпанскі ўплыў пачаў саступаць аўстрыйскаму, і па патрабаваньню каралевы Танучы ў 1776 г. быў выдалены ад улады.

[69] Помбаль.

[70] Альмада (порт. Almada) — горад у Партугаліі, цэнтр аднайменнага муніцыпалітэта. Уваходзіць у Лісабонскі рэгіён. Па старым адміністрацыйным падзеле ўваходзіў у правінцыю Эштрэмадура.

[71] Жана-Марыя-Марта ду Бары (Jeanne-Marie-Marthe du Barry) 1727 – 1801, якую таксама звалі "Бішы" (Bischi) – сястра мужа знакамітай Мары-Жаны ду Бары, афіцыйнай фаварыткі Людвіга XV.

[72] Тумаш Марыя Мамачы (Thomas Maria Mamachi) 04.12.1713 – 07.06.1792 – італьяна-грэцкі дамініканскі багаслоў і гісторык. Прымаў удзел у спрэчках паміж езуітамі і янсяністамі. Таксама мусіў умяшацца ў спрэчкі наконт беатыфікацыі Хуана дэ Палафокса і Мэндаса, дзе выступаў на баку езуітаў, што выказваліся супраць беатыфікацыі. Мамачы быў верным прыхільнікам папскай улады. Уцягнуты ва ўсе спрэчкі таго часу ён быў адным з першых, хто не пагадзіўся з Янам-Мікалаем фон Гонтхаймам (Фэброніюсам).

[73] Пэдра Радрыгез Кампаманэс (Pedro Rodríguez de Campomanes) 01.07.1723 - 03.02.1803 – граф, гішпанскі палітычны дзеяч. Акрамя іншага намагаўся спыніць накапленьне маёмасьцяў "мёртвае рукі", выступаў за выгнаньне езуітаў з Гішпаніі (1767 г.). З 1764 г. узначальваў каралеўскую Акадэмію гісторыі. Аўтар шэрагу твораў па эканоміцы, праву, гісторыі.

[74] Хуан дэ Палафокс і Мэндоса (Juan de Palafox y Mendoza) 1600 – 1659 – біскуп, грамадскі дзеяч, трымаўся аскетычнага ладу жыцьця. Яго беатыфікацыя была самай доўгай за ўсю гісторыю Рыма. Яна пачалася Бенэдыктам XIII ў 1726 г. і скончылася ў 2011 пры Бенэдыкце XVI. Мамачы, які выступаў супраць беатыфікацыі і праз гэта апынуўся на адным баку зь езуітамі, выклікаў да сябе падазронасьць з боку Рымскай улады.

[75] Права "мёртвае рукі" (лац. manus mortua) – норма фэўдальнага права, якая існавала ў Сярэднявеччы ў краінах Заходняй ды Цэнтральнай Эўропы. Паводле «Права мёртвае рукі» фэўдал меў права адабраць

венецыянскіх адвакатаў і сьвятога Стальца супраць біскупа Мірыёфіса[76] ўсхвалявала двары і не выклікала аплядысмэнтаў з боку яго кліентаў: такім чынам, яму не хапала падтрымкі, якая магла б кампенсаваць недахоп праўды і здравага сэнсу (звычайны недахоп у мамачынскіх творах). Вядомы супраціўнік Братоў Сэрца[77], Блазі[78] ***)**, задаволены кавалкам хлебу, які яму кінуў Кардынал Протапрэсвітар Марэфошы[79], бо ён зрабіў яго настаяцелем латэранінскай царквы, больш ня думаў гандляваць блюзьнерствамі супраць Сэрца Езуса[80] і паклёпамі супраць езуітаў. Яго калегу і патрону пр. Гіёргі[81] патрабавалася шмат часу, каб вызваліцца да перасьледу яго індыянскага Архімандрыта Васкеса, зь якім ён знаходзіўся ў стане адкрытай вайны. Пасьля незаменнага падзеньня Пагліярыні[82] і пасьля пераносу кніжнага друку з Сан Ларенца ў Паніспэрне[83],

***)** Mamacchi.

***)** Blasi, выдаваў правакацыі Кардынала Marefoschi супраць Ушанаваньня Сэрца Езуса. Сваіх супраціўнікаў ён знайшоў у асобах езуіта Marques‘a і пана Mozzi.

---

пасьля сьмерці селяніна частку ягонае маёмасьці (звычайна — лепшую галаву жывёлы, лепшае адзеньне) альбо кошт у грошах.

Асаблівае права мёртвае рукі дзейнічала ў дачыненьні да Царквы: яно азначала забарону адчужэньня зямельнай маёмасьці Царквы. Дзякуючы гэтаму праву Царква паступова зрабілася буйным землеўладальнікам, які меў перавагу перад сьвецкімі магнатамі і нават самімі каралямі. Бо царкоўныя змелі немагчыма было перавесьці зноўку ў сьвецкі фонд. Адсюль і ўзнікла прымаўка, што царква трымае землі “ў мёртвай руцэ”. Дадзенае права выклікала незадаволенасьць у шматлікіх манархаў і нараджала імкненьне скасаваць ”Права” ці хаця б прыпыніць пашырэньне зямельных уладаньняў Царквы. У некаторых краінах “Права мёртвае рукі” стала паступова адміраць пачынаючы ўжо з XII стагодзьдзя. У якасьці рэдкага перажытку прыгоннае сыстэмы (т.зв. "сэрважу") яно захавалася ў асобных раёнах Эўропы амаль да XVIII стагодзьдзя.

[76] Феброніюс (Ян-Мікалай фон Гонтхайм).

[77] Браты Сэрца – езуіты, якія былі галоўнымі прыхільнікамі культа Сэрца Езуса.

[78] Сальваторэ Марыя ды Блазі (Salvatore Maria Di Blasi) 26.12.1719 – 28.04.1814 – італьянскі сьвятар, манах бенэдыктын, вядомы гісторык, пісьменьнік і біблятэкар.

[79] Марыё Кампаньёні Марэфошы (Mario Compagnoni Marefoschi) 10.09.1714 – 23.12.1780 – італьянскі кардынал і вучоны. Зрабіў бліскучую царкоўную кар'еру. Да 1770 года працаваў сакратаром Кангрэгацыі па Прапагандзе Веры. Пасьля быў прызначаны кардыналам, і ў 1773 зрабіўся чальцом камісіі па барацьбе з Суполкай Езуса.

[80] Культ і шанаваньне Найсьвяцейшага Сэрца Езуса – зараджэньне сьвята адносіцца да XI-XII сст. Пачаткам культа Найсьвяцейшага Сэрца Езуса стала ўшанаваньне Хрыстовых ран. Дзякуючы ордэну езуітаў, культ Сэрца Езуса ў XVII ст. дасягае апагею. Сваеасаблівым штуршком для разьвіцьця культа сталі трызьненьні французскай манахіні Маргарыты Марыі Алакок (1647-1690), якая казала, што да яе не аднойчы прыходзіў Езус і выказваў ёй сваё жаданьне, каб людзі пэўным чынам шанавалі яго сэрца. У сваім рэлігійным экстазе яна напісала містычны твор "La dévotion au coeur de Jésus", які быў апублікаваны айцом Круазэ і стаў падставай для заснаваньня культа Сьвятога Сэрца Езуса, які езуіты ў наступным стагодзьдзі часта выкарыстоўвалі дзеля сваёй палітычнай і духоўнай агітацыі. Аднак пажаданьне аб заснаваньні культа было задаволена не адразу, бо шматлікія багасловы сумняваліся ў неабходнасьці ўсталяваньня новага ўсецаркоўнага шанаваньня. Першы дазвол на ўсталяваньне сьвята быў атрыманы польскім біскупам ад Клеменса XII толькі ў 1765 г. Сьвята пачало адзначацца сусьветнай Царквой з XIX ст.

[81] Агосьціно Антоніё Гіёргі (іт. Agostino Antonio Giorgi), 10.05.1711 – 04.05.1797 гг. – італьянскі біблятэкар, тэолаг і ўсходазнаўца. Прафэсар універсітэта Ла Сапіенца (італ.: Universita degli studi di Roma La Sapienza). У 1752-м годзе быў запрошаны ў Рым папай Бенэдыктам XIV і да самой сьмерці кіраваў біблятэкай Ангеліка. З 1772 г. кансультант Сьвяшчэннай Канцэлярыі.

[82] У 1760 г. быў арыштаваны рымскі кніжны гандляр Пагліярыні. Падставай для арышту было тое, што ў яго кнігарні была знойдзена пэўная колькасьць экзэмпляраў пасквіляў на езуітаў, “Gli Lapi mascherati”. (З кнігі: ”Fortgesetzte neue genealogisch-historische Nachrichten von den vornehmsten Begebenheiten, welche sich an den europäischen Höfen zugetragen, Band 69. 1769 Leipzig”)

[83] Царква сьв. Лаўрэнція (Ларенца) на Він Паніспэрна ў Рыме (San Lorenzo in Panisperna).

больш ня стала таксама і зручнасьці друку.

Нягледзячы на гэта яны рабілі так шмат, як маглі. **Кракас**[84] і напісаны газэтны аркуш **Нэры**[85], ці, як звычайна кажуць, барджэла, узялі на сябе вышэйшы, але ня найвышэйшы, абавязак зрабіць намаганьні, каб паведаміць паспалітаму народу, што біскуп Малінскі перайшоў межы паўнамоцтваў, якімі яго надзяліў сьвяты Сталец, і што Папа не толькі не выказаў згоды з адкрыцьцём паслушэнства, але й раней за тое выказаў Біскупу сваё нэгатыўнае стаўленьне да гэтага. Адначасова адзін прэлат перапыніў свае клопаты, якімі ён быў заняты, **па пашырэньню веры**, і склаў тэкст без назовы, які ён надрукаваў у Венецыі ці Таскане, і ў якім зьмяшчаўся пастарскі ліст і рэскрыпт, копію якіх я Вам тут прадаставіў, у суправаджэньні з разнастайнымі заўвагамі, зь якіх можна добра высьветліць, што яго аўтар быў у зьбянтэжанасьці ды быў вымушаны апраўдвацца перад тым, хто абвінаваціў яго на падставе гэтага ў дзяржаўным злачынстве, што ён не перашкодзіў перадачы Апостальскіх паўнамоцтваў біскупу Малінскаму; і ўсё гэта было таксама пад назвай "**Аўтэнтычныя дакументы**" распаўсюджана па ўсёй Італіі. Цяпер я магу патлумачыць Вам абяцаныя тры справы з дапамогай трох заўваг, якія трапляюцца ў вочы:

**Першая заўвага**. Замяшаньне, вялікі жах ды зьбянтэжанасьць, былі не з боку Папы, але з боку Партыі. Ва ўсім гэтым простым расповедзе Вы бачыце шалёную партыю, якая хоча прывесьці народ у рух, каб кінуць уладароў у замяшаньне. Адзіным удзелам, які Папа, наколькі вядома, прыняў ва ўсёй гэтай справе, было тое, што ён, пасьля таго, як ён даведаўся аб тым, што тыя два газэтныя выдавецтвы распаўсюдзілі падобныя недарэчнасьці, даў ім строгую вымову, якая прадпісвала ім, каб тое, што немагчыма было трымаць у такім сакрэце, каб гэта не рабілася вядомым, ад чаго рэдактару Кракаса, проста са страху, што супраць яго зьбіраецца выбухнуць бура, зрабілася дрэнна, і ён цэлы дзень фантазіраваў, дзе ж ён выдаў сакрэт, і казаў усім, хто яго наведваў: **панове, якая карысьць з таго, што Яго Эмінэнцыя даслалі мне газетную старонку, як яна і была надрукавана? Але я павінен расплаціцца за гэта**. Гэткія паводзіны Папы азначаюць не жах ды зьбянтэжанасьць, але праведны гнеў супраць аўтараў і распаўсюднікаў падобных чутак.

Нельга аспрэчыць, што ўвесь гэты роў, усе гэтыя размовы, паходзяць ад заклапочаных і зьбянтэжаных людзей; вядома, немагчыма чакаць іх ад Папы Пія VI, разглядаючы іх сутнасьць, ці спосаб, якім яны распаўсюджваліся, ці іх намер. Калі разглядаць сутнасьць, гэтыя чуткі былі няслушныя і збольшага ілжывыя: такім чынам, толькі нейкі ліхадзей мог прыпісаць іх Намесніку Езуса Хрыста, гэта таму, хто замяшчае Пасаду Бога Ісьціны.

Калі разглядаць спосаб, то ён быў бязладны ды непрыстойны. Ён быў бязладны; таму яго немагчыма было прыпісаць Папе, які ня можа ці ня мусіць кіраваць Царквой так, як яму падабаецца, але толькі тым спосабам і па тых правілах, якія былі прадпісаныя Езусам Хрыстом, і са сталай разважлівасьцю растлумачаныя ў сьвятых Канонах. Гэта была б зусім новая і сьмешная царкоўная дысцыпліна, калі б кіраўнік Царквы і Намесьнік Езуса Хрыста мусіў

---

[84] Газэта "Il Cracas", якую друкавала рымская сямейная друкарня Кракас ("Stamperia Chracas"). Друкарня належала сям'і Кракас да сьмерці Кацярыны, апошняй уладаркі, а потым перайшла да іншага гаспадара, і дзякуючы падтрымцы Пап Пія VI і Пія VII праіснавала да сярэдзіны XIX ст.

[85] Магчыма, маецца на ўвазе друкарня палацу Барджэла ў Фларэнцыі (Palazzo del Bargello), які быў пабудаваны пад наглядам Нэры ды Фьёравантэ (Neri di Fioravante).

даручаць абвяшчэньне сваіх рашэньняў нейкаму журналісту, нейкаму барджэла і натоўпу ў корчмах і піўных.

Калі, нарэшце, разглядаць намер, то гэтыя чуткі былі марныя і не маглі ніякім чынам паўплываць на спакой сьвятога Айца. Навошта патрэбна столькі шмат размоваў? Ці Папа асьцерагаўся з нагоды гэтага паслушэнства народных хваляваньняў? Народ клапоціцца аб коштах на хлеб, на віно і на алей; а не аб тым, ці на зьнешніх межах Эўропы маюцца езуіты, ці не. Нават калі дапусьціць, то праз навіны з Расеі можна асьцерагацца хваляваньняў народу, то гэта было б у падобным выпадку найвялікшай непрадбачлівасьцю распаўсюджваць гэтую справу, і распаўсюджваць такім небясьпечным для Рыма спосабам. Гэткі спосаб не перашкаджаў, але спрыяў бы дадзеным беспарадкам; такім чынам гэтыя чуткі адлюстроўвалі б не жах Папы, які баіцца хваляваньняў, а памкненьне неспакойных галоў, якія жадаюць узьняць народ.

Калі гэтыя чуткі былі марнымі, каб заспакоіць народ, то яны былі яшчэ больш марнымі ў дачыненьні да антыезуіцкіх двароў. Дапусьцім, дадзены жах Папы сапраўды ўзнік бы з-за незадаволенасьці бурбонскага двара гэтай расейскай газэтай; хто можа сабе нават уявіць, што гэтыя чуткі мусяць быць у стане, супакоіць той жах? Ці не засталося больш прыстойных спосабаў, каб паведаміць уладарам папскія меркаваньні? У Рыме, дзе нават дзеці разгалошваюць жарты мужоў, нават натоўп заўважыў вялікі жах ды зьбянтэжанасьць, але не Папы, а Партыі. Намаганьні такой колькасьці антыканстытуцыяналістаў, якія жадалі, каб тым абодвум газэтным выдавецтвам была выказана пашана, у якой яны адмовілі канстытуцыі Уныгэнытус[86], былі занадта празрыстымі; намаганьні, якія былі накіраваныя на тое, каб кінуць Пія VI ў зьбянтэжанасьць, у якую трапіў Клеменс XIV, каб прымусіць яго да новага скасаваньня.

Кажуць гэта праўда, што сьвяты Айцец пасьля таго, як прыйшоў пастырскі ліст расейскага Біскупа, сваёй рукой напісаў гішпанскаму пасланцу, герцагу Грымальдзі, дзе ён сьцвярджаў, што ён зрабіў бы ўсё магчымае, каб задаволіць каталіцкага Караля ў тым, што адносіцца да гэтай расейскай навіны. Гэта таксама было чуткай, якую разьнесла Партыя, і якой я ніяк не магу паверыць. Але ўявім, што гэта было праўдай: што вынікае з гэтага? Яго Сьвятасьць мусіць такім чынам разумна прадбачыць, што гэтая навіна будзе непрыемная Мадрыду; і з нагоды той падатлівасьці, якую павінен хрысьціянскім уладарам агульны Айцец вернікаў, ён даслаў таму Міністру папярэдняе паведамленьне аб гэтым, каб той убачыў справу ў яе сапраўдным сьвятле, а не ў тым, які звычайна надае падобным рэчам злосьць, лісьлівасьць, нянавісьць і фанатызм.

Другая заўвага. Папа ня меў ніводнай прычыны трапіць у вялікі жах і замяшаньне. З-за чаго мусіць ён абурацца? З-за сутнасьці расейскага інцыдэнту? З-за абставін? З-за наступстваў? Не з-за сутнасьці: сутнасьць дадзенай навіны складаецца ня ў тым, што ў Расеі маюцца езуіты ў сапраўднай практыцы іх царкоўных дзействаў. Гэта была ўжо старая навіна, што яны там існуюць, і што няма ніякай надзеі, што яны пад зараз кіруючай Імпэратрыцай, і пад яе тронапераемнікам – магчыма, пад усім часам цяперашнега Папства – адтуль калісьці будуць выгнаныя. Папа ведаў гэта і даў гэтаму добра быць. Навіна складалася ў тым, што, паколькі езуіты атрымалі зараз новыя кадры, Расея й надалей – гэта значыць, што ў ты час ўжо будзе нейкі іншы Папа –

[86] Unigenitus (лац. Адзінародны Сын) – назва булы, якая мела вялікую ролю ў гісторыі янсянызму.

будзе мець езуітаў. І гэта магло кінуць сьвятога Айца ў вялікі жах і зьбянтэжанасьць? Гэтую таямніцу, якую нельга спасьцігнуць, мусіць нам растлумачыць аўтар цыркуляра. Як адбылося, што Папа не клапаціўся з-за існаваньня цяперашніх езуітаў, і мусіць клапаціцца аб тых, якія будуць толькі потым, калі ён ужо адыдзе на той Сьвет?

І што гэта наогул за людзі, чыё існаваньне чыніць столькі гора Намесьніку Езуса Хрыста? Можа гэта ворагі сьвятога Стальца? Можа гэта людзі, якія пакляліся зьнішчэньнем дзяржаве, дзе Папа ўладарыць, ці рэлігіі, якой ён кіруе? Можа, гэта людзі, якія шукаюць аб'яднаньня расейскай Царквы з рымскай такім спосабам, якім ужо даўно спрабуюць аб'яднаць Царкву да Утрэхта, калі хацелі выдаліць зь ліку правілаў веры канстытуцыю Уныгэнытус і адразу ў першых прэлімінарыях адкінуць акт Аляксандра VII[87]? што азначала б аб'яднаньне не Утрэхта з Рымам, а Рыма з Утрэхтам. Можа гэта прыхільнікі Фебронія, паборнікі роўнай улады ўсіх біскпаў, тыя, хто аспрэчваў першынство і адзінства каталіцкай Царквы? Можа гэта тыя, што выпраўлялі сымбалі веры, баранілі кальвінісцкую міласьць, янсянісцкую заслугу, дэізм, фаталізм і індыферэнцызм?

Не; гэта не злачынствы езуітаў. Калі б яны былі такімі людзьмі, то іх бы пакінулі жыць у спакоі, таксама як пакідаюць жыць у спакоі шмат з тых, што заслугамі Царквы аспрэчваюць Царкву. Найвялікшае іх злачынства, праз якое яны зрабіліся ненавіснымі пры ўсіх міністэрствах Эўропы, можна звесьці да двух пунктаў. Першае, што на працягу двух стагодзьдзяў, так доўга, дарэчы, гэтыя айцы накіроўвалі сумленьне манархаў, не магчыма было ажыцьцявіць сыстэму расшчапленьня і расколу паміж дзяржавай і рэлігіяй, што сёньня так хвалюе манархіі, Царкву і Сьвет; Другое, што езуіты, бо яны абавязалі сябе працаваць бясплатна, прадухілілі праз гэта ганебны гандаль вучонымі і царкоўнымі катэдрамі і ўсімі царкоўнымі дзействамі. Гэта і ёсьць сапраўдныя злачынствы, якія можна прад'явіць езуітам; астатнія злачынствы, таксама як яны зьяўляюццаі фіктыўнымі паклёпамі, так яны і не могуць выстаяць перад афіцыйным судом. Дык што гэта, нарэшце, за людзі, чыё існаваньне і далейшае жыцьцё кідае Пераемніка сьвятога Пятра ў вялікі жах ды зьбянтэжанасьць?

Калі ўжо гаворка наогул йдзе пра езуітаў, то трэба крыху пачытаць з гісторыі трох апошніх стагодьдзяў, каб пераканацца, што яны былі людзьмі, якія ад свайго стварэньня да самага свайго скасаваньня карысталіся найвялікшым даверам Пап і сьвецкіх уладароў; людзьмі, якіх Бог выкарыстоўваў, асабліва ў гэтыя апошнія часы, дзеля распаўсюду веры, дзеля вынішчэньня ерэтызмаў і дзеля аднаўленьня навук; людзьмі, пра якіх Папы больш, чым у сотне, булах і загадах узгадвалі з усхваленьнямі, сярод якіх Клеменс VIII, калі яны з Францыі, і Аляксандар VII, калі яны зь Венэцыі былі выгнаныя, абвясьцілі, што гэта магло адбыцца толькі праз ворагаў Бога і Царквы, бо гэта спрыяла вялікай шкодзе для веры і грамадзкай супольнасьці; людзьмі, чыімі сябрамі былі ўсе тыя сьвятыя, якія былі зь імі знаёмыя; і чыімі ворагамі былі ці ерэтыкі, ці падазроныя ў веры, ці распушчаныя ў манэрах; нарэшце, каб я гэта коратка абагульніў, людзьмі, супраць якіх склала змову амаль уся пануючая ерась; людзьмі, якіх хаця й можна было скасаваць, але немагчыма было супраць іх скласьці нейкі судовы працэс; праз што нарэшце атрымалася, што Сьвет мусіў бачыць канчатковы

[87] Інакенці X у 1653 г. выдаў булу, якая абвяшчала праклятымі і ерэтычнымі 5 месцаў з кнігі Янсэна, якія закраналі аўтарытэт Папы. Янсяністы Пор-Раяля спрабавалі абвергнуць яе. Але новы папа Аляксандр VII у 1656г. пацьвердзіў булу і зноўку асудзіў 5 тэзісаў. У наступным годзе французскія клерыкі выдалі акт, які зьмяшчаў прысуд пяці тэзісам і мусіў быць падпісаны ўсімі вернікамі. Але янсяніты ўхіліліся ад гэтага. У 1664 г. Аляксандр VII выдаў ад свайго імя акт аналягічнага зьместу на подпіс усім клерыкам і манахіням.

прысуд, падобны на прысуд Пілата, прысуд без злачынства, без судовага перасьледу, без абароны, без суда, безь ніякай іншай прычыны, акрамя той, што была ў няўрымсьлівых габрэяў: **калі ты даш гэтым волю, то ты ня сябра Імпэратару**. Тое, што такія людзі існуюць, канешне кідае аўтара цыркуляра ў замяшаньне, але Папу Пія VI – не.

Калі ў далейшым гаворка йдзе асабліва пра расейскіх езуітаў, то хачу я вам распавесьці, што пра іх думаюць іх Біскуп і іх Манархіня. Біскуп кажа, што яны адзіныя служыцелі культу, чыё майстэрства дазваляе абслугоўваць тую Царкву. Высакародная Манархіня кажа, што яе намаганьне захаваць каталіцкую веру на захопленых землях без езуітаў ня мела б ніякага выніку, і што праз страту езуітаў яна страціць, што тычыцца стальца, самых верных падданых і, што тычыцца грамадзтва, самых карысных грамадзян. ***)**[88] [89] [90] [91] [92] [93]

---

[88] Жан Франсуа Жэрбіён (Jean-François Gerbillon) 04.06.1654 – 27.03.1707 – французскі навуковец езуіт-місыянэр у Кітаі з 1680 г. Асабісты ўрач і настаўнік матэматыкі імпэратара. Пасьпяхова вёў гандлёвыя перамовы з Расеяй (Нерчынская дамова 1689г.). Атрымаў дазвол адчыніць у Пекіне езуіцкі калегіюм.

[89] Дамінік Парэнін (Parennin, Dominique) 01.09.1665 – 29.09.1741 – езуіцкі місыянэр. Быў накіраваны ў Кітай у 1697 г. Праз год, дзякуючы шырокім навучным ведам і валоданьню прыдворных моваў ён быў заўважаны імпрэратарам Кансі. Імпэратарскую прыхільнасьць ён выкарыстоўваў у інтарэсах веры і навукі. Адначасова ён выкладаў імпэратару фізыку, мэдыцыну і гісто-рыю Эўропы. Айцец Парэнін намагаўся давесьці да важных прыдворных асоб і саноўнікаў імпэрыі карысьць, якую ім прынясе распаўсюд хрысьціянства. Але пасьля сьмерці Кансі, на трон узышоў яго сын Іньчжэнь (1723-1735). Ён быў вядомы сваёй нянавісьцю да хрысьціян, і толькі яго павага да езуітаў Бэйджына, і асабліва да айца Парэніна, была аховай для кітайскага хрысьціянства. Айцец Парэнін аказваў паслугі найвышэйшай важнасьці, у прыватнасьці падчас аудыенцый Расейскіх і Партугальскіх паслоў, на працягу доўгіх камэрцыйных і палітычных перамоваў. Парэнін дасягнуў таго, што місыя ў Пекіне працягвала існаваньне незважаючы на ганеньні. Айцец Парэнін прымаў удзел у распрацоўцы асноўнай мапы Кітаю. Ён перакладаў на манчжурскую мову некаторыя творы, выданыя Акадэміяй Навук Парыжа. Вёў перапіску зь вядомымі навукоўцамі наконт гісторыі, храналогіі і астраноміі Кітая.

[90] Антуан Габіль (фр. Gaubil; кіт. Сун Кьюн Юнг (Sun Kiun–yung)) 14.07.1689 – 24.07.1759 – езуіт, каталіцкі місыянэр у Кітаі з 1722 г. У 1723 г. пачаў службу ў Пекіне, працаваў выкладчыкам у створанай Д. Парэніным школе лацінскай мовы пры Ліфаньюані (Калегіюме замежных спраў). У 1742-1748 гг. узначальваў французскі калегіюм езуітаў у Пекіне. Кіраваў працай абсэрваторыі, пабудаванй на тэрыторыі французскай місыі ў 1754 г. Нягледзячы на ганеньні ў часы імпэратара Іньчжэня, карыстаўся прыхільнасьцю апошняга, дзякуючы шырокім ведам у розных галінах эўрапейскіх навук. За дасягненьні ў батаніцы і астраноміі, а таксама за прасоўваньне ведаў аб кітайскай навуцы і культуры ў Эўропе, абраны чальцом Парыжскай Акадэміі Навук, Лонданскай каралеўскай суполкі, замежным шаноўным чальцом імп. С.-Пецярбурзскай Акадыміі Навук. Габіль развіў і перапрацаваў праект картаграфіі ўсёй тэрыторыі Кітая, створаны яго папярэднікамі. Аказваў дапамогу расейскім дыпляматам на перамовах, дзе праявіў сябе як таленавіты перакладчык. Як майтэрскі палітык, дапамагаючы расейскім паслам, Габіль адначасова пасьпяхова перашкаджаў культурнай, гандлёвай і рэлігійнай экспансыі Расеі ў Кітай. Дзякуючы выключнаму валоданьню кітайскай і манчжурскай мовамі, пераклаў вялікую колькасьць кітайскіх гістарычных летапісных твораў. Дасьледваў рэлігійнае становішча падчас дынастыі Тан, падробна спыніўся на характарыстыцы юдзейскай і сірыйскай абшчын. Сярод твораў Габіля варта ўзгадаць "Апісаньне Пекіна", дасьледваньні па кітайскай астраноміі, матыматыцы і храналогіі, гістарычны нарыс аб габрэйскай абшчыне ў Кітаі.

[91] Сянны месяц (ням. Heumonat) – старанямецкая назва месяца ліпень.

[92] Жан Жазэф Мары Амiё (фр. Jean Joseph Marie Amiot, кіт. Qián Déming) 8.02.1718 – 8.10.1793 г. – французскі місыянэр-езуіт, гісторык і астраном. Накіраваны ў Кітай у 1749 г., а ў 1751 прыбыў у Пекін, дзе жыў і працаваў да самай сьмерці. Яго дзейнасьць прыйшлася на час моцных ганеньняў на хрысьціянства ў Кітаі. Але, нягледзячы на гэта, Амiё працаваў пры двары на пасадзе астранома. Яго спробы зьмяніць стаўленьне ўлады да хрысьціянства не прывялі ні да чаго. Амiё быў апошнім вялікім вучоным-місыянэрам езуіцкага ордэну. Ідэальна валодаў кітайскай і манчжурскай мовамі, склаў адныя зь першых граматыку і слоўнік манчжурскай мовы. У лік яго навуковых зацікаўленнасьцяў уваходзілі дыялекталёгія, музыказнаўства і лінгвістыка. Акрамя таго, ён цікавіўся праблемай зямнога магнетызму. Спрабаваў выкладаць эўрапейскія навукі прадстаўнікам кітайскай эліты.

*) Магчыма, Двор Пецярбурга пры абароне, якую ён дарує езуітам, успамінае таксама пра службу, якую яму саслужылі езуіты замежжа. Напрыканцы XVII ст. а. Жэрбіён шмат уклаў у тое, каб прымірыць два народы, расейскі і кітайскі, якія вялі вайну адно супраць аднаго; і быў прычынай таго, што расейцы распачалі гандаль з Пекінам. Пасьля яго а. Парэнін на працягу 40 гадоў перакладаў у Пекіне лісты і тэксты, якія дасылалі адно аднаму гэтыя два двары і іх службовыя асобы, да самага 1741 г., калі 27-га верасьня ён памёр. Увесь час ён быў да пэўнай ступені пасярэднікам пры разнагалосьсях, якія ўзнікалі паміж абодзьвума дварамі; ён таксама быў тым, хто перанёс на паперу, на лацінскай і татарскай мовах, мірны дагавор, які быў заключаны паміж імі. Дзякуючы гэтаму адбылося тое, што Пётар Вялікі і дзьве Імпэратрыцы, якія займалі расейскі пасад пасьля яго, выдалі сваім пасланцам у Пекіне штатны загад, выказаць а. Парэніну за аказаныя ім паслугі іх задавальненьне і ўдзячнасьць. Пасьля сьмерці а. Парэніна расейскім імпэратарскім перакладчыкам у Кітае г. быў а. Габіль, пакуль ён не памёр 24-га сяннога месяца 1759 г.
Прымаючы да ўвагі гэтую працаёмкую службу і яго шырокую вучонасьць, Акадэмія Навук С. Пецярбурга выказала яму пашану і ў 1747 г. прыняла яго ў чальцы Акадэміі. Яго пасаду да 1780 г. займалі а. Аміё і а. Кальерз. Глядзі Lettres édifiantes et curieuses. Novelle Edition. том XXII.ст.394. ды том XXIII.ст.401.

Зараз, калі езуіты зьяўляюцца такімі людзьмі, якімі іх лічуць Біскуп і Імпэратрыца, то іх існаваньне ня можа не спадабацца Папе. Калі ж Папа ведае, што яны абодва сябе падманваюць, калі ён ведае, што езуіты зьяўляюцца заганнымі людзьмі, што яны віноўныя ў агідных злачынствах, што яны зьяўляюцца парушальнікамі грамадзкага спакою, што яны зьяўляюцца бескарыснымі, бо наносяць шкоду як рэлігіі, так і дзяржаве, то яму ня трэба было ўпадаць у замяшаньне; ён мусіў толькі распавесьці Імпэратрыцы аб злосьці езуітаў, але (само сабой зразумела) распавесьці па-чалавечы, гэта значыць, не прыводзіць у якасьці догмы ніякіх прычын, якія чалавек хавае ў сэрцы, але паказаць злачынствы і віноўных асоб. Вядома, што Яе імпэратарская Моц была б тады тысячу разоў удзячная Папе і паводзіла б сябе з езуітамі суадносна зь іх заслугамі. Такім чынам зразумела, што сыходзячы з сутнасьці не было нічога, што магло б кінуць у замяшаньне сьвятога Айца.

Тымі абставіны, якія маглі б выклікаць раздражненьне ў сьвятога айца, магло быць тое, што біскуп Малінскі зноў адрадзіў езуітаў, бо ён прысвоіў сабе ўладу, якая па праву належыць сьвятому Стальцу, ці тое, што ён, нарэшце, зрабіў усё зусім ня так, як гэтага ад яго чакалі ў Рыме. Але ці сапраўды гэтыя абставіны зьяўляюцца праўдай? Я буду калісь мець магчымасьць, каб паказаць іх памылковасьць. Папа занадта добра ведае, што тое, што біскуп Малінскі робіць будучы накіраваны як яго сьвятасьцю, так і яго прамога папярэдніка Ганганэлі, гэта толькі дробная частка таго, што ён мог бы насамрэч зрабіць. Такім чынам, больш не затрымліваючы нас тут, дайце нам перайсьці да наступстваў.

Тыя наступствы, якія маглі кінуць сьвятога Айца ў зьбянтэжанасьць, складаліся па большасьці з абурэньня, якое прадчувалася з боку Гішпаніі. Я кажу, толькі Гішпаніі; ад іншых двароў не было чаго асьцерагацца. Лісабонскі двор у выпадку зь міністрам Карвалью зьмяніўся ні больш ні менш, чым двор Агашфэруса ў выпадку з Гаманам[94]. Каралева Партугаліі, Марыя Францыска[95],

[93] Lettres édifiantes et curieuses. Novelle Edition. – “Павучальныя і цікаўныя лісты”, новае выданьне (1776).
[94] Гаман (Haman) – біблейскі персанаж кнігі Эстэр. Візір цара Ахашвэроша (Артаксеркса, у кнізе выкарыстаны варыянт: Ahasverus), які праз свае палітычныя хітрыкі хацеў ад імя цара зьнішчыць усё габрэйскае насельніцтва. Але яго пляны былі раскрытыя і Гаман замест пашаны атрымаў пакараньне праз павешаньне. Аўтар відавочна праводзіць паралель паміж Гаманам і міністрам Помбалям, чыя палітыка была

паказвае самы ясны ўзор свайго найгуманнага сэрца як да тых, хто пазбавіў яе ад вязьніцы, так і да выгнаных з краіны[96]. І калі да поўнага падабенства партугальскаму Гаману не хапае вяроўкі ды шыбеніцы, то трэба прыпісаць гэта вялікай розьніцы ў характарах паміж Агашфэрусам і адданейшай Каралевай. Двары Францыі і Неапаля ня мелі пры патрабаваньні езуіцкага скасаваньня ніякага іншага ўплыву, акрамя таго, што яны былі паплечнікамі Гішпаніі. Астатнія двары цалкам даверыліся Папе, які ўзяў на сябе, са стальца боскай справядлівасьці адказаць за ўсіх. Калі ўжо я ўзгадваю Гішпанію, то я ўжо ўсё сказаў. Насамрэч гэта была таксама самая важная прычына, пра якую чулі ў суполках Рыма, што Гішпанія будзе кіпець ад гневу, пагражаць і грымець. І цяпер я падышоў да

Трэцяй заўвагі. Гэтая адзіная прычына жаху і замяшаньня робіць Папе мала гонару. Чаму? бо яны былі б неразумнымі, нават калі б былі вынікам слабасьці духу і недахопу розума. Чалавеку, які мае дух і розум, якім зьяўляецца Пій VI, ня трэба было падазраваць ніякага абурэньня з боку Караля Гішпаніі наконт расейскага паведамленьня. У выпадку, калі б Кароль Гішпаніі ўсё ж такі выказаў абурэньне, чалавек, які мае дух і розум, як Пій VI лёгка знайшоў бы надзейны і належны спосаб яго заспакоіць і задаволіць, а сябе апраўдаць.

Нават з боку Караля Гішпаніі ня трэба было чакаць ніякага абурэньня, можна прыняць да ўвагі патрабаваньні гэтага Манарха ў дачыненьні да езуітаў, ці глыбокую павагу і падатлівасьць, якую павінен Папа каталіцкаму Каралю. Каталіцкі Кароль хадайнічаў аб падаўленьні; але нават ён не жадаў прымушаць іншых Манархаў, ні сам, ні праз Папу, зрабіць тое самае. Ён таксама ніколі не жадаў, каб на адваротныя думкі не зьвярталася ніякай увагі, калі б яны былі зробленыя іншымі ўладарамі, асабліва для іх дзяржаў. Я абыйшоўся б несправядліва з Каралём Карлам III[97], каб я інакш аб ім думаў; і таксама Папа такім чынам абыйшоўся б зь ім несправядліва. Наколькі высокі характар уладароў зьяўляецца вартым пашаны, ніхто ня ведае лепш за саміх уладароў. Таму, якую вялікую павагу яны забясьпечваюць для сябе, такую самую вялікую павагу яны маюць адзін да аднаго.

Тады, калі прыняць да ўвагі папскую павагу да каталіцкага Караля і да кожнага іншага ўладара ў дачыненьні да мясьцін, спраў і асоб пэўнай імпэрыі; то хто тады ня ведае, што, як ў гішпанскіх справах, але толькі каб не парушыць справядлівасьць, іншым уладарам належыць найвялікшая ўвага да гішпанскага

---

накіравана супраць духавенства і Царквы. І з прыходам новай улады міністр трапіў пад суд, а яго рэформы былі па большасьці скасаваныя.

[95] Марыя I (поўнае імя (парт.) Maria Francisca Isabel Josefa Antónia Gertrudes Rita Joana de Bragança) 17.12.1734 – 20.03.1816 – капралева партугаліі (1777—1816). Вядомая таксама як Марыя “Пабожная” (у Партугаліі) ці як Марыя “Вар’ятка” (у Бразіліі). Першая кіруючая каралева Партугаліі, старэйшая з 4х дачок караля Жазэ I і Марыяны Вікторыі. У лютым 1777, пасьля сьмерці айца, Марыя была абраная каралевай Партугаліі разам з мужам, каралём-кансортам Пэдру III. Першым яе загадам было звальненьне прэм’ер-міністра маркіза дэ Помбаля. Цярпела ад рэлігійнай маніі і меланхоліі, што пасьля 1799 г. зрабіла яе недзеяздольнай. Да яе сьмерці на правах рэгента краінай кіраваў яе сын Жуан.

[96] Маюцца на ўвазе езуіты, выгнаныя з Партугаліі міністрам Помбалем.

[97] Карл III (гішп. Carlos III) 20.01.1716 - 14.12.1788 — кароль Гішпаніі з 1759 г., герцаг Пармскі пад імем Карл I з 1731 па 1734 гады, кароль Нэапалю й Сыцыліі пад імем Карл VII з 1734 па 1759 гады, адносіцца да сям’і Бурбонаў. Карл III быў сынам Філіпа V і ягонай другой жонкі, Элізабэты Фарнэзэ, а таксама стрыечным братам Людовіка XV. Прадстаўнік асьветніцкага абсалютызму, ён правёў эфэктыўныя рэформы дзяржаўнага кіраваньня й эканомікі.

Манарха, то таксама у французскіх справах да Караля Францыі і ў расейскіх справах да расейскага Манарха? Такім чынам гэта было б няветлівасьцю, бо ці не зьяўляецца недарэчнасьцю, падазраваць нейкае абурэньне да Папы з боку Караля Гішпаніі за тое, што ён выслухаў патрабаваньні і дарэчнае жаданьне нейкай Імпэратрыцы з поўначы ў справах, якія тычацца яе асабістай імпэрыі?

Гэтая прычына заўсёды мае сваю вагу, але ў нашым выпадку яна ўплывае значна больш. Бо паколькі Суполка Езуса была па невядомым, ці па меншай меры таямнічым прычынам скасаваная, то цяперашні Папа ці ня ведае іх, ці не хоча пра іх даведацца. Такім чынам, ён мусіў бы адказаць на хадайніцтва, на разумныя абгрунтаваньні, на просьбу Пецярбурга, што ён не дае сваёй згоды, бо Мадрыд гэтага не жадае. І ці не будзе гэткі адказ такім жа неразумным, няветлівым і зьневажальным, як калі б на неадкладнае хадайніцтва каталіцкага Караля ў дачыненьні гішпанскіх спраў адказалі, што гэта немагчыма, бо Пецярьбург гэтага не жадае? Гэтая важная прычына не страчвае сваёй вагі толькі з-за таго, што тая Манархіня не знаходзіцца ва ўлоньне рымскай Царквы. Гэта нікчэмная адгаворка некаторыях невялікіх падазроных галоў, якія зацягваюць і распускаюць як ім пажадаецца, у залежнасьці ад таго, ці гэта прынясе ім карысьць, сапраўдныя ніткі супольнасьці Царквы, якую яны тым ня менш ня ведаюць, ці мала аб гэтым клапоцяцца; гэта нічкэмная адгаворка, кажу я, якая дыскрэдытуе рымскую Царкву і абавязкова мусіць перашкаджаць пашырэньню каталіцкай веры. Бо як можа ўладар, які не аб’яднаны з Рымам, шукаць гэтага аб’яднаньня, калі ён мяркуе, што ў Рыме над абгрунтаванымі заўвагамі Манарха па царкоўных справах мае перавагу кожны неабгрунтаваны сумнеў замежных уладароў? Калі ён мяркуе, што Кіраўнік Царквы гатовы ахвяраваць мірам, перавагамі для народаў і справядлівасьцю, якую чалавек кожны час вінен Нявіннасьці, дзеля кожнай блазноты, якая зайдзе ў галаву нейкаму рымска-каталіцкаму ўладару?

Гэта ўсё перакручаныя прынцыпы, якія рымская Царква заўжды з агідай разглядала як супярэчныя Эвангельлю, паводле якога патрабаваньні Імпэратара, гэта значыць, асабістага ўладара краіны, саступаюць толькі патрабаваньням Божым і Яго аўтарытэту. Тая пакорлівасьць, якая паводле Эвангельля належыць пастарам, нічым не памяншае тое падпарадкаваньне, якое чалавек вінен свайму ўладару. Нават пастары, калі нехта паводле свайго права выказвае абгрунтаваны пратэст супраць іх загадаў, прымушаны паводле Эвангельля ці адказаць на пярэчаньні, ці скасаваць тыя загады: “**заўжды гатовы задаволіць кожнага, хто вас кліча да адказу, ... няхай будзе ваша служба слушная. ... Аддайце кесару кесарава**”. Апостал жадаў, каб гэтыя абмежаваньні духоўнай улады і гэты слушны лад царкоўнага кіраваньня былі вядомыя не толькі ўсім хрысьціянам, таксама з розных супольнасьцяў, але й нават і паганцам, бо ён ведаў, што падазрэньне дэспатызму ў паганцаў і нават у хрысьціян не можа выклікаць нічога, акрамя пагарды ды агіды: “**Біскуп мусіць мець добрае сьведчаньне нават ад тых, што не зьяўляюцца хрысьціянамі, каб ён не трапіў у ганьбу**”. Якая гэта была б ганьба, якая прыкрасьць, калі б Расея, нават калі б яна жадала аб’яднацца з Рымам, мусіла меркаваць, што Папа дасьць падобны адказ сваёй Манархіні? Езуіты, мае падданыя, кажа яна, невінаватыя; і Папа мусіць адказаць: я ня маю нічога супраць, але іх усё роўна трэба скасаваць, бо адзін рымска-каталіцкі ўладар гэтага жадае. Але акрамя таго, што яны невінаватыя, яны таксама карысныя і неабходныя для рэлігіі; а Папа: так! я трымаюся той жа думкі, але іх трэба скасаваць, бо адзін рымска-каталіцкі ўладар гэтага жадае. Без езуітаў каталікі будуць уведзены ў зман,

некаталікі будуць раззлаваныя; моладзь выраджаецца, манеры пагаршаюцца, вера сыходзіць на нішто; а Папа мусіць адказаць: я прадбачу гэта, але трэба ахвяраваць усім гэтым, каб спадабацца аднаму рымска-каталіцкаму ўладару. Але гэта жудасная несправядлівасьць; а Папа: так! відавочная неспарвядлівасьць, але несправядлівасьць, якой патрабуе адзін рымска-каталіцкі ўладар. Поўны жаху я больш не ў стане разьвіваць далей гэтыя гнусныя настроі. Калі пра нас так думаюць тыя нацыі, што адасобленыя ад нашай суполнасьці, то што тады будуць для іх значыць Папа, Царква і рыма-каталікі, акрамя назвы для ганьбы і агіды? Але вядома, што як падобныя настроі знаходзяцца далёка ад пераемніка сьвятога Пятра, так сама яны зьяўляюцца ганебнымі для яго. Гэта настроі пэўных людзей, **пра якіх загадаў Гасподзь, што яны ня мусяць увайсьці ў яго Царкву**; якія, бо яны здрадніцкім чынам праз забароненя шляхі дасягнулі духоўнага аўтарытэту, жывуць, ня ведаючы, якія абавязкі яны на сабе маюць; якія вядуць ганебны гандаль тым, што было ім даверана пад пагрозай аднаго з Боскіх пакараньняў, і прадаюць гэта тым, хто лепш плоціць. Не крыўдуйце на мяне, мой сябар, што я так шчыра без страху выказваюся. Справа патрабуе таго, каб я выказваўся яшчэ больш дакладна; я мусіў назваць тых асоб, якія вызначалі зробленыя дамовы і выплаты; якія былі накіраваныя на тое, каб праз прыкрую зьнявагу сьвятога аўтарытэту прыдушыць Нявіннасьць і дыскрыдытаваць Царкву ***)** [98] [99]. Але нам трэба вярнуцца да нашай тэмы.

Яшчэ прасьцей паказаць, што ў выпадку, калі каталіцкі Кароль выказаў бы асабістую незадаволенасьць, Папа мог бы яго заспакоіць тым, што апраўдаў бы сваю згоду праз абгрунтаваньні, супраць якіх нельга было б нічога запярэчыць. Калі б ён адказаў, што рымскі Папа не ўпаўнаважаны пярэчыць справядлівым і разумным хадайніцтвам уладара ў справах яго дзяржавы; што пярэчыць патрабаваньням Кацярыны II значыла б тое самае, што пярэчыць справядлівасьці, Боскай славе і лепшай долі для Царквы; што гэта было б злоўжваньнем яго аўтарытэту ды гвалтоўным прысвойваньнем улады, дадзенай яму Богам. Калі б ён адказаў, што гэта была б жудасная няўдзячнасьць, абразіць манархіню іншай веры, якая абыходзілася з каталіцкімі царкоўнымі справамі такім чынам, як гэта звычайна робіцца толькі самымі адданымі Апостальскаму Стальцу каталікамі. Калі б ён адказаў, што ён сапраўды б трапіў

***)** Пад час працэсу, які ў 1781 быў зроблены над Памбалем, было нарэшце высьветлена, што дзеля скасаваньня езуітаў зь Лісабона ў Рым было выкарыстана 3 мільёны, і таксама на штогадовыя пэнсіі для прэасьвяшчэнстваў N.N., прэлатаў N.N. і г.д., як гэта было бачна з штогадовых квітанцый у яго архіве Num. 13. – Адна княская асоба ў Нямеччыне валодае сьпісам такіх праплочаных рымскіх асоб разам з дакладным паведамленьнем пра зробленыя імі разнастайныя інтрыгі, абнародваньне якіх выклікала б крайняе зьдзіўленьне. Усяго некалькімі гадамі раней у Парыжы пэўны пан вёў працэс, які тычыўся значна меншай сумы, калі дакладна, у 60 000 ліўраў, спачатку гэтую суму патрабавалі ад яго, каб накіраваць яе на зьнішчэньне езуітаў, а зараз ён меў бы права яе патрабаваць назад. Ён з гэтай гісторыяй пазначаны ўжо ў новай Dictionnaire histor. par l‘ Abbe F.X.D.F. a Augsbourg par Rieger, але яго імя я не магу адразу ўзгадаць, бо яно ў мяне выляцела з галавы. – Утрэхцкая галіна царквы, якая дзеля ажыцьцяўленьня цудаў парыжскага дыякана, па сьведкам французскіх аўтараў, накіравала 500 000 ліўраў, ніколі ня мела большай за гэтую прычыны, каб адкрыцца з усёй магчымай шчодрасьцю.

---

[98] Ліўр (фр. livre, от лац. libra — рымскі фунт) — грашовая адзінка Францыі да 1795 г.

[99] Dictionnaire histor. par l‘ Abbe F.X.D.F. a Augsbourg par Rieger – Гістарычны слоўнік паводле падрэ Францоа-Ксаверыя дэ Фэлера (Abbe F.X.D.F. – François-Xavier de Feller) надрукаваны ў Аўгсбурзе (Нямеччына) Мэцью Рыгерам (Mathieu Rieger).

у вялікі жах ды зьбянтэжанасьць, калі б ён быў гэтай манархіняй прыцягнуты да адказу, каб несьці адказнасьць за скасаваньне езуітаў; што ён каб не казаць ніякай няпраўды, быў бы вымушаны адказаць, што гэта было гвалтам. Калі б ён адказаў, што ён ня мог бы ўзваліць на сябе тыя жахлівыя наступствы, якія ўзніклі б у выпадку, калі б расейскія каталікі адным адзіным ударам былі вылішаныя сваіх самых здольных служыцеляў культа, прысутнасьці біскупа, які хоча пакінуць сваю паству, і заступніцтва манархіні, якая праз гэта адчула б сябе ў вышэйшай ступені абражанай. Калі б ён нарэшце адказаў, што ён вінен Богу больш, чым зямным уладарам, перад чыім Судом хутка будуць вымушаныя зьявіцца і ўладары і Папа; і дзе будуць не толькі Папа, ці князь, але ўсе падданыя; калі ён так адкажа, то ён дасьць адказ, які належыць Папе і супраць якога нельга нічога запярэчыць. Калі б ён адказаў, што ён вінен Імпэратрыцы ў Расеі такую ж вялікую ўвагу ў справах расейскай Царквы, як і яго каталіцкай Моцы ў справах гішпанскай Царквы; і што ён, каб спадабацца аднаму ўладару, з гэтай нагоды не мусіць разрываць адносіны зь іншым, такім жа аўтарытэтным, уладаром: то ён даў бы адказ, як тое належыць уладару, супраць якога нельга нічога запярэчыць. І вышэй дадзеным супакойваецца ўсё, без таго жаху і зьбянтэжанасьці, якія ўзьніклі ў галаве і ў сэрцы аўтара, які іх выдумаў і магчыма таксама жадаў. Ці жадаеце Вы, каб я Вам паведаміў таксама некалькі словаў пра прароцтва? То я да Вашых паслуг.

## §. III.

**Гэтае начаканае здарэньне, мусіць у каталіцкім сьвеце зрабіць вялікую сэнсацыю.** Ці яно ажыцьцявіцца, даведаемся мы зь цягам часу; але, хто прымае да ўвагі, што наша стагодьдзе ўжо бачыла і чула самыя незвычайныя рэчы, таму будзе падавацца немагчымым, што адкрыцьцё паслушэнства ў межах Эўропы мусіць рабіць вялікую сэнсацыю.

Вядома, прадажная ды карысьлівая Партыя ўздыме вялікі лямант, я ў гэтыс зусім не сумняваюся; але гэтая партыя яшчэ не складае ўвесь каталіцкі сьвет.

Выключны лямант звычайна ўзьнікае на падставе выключных справаў. Цяпер параўнайце сёньняшнія факты, якія складаюцца з таго, што некаторыя маладыя расейцы, ці маскавіты, ці палякі зрабіліся паслушнікамі ў езуітаў; параўнайце гэта з жудаснымі трагедыямі, якія здарыліся ў апошнія 12-15 гадоў на вялікай сусьветнай арэне; параўнайце гэта з выгнаньнем 8 ці 10 тысяч ордэнскіх духоўнікаў з чатырох каталіцкіх манархій; сярод якіх шмат тых, што праз паходжаньне, шмат праз вучонасьць, шмат праз дух сьвятасьці, шмат празь непамерную працу працяглага ды руплівага апостальства былі вядомымі людзьмі; якія да вечнай ганьбы чалавецтва ўсе разам былі адарваныя ад сваіх айчын, ад сваіх бацькоў, ад сваіх братоў і родных, без таго, каб быў зладжаны хаця б нейкі афіцыйны суд супраць аб'яднаньня, ці супраць індывіда. Параўнайце гэта зь відовішчам такой колькасьці сьвятароў, якія блукалі па землях і непамерных марах, тут былі сьціснутыя ў караблях як і шматлікія весьляры, там былі выгнаныя з партоў і разам з тым былі нібыта чумныя, паўсюль перасьледваныя самымі чорнымі паклёпамі, з гвалтам адвергнутыя ад зямлі, пакуль яны нарэшце нібыта пакутнікі, што былі наканаваныя на працу ў лазьнях, не сабраліся ў царкоўнай дзяржаве, каб быць зьдзекам ды насьмешкай для самых нізкіх лёкаяў, і каб праводзіць свае гады ў горачы, што яны былі

вымушаныя ля ганкаў вялікіх ды ганарлівых рабаўнікоў кленчыць хлеб сваіх уласных калегіюмаў, і ўласнымі вачыма бачыць прыкрае мантацтва сваёй спадчыны, той спадчыны, якую былая сьціпласьць вернікаў ахвяравала на падтрымку працавітых служыцеляў сьвятасьці, якую зараз публічна і без сораму выкарыстоўвае дзеля пыхлівасьці, дзеля мантацтва і дзеля падкорму пэўных духоўных машын, якія буйна ўзрастаюць за кошт разапнутых. Параўнайце гэта з тымі гвалтоўнымі здарэньнямі, што адбыліся з найшаноўным Папай Клеменсам XIII; які быў аточаны мясцовымі шпіёнамі, атакаваны замежнымі ворагамі, прададзены братамі, запалоханы ўласнымі дзецьмі, і нарэшце закатаваны смуткам і горам, таму памёр, бо быў больш ня ў стане збудаваць плаціну супраць разбуральных хваляў, якія абрыналіся на трон Пятра. Параўнайце гэта з прыкрасьцямі Балёньні, дзе пабачылі перасьлед і лютасьць вартыя часоў Фоція[100]; дзе публічна імкнуліся спакусіць да сапраўднага адступніцтва, з добрым ці злым намерам, пэўную колькасьць маладых сьвятароў, і калі гэта не атрымалася, рукамі збірраў[101] зь іх былі сарваныя сьвятарскія вопраткі; дзе сівавалосых паважаных старцаў кідалі ў публічныя вязьніцы, то тым, то гэтым загадваючы сысьці ў выгнаньне; і дзе людзі нарэшце сваю нянавісьць да імя Езуса, якое было зьбіта з фасадаў і дзьвярэй дамоў, павярнулі супраць сьвятароў, чые ўрачыстасьці былі забароненя і чые шаноўныя статуі былі разьбітыя ўдарамі молатаў рукамі арцыбіскупскіх Кардыналаў, нягледзячы на самыя настойлівыя пярэчаньні балёнцаў, якія жадалі заплаціць за гэта ўсё, што антыезуіцкая Партыя толькі пажадае за гэта атрымаць. Параўнайце гэта з судовым выракам у Рыме супраць езуіта Пізані, з перасьледам супраць пана Бандыні, біскупа Акўапэндэнцкага, з апаганьваньнем храмаў і кляштараў сьвятых нявіньніц у тых дыяцэзіях; параўнайце гэта з рабаваньнем рымскіх цэркваў і алтароў і са зьняволеньнем самых шаноўных сьвятароў у сталіцы каталіцкай веры, якія шмат год, а некаторыя да сваёй сьмерці, мусілі сядзець у няволі; дзе зь імі абыходзіліся так жорстка і па такой новай судовай сыстэме, што, ня гледзячы на тое, што, каб схаваць ганьбу судзьдзі, іх прымусілі да зароку маўчаньня, тым не менш сьвет пабачыў, што зьдзейсьнілася прадказаньне прарока Абакума: Прарочая ўява, якую бачыў Абакум, прарок: **Прарочая ўява, якую бачыў прарок Абакум. Дакуль, Госпадзе, я буду лямантаваць, а Ты не пачуеш, буду заклікаць да Цябе: "Гвалт!" – а ты не ўратуеш? ... Навошта даеш мне бачыць зладзейства і глядзіш на гароты? ... Нібыта трымаюць суд, але ўлада перамагае. ... Ад гэтага закон страціў сілу і ніколі не зьдзейсьніцца правільны суд – як што бязбожны зьнішчае праведнага**[102]. О Рым, о Рым, як трапна можна было б да цябе грамавым голасам заклікаць зь вяршыні тарпейскай скалы[103] тыя словы Збавіцелся пра Ерусалім, які і ў добрым і ў злым быў тваім узорам: **Ерусаліме, Ерусаліме, што забіваеш прарокаў і каменьнем пабіваеш пасланых да цябе**[104]. Сябра, гэты выбух майго запалу не павінны пахіснуць Вашу веру ў першынство каталіцкай Царквы. Гэтыя рэчы болей не новыя для Вас, і Вам вядома, што я мог бы прывесьці яшчэ бясконцае мноства такіх, якія ўсе былі б неверагодныя, але не

[100] Фоцій (гр. Photios) 820 - 896 — бізантыйскі багаслоў, Канстантынопальскі Патрыярх. Першы, хто абвінаваціў рымскіх пап у ерасі, чым распачаў раскол паміж усходняй і заходняй цэрквамі.

[101] Збірр (іт. Sbirr) — шпег, паліцыянт.

[102] Абакум 1:1-4

[103] Тарпейская скала (лац. Saxum Tarpeium) – назва стромкай скалы ў старажытным Рыме, з заходняга боку Капіталійскага ўзгорку. З гэтай скалы скідвалі асуджаных на сьмерць злачынцаў, якія ўчынілі здраду, інцэст, пабег рабоў ад гаспадара.

[104] Паводле Мацьвея 23:37

менш праўдзівыя: **Справа, што адбылася ў нашыя дні, якой ніхто не паверыць, калі аб гэтым будуць распавядаць**. Але як? Ці мусіць бязбожнасьць тых нешматлікіх, што знаходзяцца ў Рыме, наносіць шкоду рымскай веры, што была заснаваная на выраку Езуса Хрыста? Ці мусіць чалавек ставіць пад сумнеў правы, якія Бог даў законнай уладзе, толькі таму, што нехта імі злоўжвае? Гэта ганебная памылка легкадумнай і фанабэрыстай вучонасьці нашага стагодзьдзя: некаторыя жадаюць праз голыя факты даводзіць і ўсталёўваць фальшывыя правы, нават калі б чалавек не мог перайсьці межы сваёй улады, і ня здолеў бы зрабіць гэта ні ў якія часы; іншыя жадаюць праз голыя факты аспрэчыць ды скасаваць слушныя правы, нават калі б яны не былі заснаваныя на Боскім аўтарытэце, які прапісаў межы, правілы і формы кіраваньня для духоўнай і сьвецкай улады. І тыя, і іншыя памыляюцца. Я адсылаю Вас да трэцяй главы Пасьланьня сьвятога Паўла да рымлян, якое тут вельмі трапна стаіць на сваім месцы: **хіба ж няверства іхняе зьнішчыць вернасьць Божую? Зусім не. Бог верны, а кожны чалавек ілжывы, як напісана: «Ты праведны ў словах Тваіх і пераможаш, у судзе Тваім». А калі нашая няпраўда выяўляе праўду Божую, дык што скажам? няўжо будзе Бог несправядлівы, калі паказвае гнеў? (кажу, па-чалавечы разважаючы) Зусім не. Бо як жа тады Богу судзіць сьвет**[105]. Трапны тэкст, каб узмацніць слабых духам, што хістаюцца ў веры, бо бачаць у сьвеце зашмат злосьці.

Але каб мы зноў вярнуліся да нашай справы, ці Вы сапраўды верыце, што сёньняшні сьвет, які разглядае падобныя рэчы са спакойнымі ці нават абыякавымі вачыма, прыйшоў у рух і б'е трывогу толькі таму, што цяпер у Расеі зрабілася адным паслушэнствам болей? Аўтар цыркуляру можа дакладна супакоіць сябе наконт гэтага; пасьля таго, як злачынствы яго Партыі зайшлі ўжо так далёка, што ніякае іншае злачынства ўжо не зробіць сваёй сэнсацыі. А зараз мы хочам кінуць позірк на астатняе.

# §. IV.

„Падчас ажыцьцяўленьня Падзела Польшчы перайшлі амаль усе дыяцэзіі Ліфляндыі ды Смаленску, і частка віленскай дыяцэзіі лацінскага абраду, пад расейскую ўладу. Непераадольнае непадпарадкаваньне царыцы адносна таго, каб дапусьціць практыкаваньне ранейшай юрысдыкцыі польскіх біскупаў у Яе ўласных дзяржавах, і неадкладнае хадайніцтва перад гэтай Манархіняй, каб духоўныя ўлады шматлікіх лацінскіх каталікоў былі аб'яднанымі ў адзіную паству, падштурхнула, нарэшце, Яго Сьвятасьць, хаця гэта і адбылося неахвотна, абраць на такую разгалінаваную і важную пасаду пана Станіслава Сестранцэвіча, біскупа Малінскага.“

Колькі слоў, столькі няпраўды. На польскіх соймах перад вядомым падзелам супраціўляліся па большасьці духоўныя сэнатары, гэта біскупы; і менавіта зь Вільні, Ліфляндыі ды Смаленска, ад чыіх дыяцэзій значная частка мусіла быць далучанай да Расейскай Імпэрыі; яны пратэставалі, што яны ніколі не пагадзяцца прыняць прысягу на вернасьць Імпэратрыцы, якую мусяць прымаць пры кожнай перамене кіраўніка дзяржавы. Гэта, вядома, выклікала тое, што нарадзілася ідэя, аддзяліць Беларусь ад Віленскай дыяцэзіі, а дзьве астатнія дыяцэзіі забясьпечыць такім пастарам, які быў бы прыемны

[105] Да Рымлянаў 3:3-6

расейскаму двару; які безумоўна ніколі б не дапусьціў, каб духоўнае кіраўніцтва яго падданых грунтавалася на такіх біскупах, што не жадалі б прызнаваць яго сьвецкую вярхоўную ўладу. Затым кароль Польшчы зрабіў прапанову, што ў будучыні лацінскія каталікі з усіх трох дыяцэзій мусяць кіравацца адным біскупам, які павінен быў бы пражываць у Расеі.

Пецярбурскі двор таксама пагадзіўся і дазволіў, каб выбар першага лацінскага Біскупа ў Расеі паў на паляка, якога папскі нунцый са згоды яго пасланьніка ў Варшаве палічыў бы вартым гэтага. Такім чынам выбар знаходзіўся цалкам у руках пана Гарампі[106], тагачаснага нунцыя, які ніколі ня меў на сабе памылкі належаць да трэцяга Ордэну езуітаў. Тады ён выбраў пана Сестранцэвіча, генэральнага вікара біскупа Віленскага ў сьвецкіх справах, чалавека, што як праз сваю вучонасьць, так і праз аб'яднаньне ўсіх сьвятарскіх дабрачыннасьцяў, заслужыў сан і біскупскае званьне; і які здаваўся выдатным для сыстэмы нунцыя, які абірае, каб быць накіраваным на пасаду, між тым ён яшчэ не пазбавіўся тых прымхаў супраць езуітаў, якія ён з малаком увабраў у кальвінісцкай сэкце, дзе ён выхоўваўся. Спачатку ён адхіліў прапанову і доўгі час заставаўся непахісным, але нарэшце дазволіў перакананьням нунцыя пераадолець сябе.

Але адбылася іншая прыкрая акалічнасьць. Рым ужо зацьвердзіў новы духоўны плян і выбар новага біскупа, але толькі пры ўмове, што біскупы Вільні, Ліфляндыі і Смаленска дадуць сваю згоду. Гэтую згоду не даў ніводны з гэтых трох; і таму выкананьне праэкту адкладалася шмат часу, пакуль біскуп Ліфляндыі, які ніколі не жадаў саступаць, не быў пераведзены ў іншае біскупства; а два астатнія нарэшце паддаліся паўторнай настойлівай просьбе з агаворкай, што новы прэлат, пакуль яны будуць жывымі, не будзе называцца біскупам Беларусі, але Малінскім. Такім чынам, справа нарэшце была вырашаная, калі Клеменс XIV памёр, і на яго месца прыйшоў Пій VI, які знайшоў гэты плян ужо выкананым а біскупа ўжо **загадзя абраным**; таксама ў гэтай справе ён не прыняў ніякага ўдзелу, акрамя таго, што пацьвярдзіў тое, што вырашыў яго папярэднік.

Гэта ёсьць проста найчыстая праўда. Але Божа мой! Чаму яе ня кажуць так, як ёсьць? Параўнайце гэта з тым расповедам, які зрабіў пра гэта аўтар цыркуляра. Наступныя непраўдзівасьці трапляюцца ў вочы:

Першая няпраўда: аўтар цыркуляра хоча прымусіць нас паверыць, нібыта ў Ліфляндыі і Смаленску знаходзіліся два біскупы, чые паўнамоцтвы Імпэратрыца не жадала прызнаваць. І вось гэта няверна.

Я ня ведаю, ці аўтар ведае нешта пра царкоўныя перамены гэтых дзьвух правінцый. Калі б ён чытаў творы Антона Пасэвіна[107], то, магчыма, ён бы не

[106] Джузэпе Гарампі (Garampi Giuseppe) 29.10.1725 - 04.05.1792 — кардынал, прэфект Ватыканскага архіву, гісторык, член кангрэгацыі па надзвычайных царкоўных справах, належыў да памяркоўнай галіны асьветнікаў, у 1772-1776 гг. нунцый у Варшаве, у 1776 г. прызначаны нунцыем у Вену, а на яго месца ў Варшаве быў абраны нунцый Аркеці.

[107] Антоніа Пасэвін (іт. Antonio Possevino, лац. Antonius Possevinus) 1534 - 26.02.1611 — італьянскі клерык, папскі легат. Падчас Лівонскай вайны быў адпраўлены спачатку ў Швэцыю, а пасьля ў Маскву, дзе ён спрыяў заключэньню Ям-Запольскага міру паміж Стэфанам Баторыем і Іванам IV. Гэтая місыя была падставай для таго, каб схіліць Івана IV да саступак у справах веры і нават да вуніі з каталіцызмам. Першы час маскоўскі цар не абвяргаў гэтыя пляны, але пасьля заключэньня міру з Рэччу Паспалітай усе прапановы былі адкінуты. Пасэвін напісаў некалькі кніг пра Масковію, якая ў тыя часы была амаль нявывучаная.

выстаўляўся б з гэткай хлусьнёй; і асьвяжыў бы ўспаміны, якія прыносяць шмат пашаны Суполцы і шмат ганьбы іх вынішчальнікам. Каталіцкая вера, якая яшчэ застаецца ў Ліфляндыі, гэта рэшткі непамернай працы езуітаў, і асабліва знакамітых айцоў Пасэвіна і Кампана[108]. Пасьля падзеньня нямецкіх рыцараў Ліфляндыя амаль ніколі не належыла адзінаму ўладару. Часам яна часткова належыла Польчшы, часам Швэцыі. Пётр Вялікі ўжо далучыў вялікі кавалак яе да маскавіцкай Імпэрыі, і падчас гэтага нядаўняга падзелу яна цалкам адышла да Расеі. Пры такой колькасьці зьмен вера тут не магла так усталявацца, каб карыстацца поўнай свабодай.

Такі самы, і магчыма нават яшчэ горшы лёс меў Смаленск; і аўтарытэт яго біскупа быў яшчэ ніжэй. Увесь каталіцызм складаўся зь некалькіх прыходаў, акрамя якіх біскупу належала не больш, чым пану Аркеці ў Халкедоне[109]. Ані першы, ані другі не пражывалі ў сваіх дыяцэзіях, бо яны там ня мелі ні месца, каб належным чынам наладзіць там пражываньне, ні дастатковых прыбыткаў для свайго стану. Па-большасьці яны спыняліся ў Вільні, ці ў Варшаве, дзе яны пакрывалі свой духоўны сан прыстойным заробкам. І змоўчваць такія акалічнасьці, ці не азначае – надаваць справе няслушны выгляд і магчымасьць для падазрэньняў, нібыта Імпэратрыца ўчыніла гвалт гэтым бісупам? І ці гэта не паклёп супраць Імпэратрыцы?

Другая няпраўда: што біскупскія паўнамоцтвы Расеі, Смаленска і Ліфляндыі называюць прыроджаным (nativa) правам польскіх біскупстваў. Невуцтва, глупства і прага да паклёпу адначасова трапляюцца тут у вочы.

Чаму раптам прыроджанае права польскіх біскупаў? Прыроджаным яно магло б называцца, калі яно ім належыць праз іх нараджэньне; ці калі яно закладзена ў самой прыродзе пасады і юрысдыкцыі. Казаць, нібыта расейскае біскупства праз сваё нараджэньне належыць Польшчы, зьяўляецца лухтой; і казаць, нібыта гэта выцякае з самой прыроды біскупскага званьня ў тых краінах, зьяўляецца грубым невуцтвам; пры тым безумоўна, што вызначаць межы дыяцэзій, зьмяняць іх, памяншаць ці пашыраць, зьяўляецца выключным правам сьвятога Стальца ці Кансыліюмаў. Дык чаму ж тады прыроджанае права Польшчы? О! Што за цудоўныя прадстаўленьні пра царкоўныя справы мусіць мець у сваёй галаве аўтар. Добрыя каталікі заўжды трымаліся меркаваньня, што духоўныя паўнамоцтвы зьяўляюцца вышэйшымі за натуральны парадак і таму не могуць быць прыроджанымі нікому. Той, хто трапляе туды, трапляе праз прызначэньне, не праз нараджэньне, не натуральным шляхам, але як **прызначаны Богам падобна Аарону**. Можа аўтар зьяўляецца адным з тых, хто не праз боскае прызначэньне, але праз нараджэньне, ці натуральнымі сродкамі, адным словам, праз прыроджаныя прычыны, пракраўся ў стан пастара?

Калі Стэфан Баторы, Кароль Польшчы, трымаў сваё ўрачыстае ўступленьне ў Рыгу і адняў Домскі сабор у некаталікаў, ён запэўніваў, што ён жадае перадаць яго ніякаму польскаму біскупу, але толькі таму, каго на гэта

[108] Джавані Паоло Кампана (іт. Giovanni Paolo Campani) 25.01.1540 - 27.04.1592 — быў прадстаўніком Рыма ў Празе, а ў 1581 г. быў абраны дапамагаць А. Пасэвіну ў яго маскоўскай місыі, пасьля якой парцягваў зь ім разам працаваць у Ліфляндыі. Удзельнічаў у адкрыцьці калегіюмаў у Рызе і Дэрпце.
[109] Халкі — старажытны грэцкі горад, які потым знаходзіўся на тэрыторыі Бізантыі, зараз на яго месцы раён сучаснага Стамбулу.

прызначыць Рыгор XIII[110], тагачасны папа. Такім чынам, тады тая юрысдыкцыя не была прыроджаным правам палякаў. То зь якой нагоды яна мусіць зрабіцца такой пасьля? Я не адмаўляю, што з таго часу біскупамі ў гэтых правінцыях заўсёды былі палякі, нават калі яны часткова знаходзіліся пад уладарамі іншага веравызнаньня: што абдылося толькі таму, што Польшча была найбліжэйшым каталіцкім каралеўствам. Але ці гэтага ўжо дастаткова, каб назваць гэтую юрысдыкцую **прыроджаным** правам палякаў? Насамрэч, аўтар зьяўляецца выдатным грамацеем. Трэцяя няпраўда: што Імпэратрыца не жадала дазваляць, ці прызнаваць юрысдыкцыю польскіх біскупаў у яе дзяржавах. Гэтая хлусьня раскрыецца праз дзьве заўвагі.

1-е. Імпэратрыца ўступіла ў валоданьне Беларусьсю на чацьвёртым годзе папства Ганганэлі; але Беларусь пасьля падзелу амаль два гады ня мела ўласнага біскупа. І ў гэтыя два гады, калі, вядома, свабоднае вызнаньне каталіцкай веры не было перапынена, хто ажыцьцяўляў духоўнае кіраваньне ў гэтых трох правінцыях, як не старыя польскія біскупы? Ці ня мелі царкоўныя дзеяньні пад іх юрысдыкцыяй свайго звычайнага ладу, без таго, каб Імпэратрыца рабіла ім хаця б драбнейшую перашкоду? Такім чынам яна прызнала юрысдыкцыю польскіх біскупаў. Рым павінен не забывацца пра гэты прыклад імпэратарскай саступлівасьці ў дачыненьні да каталікаў, які зьяўляецца чымсьці зусім рэдкім у нашым стагодзьдзі. Яна пагаджалася на працягу двух год, што яе падданыя знаходзяцца пад кіраўніцтвам біскупаў, якія адмаўляліся прыняць прысягу ёй на вернасьць. Які рыма-каталіцкі ўладар зрабіў бы падобнае?

2-е. Калі Суполка ў Рыме была прыдушаная, Беларусь ужо была пад расейскай уладай; і калі б яна яшчэ была пад Польшчай, то расейскіх езуітаў таксама б чакала сасаваньне, як гэта адбылося па ўсёй Польчшы. Даручэньне на ажыцьцяўленьне загаду ў Расеі Кангрэгацыя Пяці дала біскупу Віленскаму, як уласьціваму біскупу. Такім чынам Рым ведаў, што юрысдыкцыя польскіх біскупаў прызнаная ўладай. Насамрэч, біскуп Віленскі быў першым, хто прадставіў, ці даў прадставіць Імпэратрыцы загад аб скасаваньні; і хто хадайнічаў аб каралеўскай Exequatur-ы. Але калі яму было ў гэтым адмоўлена, ён не толькі не паўтарыў сваё хадайніцтва, наадварот, ён апублікаваў па ўсёй Расеі пастырскі ліст, дзе ён загадваў усім вікарам і сьвятарам, каб ніхто зь іх не адважыўся абвясьціць скасаваньне, ці рабіць штосьці дзеля гэтага. І Вы сапраўды верыце, што біскуп Віленскі мог бы бесперашкодна дасылаць па Расеі пастырскія лісты, калі б Імпэратрыца не прызнала юрысдыкцыю польскіх біскупаў? Цяпер ідуць некаторыя маленькія заўвагі, калі Вы ўжо крыху адхіліліся ад нашай справы. 1-е, той пастырскі ліст біскупа Віленскага з дакладным загадам, не рабіць нічога новага ў дачыненьні да езуітаў, ці не зьяўляўся ён афіцыйнай кананічнай дэкларацыяй іх законнага існаваньня? Сыходзячы з канонаў Царквы тут нема ў чым сумнявацца. Але я ня ведаю, чым гэта можа зьяўляцца па новым антыезуісцкім правазнаўстве. 2-е, Клеменс XIV, які тады жыў, не пакараў нават трошкі гэткія паводзіны біскупа Віленскага. Але толькі гэта маўчаньне, ці не сьведчыць яно аб саступлівасьці і аб маўклівай згодзе Апостальскага Стальца, якая забясьпечвае расейскім езуітам іх кананічнае існаваньне? Так робіцца справа па правілах кананічнага права; але яны не зьяўляюцца правіламі антыезуітаў. 3-е, калі біскуп Віленскі, які ўсё ж быў з

[110] Рыгор XIII (Gregorius PP. XIII), сьвецкае імя: Уга Бонкампаны (іт. Ugo Boncompagni) 7.01.1502 – 10.04.1585 — папа рымскі з 13.05.1572 па 10.04.1585 г.

іншай дзяржавы, адчуваў сябе так моцна абавязаным падпарадкоўвацца загадам Імпэратрыцы; то ці не павінен быў біскуп Малінскі, які знаходзіўся пад яе ўладай, не менш, ці нават значна больш кіравацца імі? Вядома, сыходзячы са здаровага сэнсу і па законах ён мусіў гэта рабіць; але антыезуіты не прытрымліваюцца ані законаў, ані розуму. 4-е, калі тады супраць пастырскага ліста біскупа Віленскага не ўзьнялося ніякага шуму; то чаму ж зараз так жудасна выступаюць супраць таго ліста біскупа Малінскага? Сябра! Можа Вы знойдзеце нейкую складнасьць у бязглуздых паводзінах антыезуітаў.

Чацьвёртая няпраўда. **Непадпарадкаваньне Імпэратрыцы адносна таго, каб дапусьціць практыкаваньне юрысдыкцыіі польскіх біскупаў у яе дзяржавах, зьяўлялася непераадольным. Непераадольнае непадпарадкаваньне**; два словы, дзьве няпраўды.

Тут няма ніякага непадпарадкаваньня, ні непераадольнага, ні вялікага, ні маленькага, няма нават магчымасьці для гэтага. Я казаў ужо, што юрысдыкцыя польскіх біскупаў працягвала існаваньне на працягу двух год, без нават драбнейшай нязручнасьці з боку Імпэратрыцы. Новае біскупства ў Беларусі было, так бы мовіць, польскай вынаходкай, а менавіта было справакавана трыма біскупамі, і ўнесена Сэнатам са згодай (як трэба верыць) нунцыя Гарампі ў артыкул Падзелу. Гэта ніколі не было сакрэтам. Гэта можна знайсьці амаль ва ўсіх публічных навінах таго часу. У Фларэнтыйскай газэце: Notizie del Mondo ад 1773 г. Нум. 24, у артыкуле: **Варшава**, Вы знойдзеце наступныя словы: **каталікі, якія знаходзяцца пад Расеяй, будуць, у дачыненьні духоўнага, залежыць ад каталіцкага біскупа ў Беларусі**. Імпэратрыца не зрабіла нічога іншага, як, без малой цені **непадпарадкаваньня**, далучылася да папярэдняй прапановы.

І тым ня менш, аўтар цыркуляру кажа, што там мела месца непадпарадкаваньне; і дадае, што яно было **непераадольным**. Такім чынам павялічваецца першая хлусьня і ў дадатак паўстае новая. Першая павялічваецца, бо так, як непераадольная непадпарадкаванасьць зьяўляецца яшчэ большай непадпарадкаванасьцю, таксама і няпраўда, калі яна няслушная, робіцца грубай хлусьнёй, калі яе яшчэ назваць непераадольнай; а недастаткова грубая хлусьня ня вартая сапраўднага антыезуіта. І ў дадатак паўстае праз гэта новая хлусьня; бо ён прымае як належнае, што Імпэратрыца жадае хаця й каталіцкага біскупа, але толькі не паляка, і гэта грубая хлусьня. Сучасны і першы біскуп у Беларусі зьяўляецца народжаным палякам і быў узяты польскім саборным капітулам. Ці ён прадугледжвае, што нехта спрабаваў, але дарма, праз добрыя абгрунтаваньні пераканаць Імпэратрыцу, каб яна пажадала дазволіць сваім толькі што заваяваным народам надалей жыць пад духоўнай юрысдыкцыяй польскіх біскупаў, нягледзячы на тое непадпарадкаваньне, якое яны выказваюць у прыняцьці прысягі ёй на вернасьць; і вось гэта хлусьня і лухта адначасова.

Плян, што расейцы мусяць у новай сыстэме мець свайго ўласнага біскупа, быў разумны як у палітычным, так і ў духоўным сэньсе. У палітычным, бо кожны ведае, што польскія біскупы зьяўляюцца сэнатарамі, што азначае тое самае, што і часткі таго цела, на якім заснавана сьвецкая вярхоўная ўлада Польшчы; і якія былі супраць заключанага падзелу Імпэрыі і былі зайздросьлівымі суседзямі расейскай улады. І цяпер Вы мяркуеце, што гэта быў бы добры палітычны ход, калі б у Беларусі старым уладарам пакінулі некаторыя паўнамоцтвы, якія яны не інакш як непрыязна бачаць у чужых руках? Ці

дазволіла б сёньня Францыя, каб Корсіка знаходзілася пад Эрцбіскупам Гэнуэскім? Вядома, не, пры тым, што біскупы Гэнуэскія не зьяўляюцца сэнатарамі, як тыя з Польшчы: што зьяўляецца добрым доказам, што цыркуляр быў створаны не гэнуэзцам; бо той абавязкова зрабіў бы такую заўвагу.

У духоўным сэнсе вышэй узгаданы плян быў тым больш разумны; так што ў любым выпадку было лепей і больш адпаведна сьвятым Канонам, калі б тыя каталікі кіраваліся біскупам, які адначасова б і знаходзіўся там, чым трыма, якія там не знаходзяцца. Гэта было б адпаведна абставінам лепш – паставіць казённага біскупа, які ўвабраў з малаком маці звычаі свайго народу, грамадзскае заканадаўства і адмысловы тып працэдур сьвецкага ўраду (адпаведна якому заўсёды дзеля вядомай мэты мусіць ладзіць царкоўнае кіраваньне), чым трох адсутных, замежных, і таму іншадумных біскупаў. Заўсёды лепш, калі там ёсьць біскуп, да якога з павагай ставяцца пры двары, і які карыстаецца даверам сваёй Манархіні, чым трох біскупаў зайздросьлівага народу, якім двор не давярае; прычым не магла б існаваць тая гармонія паміж сьвятарствам і сьвецкай уладай, якая так патрэбная рэлігіі.

Што ж за грунтоўнае пярэчаньне можа зрабіць Рым супраць такога справядлівага, такога карыснага і мірнага пляну? Сябра, паверце мне; Рым ніколі не рабіў ніводнага, і нават ня мог зрабіць. Але **непераадольнае непадпарадкаваньне**? Яно было цалкам выдуманае аўтарам. Але навошта? Толькі дзеля таго, каб прымусіць нас паверыць у тое, што паміж Імпэратрыцай і Папай узніклі рознагалосьсі; з чаго можна было б паклёпніцкім чынам зрабіць выснову, што далейшае існаваньне езуітаў у Беларусі закранае прымус, які чыніцца рымскай Царкве.

Пятая няпраўда. **Папа супраць сваёй волі абраў пана Станіслава Сестранцэвіча, біскупа Малінскага на такую разгалінаваную і важную пасаду**, кіраваць усімі лацінскімі каталікамі ў Расеі. Гэтая няпраўда мае шмат частак; якія так дрэнна сатканыя разам, што яна адразу кідаецца ў вочы.

1-е. **Папа Пій VI выбраў цяперашняга біскупа ў Расеі**. Я ўжо казаў, што гэта хлусьня, выбар быў зроблены яшчэ панам Гарампі пры Клеменсе XIV; а Пій VI урачыста яго пацьвердзіў.

2-е. **Ён выбраў яго супраць сваёй волі**. Гэта паклёп супраць Біскупа, супраць Імпэратрыцы і супраць Папы. Супраць Біскупа, бо, пры ўмове, што ён пайшоў супраць волі найвышэйшага пастыра статку, яго можна разглядаць не менш, як праніклага найміта. Супраць Імпэратрыцы, бо нас хочуць прымусіць паверыць, нібыта яна ў некаторай ступені ўчыніла прымус Папе. І нарэшце супраць самаго Папы, бо ён мусіў не давяраць асобе, якой ён быў не задаволены, такую разгалінаваную і важную пасаду. Аўтар не шкадуе нікога, ён адразу нападае на кожнага, хто б ён ні быў.

Але чаму ён мусіў выбраць яго **супраць свай волі**? Хто прымусіў Папу да выбару біскупа Малінскага? Не Імпэратрыца, якая не вызначала ніякай асобы; не настырнасьць расейскіх паслоў, якія перадалі справу нунцыю; не хадайніцтвы біскупаў, якія таксама былі прымушаныя прыняць біскупства. Нунцый мог выбраць каго заўгодна. Як жа тады **супраць сваёй волі**? О, чорная няўдзячнасьць! Адсутнасьць выбару біскупаў па-за папскай дзяржавай у нашы часы ў залежнасьці ад Папы зрабілася такой свабоднай. Вядома, што Папа зусім не так бесперашкодна робіць Неапалітанскіх біскупаў, якіх ён мусіць абіраць. Дык чаму ж **супраць сваёй волі**? Што мае Папа супраць біскупа

Малінскага? Можа гэтаму прэлату не хапае вучонасьці, стараннасьці, бескарысьлівасьці, вернасьці Апостальскім рашэньням, ці якой іншай уласьцівасьці, якая патрабуецца ад біскупа? Дык за што ён заслужыў незадаволенасьць кіраўніка Царквы? Аўтар цыркуляра гэтага ня кажа; то ж бо ён гэтага ня ведае; інакш гэта не ў яго звычаі, замоўчваць справу, якая можа спрыяць зьнявазе абаронцы езуітаў.

Але давайце пакінем у баку спэкуляцыі, бо мы маем надзейныя паведамленьні. Гэты прэлат добра карыстаўся павагай антыезуіцкай і антыканстытуцыяналісцкай партыі да самога адкрыцьця паслушэнства: пра яго ўхвальна адгукаліся ў Прапагандзе; нунцыі ў Варшаве і Вене ўхвальна пісалі пра яго: на той момант Папа быў, так бы мовіць, задаволены ім. Ці ведаеце Вы, чаму? бо яго лічылі ворагам езуітаў; і, магчыма, ён і быў такім, калі на ім заснавалі надзею вынішчыць рэшткі езуітызму. Толькі Бог, які пастанавіў межы справам і замахам людзей, не даў гэтай надзеі зьдзейсьніцца. Біскуп – можа гэта здарылася таму, што ён не знайшоў за езуітамі таго зла, якое ім хацелі прыпісаць, ці каб выказаць Імпэратрыцы сваю паслужлівасьць – не адказаў надзеям Партыі, ён адчыніў езуітам паслушэнства і, замест таго каб іх вынішчыць, падтрымаў іх далейшае існаваньне. Калі ў Рыме пра гэта даведаліся некаторыя людзі, якія ня ведаю празь якія дзьверы ўвайшлі ў пастырскі стан статка Езуса Хрыста, супраць яго была складзена змова; яны казалі, пісалі, рабілі тысячамі спосабаў і праз тысячы паклёпаў намаганьне, каб дыскрэдытаваць гэтага добрага прэлата тым, што яго аб’яўлялі дзёрзкім, наймітам, які быў абраны супраць волі Папы, парушальнікам прывілеяў агульнага Прымата, вераломным чалавекам, схізматыкам, і ня ведаю кім яшчэ. Я спадзяюся, гэты разумны прэлат ніколі не аднясе гэтыя прыкрыя гаворкі на конт Намесьніка Езуса Хрыста; пра астатніх ён будзе думаць тое, што мусіць пра іх думаць; бо ён ведае, што, **калі б ён імкнуўся падабацца людзям, то ніколі не зрабіўся б служыцелем Хрыста**.

## §. V.

„Поўная глыбокай пашаны ўвага, якую гэты прэлат спачатку выказваў Кангрэгацыі распаўсюджваньня веры і папскаму нунцыю ў Варшаве, давала сьвятому Айцу надзею, што ён з аналягічнай руплівасьцю і з аналягічнай стойкасьцю будзе аддаваць належнае абавязкам свайго пастырства і асабліваму даверу, які ён яму аказаў.“

Гэтыя думкі патрабуюць тлумачэньня. Сьвяты Павал, які пісаў да Цітуса і Цімафея, вызначыў уласьцівасьці, якія складаюць добрага біскупа; але ён забыўся на гэтую поўную глыбокай пашаны ўвагу. Пан Стэфан дэ Бёмон[111], арцыбіскуп у Парыжы, быў у гэтым стагодзьдзі ўзорам біскупаў, аднак не выказваў поўнай глыбокай пашаны ўвагі нунцыю Жыро[112]. Гэта так дзіўна, што некаторыя папскія міністры, біяграфіі якіх вядомыя, жадаюць патрабаваць ад

[111] Стэфан дэ Бёмон (Christophe de Beaumont) 26.07.1703 – 12.12.1781 — французскі сьвятар. Арцыбіскуп у Парыжы з 1746 г.

[112] Бернардзіна Жыро (Bernardino Giraud) 14.07.1721 – 05.05.1782 — каталіцкі кардынал. Займаў пасаду Апостальскага нунцыя ў Францыі з 1767 па 1773 гг.

біскупаў той сьляпой пакорлівасьці, якую калісь выказвалі Барамэю[113], Барбарыгі[114] ды Альбэргаці[115].

Насамрэч, падпарадкаваньне першаму пастыру зьяўляецца абавязкам біскупаў. Кангрэгацыі і нунцыі, якія, на думку аўтара цыркуляру, ёсьць голас сьвятога Айца, патрабуюць глыбокай пашаны і пакорлівасьці; але не забываючыся на тое, што яны не Папа, а толькі яго голас. Гэтая глыбокая пашана, гэтая пакорлівасьць біскупаў, мусіць быць адпаведнай іх Апостальскаму Званьню; гэта мусіць быць такая глыбокая пашана і пакорлівасьць, якая належыць сапраўдным пастырам, якіх Бог паставіў над часткай свайго статку; глыбокая пашана і пакорлівасьць ва ўсіх справах, што зьяўляюцца карыснымі дзеля выратаваньня душы, дзеля пашырэньня веры і дзеля стварэньня Царства Боскага; разумная і сьціплая пакорлівасьць, якая накіраваная на высокія мэты іхнага сану.

Біскупы ўсталяваныя Богам як сапраўдныя настаўнікі вернікаў і як судзьдзі ў рэлігійных спрэчках, хаця яны адначасова могуць памыляцца, калі яны не аб’яднаўшыся са сваім чальцом зьвяртаюцца да ўсёй Царквы. Яны вочы Езуса Хрыста; таму яны павінны дакладна бачыць, ці словы найвышэйшага пастыра верна ды непадробна даходзяць да іх праз звычайныя рупары ды каналы: пры гэтым мы ведаем, як нам добра знаёма, што розныя рупары даюць зусім розны гук; і што праз папскія каналы праходзіла ўжо шмат несправядлівасьцей супраць сапраўдных папскіх меркаваньняў. Гэта толькі дужа вядома, што некаторыя папскія міністры займаюцца інтарэсамі Царквы у залежнасьці ад таго, ці дабратворна для іх уласнай карысьці шукаць сваё шчасьце пад імем справы боскай.

Спытайце гэтых паноў, ці трэба мець поўную глыбокай пашаны ўвагу, якую яны патрабуюць у дачыненьні Прапаганды, таксама й да Кардынала Кастэлі[116], кіраўніка гэтай Кангрэгацыі, ці да пана Борджыа, яе сакратара? Да Кастэлі? гэтага былога сябра езуітаў? Якую ўвагу? Якую пакорлівасьць? Ці не вядома, што Кастэлі зьяўляецца летуценьнікам, які з надзеі на, Бог які ведае, рай, даў адмову гішпанскім дублонам? Спаганьшчыкам сьвятых, які відавочна пратэставаў супраць прадпрыемства па ўсталяваньню на алтар палафоксавых ідалаў? Бязбожным чалавекам, які толькі зьдзекваўся зь вялікіх цудаў сьвятога Лаўрэнцыя Ганганэлі, калі так шмат мужчын і жанчын плацілі штодзень па 15-20 паола на конт антыезуіцкай партыі, каб атрымаць дазвол на працягу гадзіны маліцца на каленях ля магілы таго вялікага Папы? Адным з найразбэшчаных свавольнікаў, які вучыць, што ва ўсіх дзесяці боскіх запаветах не забаронена, і наогул не зьяўляецца цяжкім і недаравальным грахом, глядзець на Інстытут сьвятога Ігнацыя[117]. Чалавекам, які амаль ерэтычна разважае (і калі нам тут захочуць запярэчыць, то мы зусім адкінем **амаль** прэч і назавем яго ерэтыкам) у тым, што ён сказаў, што ані сьвяты Пётр, аніякія астатнія Папы, ані нават

[113] Карла Барамэё (іт. Carlo Borromeo, лац. Carolus Borromeus) 02.10.1538 – 03.11.1584 — каталіцкі кардынал і сьвяты. Адзін з найвыбітных дзеячаў контррэфармацыі, ініцыятар рэформы манаскіх ордэнаў.

[114] Грэгорыё Барбарыго (іт. Gregorio Barbarigo) 16.09.1625 – 18.06.1697 — кардынал, дыплямат і багаслоў, кананізаваны каталіцкай царквой. Фундатар бібліятэкі і друкарні ў Падуі.

[115] Нікола Альбергаці (іт. Niccolò Albergati) 1373 – 09.05.1443 — італьянскі кардынал і дыплямат. Адкрыў Фларэнтыйскі сабор, які спрыяў збліжэньню каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. У 1744 г. абвешчаны сьвятым каталіцкай царквы.

[116] Джузэпе Марыя Кастэлі (іт. Giuseppe Maria Castelli) 7.10.1705 – 09.04.1780 — італьянскі кардынал, прэфект Кангрэгацыі па распаўсюду веры з 26.04.1763 да самой сьмерці.

[117] Маецца на ўвазе Ордэн езуітаў (Суполка Езуса), заснаваная Ігнацыям Лаёлам у 1534 г.

Клеменс XIV, ня маюць права зьняважаць езуітаў, забіраць з паўнаты ўлады каштоўнасьці іх калегіюмаў і цэркваў: відавочная ерась паводле загаду нашага пана Езуса Хрыста, ў першых дзьвух цыклах якога адмыслова сказана, што таму Папе, дабраслаўёнай памяці, Апостальскае Пастырства было даверана не так як апосталам, не так як сьвятому Пятру, не так як астатнім Папам, але зусім асаблівым чынам, а менавіта з неабмежаванымі паўнамоцтвамі рабіць з езуітамі тое, што ён толькі пажадае. Такім чынам да Кастэлі, нават пры тым, што ян зьяўляецца кіраўнікам сьвятой Кангрэгацыі Прапаганды, ня трэба мець ані ўвагі, ані пакорлівасьці, аніякага даверу ў дачыненьні да езуітаў, але толькі да пана Сакрэтара, які разважае паводле нашых прынцыпаў і моды.

Калі сур’ёзна, сябра, то ўвагі і пакорлівасьці да нунцыяў і да падначальных ім судоў недастаткова, каб Папа мог сябе запэўніць, што ён забяспечыў нейкую царкву добрым біскупам. Добры запас разумнага вучэньня, эфектыўная стараннасьць супраць распусты нораваў, цьвёрдая як сталь грудзь супраць ворагаў Царквы, шчырая адданасьць канстытуцыям дагмату; няспыннае вывучэньне навукі сьвятых; сапраўдная бескарысьлівасьць і пагарда сьвецкімі дабротамі, якую не зламіць ані ўшанаваньнямі, ані дублонамі: гэты ёсьць вартыя ўласьцівасьці пераемніка апосталаў. Увага і пакорлівасьць добрыя толькі тады, калі яны ўсталяваныя паводле правілаў разумнасьці і сьціпласьці. Папа зьяўляецца чальцом біскупаў; але Папа і бісупы зьяўляюцца слугамі Бога, Які некалі будзе па ўсёй строгасьці судзіць як аднаго, так і другіх, не толькі па той ўвазе і пакорлівасьці, якую яны выказвалі адно аднаму, але перад усім па выкананьню іх боскай службы.

Каб завяршыць гэты артыкул цыркуляра, я хачу кінуць толькі адзін позірк на добрую надзею, якую мусіў мець Папа наконт новага біскупа. Я не настроены тут зьбіраць у адно цэлае ідэі, якія Папа мае пра гэтага прэлата. Сьвяты Айцец ведае поўную глыбокай пашаны ўвагу біскупа Малінскага да яго нунцыя; ён спадзяецца, што той мусіць дакладна выконваць біскупскія абавязкі; ён ускладае на яго асаблівы давер; і тым не менш ён выбірае яго супраць сваёй волі. Нашаму аўтару нельга адмовіць у дары дакладнасьці ў хлусьне. Яго хлусьню бачыць кожны, што яна зьяўляецца хлусьнёй. Але я хачу спыніцца толькі на гэтай надзее.

На дзьве моманты спадзяваўся Папа ў біскупе Малінскім паводле цыркуляра: **першае, што ён абавязкам свайго пастырства; другое, асабліваму даверу, якой быў ускладзены на яго, будзе адпавядаць**. Зараз я пытаюся на дзьве рэчы: першае, ці належай аб’ект гэтага асаблівага даверу да біскупскіх абавязкаў? Ці быў толькі другараднай справай? Ці пярэчыў біскупскім абавязкам? Калі ён пярэчыў біскупскім абавязкам, то Біскуп мог са спакойным сумленьнем яму не адпавядаць; калі гэта была другарадная справа, то Папа мог яе не загадваць; бо Папа зьяўляецца чальцом біскупаў толькі ў тым, што належыць да біскупскіх, сьвятарскіх ці хрысьціянскіх абавязкаў. Такім чынам гэты асаблівы давер закранаў біскупскіе абавязкі: і тады я пытаюся на другое:

Калі біскуп Малінскі адпавядае абавязкам свайго пастырства, то ўжо праз гэта ён дастаткова адпавядаў таксама й таму **асабліваму** даверу, які быў ускладзены на яго? Ці не так? што гэта за дурное пытаньне! Абавязкі пастырства належаць да агульнага даверу, які ўскладаецца на ўсех біскупаў. Але на гэтага расейскага біскупа ўскладаеццаа асаблівы давер, не з боку Папы, але з боку некаторых прыхільнікаў Партыі, якія лісьлівілі сабе, што змогуць

ажыцьцяўляць свае намеры праз гэтага прэлата. Калі б ён адпавядаў гэтаму асабліваму даверу, то ані аўтар цыркуляру, ані нунцыі, ані некаторыя сябры Прапаганды не распаўсюджвалі бы на поўнач свае трывогі, каб даведацца як там выконваецца пастырства. Тады да біскупа Малінснскага ставіліся бы з усёй той павагай, зь якой ставяцца шмат да якіх іншых біскупаў, якія ў выпадку езуіцкай трагедыі раззлавалі сьвет праз жоўцевыя, паклёпніцкія і некаталіцкія пастырскія лісты; і тым не менш Рым адносіўся да гэтага з задавальненьнем. Ці можна было ня ведаць **гэты асаблівы давер**? Мы хочам пачытаць далеў у цыркуляры: можа мы гэта знойдзем.

# §. VI.

„Ён таксама не замарудзіў, з дапамогай вышэй узгаданага нунцыя, адкрыць Яго Сьвятасьці свой неспакой, які ў ім выклікаюць езуіты, што пражываюць у Беларусі; якія пад адгаворкай, што загад аб скасаваньні Суполкі Езуса ў іх асяродзьдзі ня быў агучаны, працягваюць унутрана і зьнешне паводзіць сябе так, нібыта скасаваны інстытут насамрэч яшчэ існуе.“

Ці пачулі Вы цяпер, у чым складаюцца увага, пакорлівасьць, асаблівы давер і найвялікшы абавязак Біскупа? Біскуп, які піша і выказваецца супраць езуітаў, **ужо толькі праз гэта** зьяўляецца вялікім біскупам, ён будзе тварыць цуды, як Ганганэлі; і будзе потым накіраваны на кананізацыю, як Палафокс. Калі біскуп зьяўляецца ворагам езуітаў, то гэтага дастаткова каб празьмерна адпавядаць абавязкам яго пастырства: на яго ўскладаецца асаблівы давер: яму даручаюць самую слаўную і далікатную справу і шэдэўр гэтага стагодзьдзя, з чым пагаджаюцца сьвятарства і сьвецкая ўлада; і на што накіраваныя паслы, нунцыятуры, міністэрствы, інтрыгі, модныя філазофіі і грошы шматлікіх народаў.

Сакрэтныя лісты ***)**[118], якія яму напішуць на гэты конт, маглі б зрабіцца каштоўным скарбам у галіне манускрыптаў. Можна выказаць здагадку, і гэта здагадка не будзе дзёрзкай, што яны падбадзёраць новага біскупа, што ён мусіць не дапусьціць, каб яго пераадолелі пачуцьці чалавечнасьці, павагі і здаровага сэнсу: у гэтам і складаецца паводле моды сіла духа. Яны нанова напішуць яму, што трэба не шкадаваць ані грошай ані паклёпаў; што ён мусіць праклясьці езуіцкае вучэньне, калі яно пры гэтым зьяўляецца разумным вучэньнем; што ён мусіць абвясьціць езуітаў марнымі і злачыннымі людзьмі, калі яны пры гэтым зьяўляюцца нявіннымі і карыснымі; што ён мусіць праклясьці іх без абвінавачваньня, без судовага працэсу, без абароны і без злачынства; пасьля таго, як такім чынам быў спалены Малагрыда[119], быў

***)** Тры гады таму з Расеі было перададзена Папе шмат лістоў, і менавіта такіх, што былі адпраўленыя кардыналамі, прэлатамі, манахамі з Рыму ў Польшчы ці Расею, але нажаль з правай рукі трапілі ў няправую. У некаторых была абражаная годная славы Кацярына, асабліва прэлатам Альфані, які аднак сьмерцю апярэдзіў сваё пакараньне. Яны залішне выкрывалі сакрэт антыезуіцкай інтрыгі. Беніслаўскі атрымаў даручэньне расейскага двара, перадаць гэтыя лісты Яго Сьвятасьці.

[118] Ян Беніслаўскі (Jan Benisławski) 16.07.1735 – 25.03.1812 – каталіцкі сьвятар, езуіт. Атрымаў духоўны сан у Вільні. З 1783 г. біскуп каадзьютар (памочнік) у Магілёве.

[119] Габрыэль Малагрыда (Gabriel Malagrida) 18.09.1689 – 21.09.1761 – партугальскі сьвятар, езуіт. Люты праціўнік рэформ міністра Помбаля. За заклікі да зьвяржэньня ўраду быў пасаджаны ў турму, дзе напісаў трактат пра сьв. Ганну. Інквізыцыя, якая залежала ад міністра Помбаля, знайшла гэты твор ерэтычным і 21 верасьня 1761 г. Малагрыда быў гарацíраваны, а яго цела спаленае.

асуджаны Пізані, быў зьняволены Рычы[120] і была зьнішчана Суполка, ён мусіць намагацца дасягнуць сваёй мэты не зьвяртаючыся на незаконнасьць сродкаў, калі пры гэтым будзе жахлівым чынам абражана права, калі пры гэтым каталіцызм падвяргаецца небяспецы, праз што пакутуе вера і трыумфуе схізма. Якая тут справа да веры, душ і рэлігіі? Гэта рэчы, пра якія мусіць клапаціцца Бог і непераадольная пераможная Міласьць, і ў якія чалавеку ня трэба ўмешвацца. Яны напішуць, што, калі былі б патрэбныя судовыя пазовы, то трэба было набыць іх за выдаткі маленькай царквы; калі абвінавачаньне ўжо адбылося, то ня трэба ўцягвацца ані ў разгляд, ані ў суд, таму што гэтыя фармальнасьці ўжо састарэлі; на сёньняшні дзень чалавек падыходзіць да гэтага чыста рацыянальна; чалавек праклінае амаль кожнага, каго пажадае і таму што жадае, без нязручнасьці судзьдзяў і сьведкаў, і не губляючы шмат часу і паперы. Сябра, Вы зьдзіўленыя, і лічыце, што я кажу зашмат. Але наколькі яшчэ больш я мог бы Вам распавесьці не парушаючы праўды. Усё ж мы хочам дасканала прайсьці гэтую частку цыркуляру. Тут ёсьць тры пункты, на якія трэба зьвярнуць увагу: першы, злачынства езуітаў; другі, адгаворка, пад якой хаваецца гэтае злачынства; і трэці, непакой, які праз гэта прычыняецца біскупу.

Слухайце гэтае злачынства. **Расейскія езуіты працягваюць унутрана і зьнешне паводзіць сябе паводле скасаванага інстытута**. У чым тут злачынства? Ці не больш варта пашаны паводзіць сябе паводле інстытута сьвятога Ігнацыя, чым паводле сёньняшняй моды? Ці не павінна быць лепш, калі сьвятар жыве як езуіт, чым калі ён жыве толькі эпікурэйскім чынам як сьвецкі чалавек, які большасьць свайго часу прысьвячае візытам, тэатру, забаўляльным паездкам і дарэмным забавам? Ці не павінна быць лепш жыць так, як жывуць езуіты, чым так, як жывуць у Рыме шматлікія бязьдзейныя сьвецкія сьвятары, якія са свайго жыцьця, калі яно крыху няўтаймаванае, траціну праводзяць за сном, траціну за ежай, шпацырамі і гульнямі, і траціну прызначылі на тое, каб даваць і атрымліваць паклоны; ды каб распаўсюджваць ці ўдыхаць ладан найгідкай лісьлівасьці?

Уявіце таксама, нібыта паводле інстытута сьвятога Ігнацыя жадае кіравацца не нейкі езуіт з Расеі, не рымскі экс-езуіт, але сьвятар, прэлат, біскуп, кардынал, нават сам Папа, тады што было б у гэтым злога? Гэты інстытут са сваімі статутамі і правіламі, ці не зьяўляецца ён зборам эвангелічных прынцыпаў, які быў складзены адным сьвятым, быў ухвалены і пацьверджаны 19-цю Папамі ў больш за 100 булах і загадах, быў прызнаны дабрачынным агульнай Царкоўнай Радай, і быў высока ўшанаваны самымі паважанымі асобамі, якіх толькі мела Царква за гэтыя апошнія тры стагодзьдзі, такімі як сьвяты Пій V[121], сьвяты Карла Барамэё, сьвяты Філіп Нэры[122], сьвяты Фама з Вілановы[123], сьв. Людвіг Бэртран[124], сьв. Францыск Сальскі[125], сьв. Камільё[126],

---

120 Ларэнца Рычы (Lorenzo Ricci) 02.08.1703 – 29.11.1775 – 18-ы генэрал Ордэна езуітаў. Кіраваў справамі Суполкі да яе скасаваньня, пасьля чаго быў арыштаваны і заключаны ў замак Арханёла Міхаіла, дзе й памёр праз два гады.

121 Пій V (Pius PP. V), сьвецкае імя Антоніо Мікеле Гісліеры (іт. Antonio Michele Ghislieri) 13.12.1504 – 01.05.1572 — папа рымскі з 7 студзеня 1566 па 1 травень 1572.

122 Філіпо Ромоло Неры (іт. Filippo Romolo Neri), 22.07.1515 – 25.05.1595 — каталіцкі сьвяты, заснавальнік кангрэгацыі аратарыянцаў.

123 Фама з Вілановы (Tommaso di Villanova), Томас Гарсія Мартынэз (Tomás García Martínez) 1488 – 08.09.1555 – гішпанскій сьвятар ордэна Сьв. Аўгустына, які пазьней стаў арцыбіскупам Валенсыі.

124 Людвіг Бэртран (гішп. Luis Bertrán) 01.01.1526 – 09.10.1581 – каталіцкі сьвятар, місыянэр ордэна дамініканцаў, “Апостал Паўднёвай Амерыкі”.

сьв. Вінцэнт дэ Поль[127], сьв. Тэрэза ад Езуса[128], сьв. Марыя Магдалена дэ Пацы[129], сьв. Яна Францыска дэ Шанталь[130], блаславёны Язафат арцыбіскуп Полацкі[131], як шаноўныя мужы Тэксэды, Авілі[132], Гранады і незлічонымі іншымі? Ці гэты інстытут не быў падтрыманы найлепшымі ўладарамі, ці ім не захапляліся найславутыя хрысьціянскія палітыкі, ці не быў ён ненавісны ўсім ерэтыкам? Ці не ўсталявала рымская Царква дзевяць сьвятых на алтар, і ці не агучвала гераічныя дабрачыннасьці некаторых іншых; і ці не дасьледвала яна сапраўды ў афіцыйным працэсе гераічнае жыцьцё сотняў іншых, каб прадставіць іх народам дзеля пакланеньня і пераймання, бо яны набожна жылі паводле скасаванага інстытута? Што цяпер скажуць? Што сьвятасьць зрабілася злачынствам? У нас сапраўды цяпер новае Эвангельле?

Цяпер слухайце недарэчнасьць аўтара цыркуляру; яна вартая яго вялікага розуму. Ён верыць, што скасаваньне Суполкі ўключае афіцыйную адмену тых хрысьціянскіх прынцыпаў, якія зьмяшчаюцца ў статутах і правілах гэтага ордэна; адпаведна ён верыць, што Папа Ганганэлі адмяніў прынцыпы хрысьціянскай беднасьці, цноты, паслухмянасьці, любові, пакоры, малітвы, адмаўленьня ад самаго сябе, стараннасьці дзеля выратаваньня душ і дзеля большай славы Боскай, якія складалі характар скасаванага інстытута. Добры чалавек не разумее, што сьвятасьць інстытута сьвятога Ігнацыя мела месца яшчэ да ўхваленьня Царквы; што гэты інстытут зьяўляецца сьвятым не таму, што Папы яго ўхвалілі; але Папы ўхвалілі яго таму, што ён быў сьвятым; Павел III[133] у буле: Regimi militantis Ecclesia адмыслова кажа, што ён таму ўхваліў гэты лад жыцьця, бо ён **роўны эвангельскім парадам і кананічным статутам айцоў**. Ён не разумее, што ані Царква, ані Папа не могуць вынайсьці новую сьвятасьць; што гэта стаіць не ў яго ўладзе, рабіць інстытуты сьвятымі ці не сьвятымі, але толькі абвяшчаць народам і запэўніваць іх, што той ці іншы інстытут зьяўляецца сьвятым; што, адпаведна, гэткае абвяшчэньне застаецца нязьменным, бо сьвятасьць застаецца заўсёды такой самай і нязьменнай. Ён не разумее, што праз скасаваньне Інстытуту большае, што магло адбыцца, (калі яно наогул магло адбыцца) было тое, што езуітаў маглі вызваліць ад

---

[125] Францыск Сальскі (фр. St. François de Sales) 21.08.1567 – 28.12.1622 – каталіцкі сьвяты, біскуп Жэнэвы, Настаўнік Царквы, заснавальнік кангрэгацыі візытанак. Вядомы сваімі творамі аб духоўным жыцьці.

[126] Камільё дэ Леліс (іт. Camillo de Lellis) 25.05.1550 – 14.07.1614 – каталіцкі сьвяты, заснавальнік ордэна каміліянцаў.

[127] Вінцэнт дэ Поль (фр. Vincent de Paul) 24.04.1581 – 27.09.1660 – каталіцкі сьвяты, заснавацель кангрэгацыі лазарыстаў і кангрэгацыі дачок міласэрнасьці.

[128] Тэрэса Санчэс-дэ-Сэпэда й Аўмада (гішп. Teresa Sánchez de Cepeda y Ahumada) больш вядомая як сьвятая Тэрэза ад Езуса (Teresa de Jesús), сьвятая Тэрэза з Авілі (Teresa de Ávila), сьвятая Тэрэза Вялікая альбо сьвятая Тэрэза Гішпанская (28.03.1515 – 4.10.1582) — гішпанская законьніца, містычная паэтка, доктарка касьцёлу, рэфарматарка закону кармэлітак, заснавальніца ордэна «босых» кармэлітак.

[129] Марыя Магдалена дэ Пацы (іт. Maria Maddalena de' Pazzi) 02.04.1566 – 25.05.1607 – каталіцкія сьвятая, манахіня-кармелітка, містык.

[130] Яна Францыска Фрэмьё, баранэса дэ Шанталь (фр. Jeanne-Françoise Frémiot, baronne de Chantal) 23.01.1572 – 13.12.1641 – каталіцкая сьвятая, заснавальніца ордэна візытанак, паплечніца сьв. Францыска Сальскага.

[131] Язафат (Іасафат) Кунцэвіч (1580 – 12.11.1623) — уніяцкі царкоўна-палітычны дзяяч Вялікага Княства Літоўскага, царкоўны пісьменьнік, сьвятапакутнік. З 1618г. арцыбіскуп Полацкі.

[132] Авіля (гішп. Ávila) – горад у Гішпаніі, адміністрацыйны цэнтар аднайменнай правінцыі. Зьяўляецца цэнтрам каталіцкай містыкі. Сусьветнай вядомасьцю карыстаецца сьвятая Тэрэза з Авілі, большая частка мошчаў якой захоўваецца ў розных храмах і кляштарах гораду.

[133] Павел III (Paulus PP III), сьвецкае імя Алесандра Фарнэзэ (іт. Alessandro Farnese) 29.02.1468 – 10.11.1549 — папа рымскі з 13 кастрычніка 1534 па 10 лістапада 1549 г.

**адмысловай еднасьці**, кіравацца гэтымі прынцыпамі, і панізіць да разраду эвангельскіх парад тыя абавязкі, якія для іх, з прычыны іх статусу, які яны прынялі, ператварыліся ў запаветы. Але прытрымлівацца правілаў, статутаў і езуіцкага інстытуту ня можа быць забаронена так жа, як ня могуць быць забароненыя пабожнасьць, сьвятасьць і Эвангельле: таму нават у нашыя дні неезуіт можа жыць як езуіт, таксама як сьвецкі чалавек, як ордэнскі сьвятар; бо жыць як езуіт, як ордэнскі сьвятар, гэта нішто іншае, як жыць як добры хрысьціянін: а жыць як добры хрысьціянін заўсёды дазволена, нават без Папскага дазволу, нават супраць Папскай волі. Цяпер Вам вядома злачынства. Слухайце таксама адгаворку.

“Пад адгаворкай, што загад аб скасаваньні ў іх асяродзьдзі ня быў агучаны.” Каб лепш зразумець адгаворку, я хачу аб'яднаць яе са злачынствам; і Вы пабачыце зусім новы, небывалы тып злачынстваў і адгаворак. Злачынствамі спрадвеку называліся парушэньні законаў; а адгаворкамі называліся выдуманыя ілюзіі праведнасьці, якімі хаваюць злачынства. Зусім нешта іншае азначаюць гэтыя словы ў слоўніка нашага аўтара. Расейскія езуіты прытрымліваюцца сваіх правілаў: гэта для яго злачынства. Яны вераць, што зьяўляюцца прывязанымі да гэтага, пакуль ім не будзе пазначана скасаваньне: гэта для яго адгаворка. Езуіты пад агульныя апладысменты служаць народу паводле свайго інстытуту праз выхаваньне моладзі і праз настаўленьне ў навуках: гэта вялікае злачынства. Але гэта загадвае ім ўладар і біскуп; яны не атрымалі ніякага адваротнага загаду на гэты конт; яны былі пакінутыя на сваіх пасадах; ім не было яшчэ прызначана ніякіх пераемнікаў: гэта адгаворка. Расейскія езуіты прапаведваюць, катэхізуюць, слухаюць споведзі, вяртаюць заблудных і вядуць іх назад ва ўлоньне Царквы: гэта невыноснае злачынства. Але ўсё гэта яны робяць са згоды біскупа і з павагай, якую яны маюць ад яго: гэта злачынства.

Але самае вялікае злачынства і самую брыдкую адгаворку мы яшчэ ня бачылі. Біскуп, замест таго каб скасаваць езуітаў, даў ім адчыніць паслушэнства; ён загадаў, што яны павінны прыняць паслушнікаў; ён зрабіў правінцыялам таго, хто быў віцэ-правінцыялам; ён узьняў маленькую малінскую рэзыдэнцыю да калегіюма; і паабяцаў, што ў хуткім часе яны павінны атрымаць яшчэ больш дамоў: о, гэта злачынства! гэта злачынста! Але Біскуп прад'яўляе папскі загад, які дае яму паўнамоцтвы рабіць яшчэ значна большае: о, што гэта за адгаворка! Сябра! тут я не магу падумаць нічога іншага, акрамя таго, што аўтар цыркуляру мусіць быць вялікім чарадзеем, які найпрыстойныя дзеяньні ператварае ў злачынства, а найразумныя абгрунтаваньні ў адгаворкі.

Дарэчы я не магу досыць зьдзіўляцца глупству езуітаў. Той вялікі цуд праніклівасьці, тыя вялікія палітыкі, што зрабілі падазронымі самыя прадбачлівыя двары сьвету, мусяць быць насамрэч нічым іншым, як кучкай дурных і абмежаваных людзей. Навошта жадаюць яны ўзваліць на сябе сорам такога жудаснага злачынства? Навошта падвяргаць сябе незадавальненьню наймагутных зямлі і рабіць сябе пасьмешышчам перад усёй Эўропай? Усё, каб пазьбегчы свабоды, каб мець магчымасьць весьці самотнае, пакорлівае, працавітае, зусім невыноснае жыцьцё, каб у школах праводзіць свае дні поўнымі неспакою, каб у шпіталях удыхаць смуродны подых, каб у вязьніцах выкалупваць паразітаў, каб у місіях пераходзіць цераз замёрзлыя рэкі і караскацца цераз непраходныя горы: і ўсё гэта без платы, без узнагароды. Што гэта за глупства, дзеля таго, каб весьці такое стомнае жыцьцё, зьдзяйсьняць такое вялікае злачынства і выкленчваць так шмат адгаворак!

Наколькі лепшыя ў гэтым некаторыя ворагі езуітаў? Іх злачынствы дастаткова вядомыя і такія вялікія, што імі абураецца цэлы сьвет, хрысьціянін і паганец, юдэй і самарыцянін, рымлянін і варвар: толькі вядома, чаму гэтыя злачынствы робяцца. Калі яны адмовіліся ад характару сьвятара, хрысьціяніна, сумленнага чалавека, ад пашаны, ад праведнасьці і ад раю, то вядома, чаму? Калі яны сказілі прынцыпы грамадзянскага, духоўнага, боскага і натуральнага права; калі яны прагналі з найшаноўных судоў навуку, праўду, справядлівасьць, сумленнасьць і законнасьць; калі яны задушылі нявіннасьць, далі волю ўсім заганам, сапсавалі моладзь і спрыялі агульнаму легкадумству, то вядома, чаму? Калі яны перашкодзілі распаўсюджваньню веры, апаганілі скініі, вылішылі сьвятарства яго аўтарытэту і калі яны зрабілі намаганьне, (але дарма, бо Бог яшчэ назірае за намі) усталяваць на алтар паклёп, прагу да помсты і бязбожнасьць, то вядома, чаму? Паглядзіце толькі, як некаторыя зь іх зь вялікай сьвітай падарожнічаюць праз двары і робяць цудоўную раскошу; яны вытанчана харчуюцца, гуляюць і атрымліваюць асалоду за кошт Апостальства, поўныя тытулаў, пансыёнаў і абацтваў; яны адкормліваюць сваю прыслугу, атачаюць сябе аўдытарамі, сакратарамі і дарадцамі, якія часткова хаваюць іх невуцтва і робяць за іх усю працу, справы ў іх паварочваюцца за Папу, ці супраць Папы, за сьвяты Сталец, ці супраць рымскай Царквы; і апошняе, яны зьяўляюцца радамантамі і арыстархамі, якія раздаюць ворагам веры міласьці, але тым, хто працуе ў вінаградніку Езуса Хрыста, вяроўку і адлучэньне. Гэта, дарэчы, завецца рабіць гандаль са злачынствам. Гэтыя зьдзяйсьняюць злачынства каб зрабіцца вялікімі, багатымі, магутнымі і стаць патрыцыямі, хто Францыі, хто Мурсіі[134] і г.д. Але езуіты, якія зьдзяйсьняюць злачынства, каб быць езуітамі, што азначае беднымі, працавітымі і пагарджанымі... Хопіць пра іх. Мы мусім кінуць яшчэ адзін позірк на гэтае езуіцкае злачынства.

Расейскія езуіты, па сьведчаньнях іх уласнага біскупа, **працягваюць унутрана і зьнешне паводзіць сябе так, нібыта скасаваны інстытут насамрэч яшчэ існуе**.

Ці можа быць сказана пра зруйнаваны ордэн нешта больш годнае хвалы? І ці не ставяць гэтыя словы ў нявыгадны стан тых, хто яго зруйнаваў? Найвялікшая хвала, якую можна выказаць духоўнаму ордэну, які знаходзіцца ў сваім росквіце, гэта тое, што ён жыве паводле свайго інстытуту. Адзіная прычына, якую можа мець Царква, каб скасаваць духоўны ордэн, гэта тое, што ён не жыве паводле свайго інстытуту. Калі рымская Царква мусіць не ўхваляць жыцьцё паводле нейкага інстытута, які быў ухвалены гэтай самай Царквой, то яна сама трапляе, на мой погляд, у відавочную і ганебную супярэчнасьць. Разьвівайце далей гэтыя думкі.

Што гэта азначае: ордэн прыйшоў у заняпад? Нішто іншае, як тое, што ён перапыніў рэгулярна прытрымлівацца інстытута: што адбываецца, калі патухае запал, калі ламаецца плаціна закона, калі дух распыляецца і кіруецца паводле чужых, дарэмных жарсьцяў; калі ў кляштарах жывуць ня ведаючы, навошта яны былі заснаваныя. Ці гэты хаос бачны ў нашыя дні, я пакіну на вырак некаторым асобам.

Калі б я жадаў за кошт некаторых манахаў, якія не саромеючыся выступаюць супраць езуітаў, граць зь сябе вучонага; то я б паказаў, што ў

[134] Мурсія (гішп. Murcia) – горад на паўднёвым усходзе Гішпаніі. У XVIII ст. перажыў росквіт дзякуючы росту шаўковай прамысловасьці.

некаторых мясьцінах ад сьвятых інстытутаў розных ордэнаў засталося не больш, як толькі пустое імя нейкага манаха, нейкага пустэльніка, нейкага прапаведніка і нейкага жабрачага манаха; я б паказаў, што невыкананьне сьвятых інстытутаў уладарамі, біскупамі, папамі і царквой выклікалі вялікія непрыемнасьці; я б паказаў, што розныя папы, сярод якіх я назваў бы Бенэдыкта XII[135] ды Інакенція IV[136], усур'ёз меркавалі скасаваць гэтую крыніцу прыкрасьцяў, але дарэмна з прычыны непаслухмянасьці і відавочнага непадпарадкаваньня некаторых ордэнскіх сьвятароў. Адзін толькі гэты бок я, магчыма, закрану іншым разам, каб прытупіць зубы некаторым манахам.

Каб зноўку вярнуцца да аўтара цыркуляру, хто не прымае гэтую галаву, якая замест таго, каб пісаць сатыры, робіць усхваленьні? Каб я быў знаёмы з гэтым чалавекам, то я б адкрыта выказаў яму сваё меркаваньне. Мой пан, сказаў бы я, ці ведаеце Вы, што казаць на мове чалавечага роду, што тыя працягваюць жыць паводле свайго інстытуту, азначае тое самае, што яны жывуць паводле Эвангельля, што яны дакладна выконваюць свае абавязкі, што яны ствараюць шмат добрага сярод народу; і што іх скасаваньне было вялікай несправядлівасьцю супраць чалавечнасьці, гвалтоўным учынкам, прыкрасьцю, вечнай плямай ганьбы, непазбыўнай стыгмай цяперашняга стагодзьдзя. Каб у будучым складаць лепшыя цыркуляры, звыкніцеся, мой пан, разумець справы так, як іх разумее разважны чалавек; інакш супраць Вашай волі Вы будзеце рабіць абарончыя звароты для Вашых ворагаў і ганьбаваньне супраць Вас саміх.

**Адны толькі паводзіны езуітаў, што яны жывуць паводле свайго інстытута, выклікаюць неспакой у біскупа Малінскага**. Гэта трэцяе, аб чым я абяцаў вам прывесьці мой разгляд у гэтым артыкуле. Гэтая хлусьня досыць абвяргаецца паводзінамі гэтага прэлата. Аналягічны неспакой належыць біскупу Утрэхта, Упсалы[137], Оксфарда[138] і ўсім тым, што ўступілі ў сумесную антыезуіцкую змову, каб узнесьці сябе яшчэ вышэй праз паклёпы і прыкрыя пастырскія лісты. Біскуп Малінскі не быў сярод іх.

Я хачу шчыра сказаць Вам сапраўдную і верную прычыну неспакоя з боку біскупа ў Беларусі. Ён хацеў бы дасягнуць з кіраўнікам Царквы найдасканалага разуменьня; ён хацеў бы паведаміць яму пра стан свайго дыяцэзу, пра паводзіны сваіх езуітаў, пра вялікую шкоду, якая адбылася б у выніку іх страты, пра складанасьць ці немагчымасьць замяніць іх месцы. Нават гэта было немагчыма. Штатныя каналы, празь якія йшлі яго ідэі, і празь якія вярталіся навязаныя адказы Папы, былі недастаткова надзейнымі. Ён быў знаёмы зь некаторымі рымскімі міністрамі, якія былі больш непрыхільныя да езуітаў, чым адданыя сьвятому Стальцу; і якія больш сумленна выконвалі абяцаньні, што яны давалі на патаемнай сустрэчы, чым тыя, што яны пакляліся свайму ўласнаму гаспадару. Законны заклік Імпэратрыцы, відавочная карысьць, неабходнасьць і невіноўнасьць езуітаў вымусілі яго падтрымаць іх, гэта магло адбыцца толькі праз неабходнасьці ці празь схільнасьць. Але ён адчуваў непадпарадкаваньне з аднаго боку, зь якога ён гэта менш за ўсё мог чакаць.

[135] Інакенці IV (Innocentius PP. IV), сьвецкае імя: Сінібальда Фіескі, граф Лавану (іт. Sinibaldo de Fieschi) 1195 – 07.01.1254 гг. – папа рымскі з роду Фіескі з 25 чэрвеня 1243 года па 7 сьнежня 1254.

[136] Бенэдыкт XII (Benedictus PP. XII), сьвецкае імя: Жак Фурнье (фр. Jacques Fournier) 1280-я – 25.04.1342 гг. – папа рымскі з 20 сьнежня 1334 да 25 красавіка 1342 г.

[137] Маецца на ўвазе біскуп швэдзкай царквы.

[138] Маецца на ўвазе біскуп англіканскай царквы.

Гэта выклікала неспакой у біскупа Малінскага; а ня тое, што езуіты унутрана і зьнешне кіруюцца паводле свайго інстытута.

Что ж магло непакоіць яго ва ўнутраных паводзінах езуітаў? Можа сярод іх пануюць рознагалосьсі, сваркі, хваляваньні і прыкрасьці, можа яны прыносяць у біскупскую кансісторыю скаргі адзін на аднаго? Можа яны ўступаюць у змову супраць біскупа ці супраць улады? Можа яны бавяць час за марным бадзяньнем, гульнямі ці сьвяткаваньнямі. Гэта б не азначала кіравацца паводле скасаванага інстытута. То значыць гэта ляжыць у іхніх зьнешніх паводзінах? Але што робяць езуіты паводле іх інстытута? Можа яны распаўсюджваюць ілжывае вучэньне? Гэта не дазваляе скасаваны інстытут. Ці яны прапаведваюць каран, янсянізм, мак'явэлізм? Гэта, вядома, не прынцыпы скасаванага інстытута. Можа яны робяць сябе незалежнымі ад біскупаў? Прапаведваюць без адпраўленьня? Даюць адпушчэньне грахоў без юрысдыкцыі, без ухваленьня, без згоды біскупа? Усё гэта адмыслова забаронена ў статутах скасаванага інстытута. Як? Атрымліваецца яны працуюць з адмысловай згодай біскупа? Так, яны працуюць па загадзе біскупа, які адмыслова загадаў ім, што яны павінны далей працаваць, як і раней, калі скасаваны інстытут яшчэ існаваў. І з-за таго, што да яго найдакладна прыслухоўваюцца, што ён бачыць найдакладнае выкананьне сваіх загадаў, з-за гэтага біскуп трапіў у неспакой? Так кажа аўтар цыркуляру. І як гэта называць, хлусьнёй, ці трызьненьнем? Бадай, як Вам заўгодна. Між тым, падрыхтуйцеся пачуць новую лухту і чытайце наступны артыкул.

## §. VII.

„Ён дадаў, што, паколькі царыца не пажадала дазволіць афіцыйнае скасаваньне, а ён у сваю чаргу мае недахоп іншых дасьведчаных сьвятароў для духоўных адпраўленьняў, ён бачыць сябе вымушаным пакінуць тыя разгалінаваныя дыяцэзіі, калі яму Яго Сьвятасьць праз дабратворнае настаўленьне не дазволіць выкарыстоўваць вышэй пазначаных асоб.“

Якая цемра! Вялікі Бог! Якое зьмяшаньне паняцьцяў! Як адно супярэчыць другому! Не зьдзіўляйцеся: гэта мова пануючага фанатызму. Дзе няма ніякай разважлівасьці, ніякай праведнасьці, там няма і ніякага тлумачэньня, ніякай складнасьці. Мы хочам паспрабаваць, калі гэта магчыма, разабраць гэтую бязладную кучу словаў. Спачатку я выяўлю зьнявечаны розум, потым прызнаньне, якое зьнікла ў яго неасьцярожным чынам, і, нарэшце, супярэчнасьці.

**Паколькі царыца не пажадала дазволіць афіцыйнае скасаваньне, і маецца недахоп іншых дасьведчаных сьвятароў**: таму Біскуп не можа адмовіцца ад езуітаў. Неабходнасьць езуітаў у Беларусі вынікае з двух прычын. Неабходна, каб езуіты працягвалі сваю працу: чаму? Першая прычына: бо ў Расеі маецца недахоп іншых дасьведчаных сьвятароў.

Другую прычыну, што менавіта езуіты неабходныя за адсутнасьцю дасведчаных сьвятароў, можна добра пабачыць таксама ў Італіі. Біскупы, што шукаюць, чым зьяўляецца Езус Хрыст, усьведамляюць неабходнасьць езуітаў з-за нястачы ўмелых сьвятароў. Таксама ў Рыме вельмі бачная гэта

неабходнасьць, і кардынал вікар Калона[139], які так годна ўтрымлівае сваю пасаду і заслугоўвае быць Папай, скардзіцца на гэта і прызнаецца, што справа можа быць выпраўленая нічым іншым, як аднаўленьнем езуітаў.

Але першая прычына, што менавіта езуіты неабходныя ў Расеі, бо Царыца не жадае дазволіць афіцыйнае скасаваньне, хто можа гэта зразумець? Гэта больш цёмна, чым **Мэнэ, Тэкэл, Фарэс** Бальтазара[140]. Паклікайце на дапамогу вяшчуноў, чарадзеяў, халдзеяў, астролагаў, чорных магаў і цыганаў, якія растлумачаць нам гэтую загадку. Якім чынам мусіць недазвол афіцыйнага скасаваньня быць прычынай таго, што езуіты ў Беларусі зьяўляюцца неабходнымі? Якім чынам мусіць дазвол скасаваньня спыніць у Беларусі неабходнасьць у езуітах ці недахоп іншых дасьведчаных сьвятароў? Але мы ня хочам марна губляць час. Бедны аўтар скалечыў тут сваё меркаваньне, бо ён ня меў мужнасьці праводзіць ганебныя хітрыкі, празь якія хацелі падмануць і падштурхнуць Імпэратрыцу, каб яна пажадала дазволіць афіцыйнае скасаваньне. Пачуйце гэта, і Вы спасьцігнеце сэнс гэтага таямнічага пэрыяду.

Ва ўсіх дзяржавах вечна незаконнае і гвалтоўнае скасаваньне адбылося пасьпяхова, і толькі ў Маскве і Прусіі не. У Рыме, ці па-за Рымам на суседніх дачах няспынна адбываліся сходы, каб параіцца аб спосабе, каб давесьці справу да канца; але нічога не знайшлося. Усе астатнія двары былі альбо такія, што імкнуліся да скасаваньня, альбо тыя, што далучыліся да першых. Бэрлін і Пецярбург не належылі да гэтай лігі: яны не патрабавалі скасаваньня; і яны ўстойліва адмаўлялі ў далучэньні запытам першых. Гэтыя манархі не выказвалі ніякай іншай залежнасьці, акрамя залежнасьці ад Бога і розума. Таму было неабходна зьвярнуцца да інтрыг; і глядзіце, як яны гэта распачалі.

Тыя манархі, казалі яны, жадаюць езуітаў, бо тыя зьяўляюцца карыснымі: дайце нам зрабіць іх непрыдатнымі, і яны больш не будуць зьвяртаць на іх увагі, і мы здолеем іх бесперашкодна скасаваць. Так як сярод партыі заўсёды ёсьць людзі, якія могуць злоўжываць Апостальскім аўтарытэтам, то адразу было праз нунцыя Аркеці напісана да біскупаў у Расеі, у Сілезіі, у Куявіі ды Памор'і, у Вэрмэландзе і Хельмно, з загадам на гэты выпадак, гэта значыць, з рацыянальнага боку і без прычыны давесьці, што яны абвяшчаюць езуітам прыпыненьне ўсёй духоўнай і навуковай дзейнасьці, і адначасова павінны даць зразумець сваім манархам, што прыпыненьне будзе адразу скасаванае, як толькі будзе зьдзейсьнена афіцыйнае скасаваньне Ордэна: каб, адпаведна, Іх Моцы маглі кіраваць езуітамі, толькі калі яны пагодзяцца на дзейнасьць, якая складаецца з адной толькі цырымоніі, і якая ня робіць ніякага іншага ўплыву на асоб, акрамя выпадковай зьмены адзеньня. Спадзяюся, Ім таксама ў менавіта тым самым лісьце даслалі разам і ачышчэньне ад гэтай хлусьні і гэтага падману.

Гэты трук меў свае вынікі ў прускай Сылезіі праз асаблівае паразуменьне абата маркіза N., які дарма есьць ў Рыме паўночны хлеб, з генэральным вікарам Брэслау, які карыстаўся праведнасьцю езуітаў і адразу абвясьціў ім не прыпыненьне, а скасаваньне. Што да біскупа ў Беларусі, як ён трымаўся, то хачу Вам сказаць, як я чытаў у адной паперы, якую атрымаў адзін польскі

[139] Маркантоніё Калона (іт. Marcantonio Colonna), 16.08.1724 – 04.12.1793 — каталіцкі сьвяты, з 1759 г. кардынал, а з 1762 да 1793 – кардынал вікар Рыма.

[140] "Мэнэй, мэнэй, тэкэйл у-фарсін" (іўр. "מְנֵא מְנֵא תְּקֵל וּפַרְסִין") – словы, што зьявіліся на сьцяне палаца вавілонскага цара Бальтазара (Кніга Даніэля, 5:25). Словы ня здолеў зразумець ніводны з мудрацоў Вавілона, пасьля іх растлумачыў прарок Даніэль.

шляхціц, што знаходзіцца ў Рыме, ад даверанай асобы Біскупа, праз чые рукі йшла справа. Біскуп даслаў хітры ліст пана Аркецi двару Пецярбурга, і прыклаў да той самай старонкі свай уласны падрабязны ліст, у якім ён просіць Імпэратрыцу, каб яна падказала, як ён мог бы аб’яднаць усеагульную карысьць і адмысловыя правы кожнага з належнай павагай да чальца Царквы.

Спачатку здавалася, хітрыка мае посьпех. Першым стаўленьнем Манархіні было, што калі афіцыйнае скасаваньне не нясе з сабой ніякай іншай зьмены, акрамя зьмены адзеньня, то разумна было б выканаць просьбу такога паважанага ўладара, якім зьяўляецца Папа: так дабрасардэчна ставіцца Кацярына II да Апостальскага Стальца ў стагодзьдзі... Хопіць; Вы мяне добра разумееце. З такім настроем яна абмяркоўвала справу з адным сваім міністрам, які зьяўляецца ўзорам пранiклівасьці: ні Ваша Імпэратарская Моц, сказаў ён, ні я, не разумеем рымскі стыль перамоў. Я ведаю толькі наогул, што езуітаў ненавідзяць, і што Папай маніпулююць ня лепшым чынам. Я асьцерагаюся нейкай пасткі: заўсёды разумна, ўсё высьветліць. Але як можна ўсё высьветліць? адказала Манархіня. То трэба спытаць езуітаў, ці справядлівым зьяўляецца патрабаваньне Рыма; і калі яны задаволеныя, то кіравацца гэтам. Тут міністр засьмяяўся, але поўны глыбокай павагі: езуітаў? сказаў ён; гэта адзіны пункт, дзе я б ім не паверыў. Яны занадта адданыя Рыму, і калі яны толькі пачуюць, што ўзгаданы Папа, то скажуць, што ўсё правільна. Доказам гэтаму могуць служыць падарожжы правінцыяла, якія ён рабіў з Полацка ў Пецярбург, каб прасіць Вашу Моц, каб Вы пажадалі дазволіць скасаваньне. Яны дадуць адказ, як яны гэта так часта рабілі, што ў рэлігійных справах яны зьяўляюцца падданымі Папы, і што яны жадаюць падпарадкоўвацца. На маю думку, трэба было загадаць правінцыялу, што ён мусіць сваім кансультантам і астатнім сьвятарам прапанаваць на агульным сходзе наступныя два пытаньні: па-першае, ці яны пасьля афіцыйна абвешчанага скасаваньня верраць, што яны ўсё яшчэ застаюцца езуітамі, як і раней? Па-другое, ці нясе з сабой афіцыйна зьдзейсьненае скасаваньне іншыя зьмены, акрамя зьмены адзеньня? Ім трэба загадаць, што адказы мусяць быць кароткімі; так, ці не; і калі яны прызнаюць іншыя зьмены, то яны павінны іх растлумачыць. З павагі да Папы езуіты будуць рабіць усё, толькі не ілгаць.

Імпэратрыца ўхваліла прапанову міністра, і езуіты мусілі адказаць на першае пытаньне: **не**, а на другое: **так**, і патлумачыць, што скасаваньне ліквідуе ўвесь Ордэн, такім чынам, што не застанецца ані моцы каб загадваць, ані адказнасьці каб падпарадкоўвацца; ані субардынацыі, ані паслухмянасьці, што індывіды праз гэта зробяцца панамі над сабой і будуць вольныя жыць, дзе і як кожнаму зь іх спадабаецца. Манархіня заўважыла нахабства і дзёрзкасьць, з якімі яе спрабавалі падмануць, і гучна паскардзілася на гэта. Яна ўсьведаміла, што тыя грэцкія **Вернасьць і Вера**, якімі так часта кпілі Ўсход, зараз можна вярнуць назад Захаду; пасьля чаго Яна прыняла рашэньне, яшчэ больш рашуча прыняць езуітаў, якіх бачыла пад перасьледам вераломных і забыўшыся на гонар людзей. Так скончылася справа ў Беларусі.

Астатнія біскупы адказалі, што яны не жадаюць уступаць ні ў якія пагадненьні са сваімі дварамі ў справе, у якой яны ня бачылі ані хвалы Богу, ані нейкай выгады. Я маю перад сабой адказ біскупа Куявіі да пана Аркецi: “Біскуп Куявіі і Памор’я, кажа ён, мае гонар адказаць на Pro Memoria[141], што быў яму дасланы з боку Яго Эксэленцыі пана нунцыя, што ён у тое, што датычыцца

[141] Мэмарандум.

езуітаў, якіх ён знайшоў у частцы сваёй дыяцэзіі, што знаходзіцца ў Прусіі, ніякім чынам не можа і не жадае ўмешвацца; таксама з-за гэтага ён ня можа без адмысловага загаду Яго Моцы Караля Прускага прадпрымаць ніякіх наваўвядзеньняў. Такім чынам яму вельмі шкада, што ён ня можа ўслужыць у тым, што ад яго патрабуюць.”

Цяпер зразумела стаўленьне бікуспа Беларусі, якое зьнявечыў аўтар. Ён адказаў на дзьве рэчы падступнага ліста, ці Pro Memoria нунцыя; што, па-першае, скасаваньне езуітаў немагчыма прывесьці ў выкананьне; бо двор не жадае дазволіць гэтага; па-другое, што датычыцца прыпыненьня, то яго не дазваляе бедзтва дыяцэзіі, якая тады ня будзе забясьпечаная ніякімі дасьведчанымі сьвятарамі.

Сябра, не дазваляйце ж сабе наблізіцца нават да наймалага падазрэньня, нават калі сьвяты Айцец прымаў удзел у гэтай падступнай выхадцы. Таемныя сходы ў Рыме ведаюць як усё сапсаваць. Турботы Апостальскага Трона незьлічоныя; і розум аднаго чалавека ня ў стане аглядзець іх усе; таму ён вымушаны падзяліць іх паміж сотняй падначаленых. Дзьве траціны зь іх, каб мала сказаць, назіраюць за ўладаром, каб пабачыць, як яны могуць яго ашукаць і злоўжыць яго павагай. Нарэшце яны двойчы дасягаюць сваёй мэты: зло трыюмфуе і хаваецца за тронам. Пій VI заўсёды меў шчыры нораў, наколькі болей будзе ён мець яго сёньня, калі ён прадстаўляе месца Бога Ісьціны, які зьяўляецца вечным і непрымірымым ворагам ілжывасьці і падману? Цяпер мы хочам бачыць прызнаньне, якое наш аўтар пакінуў у гэтым артыкуле, нават ня думаючы аб гэтым. Не зьдзіўляйцеся, што ў зьнішчальніка Суполкі Езуса супраць яго волі вырвалася праўда, нават аднаму з тых, хто разапнуў Езуса, таксама прыйшло прароцтва. Гэта звычайны лад боскага наканаваньня, што людская злосьць сама сябе выкрые.

Па-першае, ён прызнаецца, што Суполка ў Расеі не была афіцыйна скасаваная. **Царыца**, кажа ён, **не жадае дазволіць афіцыйнае скасаваньне**. Рым патрабуе афіцыйнага скасаваньня расейскіх езуітаў: такім чынам ён ня лічыць іх афіцыйна скасаванымі. Жадаць афіцыйна скасаваць суполку, што зьяўляецца афіцыйна скасаванай, было б так жа абсурдна, як жадаць зруйнаваць старыя плошчы, старыя лазьні, старыя падрапаныя храмы Юпіцера Капіталійскага і Марса, ад якіх не засталося ніякага сьледу.

Цяпер мусіць аўтар адказаць мне на пытаньне сумленьня. Калі Суполка Езуса ў Беларусі не была афіцыйна скасаваная: тым не менш, ці сапраўды зьяўляюцца расейскія езуіты пазбаўленымі сваіх зарокаў і абавязкаў свайго стану? Ці могуць яны валодаць уласнасьцю? Ці могуць жаніцца тыя зь іх, што не зьяўляюцца сьвятарамі? Ці могуць яны сыйсьці са сваіх калегіюмаў і зьняць вопратку, не трапіўшы ў афіцыйнае адступніцтва? Адным словам, ці могуць яны без афіцыйнага граха перастаць **унутрана і зьнешне жыць паводле свайго інстытута**? Я падпарадкоўваюся разумнаму выраку не толькі аўтара, але таксама дзьвух вялікіх тэолагаў антыезуіцкай кангрэгацыі, Мамачы і Карлу Крыштофу[142]; аудытараў Роты[143], кардынальскага калегіюма, сьвятой

[142] Карл Крыштоф Нэстлер (ням. Carl Christoph Nestler), 13.06.1740 – 19.02.1804 — нямецкі тэолаг-эвангелік.

[143] Апостальскі Трыбунал Рымскай Роты (лац. Tribunal Apostolicum Rotae Romanae) — на працягу стагодзьдзяў таксама зваўся Сьвяшчэннай Рымскай Ротай, зьяўляецца вышэйшым апеляцыйным

пэнітэнцыярыі[144], французскага духавенства, Сарбоны, і, калі жадаеце, можна таксама спытаць і пратэстантаў Кэмбрыджа, Ляйпцыга і Жэневы: вядома ж, калі яны толькі згодныя са мной у дачыненьні сапраўднасьці зарокаў і духоўнага прафэсыёна[145].

Па-другое, ён прызнаецца, што Біскуп у Беларусі абвяшчае сваіх езуітаў карыснымі і неабходнымі для яго царквы людзьмі; вынікае, Рым патрабуе зьнішчэньня карыснага і неабходнага ўтварэньня. Гэтае прызнаньне прыводзіць нас да іншага пытаньня сумленьня, якое яшчэ больш заблытанае. Ці маецца ў Царквы законная ўлада каб адмяняць установы, якія для самой Царквы зьяўляюцца карыснымі і неабходнымі? Сьвяты Павал дакладна кажа, Не. Бог даў ўладу на **стварэньне**, а не на **разбурэньне** карысных і неабходных рэчаў. Адымаць у нейкай царквы тое, што ёй карысна і неабходна, ці не значыць гэта відавочна шкодзіць ёй, чыніць ёй відавочную несправядлівасьць? Ці даў Бог хаця б нейкаму чалавеку паўнамоцтвы рабіць шкоду камусьці і чыніць яму несправядлівасьць? Ці не павінен несправядлівы парушальнік быць прымушаны пакрыць страты? Ці не павінны быць да гэтага прымушаны таксама ўсе, хто раіў гэта, хто аддаваў загады, хто прыклаў руку, хто прымаў удзел, адным словам, хто неяк спрыяў гэтаму? О, што за цяжар, мае панове зьнішчальнікі, што за цяжкі жораў вісіць у вас на шыі!

Калі мне кажуць, што езуіты ў Расеі сапраўды зьяўляюцца карыснымі і неабходнымі, але ў Італіі, Францыі і Гішпаніі і г.д. зьяўляюцца бескарыснымі і залішнімі: то я тады прадстаўлю іншае пытаньне сумленьня. Ці можа нехта з чыстым сумленьнем вынішчыць езуітаў у Расеі, дзе яны зьяўляюцца карыснымі, таму што вы, мае панове, лічыце іх у Італіі бескарыснымі, ці лепш сказаць, таму што вы робіце іх бескарыснымі людзьмі? О! Што за прыгожае становішча мусім мы напаткаць у будучыні, калі мы хочам прыняць такі прынцып! Трэба адмяніць усе лятучыя рукавы, усе паліто, усю футру, усю зімовую вопратку ў Эўропе, таму што яны ў цёплых краях па большасьці зьяўляюцца непрыдатнымі; трэба адмяніць усе каптуры і ўсю манаскую вопратку, таму што яны зьяўляюцца непрыдатнымі для салдатаў; трэба адмяніць усе шаблі, усе мушкеты, усе гарматы і ўсю зброю, таму што яны не патрэбныя манахам; трэба, нарэшце, спаліць усе парыкі і ўсе мужчынскія галаўныя ўборы, таму што яны непрыдатныя для жанчын, і ўсе жаночыя чэпчыкі, таму што яны не прыдатныя для мужчын.

Давайце абагульнім усе прызнаньні аўтара, якія магчыма дадуць нам нагоду для іншага пытаньня сумленьня. Яны, дарэчы, складаюцца з трох сведчаньняў, якія даў Біскуп у дачыненьні да езуітаў. Ён сьведчыць па-першае, што езуіты зьяўляюцца дасьведчанымі людзьмі і збяўляюцца карыснымі для Царквы; па-другое, што ў яго дыяцэзе могуць узнікнуць непарадкі, калі ён страціць езуітаў і не будзе мець іншых прыдатных сьвятароў; па-трэцяе, што Імпэратрыца жадае захаваць езуітаў законнымі.

Сябра, а зараз увага. Захаваньня Суполкі ў Беларусі патрабуюць грамадскі спакой, бо тыя народы задаволеныя езуітамі, усеагульнае дабро, бо яны

---

трыбуналам каталіцкай Царквы. Суд завецца Рота (кола), бо судзьдзі, якія завуцца аўдытарамі, дзеля разгляду справаў першапачаткова зьбіраліся ў круглым пакоі.

[144] Сьвятая пэнітэнцыярыя (лац. Sacra Paenitentiaria) — адзін з трох трыбуналаў Рымскай курыі. Вырашае пытаньні, зьвязаныя з унутранай падсуднасьцю і валодае не судовай, а адміністрацыйнай уладай.

[145] Прафэсыён (ад лац. Professio - прызнаньне) — публічнае абяцаньне паслушнікам жыць паводле эвангельскіх парадаў і орэнскіх правілаў.

патрэбныя расейскай Царкве, і належнае падпарадкаваньне расейскай Імпэратрыцы, якая ахоўвае езуітаў. Цяпер вазьміце ў рукі ганганэльскі загад на скасаваньне Суполкі; прачытайце тую баўбатню пра прычыны, якія там прыводзяцца ў якасьці матываў, каб скасаваць гэты ордэн; і Вы пабачыце, што ўсе яны зводзяцца да трох: па-першае, каб захаваць мір і спакой краін ***)**[146]; па-другое, бо езуіты зьяўляюцца бескарыснымі: **асабліва таму, што мы заўважылі**, гучыць гэта, **што вышэй пазначаная Суполка Езуса не можа больш прыносіць тыя частыя і шчодрыя плады, дзеля якіх яна была ўведзена**; па-трэцяе, належная павага да манархаў. Такім чынам, праз асабістае прызнаньне Біскупа і аўтара цыркуляру, усе прычыны Ганганэлі для скасаваньня Суполкі у расейскай Імпэрыі зьяўляюцца абсалютна няслушнымі. Усеагульнае дабро, спакой народаў і падпарадкаваньне Манархіне патрабуюць у гэтай Імпэрыі не скасаваньня, але захаваньня езуітаў.

Цяпер атрымліваецца іншае пытаньне сумленьня, якое заставіць аўтара спацець. Дзе з аднаго боку прычыны і намеры аднаго закона зьяўляюцца відавочна няслушнымі, а з іншага боку гэты закон зьяўляецца відавочна шкодным для шматлікіх прыватных асоб і агульнага дабра: можа і мусіць меркавацца, што заканадаўца, асабліва калі ён зьяўляецца Папай, жадае, каб гэтага прытрымліваліся? Ці зьяўляюцца сьвецкія ўладары і біскупы абавязаныя, хоча таго Папа ці не, прытрымлівацца гэтага? Ды ці могуць яны рабіць гэта з чыстым сумленьнем? На гэта, пан аўтар, я хацеў бы атрымаць адказ.

Я жа скажу свабодна, што ані ўладар краіны, ані біскуп не абавязаныя пагаджацца з такой пастановай Царквы, якая можа называцца не законам, але злоўжываньнем публічнай уладай, ці прытрымлівацца яе. Я скажу нават больш, што ані першы, ані другі не могуць з чыстым сумленьнем дазваляць, ці прымаць яе; ды што манарх, які з гэтым пагаджаецца, і біскуп, які гэта выконвае, робяць сябе вінаватымі перад Богам за ўсю тую несправядлівасьць, якая будзе ўчыненая прыватным асобам, ці грамадству, нібыта гэтая несправядлівасьць адбылася праз іх асабістае распараджэньне, і нібыта паспскае прадпісаньне ніколі не была выдадзена.

Гэта дактрына грунтуецца на апостале, які кажа (II Карынф. 12)[147]: **Бо мы ня моцныя супроць праўды, а моцныя за праўду**. Супраць праўды Бог не даў ніякай моцы, ані сьвецкай, ані духоўнай. Таму запавет, які відавочна супярэчыць праўдзе, (я кажу відавочна; бо я добра ведаю, што ў сумнеўных рэчах, дзе немагчыма разабрацца, прэзумпцыя стаіць за ўладарамі) відавочны запавет супраць праўды, ніколі не зьяўляецца дзеяньнем законнай улады, якую даў Бог: таму выкананьне яго не зьяўляецца дзеяньнем сапраўднага падпарадкаваньня, але адвольным, добраахвотным дзеяньнем, якое прыпісваецца таму, хто яго зьдзяйсьняе: таму за шкоду, за непарадак, за бясчынства, за грахі, якія ўзьнікнуць праз гэта, мусіць адказваць той, хто з гэтым пагаджаецца, і той, хто гэта выконвае, таксама як і той, хто загадваў пазаконным чынам, і таксама насамрэч той запавет нібыта ніколі не быў выдадзены. Сябра, дазвольце, каб я сам крыху пагутарыў з аўтарам аб гэтым: яму трэба больш асьветы.

Мой пане аўтар цыркуляру, гэта ёсьць вядомая дактрына; гэта дактрына

***)** Ad Christianæ Reipublicæ pacem conciliandam, fovendam, roborandam.

[146] Дзеля перамогі, стварэньня, умацаваньня спакою Хрысьціянскіх Дзяржаваў.

[147] Магчыма памылка, бо ў сучаснай Бібліі гэты верш знаходзіцца ў II Карынф. 13:8.

ўсяго сьвету, і ясна выцякае з адкравеньня. Калі Вы хочаце мець гэтую справу ў разумелых словах, і калі лаканічнае тлумачэньне не зьяўляецца для Вас нежаданым; то слухайце, я да Вашых паслугаў. Калі Вы ўчыняеце забойства, нават калі менавіта гэта было Вам загадана: то Вы ўсё жа зьяўляецесь перад Богам і разумным сьветам сапраўдным забойцай, і варты быць як забойца пакараныя. Калі Вы відавочна зьдзейсьнілі пазаконнае рабаваньне чужой маёмасьці, нават калі Вам менавіта гэта было загадана, то Вы зьяўляецеся не больш не менш, як сапраўдным рабаўніком, і заслугоўваеце, каб з Вамі абыходзіліся, як з рабаўніком. Калі Вы ўвагналі Рэспубліку ў заняпад, нават калі Вы мелі загад менавіта на гэта, то Вы зьяўляецеся перад Богам і разумным сьветам не больш не менш, як сапраўдным ворагам чалавечага роду, бічом чалавецтва; і заслугоўваеце, каб з Вамі абыходзіліся адпаведна, і будзеце такім у Дзень Госпада. Прычынай усяго гэтага тое, што несправядлівасьць і хлусня падданым і уладару, біскупу і Папе, зьяўляюцца аднолькава забароненымі Богам.

Паўната ўлады над усёй Царквой тут не дапамагае Папе. Сам Бог не можа зьдзейсьніць, ці загадаць ані хлусьні, ані несправядлівасьці; ня гледзячы на гэта, гэта зусім не парушае Яго ўсемагутнасьці. Немагчымасьць рабіць зло ніяк не зьяўляецца прызнакам бясьсільля ці слабасьці, але зьяўляецца найвышэйшай дасканаласьцю мудрай улады, якая прызначаецца таму, хто ўсё можа зрабіць, але толькі ня зло ***)**[148].

***)** Sicut Deus multa facere non posse quodam sensu dicitur; nec tamen omnipotens esse desinit, quia non impotenter, sed sapienter non potest, ita Summus Pontifex non desinit habere plenitudinem potestatis, quamvis contra æquitatem nihil possit. Alexand. Natal. Hist. Eccles. Saec. IX. et X pap. 230.

Бачыце, мой пан аўтар, якія важныя прычыны маюць езуіты ў сваю падтрымку? А зараз прадстаўце супраць іх Вашыя: пакажыце, што прычыны Імпэратрыцы, якая лічыць іх нявіннымі і вернымі падданымі, што прычыны Біскупа, які бачыць іх, як дасьведчаных і неабходных людзей, што прычыны народаў, якія ведаюць іх, як карысных працаўнікоў, што ўсе яны няверныя; прывядзіце ж перад справядлівым судом хаця б адно злачынства гэтых людзей, якіх Вы так люта перасьледуеце, але злачынства, якое сапраўды зьяўляецца злачынствам, і якое выстаіць перад разумным і беспартыйным судом, пацьверджанае беззаганнымі сьведкамі. Але ня трэба Вам прыходзіць да нас з тымі так часта аспрэчанымі паклёпамі, якія прынялі Шалатэ[149], Манклэр[150], Сарпі[151], Сэры[152], Канчына[153], Бэрці[154], Патуцы[155], Норбэрт[156], ці нейкі сэктант, ці

---

[148] Як Бог, кажучы ў пэўным сэнсе, не можа рабіць некаторыя дзеяньні; і ўсё ж не перастае быць усемагутным, бо Ён не бясьсільны, але мудры, таму Вярхоўны Пантыфік не перастае мець паўнату ўлады, хаця нічога ня можа зрабіць супраць справядлівасьці. Alexander Natalis Historia Ecclesiastes пад. 9 і 10, с. 230

[149] Луі-Рэнэ Карадёк дэ Лашалатэ ці Ла Шалатэ (фр. Louis-René Caradeuc de La Chalotais), 06.03.1701 – 12.07.1785 — францускі генэральны пракурор брэтонскага парляманту, янсяніст, люты вораг езуітаў. У 1762 выступіў за скасаваньне езуітаў са “Справаздачай аб езуіцкіх утварэньнях” (Compte rendu des constitutions des jésuites, 1761).

[150] Жан-Пьер-Франсуа Рыпэрт дэ Монклэр (фр. Jean-Pierre-François Ripert de Monclar), 1711 – 1773 — францускі магістр суда. Як янсяніст ён быў праціўнікам езуітаў і апублікаваў у 1762 каментар да іх статута.

[151] Паоло Сарпі (іт. Paolo Sarpi), 14.08.1552 – 15.01.1623 — італьянскі манах і гісторык. Належаў да ордэна сэрвітаў. Быў генэрал-пракуратарам у Рыме. Інквізіцыя абвінаваціла яго ў кантактах з пратэстантамі і габрэямі і перашкаджала яго дзейнасьці, пакуль Венецыя ў спрэчках з Папай не абрала яго сваім кансулентам. У Венецыі ён вёў барацьбу з папствам: адстойваў суверэнітэт дзяржаўнай улады ў дачыненьні да царквы, выкрываў Папу і езуітаў. Напісаў гісторыі Трыдэнцкага сабора (“Istoria del cocilio

адступнік Лютэра, які зьняў рызу, ці Кальвіна, Хэмніца[157], Арно[158] і Паскаля. Адкажыце: езуіты прымусілі Вас да гэтага, і пакутная Царква, раны якой яшчэ не зажылі, заклінае Вас, каб толькі адзін раз была скасавана адна з найвялікшых прыкрасьцяў, якую толькі цярпеў хрысьціянскі сьвет. Няхай хтосьці дасьць нам ведаць, на чыім баку знаходзіцца злачыннасьць і махлярства. Выкладвайце, мае панове, злачынствы, выкладвайце іх. Калі Вы маеце нейкія, чаму Вы ўтойваеце іх? Гэта ж было б Вам у славу. Але калі Вы ня ведаеце ніякіх; то як жа Вы не баіцеся вечнай ганьбы і помсты Нябёсаў?

Але сябра, мы не хочам згубіць нашай стрыманасьці, якая заўсёды зьяўляецца найразумнай і найпераканаўчай мовай. Цяпер Вы ўжо заўважылі скалечаны і незразумелы сэнс гэтага артыкула і пачулі яго тлумачэньне; Вы чулі нарэшце такую прыніжальную для аўтара споведзь, якая (мы жадаем яе яшчэ раз паўтарыць) скаладаецца з таго, што расейскія езуіты жывуць паводле свайго пабожнага і сьвятога інстытута, што яны не зьяўляюцца афіцыйна скасаванымі, што яны дасьведчаныя ў духоўным кіраўніцтве, што яны зьяўляюцца неабходнымі ў той імпэрыі, і што яны стаяць пад аховай Імпэратрыцы. Дазвольце нам цяпер зрабіць нашыя заўвагі наконт сьмешных супярэчнасьцяў, якія там сустракаюцца; зь якіх дзеля сьцісласьці мы прывядзем толькі дзьве.

**Першая супярэчнасьць.** Памятаеце, што Біскуп у Беларусі выдаў сьвятому Айцу на разуменьне свой непакой, які ён атрымаў праз тое, што ў яго дыяцэзіі маюцца езуіты; і гэты самы Біскуп зьвяртаецца да гэтага самага Папы праз нунцыя Аркеці ў гэтым самым лісце, і сьцвярджае, што, калі ў яго не будзе езуітаў, ён бачыць сябе вымушаным пакінуць дыяцэзію. Хто можа гэта аб’яднаць? Ці гэта не відавочныя супярэчнасьці? Існаваньне езуітаў непакоіць яго: страта езуітаў прыводзіць яго ў адчай. Ён дакладае Папе пра свой непакой, што ў дыяцэзіі маюцца езуіты: такім чынам ён не жадае, каб яны існавалі. Ён паграджае пакінуць сваю дыяцэзію, калі ён ня будзе мець езуітаў: такім чынам ён

tridentino”) сыходзячы з паведамленьняў венецыянскіх паслоў, дзёньнікаў, лістоў, справаздач удзельнікаў сабора і іншых каштоўных крыніц.

[152] Жак-Гіяцынт Сэры (фр. Jacques-Hyacinthe Serry), 1659 – 1738 — францускі дамініканскі тэоляг-таміст і гісторык. Выкладаў багаслоўе ва Ўнівэрсітэце Падуі з 1698г.

[153] Даніэла Канчына (іт. Daniello Concina), 20.10.1687 – 21.02.1756 — італьянскі дамініканскі прапаведнік, палеміст і тэоляг. Аўтар наступных твораў, накіраваных супраць езуітаў: “Storia del probabilismo e rigorismo” (1743) ды “Theologia christiana dogmatico-moralis” (1749-51).

[154] Джавані Ларэнца Бэрці (іт. Giovanni Lorenzo Berti), 1696 – 1766 — італьянскі аўгустынскі тэоляг. За янсеніцкія погляды быў асуджаны 2-ма францускімі біскупамі. Але ў 1750 і 1751 Бенэдыкт XIV напісаў ім, што творы Бэрці былі дасьледаваныя і ў іх не было нічога, што супярэчыла б пазіцыі Царквы.

[155] Джавані Вінчэнца Патуцы (іт. Giovanni Vincenzo Patuzzi), 1700 – 1769 — італьянскі дамініканскітэоляг-таміст. Сябра і вучань Даніэла Канчыны, напісаў шэраг твораў у падтрымку свайго настаўніка. Найбольш вядомы зь яго твораў, які выклікаў шматлікія дыскусіі і спрэчкі паміж дактрынамі: “Ethicae christianae in compendium redactae, ac in quatuor tomos distributae”.

[156] П’ер Парысо (фр. Pierre Curel-Parisot), таксама вядомы як Норберт з Бар-ле-Дзюк (Norbert de Bar-le-Duc), Норберт з Латарынгіі (Norbert von Lothringen) і П’ер Норберт (Père Norbert), 09.02.1703 – 28.07.1769 — францускі сьвятар і місыянэр у Індыі. Спачатку вучыўся ў езуіцкім калегіюме ў Бар-ле-Дзюк, а потым прыняў паслушэнства ў капуцынаў. Зрабіўся вядомым дзякуючы сваім вострым нападкам на езуітаў.

[157] Мартын Хэмніц (ням. Martin Chemnitz), 09.11.1522 – 08.04.1586 — выбітны лютэранскі багаслоў, аўтар Формулы Згоды. Яго ўнёсак параўноўваюць са значэньнем для Царквы самаго Лютэра і называюць яго “другім Мартынам” (лац. Alter Martinus).

[158] Антуан Арно (ням. Anton Arnauld), 06.02.1612 – 08.08.1694 — сарбонскі доктар тэалёгіі, янсеніст і барацьбіт супраць езуітаў. За свае творы супраць езуітаў быў выключаны з Сарбоны, пасьля чаго жыў у Пор-Раялі і за мяжой. Нават там ён працягваў пісаць супраць езуітаў.

жадае, каб яны засталіся. Ужо толькі гэта называецца мроіць; і такія мроі, і такія супярэчнасьці піша нунцый да Папы! Ці Вы, мой пан аўтар, хлусіце, і менавіта з карысьлівым намерам, ці папскі канал ў Польшчы выдаў тут няверны гук. Непакой Біскупа, скажаце Вы, зьявіўся не проста з таго, што ў Расеі маюцца езуіты; але з таго, што яны **працягваюць жыць паводле скаванага інстытута**. Але як тады яны павінны жыць? Як сьвецкія сьвятары? Ужо толькі тут бачыцца

**Другая супярэчнасьць**, і другая недарэчнасьць, якая яшчэ горш за першую. Сьвецкія сьвятары ў Беларусі зьяўляюцца, як кажа Біскуп, па большасьці бескарыснымі і няздатнымі для пастырскай апекі: а езуіты зьяўляюцца патрэбнымі і дасьведчанымі. Гэтыя непатрэбнасьць і няздатнасьць першых і патрэбнасьць і дасьведчанасьць другіх узьнікае, відавочна, з розьніцы іх ладаў жыцьця. Калі зараз езуіты павінны жыць як сьвецкія сьвятары; то яны перастануць жыць як езуіты; яны перастануць быць карыснымі і рабіць усё тое дабро, што яны рабілі як езуіты; і зробяцца непатрэбнымі людзьмі, якімі робяцца там сьвецкія сьвятары. Цяпер тое, што Біскуп жадае, каб езуіты захаваліся, бо яны зьяўляюцца дасьведчанымі і карыснымі людзьмі; і што ён у той жа час жадае, каб яны пакінулі той лад жыцьця, які рабіў іх дагэтуль дасьведчанымі і карыснымі, і ў будучым кіраваліся ладам жыцьця няздатных і некарысных сьвецкіх сьвятароў: гэта супярэчнасьці, якія ў здаровай галаве не могуць стаяць побач. Але зрабіце разам са мной яшчэ адну заўвагу.

Аўтар кажа, што біскуп Малінскі прасіў сьвятога Айца, каб ён выпісаў яму дабратворнае настаўленьне ў тым, што датычыцца загадаў пана Аркеці. Калі нават тут ня бачна відавочнай супярэчнасьці; то бачны па меньшай меры хітры ход, няверны выраз, ілжывае словаўжываньне, якое выдае альбо несумленнасьць альбо глупства. Паслабленьня ці настаўленьня патрабуе той, хто насамрэч гатовы альбо цалкам, альбо часткова, выканаць тое, што было яму даручана; але ў тым, што датычыцца альбо спосабу, ці часу, ці нейкай іншай акалічнасьці, патрабуе некаторага замаруджваньня. У нашым выпадку Біскуп відавочна тлумачыць, што з тых двух загадаў, якія былі зробленыя яму панам Аркеці ад імя Папы, ніводны не можа быць выкананы; ані першы, а менавіта, ўказаць на скасаваньне, бо гэтага не дазваляе двор; ані другі, гэта абкласьці езуітаў прыпыненьнем, бо гэта немагчыма з-за стану яго дыяцэзій. Такім чынам Біскуп хацеў мець не настаўленьне, але тое, каб яго цалкам і поўнасьцю адхілілі ад такіх несправядлівых і свавольных патрабаваньняў. Мне падаецца добрым хадайнічаць аб паслабленьні, калі чалавек адказвае свайму начальніку, што ён не можа нічога зрабіць з таго, што той загадвае. Адное гэта нам трэба лічыць за моўную памылку; магчыма ў слоўніку аўтара казаць, што чалавек нічога не можа зрабіць, азначае тое самае, што хадайнічаць аб настаўленьні. Цяпер дайце нам пабачыць, што за настаўленьні прапісаны ў цыркуляры.

# §. VIII.

„З улікам гэтага дакладу і відавочнай небясьпекі, у якой апынуліся б каталікі, у выпадку, калі біскуп Малінскі пакінуў бы сваю рэзыдэнцыю, было яму панам Аркеці ад імя Папы адказана, што пасьля таго, як Клеменс XIV, дабраславёнай памяці, скасаваў паўсюль так званую Суполку Езуса, усе асобы, якія не жадаюць сябе да найвышэйшых распараджэньняў Ватыкана прыстасоўваць, павінны разглядацца як свавольныя: таму павінен ён іх

паслугамі не карыстацца, выключаючы толькі надзвычайную патрэбу; і павінен пры кожнай магчымасьці ня ўстрымлівацца ад таго, каб указваць ім на скасаваньне іх інстытута, якое афіцыйна ўжо адбылося, на зьняцьцё іх старых прывілеяў, і на іх поўную пакору ды залежнасьць ад біскупскай юрысдыкцыі, аналягічна епархіяльным сьвятарам, з асаблівай стараннасьцю і ціскам. Далей было яму прапанавана перашкодзіць прынятаму імі адраджэньню ў якасьці паслушніцкіх дамоў і выступіць супраць іх; ціхі шэпт аб чым ужо дайшоў да Італіі.“

Сябра, ці Вы калісь чыталі, ці чулі падобнае дабратворнае настаўленьне? Ці магчыма адказаць больш дэспатычна і больш безразважна, чым гэта зроблена тут? Калі б вось такі адказ сьвяты Папа Стэфан[159] даў сьвятому Кіпрыяну[160], ці Інакенці I[161] сьвятому Яну Златавусту Хрысастомусу[162], ці Папа Ліберыюс[163] сьвятому Афанасію[164]: ці верыце Вы, што яны, нягледзячы на іх геройскую сьціпласьць і ўстрымаўшыся іх пакорлівасьці, якую гэтыя сьвятыя біскупы выказвалі першаму стальцу, пачалі б адкрыта скардзіцца на гэткую манэру, паводле якой абыходзяцца з Боскай справай і з асобамі найвышэйшай царкоўнай іерархіі, да якой бясспрэчна належаць усе біскупы? Такі адказ сароміўся б даць не толькі Папа біскупу, але й кожны разважны пан свайму лёкаю.

І Вам трэба адзначыць, што біскуп Малінскі прадставіў найбуйнешыя складанасьці, найважнейшыя прычыны, найбуйнешыя небясьпекі і негатыўныя наступствы сваёй царквы і падпарадкаваньне, якое ён павінен манархіні; што ўзятае ўсё разам відавочна рабіла немагчымым ажыцьцяўленьне загадаў пана Аркеці **ад імя Папы**: і ў адказ ён атрымаў нічога іншага, акрамя таго, што яму зноўку паўтарылі тыя самыя несправядлівыя загады без таго, каб выдаліць хаця б найдрабнейшую складанасьць, без таго, каб аспрэчыць адну адзіную прычыну, без таго, каб прыбраць са шляху хаця б адну адзіную небясьпеку, без таго, каб пакрыць хаця б найменшую шкоду, і без таго, каб зьвярнуцца да падпарадкаваньня, павіннага манархіні. Папы ніколі ня мелі звычаю так адказваць; падобныя адказы можна пачуць у фарсах арлекінаў; і таму я адношу гэты цыркуляр да ліку паклёпніцкіх памфлетаў, якія сёньня распаўсюджваюць супраць Апостальскага Стальца, каб выставіць сьмяхотнай рымскую ўладу.

---

159 Стэфан I (Stephanus I), ?? – 02.08.257 г. – біскуп Рыма (тытул Папа зьявіўся значна пазьней) з 12 траўня 254 па 2 жніўня 257. Пакараны па загадзе імпэратара Валяр'яна. Шануецца як сьвяшчэннапакутнік ў Праваслаўнай і Каталіцкай цэрквах. Вядомы сваім дыспутам з карфагенскім біскупам Кіпрыянам па пытаньні аб дапушчальнасьці хрышчэньня ерэтыкоў. Як вынікае з захаваных пасланьняў Кіпрыяна да папы, афрыканскія біскупы пагражалі Рыму расколам царквы. Падаплёкай спрэчкі было пытаньне аб вяршэнстве над гішпанскімі біскупамі, на якое прэтэндавалі як Рым, так і Карфаген.

160 Кіпрыян Карфагенскі (лац. Thascius Caecilus Cyprianus), ?? – 14.09.258 г. – біскуп Карфагенскі і выбітны лацінскі багаслоў. Стваральнік кананічнага вучэньня аб адзінстве царквы і яе іерархічнай структуры.

161 Інакенці I (Innocentius PP. I), ?? – 27.07.417 г. – біскуп Рыма з 22 сьнежня 401 па 27 ліпеня 417. Прымаў некаторы ўдзел у канфлікце Яна Златавуста з Фэафілам Александрыйскім.

162 Ян Златавуст (Ян Хрыстастомус, Ян з Анціохіі), каля 347 – 14.09.407 гг. – арцыбіскуп Канстантынопальскі, багаслоў, шануецца як адзін з трох Сусьветных сьвяціцеляў і настаўнікаў разам са сьвяціцелем Васілём Вялікім і Рыгорам Багасловам.

163 Лібэрыюс (Liberius), ?? – 24.09.366 г. – біскуп Рыма з 17 траўня 352 да 24 верасьня 366. Пры Лібэрыюсе быў складзены першы рэестр рымскіх біскупаў і афіцыйны сьпіс хрысьціянскіх пакутнікаў.

164 Афанасій Вялікі, каля 298 – 373 гг. – адзін з грэцкіх айцоў царквы, які належыў да Александрыйскай школы патрыстыкі. Арцыбіскуп Александрыйскі. Вядомы як моцны праціўнік арыянства. У 350 г. ён застаўся адзіным праваслаўным неарыянскім біскупам ва Ўсходняй Рымскай імперыі. Ямы традыцыйна прыпісваюць стварэньне Афанасьеўскага Сымбаля веры.

Што зрабіла на маё ўяўленьне найбольшае ўражаньне, дык гэта першыя словы гэтага артыкула: **З улікам гэтага дакладу і відавочнай небясьпекі** і г.д. Словы, што маглі прыйсьці толькі з вуснаў летуценьніка, як і тыя, што надаюць усяму ўрыўку наступны сэнс: **З улікам** вашых абгрунтаваньняў, пан Біскуп, вы павінны дзейнічаць нашым чынам, паводле якога мы мала зьвяртаем увагі на абгрунтаваньні. **З улікам** бясьпек і негатыўных наступстваў, якімі праз гэта абрасьце вашая царква, вам загадваецца, што вы павінны кіравацца паводле нас, да якіх бы пашкоджаньняў гэта не прывяло. **З улікам** складанасьцяў, якія робяць немагчымым ажыцьцяўленьне папскіх загадаў, вам паўтараецца загад іх ажыцьцявіць, няхай гэта і немагчыма. **З улікам** нарэшце падпарадкаваньня, павіннага манархіні, вам выпісваецца **дабратворнае настаўленьне**, пераступіць цераз гэта і насуперак манархіні выконваць нашу волю. Гэта і ёсьць у адной вытрымцы тое **дабратворнае настаўленьне**, якое пан Аркеці мусіў даць ад імя Папы.

Самае лепшае тое, што аўтар цыркуляру не кажа, што ён быў выдадзены непасрэдна Папай, але нунцыям ад імя Папы; прычым я адзначу, па-першае: як мала ў нашы часы можна давяраць прадпісаньням, якія пэўныя падначаленыя асобы выдаюць ад імя Папы; і як трэба клапаціцца аб абгрунтаваных прычынах, якія маюць біскупы, каб пад полагам папскага ўплыву не схавалася нейкая хітрасьць ці падман. Потым я аб’ядную папскае настаўленьне, якое прыдумаў аўтар, з кожным падзелам звароту біскупа Малінскага, каб можна было яскрава пабачыць справядлівасьць апошняга і недарэчнасьць першага. Па-трэцяе, я раскладу на часткі і дасьледую гэтыя папскія загады, ці мог іх выдаць Папа, і ці мог Біскуп з чыстым сумленьнем ажыцьцявіць іх? Нарэшце, мы кінем позірк на адзіную прычыну, якой аўтар падтрымлівае папскія дэкрэты; і мы ўбачым усе яе недахопы. Ах! Што гэта атрымаецца за прыгожанькі лісточак, навошта вы мяне спакусілі, мой сябра? Па меншай меры дазвольце, каб я гэтыя пункты закрануў так сьцісла, як пішуць лісты, а не трактаты.

Дайце нам тады спачатку пабачыць, ці ў нашы дні біскупы маюць прычыны меркаваць, што прадпісаньні, якія пэўныя міністры выдаюць ад імя Папы, зьяўляюцца навязанымі. Ва ўсіх стагодзьдзях меліся няверныя міністры, якія злоўжвалі імём і даверам пап і манархаў: але ў нашым стагодзьдзі асьветы і філасофіі ілжывасьць і падступства зрабіліся яго характарам. Насамрэч, якое стагодзьдзе налічвае так шмат звольненых міністраў? Гэта праўда, што ў Рыме не абдылося аналягічных зьменаў: і тут няма чаму зьдзіўляцца. Рым у апошнія часы мала выбірае сваіх міністраў; яны куюцца ў нейкіх замежных кавальнях, і іх ужо цалкам адукаваных даюць Рыму; і тыя, хто пасадзіў іх на гэтыя пасады, спрабуюць дазволеным ці недазволеным чынам захаваць іх там.

Магчыма Вы б хацелі пачуць гісторыю гэтага жывога манетнага банку, якая вядома значна больш важная і дзіўная, чым тая са штэмпелем Караля Нікаласа: нават гэтую гісторыю ведае цэлы сьвет, толькі ніхто яе не хоча распавядаць; бо кожны верыць, што гэта можа зрабіць толькі безразважны сьмяльчак: і я не хачу ім быць. Я ўжо ў гэтым лісьце два разы, з дрыжачай ***)** рукой, закранаў гэтую справу; і закрану яшчэ раз: між тым гэта, так бы мовіць, адзіная крыніца ўсяго зла, аб чым уздыхае царква, што папы ня маюць свабодных рук у сваім выбары міністраў як для Рыма, такі і для іншых двароў. Паколькі пасады міністраў выгодныя і крыху зьвязаныя з пурпурам: таму так адбываецца, што выбар часта

***)** цяпер аўтар ня мае больш ніякай прычыны дрыжэць, бо той, каго ён у Рыме галоўным чынам баяўся, памёр.

падае не на тых, хто гэтага больш за ўсё заслугоўвае, а на тых, хто спрытней намагаўся яе атрымаць. З гэтай нагоды Яўген IV[165] на пачатку свайго папства адмяніў звычай пасылаць нунцыяў да двароў, каб паведаміць ім аб выбраньні новых пап. Калі ж Ян, кароль Кастыліі[166], паскардзіўся на гэтае новаўвядзеньне, папа адказаў яму наступнымі словамі, як гэта можна прачытаць у Райнальда на 1431 год: **Мы знайшлі, што з гэтай прычыны падобныя прызначэньні нунцыяў зьяўляюцца карысьлівымі, таму як шмат хто прапаноўвае сябе да гэтага, і таксама па прычыне выгады імкнецца атрымаць гэтую працу праз хадайніцтвы. Таму мы жадаем ачысьціць пачатак нашага папства ад гэтай заганы; і мы таксама яшчэ выдалілі з нашага двара іншыя пэўныя карысьлівыя звычаі, бо мы жадаем пазбавіць рымскі двор ад усялякага сораму ганебнай прагнасьці**. Да якой колькасьці пасад можа сёньня быць аднесена гэтая прычына ганебнай прагнасьці? Пра нунцыятуры ніхто не сумняецца. Калі ў Рыме робіцца вядомым назначэньне нейкага нунцыя, ці не чуваць, як усе людзі на вуліцах кажуць: **як жа пашанцавала гэтаму прэлату**? І я чуў, як рымскія вулічныя хлапчукі ўголас сьпяваюць за карэтамі тых, што адносяцца да такіх нунцыятур, якія цягнуць да сябе кардынальскі капялюш:

Facci bene, o facci male,

Sarai fatto Cardinale.

Ты можаш рабіць гэта добра, ці дрэнна,

Але ты ўсё ж такі будзеш кардыналам.

Гэты момант трэба ўсё ж такі разумець, бо ён служыць дзеля таго, каб вырашыць шмат сумненьняў. Кар’ера рымскага міністра, гэта кар’ера шчасьця; дзе заступніцтва не толькі ўладароў, але й значна больш нізкіх асобаў, нярэдка замяняюць недахоп талентаў, вучонасьці і нават рэлігіі. Горш за ўсё, што да Папы на службу прыходзіць шмат такіх, якіх і Папа не жадаў бы, дый яны ад яго не чакаюць свайго прасоўваньня па службе. Яны служаць, такім чынам, дзьвум панам, аднаму зь якіх яны мусяць пры розных абставінах здраджваць. Цяпер ім здаецца дзёрзкасьцю, калі нехта верыць, што яны злоўжваюць папскім імем, каб задавольваць свавольства і жаданьні кагосьці іншага? Справа ясная, аднак Вы жадаеце фактаў. Тады тут Вы маеце некаторыя з тысячаў, якія я мог бы Вам зараз прывесьці.

Калі ў апошнія гады Бенэдыкта XIV[167] было арганізавана новае выданьне праклятага твору Антуана Арно, адзін з рымскіх падначаленых заверыў друкара папскім імем, што Папа схільны прыняць прыязнасьць да гэтага, і выдаць у сьвет сваё задавальненьне гэтым у прадпісаньні, якое можна было б

[165] Яўген IV (Eugenius PP. IV), сьвецкае імя Габрыеле Кандульмэр (іт. Gabriele Condulmer) 1383 – 23.02.1447 гг. – папа рымскі з 3 сакавіка 1431 па 23 лютага 1447 г. Яўген IV быў чалавекам суровага ладу жыцьця й прыхільнікам цьвёрдай рукі. Пасьля каранацыі ён рашучым чынам прыступіў да абмежаваньня кардынальскіх прывілеяў, асабліва тых, што былі прадастаўлены кардыналу ягоным папярэднікам Мартынам V. Арганізаваны кардыналам Чэзарыні крыжовы паход, у якім галоўная роля выпала на долю караля Рэчы Паспалітай і Вугоршчыны Ўладзіслава, скончыўся паразай пад Варнай у 1444 годзе. Хоць значную частку свайго пантыфіката Яўген правёў у Фларэнцыі, ён прыклаў вялікія намаганьні, каб вярнуць Рыму былы бляск. Дзякуючы яго высілкам у Вечны горад прыехала шмат выбітных гуманістаў, мысьляроў, пісьменнікаў, мастакоў, скульптараў і музыкаў.

[166] Хуан II Кастыльскі (гішп. Juan II de Castilla), 06.03.1405 – 20.07.1454 гг. – кароль Кастыліі і Леона ад 1406 году. Сын Энрыке III Кастыльскага і Кацярыны Ланкастарскай.

[167] Бенэдыкт XIV (Benedictus PP. XIV), сьвецкае імя: Праспэр Лярэнца Лямбэрціні (іт. Prospero Lorenzo Lambertini) 31.03.1675 – 03.05.1758 гг. – папа рымскі з 17 жніўня 1740 па 3 траўня 1758.

надрукаваць перад першым томам. Бязбожная справа мела б посьпех; калі б тым часам аб гэтым не паведамілі некаторым годным біскупам галіканскай Царквы[168], якія поўныя адданасьці з Апостальскай шчырасьцю пісалі Папе і завяралі яго, што яны не будуць вымушанымі сьведкамі гэткай вялікай прыкрасьці, і што яны, нягледзячы на папскае прадпісаньне, якое яны мусілі лічыць за фікцыю нейкага сектанта, адновяць праклён гэтага ерэтычнага твору пад найцяжэйшым асуджэньнем. Яны, нарэшце, папярэджвалі яго з сыноўняй пашанай, што ў яго службах у Рыме і за яго межамі маюцца асобы, якія яго паважаным узростам карыстаюцца і злоўжваюць. Я чытаў ліст аднаго з гэтых біскупаў, які аб гэтым здарэньні паведаміў аднаму свайму блізкаму сябру, вучонаму чалавеку ў Рыме.

Клеменс XIII яшчэ не быў узьняты на папскі трон, як здарыўся падобны выпадак. Адзін рымскі падначалены схаваў з ужо напісанага і запячатанага адказа на пажаданьне біскупаў Францыі восем ці дзевяць [частак], і замест іх паслаў з адрэсай да найвучоных і найадданых біскупаў столькі ж іншых фіктыўных, якія аднак былі поўныя абразьлівых выразаў і накіраваныя на раскол. Добры Рэцоніка[169], пасьля таго як ён даведаўся аб здрадзе, плакаў па сваёй звычцы ў нагах укрыжаванага; ён пісаў усім біскупам адказы і паслаў ім копіі яго сапраўдных лістоў, якія ён загадаў узяць з пратаколаў; аднак ён не палічыў вартым зрабіць сабе належную сатысфакцыю, ці з-за таго, што вераломны фальсіфікатар не быў раскрыты, ці з-за таго, што ўдзел у гэтым прымалі асобы, над якімі трэба было зьлітавацца, каб яшчэ больш не пагоршыць справу. Калі гэта адбылося ў Рыме, паміж муроў папскага палацу; то што тады мусіць рабіцца ў аддаленых краінах? Пакуль яшчэ ня час казаць уголас; толькі вядома, што найбольшай з няспынных бедаў гэтага вялікага Папы было здрадніцтва яго міністраў.

Папства Клеменса XIV было ў гэтым дачыненьні, а менавіта каб карыстацца папскім імем дзеля тых ці іншых мэтаў, трагікамічнай сцэнай, якая на працягу пяці год стаяла ў Эўропе. 12000 манахаў, кажуць, былі секулярызаваныя за яго часам, аднак колькі ж манахаў самі прызнаюць, што яны гэтую ласку набылі за грошы, якія яны сунулі ў рукі таго прэлата, таго манаха, той мадамы, якія ўсе арэндавалі папскае імя. Папскім імем былі скасаваны запаветы, перанесены спадчыны, выдадзены, без выслухваньня другога боку, судовыя рашэньні, паплюндраваныя цэрквы і спустошана папская казна. Папскім імем каштоўныя каралі, якія віселі на срэбнай статуі сьвятога Станіслава ў царкве сьвятога Андэаса на Квірынале, былі перавешаныя на шыю нейкай бабы, якая цяпер не так даўно памёрла праз сухоты. Папскім імем адзін камердынер пана Мацэдоніё выдаў пэўную колькасьць фальшывых рэскрыптаў, якія цяперашні Папа Пій VI мусіў выправіць праз сапраўдныя.

Пад зараз кіруючым Папай Піям VI Рым убачыў галоўнага сярод няшчасных, абата Ангілью [Abbat Anguilla], у руках ката, бо ён сачыняў Апостальскія лісты і выдаваў іх папскім імем. І гэта была не адзіная галава, якая з-за аналягічных злачынстваў трапіла ў жудасныя рукі ката. Цяпер Вы задаволеныя? Такім чынам Вы маеце тут некаторыя праўдзівыя і вядомыя

[168] Галіканства, Галіканізм – тэрмін, які аб’ядноўвае рэлігійныя, палітычныя і прававыя дактрыны, што былі распаўсюджаныя ў Францыі ў Сярэднявеччы і Новы час. Асноўныя ідэі – пэўная незалежнасьць нацыянальнай Царквы ад папскай улады і прызнаньне за дзяржавай (ці манархам) права мець уладарскія паўнамоцтвы ў французскай Царкве. У адрозьненьні ад англіканства, мэтай галіканізма не было поўнае адасабленьне ад Рыма, але толькі частковае абмежаваньне яго ўплыву на нацыянальную Царкву.

[169] Папа Клеменс XIII, чыё сьвецкае імя было: Карла дэля Торы ды Рэцоніка.

падзеі. Цяпер падумайце, ці ня мелі прычыны біскуп Малінскі ды іншыя пастары каталіцкай Царквы, якім гэтыя падзеі не маглі быць невядомымі, не давяраць тым прадпісаньням, якія выйшлі пад папскім імем, і асьцерагацца таго, што невядомыя міністры злоўжываюць біскупскай пашанай да сьвятога Стальца, каб да найвялікай шкоды рэлігіі і дзеля прыніжэньня Апостальскага характару, зрабіць пераемніка Апосталаў ганебным інтрументам іхняга посьпеху.

Адносна езуітаў, маюцца асаблівыя прычыны, чаму рымскія штабныя афіцэры не вартыя даверу. Усё, што ў нашыя дні прадпрымаецца супраць езуітаў, ёсьць працяг той трагедыі, якая ўжо 18 альбо 20 гадоў на сцэне; аднак гэтая трагедыя гэта нішто іншае, як прыкрая чарада злоўжваньняў найвышэйшай царкоўнай уладай. Здрады, якія абдыліся ў Клеменса XIII з боку аднаго зь яго нунцыяў, вядомыя. Думкі і загады Папы ніколі не даходзілі ў сапраўдным выглядзе да вушэй уладароў. Каралеўскія рэзалюцыі былі альбо цалкам утоеныя ад Папы, альбо няслушна дакладзеныя. Папа загадаў нунцыю, што той павінен езуіцкую справу вырашыць непасрэдна з каралём асабіста, каб аб гэтым нічога не было вядома ані міністрам, ані духоўнікам: а нунцый адкрыў яе міністрам і духоўнікам без таго, каб даверыць яе каралю. Наконт выгнаньня езуітаў Папа піша каралю такі пераканаўчы, такі прыхілісты і такі дасканалы ліст, што ён бы яго бясспрэчна пераканаў яго скасаваць эксіліюм[170]: ён адпраўляе яго нунцыю з загадам, і пад пагрозай цяжкай вымовы, што ён яго павінен адразу ў найвялікай скрытнасьці перадаць каралю ў рукі і з наступнай поштай даць паведамленьне, што ён яго перадаў у рукі, ён павінен таксама добрасумленна дакласьці пра ўсё, што ён ведае пра рэзалюцыі двара ў дачыненьні езуітаў. А нунцый, што робіць ён? Ён выстаўляе сябе хворым, пакідае караля ў няведаньні; раскрывае ліст супраціўнай партыі і піша адказ Папе, што той двор і той народ цалкам верныя езуітам, што такім чынам высылка зьяўляецца мрояй, неабгрунтаванай чуткай. Што лічыце Вы цяпер наконт вернасьці рымскіх міністраў? І тым не менш гэта тыя, што сёньня робяць больш за ўсё шуму аб непадпарадкаваньні езуітаў. Калі такі вось чалавек ад папскага імя раздае біскупу загады, ці павінен біскуп ім давяраць?

Пад уладай Клеменса XIV, хто рабіў папскіх міністраў? Думаць аб гэтым бяз жаху немагчыма. Найбольшыя ворагі езуітаў і Царквы і, нарэшце, французская баба, раздавалі царкоўныя пасады і падзялялі выспы і пурпур, як ім было заўгодна. Вы верыце, што яны выбіралі для гэтага найадданейшых да Папы асоб?

Падчас скасаваньня езуіты былі аддадзеныя ў падпарадкаваньне дзіўнай Кангрэгацыі, што складаецца зь пяці ***)**[171][172][173][174] іх самых заклятых ворагаў ****)**[175].

---

[170] Exilium – выгнаньне.

[171] Андрэа Чарзіні Бенэдыкт XIV (іт. Andrea Corsini), 17.08.1735 – 18.01.1795 гг. – італьянскі кардынал з 1759. У 1773-м годзе быў зроблены прэфектам Вярхоўнага Трыбунала Апостальскай Сігнатуры і член камісіі па барацьбе з езуітамі.

[172] Антоніё Чазалі (іт. Antonio Casali), 25.05.1715 – 14.01.1787 гг. – кардынал з 1773. У тым жа годзе ён стаў членам камісіі пад началам кардынала Марыё Марэфошы Кампаньёні, якая павінна была сачыць за скасаваньнем Ордэна Езуітаў. Там ён выступаў на баку езуітаў, што трымаліся палоннымі ў Энгельсбурзе.

[173] Францыск Ксаверый дэ Дзелада (іт. Francesco Saverio de Zelada), 27.08.1717 – 19.12.1801 гг. –італьянскі курыяльны кардынал. Тытулярны біскуп Петры ў Палестыне з 23.12.1766 па 19.04.1773. Пасьля чаго быў абраны кардыналам-сьвятаром. Ён быў галоўнай асобай свайго часу, што вяла справы Сьвятога Стальца, і аўтарам булы Dominus ac Redemptor (Гасподзь і Збавіцель) 1773 г., якая прывяла да забароны Суполкі.

[174] Францыск Карафа Трайета (іт. Francesco Carafa di Trajetto), 29.04.1722 – 20.09.1818 гг. – італьянскі кардынал з 19.04.1773, удзельнік камісіі па барацьбе зь езуітамі.

*) Кардыналы Чарзіні, Чазалі, Марэфошы, Дзелада і Карафа Трайета. Марэфошы мусіў 10 верасьня 1770, Чазалі 15 сакавіка 1773 і Дзелада з Карафай Трайета 19 красавіка таго самага году падзякаваць Папу за кардынальскі капялюш. Гл. „Lettres à Mr. Carracioli“, ст. 289 і далей, і „Le Oui et le Non, ou Lettres sur la Procédure faite contrles Jésuites au chateau Saint-Ange &c.“ (Парыж 1777. 12.) ст. 80 і далей. Марыё Марэфошы памёр 23 сьнежня. Франц Ксаверый Дзэлада зьяўляецца кардыналам-бібліятэкарам, а Карафа Трайета кардыналам-легатам Ферары.

**) L'établissement de la Comission fut un trait de politique. – Sans autorité et recevant tous les ordes, elle dut prendre sur elle l'embarras des operations. S'ils étoient rigoureux, elle dut même parôitre les donner, et se charger encore de toute la honte de l'execution: s' ils étoient favorables, il falloit qu'elle en fit un mérite au Saint Pere. La vanité l'empêcha toujours de devoiler le mystere; mais Trajetto se plaignoit souvent à ses amis qu'ils n'étoient que de purs automates. Dés qu'il s'agissoit de quelque grace on renvoyoit au Palais, et le Palais qui n'en vouloit point accorder, renvoyoit à la Commission qui ne pouvoit rien. Ainsi le recours étoit fermé aux malheureux. On voyoit cependant chaque semaine les executions les plus odieuses, des perquisitions, des citations, des imprisonnemens, des interrogatoires; mais le grand secret commandé er observé sur les motifs de toutes ces operations fit taire quelque temps le Public, qui les supposa légitimes. Neanmoins l'emprisonnement d'un Prêtre, (п. Франц Бэнінказа, ад 1780-га біскуп Карпі) fait le propre jour de Noël, des visites de Sbirres chez des Princes, mille vexations évidemment tyranniques, commencerent á faire murmurer bautement. Bientôt la désertion de Marefoschi, et les plaintes qu'il fit ouvertement, dévoilerent des noirceurs. Jean-François Albani sçut, á n'en pouvoir douter, que tous les prisonniers étoient innocens, et le bruit s'en répandit. Les Cardinaux Commissaires ne furent donc plus regardés que de mauvais oeil dans les conversations; on les détestoit , mais on les craignoit encore: après la mort du Pape on osa leur parler ouvertement. Lettres á Mr. Caraccioli; ст. 237.

Тэолягам гэтага сходу зьяўляецца адзін манах ***)**, які так верны Рыму, як калі б ён быў на службе патрыярхаў Канстантынопаля, народжаным падданым

*) Дамінікан а. Тумаш Мамачы; цяпер “Sacri Palatii Apostolici Magister”.

якога ён зьяўляецца. Гэтая кангрэгацыя напоўніла рымскія вязьніцы езуітамі ***)**, толькі таму, што яны езуіты; таксама як яны былі ў часы сьвятога Апостала Пятра напоўненыя хрысьціянамі, толькі таму, што яны былі хрысьціянамі. Дзіўная судовая практыка, пазапраўныя мэтады, свавольства і жорсткасьць, якія ўчыніла гэтая неўміручая кангрэгацыя, вырасьлі да такой ступені ганьбы, што яна, побач з прысягай, якую яна накладвала на тых няшчасных вязняў, што пералылі яе тыранічнае панаваньне, каб яны пахавалі свае пакуты ў вечным

*) Пра гэта глядзіце: “Unparteiische Geschichte der Gefangenschaft des Don Lorenzo Ricci und seiner Assistenten in der Engelsburg”, Франкфурт і Ляйпцыг 1781. 8., дзе можна знайсьці дзівосныя рэчы.

[175] Стварэньне Камісіі было палітычным крокам. - Без улады і атрымаўшы ўсе загады, яна павінна была прыняць на сябе цяжкасьці задач. Калі б яны былі жорсткія, яна павінна была б зрабіць выгляд, што яна іх аўтар, і ўзяць на сябе ўсю ганьбу іх выкананьня: калі б яны былі спрыяльнымі, патрабавалася, каб яна выканала іх у якасьці заслугі перад Сьвятым Айцом. Ганарыстасьць заўжды перашкаджала яму раскрыць таямніцу; але Трайета часта скардзіўся сваім сябрам, што яны былі не больш, чым выканаўцы. Як толькі гаворка йшла аб нейкам памілаваньні, яе накіроўвалі назад у Палац, а Палац, які зусім не жадаў пагадзіцца з гэтым, вяртаў справу на разгляд Камісіі, якая нічога не магла. Такім чынам, няшчасныя былі вылішаныя магчымасьці падаць скаргу. Між тым кожны тыдзень мы бачылі самыя гнюсныя пакараньні,ператрусы, арышты, зьняволеньні, допыты; але вялікая тайна, якую кантралявалі і захоўвалі адносна матываў усіх гэтых аперацый, на працягу пэўнага часу забяспечыў маўчаньне народу, які лічыў іх легітымнымі. Але турэмнае зьняволеньне сьвятара, якое адбылося ў самы дзень Раства, візіты збіраў да прынцаў, і тысячы відавочна тыранічных прыгнётаў пачалі ўздымаць гоман. Неўзабаве дэзерцірства Марэфошы і шкадаваньні, якія ён адкрыта выказаў, выкрылі брыдкія ўчынкі. Жан-Франсуа Альбані сьцвярджаў, што не магло быць ніякіх сумненьняў у тым, што ўсе зьняволеныя былі нявінныя, і пагалоска разьнесла гэтую чутку. Таму кардыналаў-камісараў больш не ўзгадвалі падчас размоў інакш, як агідных мярзотнікаў; іх ненавідзелі, але ўсё яшчэ баяліся: толькі пасьля смерці Папы пра іх адважыліся казаць адкрыта.

маўчаньні, яшчэ мела сьмеласьць прасіць зараз кіруючага Папу Пія VI, каб ён пажадаў судзіць палонных езуітаў не па законах; бо паводле законаў нявіннасьць абвінавачаных і ганьба кангрэгацыі мусілі выйсьці на дзённае сьвятло. Цяпер яны зьяўляюцца тымі, хто робіць столькі лямантy пра непадпарадкаваньне расейскіх езуітаў. Калі яны будуць нейкаму біскупу даваць загады ад папскага імя, ці павінен біскуп ім верыць?

Часы зьмяніліся, скажаце Вы: сёньня рымскія міністры не гэткай пароды. Сябра! Вы жартуеце. Якім жа чынам яны ня гэткай пароды? З удзельнікаў кангрэгацыі не зьнікла ніводнага, акрамя сакратара Мацэдоніё. Астатнія яшчэ жывыя, і могуць і жадаюць зрабіць шмат зла езуітам. Той знакаміты нунцый яшчэ жыве, і зараз больш магутны, чым калі ён быў нунцыям. Падазронасьць жадае, такім чынам, таксама пасьці на пана нунцыя, не кажучы пра астатніх, якіх, вядома, нямала, бо ён пад час скасаваньня быў выканаўчым міністрам нямецкага калегіюма, на пасаду якога яго абралі Alfani[176], Buontempi[177] і Кангрэгацыя-Пяцёх. Ён мусіў (магчыма да сваёй незадаволенасьці) весьці прэзідыюм пры поўных смуроду дасьледваньнях патаемных камер, дзе спадзяваліся схаваць злачынствы а. Стэфанучы, які мусіў памерці ў турме, бо ён зьдзейсьніў найвялікае злачынства, спаліўшы кучу бескарысных дакументаў? Верна, мы скажам толькі коратка – усе тыя, што працавалі супраць езуітаў у Беларусі, належаць да гэтай пароды; людзі, якія сістэматычна прывыклі да хлусьні, людзі, якія прадаліся антыезуіцкай партыі; нарэшце людзі, якія ня маюць ніякага права на пашану людзей, якія любяць праўду, бо гэтае права належыць выключна праўдзіваму чалавеку. І праз гэткія каналы павінна ісьці разуменьне паміж Папай і біскупамі наконт кіраваньня Боскай Царквой? І разважлівы, дасьведчаны і адданы біскуп павінен сьлепа верыць падобным людзям там, дзе справа йдзе аб адпраўленьні правасудзьдзя і аб садзеяньні Боскай Справе, Царкве і душам? Цяпер давайце дасьледуем тое дабратворнае настаўленьне.

## §. IX.

Біскуп Малінскі зьвяртаўся, паводле аўтара цыркуляра, да Папы дзеля хаця б нейкага настаўленьня наконт несправядлівых і неразумных загадаў пана Аркеці. Што ён атрымаў у адказ? Паўтор папярэдніх загадаў, якія біскупу лічыў немагчымымі. А настаўленьне? Якраз гэтыя загады і ёсьць настаўленьне. Такім чынам, мы хочам спачатку разглядаць загады як настаўленьне, а потым настаўленьне як папскія загады і распараджэньні. Мы пакажам у якасьці настаўленьня іх незвычайную недарэчнасьць, і ў якасьці распараджэньняў іх незаконнасьць і несправядлівасьць. Што да першага пункту, каб прадставіць Вам гэта са звычайнай кропкі гледжаньня, я хачу па частках выкласьці перад Вашымі вачыма прэтэнзіі біскупа, якія разьмешчаныя ў цыркуляры, і паставіць кожнай зь іх яе адпаведнае дабратворнае настаўленьне. Гэтая тэма, дарэчы, сьмешная, і настаўленьне годнае першага арлекіна. Няшчасны Сьвет, як жа шкада цябе; чыё кіраўніцтва падобнае да фарсу!

[176] Тумаш Марыя Альфані (Thomas Maria Alfani) – рымскі прэлат.
[177] Інакенці Буонтэмпі (іт. Innocenzo Buontempi), 1722 (2і 1723) – 16.07.1802 гг. – сакратар Папы Клеменса XIV, пасрэднік паміж Рымам і гішпанскім пасольствам.

Першая прэтэнзія біскупа Малінскага: **Расейскія езуіты, пад адгаворкай, што загад аб скасаваньні ім ня быў агучаны, працягваюць унутрана і зьнешне паводзіць сябе так, нібыта скасаваны інстытут насамрэч яшчэ існуе**.

Меркаваньне біскупа складаецца прыкладна ў наступным: Скасаваньне езуітаў у Беларусі немагчыма ажыцьцявіць. Я не магу яго ім ані агучыць, ані накіраваць да выкананьня. Няма надзеі, што езуіты самі сябе скасуюць, бо яны вырашылі працягваць сваё духоўнае жыцьцё. Яны ў гэтым нічога не зьмянілі і вераць таксама, што яны ня могуць уласнымі паўнамоцтвамі зьмяніць нават дробязь без таго, каб зрабіцца вінаватымі ў парушэньні даверу, у якім яны пакляліся Богу падчас свайго прафэсыёну. Яны, канечне, прынялі б папскія распараджэньні, але калі б яны былі ім агучаныя паводле канонаў і паводле прадпісаньня царкоўных статутаў; аднак яны ня вераць, што Папа мог бы ўвесьці ў Царкве парадак абвяшчаць яго законы праз газэты і грамадскія чуткі і патрабаваць іх выкананьня. Такім чынам, пакуль яны ня маюць юрыдычнага паведамленьня аб скасаваньні іх ордэна; яны вераць, што яны, не робячыся адступнікамі, не могуць ані зьняць сваю вопратку, ані пакінуць калегіюмы, ані вылішыцца падпарадкаваньня, ані вярнуцца ў сьвет. І, па-праўдзе, дагэтуль гэта было вучэньнем усіх каталікоў, я кажу менаваіта ўсіх; бо езуіты патрабуюць ад кожнага, давесьці ім адваротнае; і яны робяць гэта з упэўненасьцю, якая гарантуе ім ня быць перакананымі. Значыць, тут мусіць быць прынята настаўленьне. Альбо паводзіны езуітаў трэба абвясьціць годнымі ўхваленьня, альбо трэба **з усёй паўнатой улады** абвясьціць, што царкоўны закон зьяўляецца дастаткова абвешчаным, калі ён прачытаны ў газэце, ці ў карчмах чулі размовы аб ім. Цяпер Ваш адказ, пан міністар, адказ!

Адказ і настаўленьне пана Аркеці **ад папскага імя**. **З улікам гэтага дакладу**, які кажа не больш, як з улікам найважных прычын, якія маюць расейскія езуіты, каб мусіць працягваць сваё духоўнае жыцьцё, біскупу прадпісваецца **ў якасьці дабратворнага настаўленьня**, што ён **павінен разглядаць як непаслухмяных усіх тых асоб, якія не жадаюць прыстасоўваць сябе да найвышэйшых распараджэньняў Ватыкана**. І ці гэта ня сьмешны адказ і настаўленьне?

Цішэй, мой пан міністар, успомніце, што таксама ў ганганэлеўскім загадзе адмыслова стаіць, што скасаваньне дагэтуль ня мусіць разглядацца як гвалтоўнае, пакуль **гэта наша пасланьне не будзе агалошана і абвешчана**: успомніце, што ў загадзе адмыслова стаіць, што толькі тыя копіі зьяўляюцца сапраўднымі, якія падпісаныя грамадскім натарыюсам і замацаваныя пячаткай адной з асоб, якая валодае духоўным аўтарэтэтам; і што расейскія езуіты такой копіі ніколі не бачылі: успомніце, што ажыцьцяўленьне таго загаду, менавіта папскага, ускладзена не на езуітаў, але на біскупаў: успомніце, што езуіты паводле загаду павінныя толькі перадаць біскупам кіраўніцтва над сваёй маёмасьцю, над сваімі калегіямі і сваімі цэрквамі; успомніце, што, у дачыненьні да іх адпраўленьняў, Папа Ганганэлі не даў ніводнага загаду езуітам, але біскупам, якія павінныя вызваліць іх ад гэтага: такім чынам, езуіты нават паводле загаду працягваць сваё езуіцкае жыцьцё, пакуль яны ня знойдуць біскупа, які абвесьціць ім іх лёс; дзейнічаць іншым чынам азначала б тое самае, што дзейнічаць супраць загаду, і прысвойваць сабе біскупскія паўнамоцтвы і паўнамоцтвы Апостальскай Дэлегацыі: такім чынам, ваша настаўленьне, мой пан міністар, зьяўляецца абсурдным; а мы чакалі чагосьці разумнага.

Адказ і настаўленьне пана Аркеці ад папскага імя. **З улікам гэтага дакладу**, які кажа не больш, чым: паколькі паводзіны езуітаў у Беларусі, што яны будуць так доўга працягваць жыць паводле скасаванага інстытута, пакуль скасаваньне ня будзе ім агучанае бускупам, адпавядаюць распараджэньням скасаваўшага іх Папы, і наадварот, скасаваць саміх сябе было б супраць гэтага загаду; то біскупу прадпісваецца ў якасьці дабратворнага настаўленьня, што ён павінен разглядаць як непаслухмяных усіх тых асоб, якія не жадаюць прыстасоўваць сябе да найвышэйшых распараджэньняў Ватыкана. І ці гэта ня глупы адказ і настаўленьне?

Успомніце аднак яшчэ, пан міністар, што паводзіны езуітаў і іх руплівасьць, зь якой яны нязьменна аддаюць сябе духоўнаму і звычайнаму жыцьцю, зьяўляюцца сярод тых народаў вялікім павучаньнем, таксама як намаганьне Рыму іх разагнаць і вярнуць іх да звычайнага жыцьця, прывядзе да вялікіх прыкрасьцяў. Бо гэтыя людзі там не здолеюць адрозьніць тое намаганьне, якое сёньня выказвае Рым, ад таго, якое раней мелі кальвіністы, лютэране і нямецкія дысыдэнты ў Ліфляндыі. То дайце настаўленьне, якое ня будзе абуральным для хрысьціянскіх вушэй.

Адказ і настаўленьне пана Аркеці ад папскага імя. **З улікам гэтага дакладу**, што азначае, з улікам добрага ўзору, які паказваюць езуіты, бо яны працягваюць жыць паводле свайго інстытуту, і з улікам вечнай ганебнай плямы, якую выклікае на сябе Рым, бо ён імкнецца іх разагнаць, біскупу прадпісваецца ў якасьці дабратворнага настаўленьня, каб ён разглядаў як непаслухмяных усіх тых асоб, якія не жадаюць прыстасоўваць сябе да найвышэйшых распараджэньняў Ватыкана. І ці не называецца гэта абсурдным адказам?

Другая прэтэнзія біскупа Малінскага: **царыца не жадае дазволіць афіцыйнае скасаваньне езуітаў**.

Гэтае пажаданьне Манархіні апраўдвае паводзіны езуітаў і Біскупа. Езуіты як добрапрыстойныя грамадзяне падпарадкоўваюцца Імпэратрыцы, а як добрапрыстойныя каталікі і сьвятары, Папе. Аднак атрымліваецца, што яны атрымліваюць ад гэтых двух законных уладаў супрацьлеглыя загады, адзін зь якіх стаіць на шляху ў другога. Такім чынам, яны прынялі рашэньне пачакаць са справай, пакуль абедзьве ўлады не прыйдуць да адзінага меркаваньня, і не вырашыцца іх лёс. Дарэчы, яны маюць найважныя прычыны, якія ў сёньняшніх абставінах прымушаюць іх трымацца Манархіні: па-першае, загады двара зьяўляюцца справядлівымі; а рымскія – дэспатычнымі. Па-другое, загады двара агучаныя ім належным чынам; а рымскія – не, і не могуць. Па-трэцяе, не падпарадкоўвацца Манархіні гэта небясьпечная справа, якая можа выклікаць вялікія непарадкі; а царква не прымушае да справы, якая зьвязаная зь вялікай нязручнасьцю. То які ж адказ маеце Вы на гэтыя прычыны?

Адказ і настаўленьне пана Аркеці ад папскага імя. **З улікам гэтага дакладу**, які кажа не больш, чым: з улікам найвышэйшага загаду Кацярыны II, які яна выдала езуітам, што яны павінныя працягваць, без аніякіх зьменаў, жыць паводле свайго сьвятога інстытуту, біскупу прадпісваецца ў якасьці дабратворнага настаўленьня, што ён павінен разглядаць як непаслухмяных усіх тых асоб, якія не жадаюць прыстасоўваць сябе да найвышэйшых распараджэньняў Ватыкана. І ці гэта не недарэчны адказ і настаўленьне?

Для Біскупа апраўдаць сябе зьяўляецца лёгкай спарвай. Ён павёў сябе са сваёй Манархіняй таксама, як і шмат іншых біскупаў сьвету паводзілі сябе. Што

рабілі, напрыклад, біскупы Вены, Турына, Фларэнцыі, Генуі, патрыярх Венецыі і г.д., калі яны атрымалі ад кардынала Чарзіні, чальца кангрэгацыі па езуітах, свае пакеты з аўтэнтычнай копіяй загаду? Кожны зь іх прад’явіў іх двару. Усе прызналі за сваімі манархамі права ўзгадніць ці адкінуць той загад; і яны мусілі так доўга чакаць, пакуль двор дасьць сваё **дабро**; і тады яны толькі могуць прыступіць да выкананьня; і нават таксама ў гэтым ім дазволена было рабіць толькі тое і не больш, чым жадалі ўладары. Напрыклад, артыкул, у якім біскупам загадваецца завалодаць ад імя Папы маёмасьцю езуітаў, не выканаў ніводны біскуп, бо ніводны ўладар гэтага не дазволіў: адным словам, усе біскупы рабілі з загадам роўна столькі, колькі жадалі ўладары; і роўна столькі зрабіў таксама Біскуп Малінскі. Большага не патрабуецца нават у загадзе, дзе езуітам загадваецца толькі, што яны павінны скарыцца настолькі, наколькі ім укажуць біскупы, а біскупам, што яны павінны агучыць езуітам роўна столькі, колькі дазволяць уладары; а ўладароў будуць проста прасіць і падбадзёрваць, каб яны пажадалі выказаць сваю заахвочанасьць  ў гэтым дачыненьні. Немагчыма паверыць, каб Пій VI дазволіў дадаць да загаду больш, чым сам Ганганэлі; і немагчыма паверыць, каб ён жадаў быць у вачах сьвету большым губіцелем езуітаў, і, так бы мовіць, у гэтым дачыненьні большым Ганганэлі, чым быў сам Ганганэлі. З улікам гэтых прычын, як можна цяпер ганіць паводзіны Біскупа? Патрабуем адказ на гэта!

Адказ і настаўленьне пана Аркеці ад папскага імя. **З улікам гэтага дакладу**, то бок таму, што Біскуп супраць жаданьня Імпэратрыцы не можа ды і не павінны скасаваць езуітаў: то яму ў якасьці дабратворнага настаўленьня прадпісваецца, што ён ні пры якіх абставінах не павінен устрымацца ад таго, каб паведаміць і абвясьціць езуітам аб афіцыйна адбыўшымся скасаваньні іх інстытуту. І ці гэта ня глупы адказ і настаўленьне?

Нават калі б Імпэратрыца ў сваіх загадах, якія яна выдала ў дачыненьні езуітаў, не пазначыла б ніводнай са сваіх прычын, то Рым і тады павінен быў бы быць задаволены і выказаць такую ўвагу, якую ён выказваў да хаваных у сакрэце прычын іншых манархаў; і наколькі ж больш павінна выказваць яе цяпер, калі Яе імпэратарская Моц растлумачыла свае прычыны, супраць якіх нельга нічога запярэчыць?

Прычыны ў дачыненьні да справядлівасьці. Пра езуітаў, кажа яна, якія стаяць пад яе ўладай, яна ня ведае ніводнага злачынства, якое б заслужыла іх скасаваньня. Калі Рым ведае хаця б адно, то ён павінен прад’явіць яго, каб можна было кіравацца ім і абыходзіцца зь імі, як яны заслугоўваць. Аднак калі ён ня ведае ніводнага, то яна не можа дазволіць, каб аб’яднаньне нявінных людзей, якія маюць неаспрэчнае права на абарону манархаў, павінна было быць абрабаванае на маёмасьць і грамадскі стан ды зьнішчанае. Калі б хоць быў зладжаны афіцыйны працэс, ды быў бы распачаты афіцыйны суд, асабліва таму, што прыгнёт нявіннасьці, непакой добрых і карысных грамадзян і пакараньне без папярэдняга суду, ніколі не зьяўляюцца належным дзеяньнем законнай улады; і тым менш гэта належна той уладзе, якая заве сябе Апостальскай, і асабліва зьяўляецца намесьніцкай уладай Бога правасудзьдзя, якая мусіць быць правілам і ўзорам справядлівасьці. Што можна супрацьпаставіць гэтым прычынам пецярбургскага двара? Што за ганьба, што нейкі сьвецкі двор, які не зьвязаны з Рымам, робіць такія дакоры рымскай уладзе, якія калісь лепшыя Папы мелі звычай рабіць паганскім і арыянскім Імпэратарам, якія перасьледвалі царкву! Такому зьняважальнаму дакору няшчасны Біскуп быў не ў стане нешта проціпаставіць. То такім чынам дайце

яму Вы, мае панове рымляне, добры адказ і настаўленьне ў руку!

Адказ і настаўленьне пана Аркецi ад папскага імя. **З улікам гэтага дакладу**, то бок з улікам відавочнай несправядлівасьці, якую Імпэратрыца ўсяе Русі бачыць у скасаваньні езуітаў на яе землях, і якую Яна ніякім чынам не жадае дазваляць, Біскупу прадпісваецца ў якасьці дабратворнага настаўленьня, што ён ні пры якіх абставінах не павінен устрымацца ад таго, каб паведаміць і абвясьціць езуітам аб афіцыйна адбыўшымся скасаваньні іх інстытуту. Ці гэта не бессэнсоўны адказ і настаўленьне?

Прычыны ў дачыненьні да стальца. Езуіты зьяўляюцца не толькі духоўным аб’яднаньнем, якое накіравалі ў царкву дзеля карысьці веры, але таксама і грамадскім аб’яднаньнем, якое ўладары прынялі дзеля карысьці сваіх зямель; таму іх існаваньне і іх ліквідацыя залежаць ад абедзьвух уладаў: Папа не можа без дазволу ўладароў насадзіць іх у сьвецкіх краінах; і Папа не можа без згоды ўладароў выгнаць іх адтуль. У выпадку з езуітамі гэта мае яшчэ дзьве асаблівыя прычыны: па-першае, што езуіты знаходзяцца на рэальных службах народу і манарху, бо яны забясьпечваюць школы і выхаваўчыя дамы: чые ведамствы бясспрэчна знаходзяцца пад каралеўскім наглядам; па-другое, што калегіюмы езуітаў у Беларусі зьяўляюцца па большасьці каралеўскімі ўстановамі, з той маёмасьці, якая праз выгнаньне грэкаў, вярнулася назад да казначэйства, і толькі дзякуючы шчодрасьці старых каралёў Польшчы была прысьвечаная абслугоўваньню езуітаў. Ці можа Папа без пажаданьня ўладара зьнішчыць грамадскае аб’яднаньне заснаванае каралямі, якое сапраўды стаіць на службе народу і манарху, не парушыўшы пры гэтым прыярытэту трона. Рым пажадаў абмеркаваць гэты сумнеў сумесна з Францыяй, з Гішпаніяй, зь нямецкай Імпэрыяй і з Партугаліяй, і потым зрабіць заяву са згоды гэтых чатырох манархаў. Расейская [манархіня] патрабуе не большага, але такога самага права. Расейскія народы мірна карыстаюцца езуітамі і іх службамі. Расейскія сем’і маюць законную магчымасьць давяраць сваіх дзяцей езуітам і мець магчымасьць выхоўваць іх у іхных калегіюмах за невялікі кошт і з мінімальнымі клопатамі. Самі езуіты, калі іх без даказанай віны выкінуць у сьвет, могуць разумна запытаць, каб іх увялі назад ва ўсе тыя сямейныя спадчыны, ад якіх яны адмовіліся, і якімі цяпер валодаюць іх сваякі. Аднак ці не будзе гэта называцца, непакоіць, разгойдваць і дэстабілізаваць краіну? Аднак сьцвярджаць, што Папа можа рабіць усё гэта безь ніякай перашкоды з боку каралеўскай ўлады, ці не называецца гэта парушаць правы стальца?

Усе каталіцкія ўладары на сёняшні дзень маюць магчымасьць прыпыняць дзеяньне рымскіх распараджэньняў, якія не закранаюць ані веры, ані традыцый. Гэтую магчымасьць мелі таксама і каралі Польшчы, якія былі непасрэднымі папярэднікамі Кацярыны II у каталіцкай Расеі. То паводле якога права гэта жадаюць аспрэчыць у цяперашняй Манархіні? Калі на сёньняшні дзень у Расеі маюць усю павагу да Рыму, якую мелі раней, калі ёй кіравалі рымска-каталіцкія ўладары, ці не павінен Рым задаволіцца? Ці не завецца гэта, дзейнічаць неабгрунтавана, калі ад некаталіцкай імпэратрыцы патрабуюць падпарадкаваньня большага за тое, да якога зь вялікім намаганьнем ніяк немагчыма прымусіць каталіцкіх уладароў? І калі сьвярджаюць, што Імпэратрыца ў сваіх землях не можа рабіць тое, што ўсе іншыя ўладары могуць і робяць у сваіх: ці не называецца гэта парушаць правы стальца?

Карацей: Кацярына II патрабуе ад Рыма, каб у справе езуітаў ёй выказвалі такую ўвагу, якую выказвалі тым дварам, якія патрабавалі скасаваньня. Яна не

жадае, каб патрабаваньні Гішпаніі, Францыі, Партугаліі і Неапаля мелі перавагу перад ейнымі ў дачыненьні яе падданых. Яна сцьвярджае, што, як езуіты ў Нямеччыне, Францыі, Гішпаніі і Партугаліі не былі скасаваныя, але толькі з пагадненьня іхных манархаў, таксама і ў Расеі гэта не павінна адбыцца безь Ее пагадненьня. Яна сцьвярджае, што, як каралі Сардыніі і Прусіі, Рэспубліка Венецыя і магістрат Аўгсбурга адсунулі скасаваньне на нейкі час, таксама і яна можа гэта адсунуць на столькі, на сколькі ёй будзе патрэбна. Яна сцьвярджае, што, як князь біскуп Льежа дагэтуль захаваў езуітаў, такім чынам і яна таксама магла б зацьвердзіць іх далейшае існаваньне? Яна, нарэшце, тлумачыць, што хаця Яна і жадае залежнасьці сваіх падданых ад Рыма; аднак Яна не жадае быць менш манархіняй і больш рымлянкай чым уладары, якія завуць сябе Апостальскімі, усехрысьціянскімі, каталіцкімі і найвернымі манархамі. Ці можаце Вы цяпер, мае панове, вынайсьці хаця б адну адзіную падставу, каб проціпаставіць яе разумным прычынам Кацярыны II? Ну, ж! Навастрыце Ваша пер’е! Накіруйце да пісьма вашых Мамачы, вашых Бешэці[178], вашых Гіёргі, вашых Блазі, Тамбурыні[179], Фоджыні[180], Поджыялі[181], і ўсіх вашых пісакаў. Пан Аркеці не ў стане даць на гэта хаця б адзін прыстойны адказ; і калі яны пакінуць яго аднаго ў бядзе, то ён выставіць сьмяхотным сябе і ўсю сваю партыю. Паслухайце адзін [яго адказ], які насамрэч выклікае жаль.

Адказ і настаўленьне пана Аркеці ад папскага імя. **З улікам гэтага дакладу**, то бок, з улікам відавочнага і разумнага права перашкодзіць скасаваньню езуітаў, якое мае расейская Імпэратрыца, Біскупу прадпісваецца ў якасьці дабратворнага настаўленьня, што ён павінен не ўстрымацца ад таго, каб паведаміць езуітам аб адмене іх інстытуту. Ці гэта ня глупы адказ і настаўленьне?

Прычыны ўдзячнасьці. Сёньня кіруючы Папа абавязаны выказваць увагу Кацярыне II, таксама прымаючы да ўвагі ўдзячнасьць. Такое выключнае дабро Кацярыны II у дачыненьні да каталікоў перасягае ўсе спадзяваньні, якія можна мець да манархіні іншай веры. Калі Яна будуе каталікам за ўласны кошт раскошныя цэрквы, у той час, калі рымска-каталіцкія ўладары расьцягваюць тыя, што пабудавалі іх продкі; калі Яна просіць, каб паміж яе каталіцкімі падданымі і Рымам працягвалі свой лад добрыя ўзаемаадносіны ў той час, калі гэта ў вялікай колькасьці каталіцкіх народаў мякка кажучы, цалкам страчана; калі Яна пад пагрозай цяжкага пакараньня загадвае, каб ніводны газэтчык, ці іншы пісьменьнік яе Імпэрыі не казаў і не пісаўпісаў пра Папу рымскага інакш як з ўвагай, якую патрабуе яго прападобная асоба – ў час, калі ў лятучых лістках нашага народу пра Папу кажуць такія абуральныя і непаслухмяныя вольнасьці; калі Яна зрабіла мудры закон, што ніводнаму адступніку рымскай царквы, асабліва калі ён зьяўляецца сьвятаром ці манахам, не дазваляецца ўцякць на яе землі – ў час, калі заўсёды шкодны дух памяркоўнасьці стаў панаваць сярод народаў нашага грамадства; калі Яна клапоціцца аб тым, каб правінцыя былі забясбпечаныя каталіцкімі місіянэрамі і школамі з каталіцкімі настаўнікамі – ў

[178] Філіпа Ангеліка (Антоній Марыя Аляксандр) Бешэці (іт. Filippo Angelico (Antonius Maria Alexander) Bechetti), 09.01.1741 – 27.08.1814 гг. – дамінікан, гісторык, ганаровы біскуп Чыта-дэла-П'евэ.

[179] Пятро Тамбурыні (іт. Pietro Tamburini), 01.01.1737 – 14.03.1827 гг. – італьянскі багаслоў і юрыст. Аўтар каля 40 прац у галіне гісторыі інквізіцыі. Буйнейшы італьянскі янсяніст, які моцна ўплываў на значную частку духавенства і багасловаў свайго часу.

[180] П’ер Францыск Фоджыні (Pier Francesco Foggini), 1713 – 1783 гг. – італьянскі пісьменьнік, археолаг, антыквар і бібліятэкар Ватыкана.

[181] Хрыстафор Поджыялі (Cristoforo Poggiali), 1721 – 1811 гг. – італьянскі сьвятар, бібліятэкар і навуковец.

той час, калі так шмат каталіцкіх уладароў выганяюць нашых сьвятароў і напаўняюць настаўніцкія крэслы ілжэнастаўнікамі: гэта ёсьць усе шматлікія дабрачынствы, празь якія Кацярына II асабліва вызначалася перад рымскай царквой, і якія такім чынам патрабуюць разумнай увагі і ўдзячнасьці.

Калі цяпер Рым не выказвае да Яе такой самай далікатнасьці, ці не павінна гэта перад усім сьветам быць безадказнай няўдзячнасьцю? Калі няўдзячны Рым хоча зрабіць гэтую ўладарніцу непрыхільнай нам, то да якіх жа негатыўных наступстваў гэта прывядзе! Насамрэч Яна дала Рыму зразумець, што Яна чакала б большай саступлівасьці, і што Рым будзе прычынай, калі Яна будзе вымушаная раскаяцца за свае вялікія падарункі, што Яна дала яму. Калі б гэтая непрыхільнасьць (якую Бог жадае прадухіліць) мусіла разразіцца раней, то дзе былі б тыя спадзяваньні вялікай царквы, якая так шчасьліва пачынае расьці ўгару? Якой толькі небясьпецы не падвергнуцца тыя няшчасныя каталікі? Такім чынам трэба прыняць да ўвагі гэтыя абставіны і даць дабратворнае настаўленьне, празь якое мы атрымаем заступніцтва гэтай манархіні. Давайце ж ня будзем перашкаджаць шчасьліваму ладу распаўсюду рымскай царквы! Гэта ёсьць прычыны Кацярыны II! Аднак цяпер слухайце і зьдзіўляйцеся.

Адказ і настаўленьне пана Аркеці ад папскага імя. **З улікам гэтага дакладу**, то бок, з улікам удзячнасьці за бесперапынныя дабрачынствы Кацярыны II і за значныя намаганьні, празь якія Яна хоча падтрымаць езуітаў; з улікам відавочнай небясьпекі, якой падвергнуцца расейскія каталікі, калі гэтая манархіня будзе вымушаная раззлавацца, што, вядома, здарыцца, калі трэба будзе выканаць скасаваньне суполкі, якое з разумных і справядлівых прычын у Беларусі яшчэ не адбылося і таксама не можа адбыцца; з улікам усяго гэтага біскупу Малінскаму загадваецца, што **ён ні пры якіх абставінах не павінен устрымацца ад таго, каб паведаміць і абвясьціць езуітам аб афіцыйна адбыўшымся скасаваньні іх інстытуту**. Ці гэта ня глупы адказ?

Другая прэтэнзія біскупа Малінскага. Недахоп дасьведчаных сьвятароў для духоўных адпраўленьняў у Беларусі такі вялікі, што, калі яна страціць езуітаў, не застанецца ніякіх добрых служыцеляў веры. З-за таго, што ў гэтым выпадку Біскуп не мае Нікога, каго ён мог бы выкарыстаць дзеля настаўленьня народу і дзеля ўладкаваньня сакрамэнтаў; то ён мусіць адчаіцца ў магчымасьці выкананьня свайго пастырскага служэньня. Каб такім чынам ня бачыць, як непазьбежна гінуць рэлігія, вера і добрыя звычаі, і каб не выстаўляцца асобным грэкам на пасьмешышча і зьдзек**; ён бачыць сябе вымушаным пакінуць тыя разгалінаваныя дыяцэзіі**, калі яму праз дабратворнае настаўленьне ня будзе прадпісана, якім чынам ён можа карыстацца тымі асобамі.

О! Тут нам ёсьць аб чым пагаманіць, пан аўтар Цыркуляра. Афіцыйнае скасаваньне езуітаў у Беларусі прывядзе, паводле Біскупа, да афіцыйнага скасаваньня веры, сакрамэнтаў і рэлігіі: веры, калі Рым вынішчыць яе настаўнікаў; сакрамэнтаў, калі Рым зьнішчыць іх арганізатараў; і рэлігіі, калі Рым жадае непакоіць Біскупа, вылішыць яго дапамогі, і зрабіць яго праз гэта няздольным для выкананьня яго пастырскага служэньня, каб ён убачыў сябе вымушаным пакінуць свой пост. Што стане зь яго царквой, калі яна не будзе мець ані слова Боскага, ані сакрамэнтаў, ані дасьведчаных служыцеляў царквы, ані пастарства? Сьвет павінен убачыць таксама і гэтую прыкрасьць? Ён павінен убачыць, як Рым перасьледуе каталіцкую царкву ў сьвецкай краіне? І як манархіня іншай веры насуперак Рыму сама бароніць рымска-каталіцкую царкву? Каб тут знайсьці нейкае дабратворнае настаўленьне, патрабуецца

ўвесь розум аднаго вопытнага нунцыя і аднаго разумнага складальніка цыркуляраў.

Аўтар ганганэльскага загаду, не прымаючы да ўвагі неспынную безразважнасьць, якую ён ва ўсёй той дыпляматычнай балбатні паўсюль паказвае сьвету, усё ж разумее ту вялікую складанасьць, якая можа атрымацца праз афіцыйнае скасаваньне Ордэна: а менавіта, што шмат народу будзе прыведзена да сапраўднай нястачы годных сьвятароў. Таму піша ён, што Клеменс XIV прыме на сябе клопаты, зрабіць ім забесьпячэньне і заняць пустыя месцы езуітаў добрымі пераемнікамі. Гэта абяцаньне было дагэтуль так дакладна выкананае, што нават місыі Фраскаці, Цівoлі, Фано і іншых гарадоў царкоўнай дзяржавы яшчэ не занятыя; што, аднак, Папа дзеля справядлівасьці абавязаны быў зрабіць, бо маёмасьць, якой яны былі забясьпечаныя, была перададзена ў казну. Аўтар загаду часткова ўспрыняў гэтую перашкоду, і адразу прыбраў яе з дарогі праз дабратворнае настаўленьне. Аднак для Расеі трэба знайсьці нешта іншае; бо рускія ня будуць задаволеныя абяцаньнем, якое пасьля не будзе выкананае. Яны патрабуюць насамрэч, і нават гэтак жа дасьведчаных, служыцеляў царквы, якіх можна было б паставіць замест езуітаў.

Я хачу ўлезьці ў антыезуіцкія сустрэчы; і даць ім у рукі сродак, як ім з гонарам выкруціцца з гэтай пасткі. Мой сродак крыху цяжкі, затое гэта надзейны сродак і выратуе ўсіх. Вядома, што адзіная складанасьць, якая стаіць на шляху ў так жаданага скасаваньня расейскіх езуітаў, складаецца ў тым, што ў іх ёсьць патрэба; такім чынам, адзіны сродак, выдаліць гэтую складанасьць, на справе паказаць, што не існуе ніякай такой нястачы.

Наперад, мае панове, набярыцеся мужнасьці! Узбройце сябе, і дайце нам доказ, што вы ў стане зрабіць столькі ж і нават больш за езуітаў. Накіруйцеся з адборным атрадам сваіх верных людзей у Расею, і прапануйце сябе, без інтарэсу, без узнагароды і без сьвецкага спадзяваньня, у школы, на кафедры і на споведзі; у падзямельлі, на галеры, у шпіталі, у вёсках і ў лясах; каб нястомна працаваць падчас чумы, вайны і голаду; прапануйце сябе, каб вандраваць пешшу, каб сустракаць небясьпекі, і нават для сябе выкленчваць хлеб. Праз такое жыцьцё езуіты зрабілі сябе неабходнымі і атрымалі заступніцтва манархіні і любоў народа. Вы робіце тое сама, ці нават больш? І таму Вы прапанавалі народам службы, якія задаволілі Імпэратрыцу, якія супакоілі Біскупа, зрабілі езуітаў бескарыснымі; і тады нарэшце ваш шэдэўр можа быць даведзены да канчатковага стану. Наперад! Рэклямуйце Вашыя месцы збору; паклічце з Павіі абата Пятра Тамбурыні з яго вучнямі, якіх ён выхаваў у ірландскім калегіюме; можа яго кальвінісцкая тэалёгія будзе мець большы посьпех у Беларусі. Паклічце абата Амадуці, каб ён перапыніў сваё падарожжа, якое ён робіць па Італіі са знакамітым Корылай (ня ведаю як лепш, у тэксце стаіць Corilla), і з вучнямі ад прапаганды пасьпяшаўся ў Расею. Вялікіх тэолагаў, якія павырасьлі за апошнія шэсьць год у грэгарыянскім атэніюме як грыбы, пастаўце на кафедры; а для астатніх адпраўленьняў Вы маецце рэкрутаў у Скрофе, у Мінэрве, у К’эза Нуова, у сьв. Ларэнца ў Лючыне, у сьвятых Апосталаў, у сьв. Панталеёна. Зьбярыце да таго яшчэ ўсіх сьвятароў, манахаў і прэлатаў з вашай партыі, і зрабіце з гэтага лятучы атрад; разьвітайцеся з вашымі дачамі, з вашымі лялечнымі цэрквамі, з вашымі тэатрамі, з вашымі сябрамі і Італіяй; і пачніце Ваша падарожжа. Прадстаўцеся Пецярбургу і пакажыце, што Вы ва ўсім, што да выкладаньня навук, да выхаваньня моладзі, да накіраваньня сумленьняў, такія ж здольныя, як езуіты. Запасіцеся таксама шэрым мехам і накіруйцеся праз непралазную Сібір і праз

ледўяную Лапландыю; і пакажыце, што таксама і Вы гатовыя ахвяраваць усё дзеля рэлігіі і дзяржавы. Паверце мне; гэта адзіны сродак, які застаецца ў вашым цяжкіх абставінах. Такім чынам Вы абвергнеце памылку сьвету зман, які лічыць Вас за ні на што не вартых, за мяккацелых і жанчынападобных людзей, і за нашчадкаў тых фарысеяў, якія **ўскладваюць на людскія плечы цяжкія і няпад'ёмныя грузы, якія самі ня хочуць закрануць і пальцам**. Такім чынам Вы пакажыце, што Вы не з карысьлівасьцю, але з запалам, дзеля гонару Апостальскага Стальца выступілі супраць езуітаў; і такім чынам Вы нарэшце зробіце вашых ворагаў такімі пагарджанымі, што яны пакінуць свае пасады, і схаваюцца поўныя ганьбы. Аднак гэта, вядома, не зьяўляецца сродкам нунцыятуры. Пачуўце гэта.

Адказ і настаўленьне пана Аркеці ад папскага імя. **З улікам гэтага дакладу**, то бок, з улікам недахопу дасьведчаных сьвятароў у Беларусі; з улікам рашэньня, якое Біскуп, як ён сьвярджае, прыняў, пакінуць свае дыяцэзіі, як толькі яму будзе недазволена карыстацца езуітамі; і з улікам відавочнай небяспецы, у якой апынуцца каталікі, калі езуіты спыняць сваю працу, біскупу Малінскаму загадваецца, што **ён павінен не карыстацца паслугамі езуітаў без надзвычайнай патрэбы**. Ці не значыць гэта тое самае, што адказваць бязглуздыя рэчы?

Прайшоў ужо пэўны час, як я, здаецца, забыўся на маю асноўную мэту, а менавіта, паказаць, што цыркуляр паходзіць не ад таго кардынала, пад чыім імя ён быў распаўсюджаны па ўсёй Італіі. Ці не было б дзёрзкасьцю, зрабіць нават маленькае падазрэньне? Нават вар'ят з вар'ятні, які ў сваёй беспарадачнай фантазіі падчас уяўляе нібыта ён Папа, не мог бы адказаць больш бязглузда; і цяпер нехта нават хоча гэтую бязглуздзіцу ўкласьці ў рот такой шаноўнай асобе, і гэтым яе падтрымаць? Як далёка зайшлі ў нашым стагодзьдзі ў нахабстве ачарняць вялікіх сьвету.

# §. X.

Вось мы разгледзілі загады да біскупа Малінскага ў дачыненьні да яго ўласнага бачаньня справы, і паказалі іх бязглуздасьць. Цяпер мы жадаем разгледзіць іх саміх па сабе, і паказаць іх неразумнасьць ды прыкрае злоўжываньне, якое ўчыняюць з публічнай павагай. Калі гэтая справа была ў нашым тэксце ўжо павярхоўна ўзгаданая; то ўсё роўна застаюцца яшчэ некаторыя меркаваньні, якія могуць вывесьці на дзённае сьвятло тую сьляпую нянавісьць, зь якой выступаюць супраць езуітаў. Загады былі наступныя: па першае, што Біскуп павінен выступіць супраць вырашанага адраджэньня езуітаў; па другое, што ён павінен не карыстацца езуітамі, акрамя толькі надзвычайнай патрэбы; па трэцяе, што ён павінен разглядаць як непаслухмяных тых асоб, што нежадаюць падпарадкоўваць сябе найвышэйшым распараджэньням Ватыкана. Давайце разгледзім іх паступова.

Слова **адраджэньне**, якое спачатку прадугледжвае сьмерць езуітаў, якіх насамрэч толькі жадаюць забіць, мы прапусьцім не закранутым; і заглянем у асноўны змест загаду. Біскуп павінен выступіць супраць заснаваньня паслушэнства. Супраць каго павінна адбыцца гэта супрацьстаяньне? Супраць езуітаў? Ці супраць Імпэратрыцы?

Я не магу зразумець, якім чынам у гэтым выпадку Біскуп мусіць выступіць

супарць езуітаў; пры тым, што заснаваньне паслушэнства не праца рук езуітаў, але належыць Імпэратрыцы. Імпэратрыца, а не езуіты, будзе несьці расходы; і моладзь, якая павінна будзе выхоўвацца ў гэтым паслушэнстве, будзе падданымі Імпэратрыцы. Ніхто не чуў, каб езуіты хадайнічалі аб паслушэнстве, аднак [вядома], што Імпэратрыца жадае мець яго. Таму, ці не зьўяляецца неразважлівасьцю патрабаваць, каб Біскуп выступіў супарць езуітаў, каб перашкодзіць справе, якая цалкам зьяўляецца працай рук Імпэратрыцы.

Адзіным варыянтым, каб выступіць супраць езуітаў у гэтым выпадку, было б загадаць ім, што яны павінны адмовіцца ад паслушэнства. Аднак таксама і гэта мела вялікую складанасьць; да таго, як Біскуп быў яшчэ Апостальскім дэлегатам і візітатарам: і тым больш пасьля таго, як ён быў надзелены паўнамоцтвамі праз папскі загад.

Як мог Біскуп да надзяленьня Апостальскімі паўнамоцтвамі выдаць езуітам падобны загад без таго, каб прысвоіць сабе ўладу, якая па праву яму не належыла? Паколькі ён не ажыцьцявіў скасаваньне, ён лічыў езуітаў сапраўднымі рэгулярнымі [сьвятарамі]; і такімі ж лічылі сябе самі езуіты. Хаця біскуп, паводле каталіцкага вучэньня, і зьяўляецца ў шматлікіх справах галавой над рэгулярнымі [сьвятарамі], аднак не ў тых, што закранаюць іх дысцыпліну; да якой таксама адносіцца і паслушэнства. Такім чынам біскуп Малінскі не мог сваёй уладай загадаць езуітам, што яны павінныя адмовіцца ад імпэратарскага патрабаваньня.

Гэта праўда, што загад аб скасаваньні суполкі даваў Біскупу поўную юрысдыкцыю над езуітамі. Аднак калі б ён абвясьціў гэтую сваю новую юрысдыкцыю, то ён бы зьдзейсніў скасаваньне; пры тым, што атрыманьне гэтага новага паўнамоцтва было б наступствам скасаваньня. Але двор дакладна забараніў, каб скасаваньне ані было выкананае, ані мела яшчэ нейкіх наступстваў. Такім чынам Біскуп не мог перадаць гэты загад езуітам не пакрыўдзіўшы Манархіню і не парушыўшы яе распараджэньні. Заданьне Аркеці для Біскупа было такім чынам неразважным. Ці не было нясьціпла верыць, што біскуп, які з павагі да двару не пажадаў скасаваць езуітаў, мусіў мець намер прысвоіць сабе паўнамоцтвы, якія яму належылі толькі пасьля іх скасаваньня?

Гэта не было неабходна, скажаце вы, каб Біскуп абвясьціў ім заган самастойна; было б дастаткова таго, каб ён прад'явіў ім рымскія загады, якія ён атрымаў праз канал нунцыя. Аднак гэта было б другой неразважнасьцю. Калі Біскуп не мог без згоды двара азнакоміць іх з непасрэднымі загадамі Папы з такога знакамітага распараджэньня, якім быў Клеменсаўскі загад: то наколькі верагодней ён мог бы без дазволу гэтага двара абвясьціць ім загады, якія былі накіраваныя яму ў пасланьні нейкага нунцыя ад імя сакратара Прапаганды? Калі такая паважаная асоба, якой зьяўляецца Папа, і да якой Імпэратрыца выказвае ўвагу, якой маглі б ганарыцца каталіцкія ўладары, не магла адгаварыць яе ад рашэньня захаваць езуітаў: то ці можна спадзявацца, што намаганьні нунцыя і сакратара будуць здольныя адвярнуць яе ад гэтага?

Вы, аднак, добра бачыце, што Біскуп да атрыманьня сваёй Апостальскай дэлегацыі ніякім чынам не мог супарцьстаяць заснаваньню паслушэнства. Ён ня мог самаўласна загадаць езуітам адмовіцца ад гэтага; бо ён ня меў на гэта паўнамоцтваў; ня мог нават ад імя пана Аркеці ці пана Борджыа, ці Прапаганды, ці Папы; таму што ён кожны загад, які прыходзіў да яго з Рыму, мусіў перад агучваньнем падаваць Імпэратрыцы, пра якую было вядома, што яна прытрымлівалася б зусім іншай думкі.

Пасьля таго, як біскуп Малінскі быў прызначаны Апостальскім дэлегатам і візітатарам, хаця ён і атрымаў паўнамоцтвы загадаць езуітам, каб яны адмовіліся ад паслушэнства. Аднак тут на шляху ўзнікае яшчэ большая перашкода, чым тая, якую мы ўжо прывялі: бо ўся віна за тое, якая раней мусіла пасьці на Папу, на нунцыя, ці на сакратара Прапаганды, цяпер падала на няшчаснага Біскупа; таму што ён таксама і гэтае распараджэньне дэлегіраваньня, перад тым як прыняць да выкананьня, мусіў падаць Імпэратрыцы; якая, бо яна заўсёды накіроўвала ўвагу на захаваньне езуітаў, адразу з першага позірку на рымскі дыкрэт угледзіла б, што ў ім зьмяшчаюцца паўнамоцтвы для Біскупа дастатковыя дзеля таго, каб заснаваць паслушэнства езуітаў паводле кананічнага права; чаго Біскуп не мог бы аспрэчыць, і не мог бы аспрэчыць ніхто, хто ведае першыя паняткі права рэгулярных [сьвятароў]. Наперад, сказала б Манархіня, цяпер у нас ёсьць тое, чаго дагэтуль не хапала, каб мець здольнасьць заснаваць такое жаданае паслушэнства: я хачу даць яму грамадскае, а Вы кананічнае існаваньне. Што павінен быў бы рабіць Біскуп з такім намёкам? Ці павінен быў бы ён загадаць езуітам, што яны мусяць запярэчыць гэтай найвышэйшай ласке? Аднак гэта было б тое самае, што цяжка зьняважыць двор. Ці павінен быў Біскуп парвацца надвое перад дваром у справе, дзе бачыцца не боская Хвала, але свавольства нунцыя ці сакратара? Гэта было б безразважным нахабствам. Вельмі проста сесьці і ў спешцы запісаць недастаткова прагледжаны загад. Аднак той, хто думае пра складанасьці, якія паўстануць падчас выкананьня, той адразу зразумее яго неразважнасьць.

Калі для Біскупа было так цяжка выступіць супраць езуітаў, то як шмат цяжэй і небяспечней было б яму выступіць супарць Імпэратрыцы? Як павінен быў няшчасны прэлат выступаць супраць Кацярыны II? З гвалтам? З пагрозамі? Са зброяй? З гарматамі? Ці ён павінен быў з біскупскай шапкай на галаве, апрануўшыся ў плювіял[182] стаць на чале войска падобнага таму, якое калісь стаяла гатовае накінуцца на папскую дзяржаву дзеля таго, каб прымусіць непераадольнага Рэцоніка да скасаваньня езуітаў? Ці ён павінен быў пагражаць Імпэратрыцы адняць Іжорыю, Астрахань, Сібір, ці Расею, як у Папы аднялі Авіньён і Бэневент, каб прымусіць яго зьнішчыць езуітаў? Аднак цярпеньне, мае панове; антыезуіцкая моц не дасягае так далёка. Хаця яна і магла узняць кардынала Ганганэлі ад каптура да папскай тыяры, і прымусіць яго да таго, аб чым Рым дагэтуль уздыхае, і аб чым нашчадкі будуць успамінаць з жахам; аднак да Пецярбурга яна ўсё ж такі не цягнецца. Супраць гэтага двара ніякая іншая моц, акрамя істотнай прычыны, нічога не можа зрабіць. Але дзе яна?

Успомніце, што пад час усёй езуіцкай трагедыі няўартыя нагоды ніколі ня мелі свайго посьпеху. Францыя жадала пазначыць прычыну выгнаньня сваіх езуітаў; таму былі агалошаныя парляменцкія рашэньні, парляменцкія прамовы іхных генэралпракуратараў і знакамітая вытрымка са збору зацьвярджэньняў; аднак што яны выйгралі праз гэта? Яны раздражнялі сьвет і прымушалі біскупаў галіканскай царквы асуджаць гэтыя тэксты як паклёпніцкія і полныя ілжывых прынцыпаў. Партугалія жадала пазначыць прычынай такую вялікую колькасьць крывавых падзей пад час дзівоснага валадарства Каравалью. З гэтай нагоды была распаўсюджаная вялікая колькасьць абвінавачваньняў, былі

[182] Плювіял ці Капа Магна (італ. pluviale, cappa, mantus ад лац. pluvia — дождж) — частка літургічнага строю каталіцкага і англіканскага клірыка. Ўяўляе сабой паўкруглы плашч без рукавоў, які зпераду зашпільваецца спражкай. Часта ўпрыгожаны гафтам.

надрукаваныя справа і вырак забітага Малагрыды. Аднак што адбылося? Яны напоўнілі сьвет жахам і нянавісьцю, і пакінулі нашчадкам узор, як небяспечна для манархіі, калі сапраўдны манарх сьпіць і пакідае стырно ў руках лютага міністра. Жудасная справа Малагрыды была так брыдка сшытая, што напрыканцы яе сам жалезны Карвалью засаромеўся і загадаў, каб ўсе копіі, што ўжо былі распаўсюджаныя, былі сабраныя назад, пад пагрозай сьмяротнага пакараньня, калі іх адразу ж не пададуць каралеўскаму фонду. Калі ў Рыме з жахам казалі аб усіх гэтых бесчалавечнасьцях, адзін вялікі чалец Партыі, E.R., сьцвярджаў у прыстоўнай кампаніі, што скасаваньне езуітаў не магло б адбыцца, калі б трэба было падаць народу справаздачу: яго двор, пасьля сьмерці каралевы, выканаў бы справу чыста **рацыянальным** шляхам ***)**[183]; што і адбылося насамрэч; бо разам з тым, што яны не пазначылі ніякай прычыны, яны яшчэ выдалі закон, што, калі адзін адзіны з 5 ці 6 тысяч выгнаных з краіны возьме ў руку пяро, каб апраўдацца перад судом народу, то ўсе астатнія будуць вылішаныя пенсіі, што азначала б даць ім усім памерці ад голаду.

Нават Рым хацей спачатку пазначыць некаторыя прычыны і сыпнуць у вочы трохі пяску. Аднак ці пераканаўся хто праз гэтыя прычыны? Усе былі напрыканцы перакананыя толькі ў тым, што камусьці хацелася рацыянальна вылішыць езуітаў маёмасьці; і не болей. Наймаліся візітацыі, зьбіраліся судзьдзі і натарыюся; аднак з-за таго, што не было знойдзена ніякай прычыны, трэба было ўсё паплюндраваць рацыянальным шляхам. Рацыянальна езуіты былі вылішаныя рымскай і ірландскай семінарый; рацыянальна былі абрабаваныя рызьніцы і цэрквы; рацыянальна былі спустошаныя і перададзеныя кардыналбіскупу пад гучнымі праклёнамі народу рэзыдэнцыі ў Фраскаці. Адным словам, усё адбылося **рацыянальна**. У самім загадзе, які Папа Ганганэлі быў вымушаны падпісаць, пасьля таго, што ён аб’яднаў добрую колькасьць хлусьні і яшчэ іншую колькасьць сьмяхотных прычын, пасьля таго, што ён паказвае відавочнае ўмяшаньне ў духоўную юрысдыкцыю, крытыкуе дзеяньні папярэдніх Папаў, асабліва Клеменса XIII, прыпісвае каралю Францыі Людвігу XV справы, пра якія ён у свой час мусіў крычаць арцыбіскупу Парыжа: **гэта хлусьня, гэта хлусьня**; і пасьля таго, што ён перакручвае тэкст агульнай царкоўнай рады, а тэкст іншага кансіліюма дрэнна разумее, і, нарэшце, прыводзіць такія неразважныя рэчы, пра якія ўсе стагодзьдзі будуць успамінаць з жахам: напрыклад, што папства было даручана Клеменса XIV не як сьвятому Пятру, **але зусім асаблівым чынам**; і што Папа мае паўнамоцтва вылішаць людзей найсьвяцейшых прыроджаных правоў, сярод якіх знаходзіцца таксама і права адхіляць ад сябе несправядлівыя абвінавачваньні; пасьля ўсяго гэтага ён робіць заяву, што езуіты скасоўваюцца рацыянальна, што ў нашым выпадку мае на ўвазе **несправядліва**; што азначае тое самае, што: мы не пазначаем ніякай прычыны, бо ў нас ніякай няма. О цудоўнае параджэньне піярыста, якое аднак шалёная Партыя прыпісвае Папе!

Я ведаю нават, што некаторыя біскупы паспрабавалі пастарскімі лістамі пераканаць сваіх падданых у тым, што езуіты былі скасаваныя законным

***)** Тое, што тут коратка ўзгадана, дакладней напісана ў адным маленькім, але цікавым артыкуле: **Апасеньні бурбонскіх двароў наконт езуітызму, асьветленыя каментарамі**;.пераклад з валійскай 1772. Пад E.R. тут маецца на ўвазе гішпанскі пасол de Roda. Пры жыцьці каралевы ўдавы нельга было асмеліцца на выгнаньне езуітаў.

---

[183] Мануэль дэ Рода ды Ар’ета (Manuel de Roda y Arrieta), 1706 – 30.08.1782 гг. – гішпанскі пасол у Рыме. Прымаў удзел у выгнаньні езуітаў з Гішпаніі і гішпанскі калёній у 1767 г.

чынам. Аднак, што яны атрымалі? Нічога акрамя непрыемнасьцей. Ніхто не заўважыў у тых прыкрых пастарскіх лістах сьціпласьці, любові, Апостальскай прастаты і праўдзівасьці; факты, якія там былі перакручаныя і выдуманыя, былі занадта сьвяжы ў памяці; людзі, якіх абылгалі, былі вядомыя; хлусьня не магла вытрымаць перад яскравым сьвятлом праўды; і народы Эўропы, Азіі і Амерыцы, дзе зьявіліся гэтыя пастарскія лісты, глядзелі на іх, як на паклёпніцкія сачыненьні.

Немагчыма было не толькі назваць прычыны аўтара супраць езуітаў, але заўсёды заставалась думка, што на абгрунтаваньні, якія здаецца павінны былі давесьці езуітаў да іх выгнаньня, немагчыма было адказаць. Няшчасны Фор! Яму не прыйшлося б таміцца ў глыбіні жудаснай вязніцы! Бедны Бэнвенуці не лічыў бы сябе вымушаным правесьці сваю сівую старасьць на халоднай поўначы; калі б іх жудасныя пер'і, якія вастрылі аднак не яны, не распаўсюдзілі б пад ціскам пануючай Партыі такія жахі, што іх жадалі прынесьці ў ахвяру. Дзеля чаго такая вялікая прадбачлівасьць, каб ніводны езуіт нічога не сказаў ці не напісаў? Дзеля чаго так шмат клятваў вечнага маўчаньня, якія былі накладзеныя на вязняў у Энгельсбурге? Дзеля чаго так шмат правілаў паводзін для інквізытараў, біскупаў і магістратаў, каб яны прадухілілі друк? Чаму яны падкупляюць усіх друкароў Італіі з забаронай, каб яны не друкавалі для езуітаў? Разважлівасьць і праўда ва ўсе часы рабіліся жахлівымі. Усё паказвае, што з-за недахопу прычын туды ішлі з гвалтам. Аднак назад да нашай справы. Біскуп Малінскі мог супрацівіцца намаганьням Імпэратрыцы не інакш як з абгрунтаваньнямі. Паны антыезуіты ўжо ў шматлікіх выпадках паказалі беламу сьвету свой адчай, знайсьці хаця б толькі адну адзіную прычыну, якая была б у стане пераканаць нават пустую галаву. Гішпанія, Францыя, Партугалія, Рым, пэўная колькасьць філёзафаў, юрыстаў, магістрацкіх асоб, сьвятароў, манахаў, баб, прэлатаў і кардыналаў не маглі дагэтуль прывесьці нават паўсікля разумнага абгрунтаваньня каб задаволіць натоўп: і як жа магчыма, каб біскуп Малінскі быў павінен знайсьці абгрунтаваньні, якія был б здольныя пераканаць і схіліць найпраніклівую Імпэратрыцу перайці на бок Партыі, якая завецца бічом нашага стагодзьдзя? Давайце аднак возьмемся за другі загад, які зьяўляецца такім жа безразважным, як і першы.

# §. XI.

**Ён павінен карыстацца іх паслугамі толькі пры надзвычайнай патрэбе**. Гэй! Як моцна чалавек прываблівае душы! Той, хто выдаў гэты загад, добра паказвае, што ён **не мае ніякай карысьці ад тых авец**. Ён не заслугоўвае аніякага абвяржэньня; так безразважна гучыць яго загад. Я задам толькі некаторыя пытаньні.

Ці не зьяўляецца гэты загад занадта невыразным, пытаюся я па-першае? Але чаму тут сказана невыразна? Чаму паслугі езуітаў абмяжоўваюць надзвычайнай патрэбай? Чаму не сказана, у чым яны складаюцца? Ці гэта так цяжка, вызначыць ступень агульнай патрэбы? Хто мае праведнае і чалавечнае сэрца, таму кожная патрэба яго сародзічаў будзе ў'яўляцца цяжкай, якую адразу трэба выправіць. Хто, аднак, мае подлае, эгаістычнае і чэрствае сэрца, той бачыць нават надзвычайную патрэбу як нешта нязначнае і назірае за ёй з абыякавасьцю. Хто валодае рэлігіей і сапраўдным імкненьнем да выратаваньня душ, той бачыць кожную агульную патрэбу, кожную падставу для граха, кожную

небяспеку для вечнай сьвятасьці як неадкладную патрэбу; сьвецкі чалавек, ці каб казаць пасьлядоўна, плоцкі чалавек, якога спачатку трэба пераканаць, што наогул існуе душа, рэлігія, пекла, ён не спасьцігне гэтай патрэбы. І як разумее аўтар цыркуляру гэтую неадкладную патрэбу? Калі ён разглядае яе з разуменьнем духоўнага чалавека, то Царква ня мее ніводнага народу, які б ня меў надзвычайнай патрэбы ў дасьведчаных служыцелях веры; адпаведна, езуіты мусяць быць з поўнай свабодай выкарыстаныя дзеля гэтай мэты. Аднак калі ён разглядае яе з разуменьнем цялеснага і плоцкага чалавека, то ніводны народ не мае патрэбы ў настаўніках сумленьня, таму што яны не спрыяюць таму, каб напоўніць яго пуза, каб даставіць яму задавальненьне, каб задаволіць яго пажадлівасьці; адпаведна, езуіты не зьяўляюцца патрэбнымі ні ў якім выпадку.

Па-другое я пытаюся: ці можна параўнаць патрэбу, якую маюць беларусы ў дачыненьні да езуітаў,  з патрэбамі шматлікіх іншых дыяцэзій, дзе езуіты выкарыстоўваюцца біскупамі ня гледзячы на тое, што рымская міністэрства спрабавала перашкаджаць гэтаму? Ці не дазволіць аўтар, нунцый, ці сакратар Борджыя біскупу Малінскаму, каб ён таксама мог карыстацца езуітамі? Ці ня можа біскуп Малінскі з чыстым сумленьнем прытрымлівацца ўзору сваіх калегаў і іншых біскупаў?

Царква была названая адным пракокам **домам, дзе пануе аднолькавы звычай**. Гэта адна частка той еднасьці, якая адрозьнівае сапраўдную Царкву ад фальшывай. Што дазволена аднаму біскупу, тое можа таксама рабіць і іншы пры аналягічных абставінах. Ёсьць вельмі шмат біскупаў (і, што добра бачна, паважаных), якія з-за недахопу дасьведчаных капланаў не прынялі загад Клеменса XIV вызваліць езуітаў ад духоўных адпраўленьняў. Пра біскупаў Францыі гэта паўсюль вядома, зарзумела, пра большую частку. У Нямеччыне езуіты працуюць, нават сабраўшыся ў калегіюмах; у швэйцарскіх кантонах дагэтуль існуе два калегіюмы; яны працуюць у Льежы і ў Клевэ[184]. Біскуп Комы[185] карыстаецца езуітамі ў Вальцеліне[186]. Пра Кітай і Тункін[187], дзе патрэба яшчэ большая, чым у Расеі, тут размова не ідзе. Аднак пра Францыю, Нямеччыну, Вальцелін і пра кантоны ў Швэйцарыі я магу запэўніць, што патрэба там меньшая, чым у дыяцэзах Беларусі; пры тым што яшчэ ніводны з гэтых біскупаў не пакінуў сваёй рэзыдэнцыі праз гэту нагоду, таму што ён не мог дапамагчы агульнай патрэбе.

Нават у Італіі як шмат выкарыстоўваецца езуітаў? Калегіюм Монцы знаходзіцца пакуль што ў руках езуітаў. Аднак мы хочам прыйсьці ў папскую Дзяржаву. Агульныя школы ў Ціволі, ці не знаходзяцца яны ў руках езуітаў сабраўшыхся ў калегіюме? Кардынал Альбані[188], дэкан сьвятой Калегіі, ці не даверыў ён біскупскую семінарыю ў Велетры[189] аднаму неапалітанскаму езуіту? У Балёньні немагчыма адмовіць, што кардынал арцыбіскуп **Мальвеці**[190]

---

[184] Клевэ (ням. Kleve) — горад у Нямеччыне, зямля Паўночны Рэйн - Вестфалія.

[185] Кома (іт. Como) — горад у італьянскім рэгіёне Ламбардзія.

[186] Вальцеліна (іт. Valtellina, ням. Veltlin) — даліна ў Італіі на поўначы Ламбардзіі, на мяжы са Швэйцарыей.

[187] Тункін (Tunkin) — іншая назва Бакбо (Bac Bo), паўночны Віетнам.

[188] Джавані Франчэска Альбані (іт. Giovanni Francesco Albani), 26.02.1720 – 15.09.1803 гг. – італьянскі курыяльны кардынал.

[189] Велетры (іт. Velletri) — старажытны італьянскі горад ля гары Артэмізіё.

[190] Вінчэнса Мальвеці Бонфіёлі (іт. Vincenzo Malvezzi Bonfioli), 22.02.1715 – 03.12.1775 гг. – італьянскі кардынал і арцыбіскуп. Атрымаў адукацыю ў езуіцкім калегіюме сьв. Францыска Ксаверыя ў Балоны.

дакладна прытрымліваўся антыезуіцкіх дыкрэтаў; і ўсё роўна ён карыстаўся дзьвума езуітамі Барзэці і Галі[191], якія мелі папячэньне над турмамі, таму што там ёсьць недахоп у сьвятарах, якія зьяўляюцца стараннымі і могуць вытрымаць брыдкі пах вязьніцы, і задаволеныя сваёй доляй сярод казуркаў вязняў. Гэтыя два чалавекі зволеныя адусюль акрамя вязніц, пры тым што ўвесь горад глядзеў на іх як на дзьвух апосталаў. Аднак на шчасьце яны яшчэ працуюць з-за недахопу дасьведчаных сьвятароў, які ў Балоны не можа быць такім вялікім, як у Беларусі, асабліва таму што кардынал арцыбіскуп яшчэ не быў настроены **пакінуць сваю рэзыдэнцыю**. ***)**[192]

У самім Рыме экс-езуіт Лацэры[193] зьяўляецца біскупскім экзамінатарам; экс-езуіт Ангеры зьяўляецца тэолагам пэнітэнцыярыі; і тры экс-езуіта зьяўляюцца выкладчыкамі ў рымскіх калегіюмах. У выпадку недахопу мусіў быць патрэбным вядомы езуіт з семінарыі Езуса. Узгадайце лямант, які ўзняўся ў выхаваўчым доме дарослых дзяўчын у Ніпэта, падчас Вашага знаходжаньня ў Рыме. Ані іх кіраўніца, ані іх адважныя духоўнікі, якія на гэта адважыліся, не маглі іх супакоіць. З гэтага бачна, што падчас у Рыме ўзьнікае недахоп сьвятароў, якія былі б здольныя трымаць у хамуце кучку дзяўчат; і для гэтага быў патрэбны экс-езуіт (Тэрманіні яго імя). Не пасьпеў гэты чалавек зьявіцца перад рашоткай, як мітусьня ўжо сьцішылася; яны вельмі пакорна скарыліся перад яго настаўленьнямі, са стараннасьцю заняліся духоўнымі практыкаваньнямі, прымірыліся паміж сабой; і так была адноўлена дысцыпліна дома. Нарэшце нават у Рыме было бачна, што там патрэбныя езуіты, з-за недахопу іншых сьвятароў, які з Рыме не мог быць такім вялікім, **каб біскуп быў вымушаны пакінуць сваю рэзыдэнцыю**.

Цяпер я пытаюся, ці могуць гэтыя прыклады служыць біскупу Малінскаму правілам і прадпісаньнем, каб прыняць рашэньне? якога узроўню патрэбы дастаткова, каб мець магчымасьць карыстацца езуітамі? Калі Вы адкажаце мне **Так**; то тады тое выказваньне: **без надзвычайнай патрэбы**, зьяўляецца глупым і неабдуманым, бо патрэба, якую прадставіў біскуп Малінскі, была непараўнальна большая і неадкладная, чым былі тыя, якія ў вышэй пазначаных прыкладах прымусілі шматлікіх біскупаў, нават у Рыме, карыстацца езуітамі. Калі Вы адкажаце **Не**; і калі Вы жадаеце, каб патрэба ў Беларусі была яшчэ большай, і каб узроўня патрэбы, якога дастаткова, каб прымусіць біскупа пакінуць пакінуць свае дыяцэзы, не хапала для таго, каб можна было карыстацца езуітамі: то назавіце хаця б малейшую прычыну гэтай розьніцы, аднак памятайце, што ў Царкве мусіць панаваць аднастайнасьць.

Калі Вы, Сябра, недзе пачуеце, што ў гэтай розьніцы вінаватыя паводзіны расейскіх езуітаў, таму што яны не падпарадкаваліся скасаваньню як астатнія: то ім не будзе цяжка паказаць недапушчальнасьць гэтай дарэмнай прычыны.

***)** Акрамя таго, цяперашні арцыбіскуп Ферары, з княскага дому Матэй, зьяўляецца вялікім заступнікам езуітаў, разам з якімі ён замаецца ў сваіх дыяцэзах так званымі варожымі місыямі. Нават у самім Рыме (піша мне адзін сябар 12-га лют. 1785) езуіты ў некаторых цэрквах прымаюць споведзі, аднак шмат з іх у папскім рэгіёне зьяўляюцца часткова духоўнікамі, часткова пастарамі.

---

Кансісторыя 14.01.1754 прызначыла яго арцыбіскупам Балоны. Ад імя Папы ён ажыцьцяўляў выгнаньне езуітаў з Балоны, што атрымалася ня гледзячы на незадаволенасьць сэната і жыхароў Балоны.

[191] Borsetti, Galli

[192] Алесандро Матэй (іт. Alessandro Mattei), 14.02.1744 – 20.04.1820 гг. – італьянскі курыяльны кардынал з рода Матэяў. Арцыбіскуп Ферары ад 17.08.1777.

[193] Пятро Лацэры (іт. Pietro Lazzeri, таксама Lazzari), 16.10.1710 – 03.1780 гг. – італьянскі тэолаг і гісторык.

Паводзіны ўсіх езуітаў па ўсяму сьвету пры магчымасьці іх перасьледу былі на дзіва аднастайныя. Пры 20-і – 22-х тысячах чалавек раскіданых па ўсяму сьвету, іх было так проста як ягнятка, ці яшчэ прасьцей, прывесьці на бойню: эта быў узор хрысьціянскай пакорнасьці, зь якім не можа параўнацца ніводны іншы ў гісторыі. Бог збярог яго для самага неўтаймаванага стагодзьдзя. Рускія хаця й напаткалі іншы лёс (які адрозьнівае іх шчасьлівае кіраваньне ад ўсіх астатніх), аднак яны паказалі ня горшыя паводзіны. Так жа, як і іншыя езуіты, якія несправядлівым чынам былі праклятыя да найбалючай бязьдзейнасьці, былі гатовыя працягваць свае Апостальскія працы на службе веры і дзяржавы: таксама і расейскія, якія маглі працягваць свае працы, былі гатовыя пакінуць іх і цярпець выгнаньні, зьняволеньні і плюндраваньне, як гэта пазналі езуіты іншых народаў.

Я пытаюся па-трэцяе. Падчас надзвычайнай патрэбы, калі яе разглядаць у юрыдычным сэнсе, ці неабходна сьвятарам, гэта могуць быць езуіты, манахі ці сьвецкія духоўнікі, мець дазвол біскупа ці Папы, каб мець магчымасьць прыйсьці на дапамогу блізкаму і таксама дараваць яму адпушчэньне грахоў?

Кананічныя законы не маглі прадбачыць бязладныя працэсы і бясчынствы, якія бачыла наша стагодзьдзе. Як жа маглі консулы, ці Папы, ці іншыя заканадаўцы ўявіць, што прыйдзе Папа, які будзе лічыць, што мае права, вылішаць біскупаў паўнамоцтваў зацьвярджаць да споведзі і іншых духоўных адпраўленьняў сьвятароў, якія дзякуючы сваёй вучонасьці, сваёй добрай стараннасьці і ўсім патрэбным якасьцям, былі вядомыя як кваліфікаваныя людзі? Як яны маглі прадбачыць, што некалі паўстане надзвычайная духоўная патрэба, не ад недахопу слушных сьвятароў, але таму, што Папа захоча, каб адпраўленьні былі спыненыя? Мы бачылі на самой справе тое, аб чым нашыя папярэднікі не маглі нават марыць; таму яны не маглі пад час складаньня законаў уявіць сабе іншай крайняй патрэбы, акрамя той, што на сьмяротным ложы; там, дзе трыдэнтыйскі Кансіліюм абвяшчае, што без папярэдняга дазволу біскупаў ці Папаў **усе сьвятары могуць усіх пакаянцаў вызваляць ад усіх грахоў і нараканьняў**. Усе сьвятары, нават той, што не зацьверджаны, нават той, што абкладзены адхіленьнем, забаронай і адлучэньнем ад царквы, калі ён толькі зьяўляецца сьвятаром, ён можа тады за адсутнасьцю іншых, вызваляць ад усіх грахоў без усялякіх абмежаваньняў. Гэта ёсьць крайняя патрэба ў кананічным разуменьні, таму што заканадаўцы не прадбачылі тую крайнюю патрэбу, якая ўзьнікне ў Беларусі праз рэдкае прадпісаньне аднаго Ганганэльскага загаду. І я пытаюся: ці хоча аўтар цыркуляру, каб біскуп Малінскі павінен быў карыстацца езуітамі толькі ў выпадку сьмяротнага ложа? О, гэта было б годнае распараджэньне папскага Стальца, каб біскуп мог карыстацца езуітамі толькі ў тых выпадках, калі езуіты, як і кожны іншы сьвятар, паводле канонаў могуць і мусяць дзейнічаць, не маючы дзеля гэтага ніякай патрэбы ў біскупе ці Папе? Напраўду, невуцтва, якое робіць пашану нашаму асьвечанаму стагодзьдзю!

Я пытаюся па-чацьвёртае; дапусьцім, што патрэба ў Беларусі зьяўляецца не крайняй, але звычайнай, аднак сапраўднай патрэбай; што павінен рабіць біскуп у гэтым выпадку? Ці павінен ён пакінуць свой народ трапіўшым у сапраўднай бядзе, не прышоўшы на дапамогу, хаця ён мог бы іх вызваліць з дапамогай езуітаў? Калі гэта зьяўляецца меркаваньнем нунцыя, ці сакратара Прапаганды, то хацелася б, каб увесь сьвет кіраваўся такімі сьветлымі галовамі, каб зрабіць людзей шчасьлівымі. Падобныя загады паходзяць з найшаноўных духоўных судовых палатаў; пасьля таго як туды пракраліся людзі

пэўнага гатунку, пра якіх трыдэнтыйскі Кансіліюм кажа, што яны **адной нагой знаходзяцца ў боскім, а другой у цялесным**. Гэтыя людзі поўныя сьвецкага духу і надзеленыя вялікай, амаль боскай уладай, пры тым, што яны не вывучалі ані правілаў, ані намераў, ані абмежаваньняў, настолькі ня ведаюць меры, што ўявілі сабе, нібыта сьвету няма больш нічога рабіць, акрамя толькі падпарадкавацца іх ганарлівасьці. Сябра, паверце мне, гэтая хвароба вынікае большай часткай з невуцтва. Чалавек не вывучае каноны; чалавек мала разумее ў тэалёгіі; як следства чалавек аддае загады не **паводле навукі**.

Нарэшце я пытаюся, ці Папа ўпаўнаважаны без пазначэньня прычыны і з чыста рацыянальным разьлікам абмяжоўваць паўнамоцтвы біскупаў, якія яны меюць, каб карыстацца сьвятарамі ніжэйшага рангу дзеля дузоўных адпраўленьняў? Ці павінна гэта права быць абгрунтавана ў Бібліі, у Канонах, у дзеяньнях папярэдніх Папаў? Ці можа хто знайсьці ва ўсёй гісторыі Царквы хаця б адзін прыклад, каб нейкі Папа так прыніжаў біскупскі аўтарытэт, што ён не дазваляў ім карыстацца дасьведчанымі сьвятарамі, без пазначэньня іншай прычыны, акрамя: я так жадаю, я так загадваю?

Аднак вы не павінны прыходзіць з прыкладам Рыгора X, які часова адхіліў усіх асоб скасаванага ордэна. Бо ён ніяк не належыць да нашай справы; па-першае, таму што вядома, штогэты ордэн складаўся з горсткі невучных і нявыхаваных людзей, а значыць іх некампетэнтнасьць была агульнавядомая: па-другое, таму што пры ажыцьцяўленьні гэтага дэкрэту не паўстала ніякіх складанасьцяў: гэта значыць, ня трэба было зачыняць школы, пакідаць пустымі крэслы прапаведнікаў, адмаўляцца ад ордэнскіх місый і настаўленьням ў хрысьціянскім вучэньні, як гэта адбылося пры скасаваньні езуітаў. Па-трэцяе, ордэны, якія былі карысныя, як напрыклад францысканы, дамініканы і аўгустыны, не былі закранутыя; і ордэн сэрвітаў, які не быў выключаны, аднак усё ж такі зьяўляўся карысным, не падпарадкаваўся дэкрэту. Па-чацьвёртае, нарэшце Рыгор X склаў гэты дэкрэт на агульнай Царкоўнай Радзе, падобнай якой была толькі другая рада Ліона, а значыць са згодай біскупаў, якія прадстаўлялі кансіліюм.

Маё сумненьне толькі ў тым, ці мае Папа бяз згоды біскупаў такія паўнамоцтвы? Аднак Вы паівнны даслухаць яго да канца, каб нехта выпадкова не падумаў, што я намераны прынізіць паўнамоцтвы Апостальскага Стальца. Я не сумняюся, што ёсьць выпадкі, калі Папа нават супраць волі біскупаў можа часова адхіліць сьвятароў ад духоўных адпраўленьняў. Я не адмаўляю, што Папа можа загадаць біскупам, каб яны не выкарыстоўвалі для душапапячыцельства таго ці іншага сьвятара, пра якога вядома, што ён мае заганнае вучэньне, заганныя звычаі, злачынствы, пра якога вядома, нарэшце, што ён зьяўляецца ня толькі нестаранным, але таксама і шкодным. У такіх выпадках галаве Царквы немагчыма адмовіць у гэтых паўнамоцтвах, як немагчыма адмовіць, што Хрыстос сказаў Пятру: **пасьві авечак маіх**[194]**, і што ты зьвяжаш на зямлі**[195] **і г.д**. Я настолькі далёкі ад таго,каб аспрэчыць Папе гэтае паўнамоцтва, што наступны агульны сказ пабудую як эвангельскае вучэньне. Немагчыма прыдумаць ніякай разумнай прадбачлівасьці ці рашэньня, якое мае мэтай праслаўленьне Бога і выратаваньне душы, якія б Папа, у сілу ўлады, якую Бог даў Пятру і яго пераемнікам, не мог бы ўскласьці на біскупаў. З

[194] Эвангельле паводле Яна 21:15-17
[195] Эвангельле паводле Матфея 16:19

гэтага складаецца ўся дальнасяжная ўлада Папаў, і адначасова яе сапраўдныя межы. Папа можа і мусіць у сілу сваёй законнай улады над усей Царквой загадваць біскупам і прадпісваць ім той лад і чын, якім яны павінны карыстацца сродкамі, што даў Хрыстос дзеля выратаваньня душы, і якія ў сёняшніх абставінах набліжаюць да мэты. Папа можа загадваць біскупам, каб яны прыбралі са шляху ўсе тыя перашкоды, якія стаяць на шляху праслаўленьня Бога і выратаваньня душы.

Вы ўжо бачыце, што я не вучань Бэйля[196], Фэброніюса, Вальтэра[197] ці Русо[198], чыі вучэньні хочуць паставіць замест Эвангельля. Я не належу да тых філёзафаў, якія завуць сябе вальнадумцамі, тому что яны вучаць людзей, як ім зрабіць сябе незалежнымі ад дзяржавы, ад сьвятарства і ад самаго Бога. Я не належу да тых тэолагаў, якія хаця і грунтуюць духоўную ўладу на абстрактным і прастранным імя Царквы, але адмаўляюць у ёй Папе і біскупам; а значыць робяць зь яе слова бяз сэнсу, пустату. Я не належу да пануючай сэкты дварцовых падхалімаў, якія саступаюць сьвецкім установам права, не толькі прадастаўляць духоўныя бенэфіцыі і саны, але таксама і вырашаць пытаньні веры, зьдзяйсьеяць сакрамэнты і зьмяняць духоўную царкоўную дысцыпліну. Я не належу да тых дзёрзкіх пісьменьнікаў, якія гучна абвяшчаюць дурнымі і летуценнымі мінулыя стагодзьдзі, таму што яны ведалі рэлігію.

Не, сябра, я адкідаю ўсе гэтыі вучэньні, якія так моцна ганьбяць наша стагодзьдзе. Я шаную дзьве законныя ўлады і грэбую бессаромнай неўтаймаванасьцю, зь якой за Папай не прызнаюць вярхоўнай улады над Царквой, якая так выразна стаіць у Пісаньні і якая была агульна прызнаная нашымі продкамі. Я прызнаю за Папай галавенства над біскупамі і яго першынство, не тое, што складаецца з простага прыярытэту, але з сапраўднай юрысдыкцыі. Я прызнаю за ім заканадаўчую ўладу, а за ўсімі хрысьціянамі без выключэньня непазьбежны абавязак падпарадкоўвацца яго законам, калі яны зьяўляюцца справядлівымі і вернымі, і застаюцца ў шафах высакароднага пастырства, якое было даверанае сьвятому Пятру і яго пасьлядоўнікам каб пасьвіць статак Гасподні і весьці яго шляхамі прасьвятленьня і маралі да Бога і вечнага жыцьця. Я прызнаю за ім уладу прымаць тыя зьмены ў законах Царквы і ў Царкоўнай дысцыпліне, ад якіх чакаецца, прымая да ўвагі зьмену часоў, карысьць для пашырэньня Славы Боскай і выратаваньня душ. Я прызнаю за ім карную ўладу караць даказаныя злачынствы і рабіць выракі ў кананічнай форме. Я прызнаю ўладу ствараць новыя карысныя ордэны і скасоўваць такія, якія з цягам часу зрабіліся бескарыснымі і шкоднымі, не парушаючы аднак справядлівасьці. Я прызнаю, нарэшце, за ўсімі папскімі распараджэньнямі, якія маюць мэтай апеку боскай Славы і выратаваньня душы, Боскую ўладу таго, хто

---

[196] П'ер Бэйль (фр. Pierre Bayle), 18.11.1647 — 28.12.1706 — адзін з самых уплывовых французскіх мысьляроў і філязоўска-багаслоўскі крытык. Пазьней яго творы паўплывалі на разьвіцьцё Асьветніцтва.

[197] Вальтэр (фр. Voltaire), 21.11.1694 — 30.05.1778; імя пры нараджэньні Франсуа-Мары Аруэ (фр. François Marie Arouet); Voltaire — анаграма «Arouet le j(eune)» (Аруэ малодшы) — адзін з найбуйнейшых французскіх філёзафаў-асьветнікаў XVIII ст., паэт, празаік, сатырык, гісторык, публіцыст, праваабаронца; заснавальнік вальтэрыянства.

[198] Жан-Жак Русо (фр. Jean-Jacques Rousseau), 28.06.1712 — 02.07.1778 — французскі й швайцарскі філёзаф, пісьменьнік і кампазытар XVIII стагодзьдзя французскага рамантызму. Ягоная палітычная філязофія значна паўплывала на Вялікую французскую рэвалюцыю, а таксама агульнае разьвіцьцё сучасных палітычнай, сацыялягічнай і пэдагагічнай думкі. Русо распрацаваў прамую форму панаваньня народа дзяржавай — прамую дэмакратыю, якая выкарыстоўваецца й па гэты дзень, напрыклад у Швайцарыі.

сказаў: **хто слухае вас – Мяне слухае, і хто вас цураецца, той Мяне цураецца**[199]. Цяпер Вы бачыце, ці я распаложаны адняць нешта у Папы зь яго ўлады, і ці мусіць Рым быць незадаволены маімі поглядамі?

Аднак таксама вядома, што Бог пастанавіў гэтай настолькі сьвецкай уладзе належныя рамкі, каб яна не зрабілася дэспатычнай і не ператварылася ў тыранію. Таму што Бог, які надаў вагу і памер усяму, не перадаў ніякай неабмежаванай моцы ў рукі аднаго чалавека, які па сваёй сутнасьці зьяўляецца абмежаваным. Я хочу тут прывесьці толькі тыя з гэтых абмежаваньняў, якія служаць маёй задумцы.

Першае абмежаваньне. Папа не можа рабіць нічога паза сфэрай уплыву свайго служэньня, якое, як я ўжо казаў, складаецца з таго, што ён захоўвае чыстату веры і апякае Славу Боскую, мараль і выратаваньне душ. Загад, які не накіраваны на гэтыя мэты, зьяўляецца не законам, але свавольствам; а той, які ідзе насуперак гэтай мэты, ёсьць злоўжваньне і прыкрасьць.

Другое абмежаваньне. Папа не мае ўлады адняць у кагосьці яго прыроджаныя правы, выключаючы выпадак, калі падданы страціў іх праз некампетэнтнасьць, ці калі ён праз сапраўднае даказанае злачынства заслугоўвае быць вылішаным іх. Не існуе ніякай улады на Сьвеце каб зьдзяйсняць несправядлівасьці; а несправядлівасьць гэта нішто іншае як парушэньне правой. Таму Папа, які загадам ці зарокам парушыў нейкае права, цяжка абавязаны загладзіць гэтую шкоду і прыкрасьць; і гэты абавязак зьяўляецца спадчынным, і пераходзіць ад аднаго Папы да другога, такім чынам, што цяперашні муісць выправіць несправядлівасьць свайго папярэдніка; і так з рук у рукі, пакуль яшчэ жывы на сьвеце людзі, якія былі пакрыўджаныя ў сваіх правах.

Трэцяе абмежаваньне. Папе забаронена ўсялякая чалавечая пашана асобы. Ён ня можа зрабіць шкоду меньшаму каб спадабацца большаму, ані з трапятаньня, ані з карысьлівасьці. Тое ўсхваленьне, якіе псалмапевец надае таму, хто дзеля прыцясьненьня **невіноўных не прымаў ніякіх падарункаў**, дастаткова адлюстроўвае, як далёка мусіць быць Папа ад таго, каб прадаваць нявіннаьць і перарываць лад справядлівасьці з павагі да ўладароў і сільных сьвету.

Чацьвёртае абмежаваньне. Улада Папы не самавольная. Папа нічога не можа загадаць проста з ганебнай нагоды: **я так жадаю**. Ён ня можа зрабіць ніякага рацыянальнага вердыкту з нагоды, якую ён хавае ў сакрэце; так, што хрысьціянскі народ мусіць бачыць пакараных ня ведаючы, за што? Справядлівасьць і падабенства да боскіх законаў мусяць высьвятляцца ва ўсіх папскіх распараджэньнях, каб мы маглі пераканацца, што Бог ёсьць той, хто загадвае праз пантыфіка. Папскае кіраваньне мусіць быць працягам таго боскага устанаўленьня, зь якім Езус Хрыстус кіраваў сваёй маладой Царквой. Толькі гэты боскі Збавіцель ніколі не загадваў проста з нагоды: **я так жадаю**, хаця ён мог лёгка зрабіць гэта, бо ён быў Богам. Не, казаў ён, **я выконваю не сваю волю, але таго, хто мяне паслаў**. Ён складаў свае законы са звыш належнай мудрасьцю, ён адказваў на ўсе нападкі, пакуль яму **больш немагчыма было запярэчыць ніякім словам**. І гэтую самавольную ўлада, якую ён, як Гасподзь і як Бог, сам не хацеў ажыцьцяўляць, ён павінен быў

[199] Эвангельле паводле Лукі 10:16

перадаць свайму намесьніку, які ўсяго толькі чалавек? Не, Царква ніколі не прызнавала такой неабмежаванай улады за сваім галавой.

Не кажыце мне, што гэта не абавязкова, абвяшчаць нагоды падданым, калі іх толькі ведае той, хто выдае загад. Гэта таксама няверна і вядзе да дэспатызму. Сьвяты Павал дакладна кажа, што не толькі загад, але таксама і **падпарадкаваньне** мусіць быць **разумным**, што не можа адбыцца, калі тым, хто мусіць падпарадкоўвацца, невядомыя прычыны. Калі той, хто просіць, трымае прычыны схаванымі ў сваім сэрцы, то загад можа канечне і быць разумным, аднак падпарадкаваньне – не. У гэтым выпадку падданы дзейнічае проста паводле волі свайго галавы; а простая воля чалавека, нават калі ён Папа, не можа зрабіць разумным дзеяньне, якое ідзе суапрць спарвядлівасьці. Аднак я завяраю, што я тут казаў пра Папу ў якасьці заканадаўцы, а не ў якасьці настаўніка веры; бо паколькі мы ў гэтым дачыненьні маем дакладнае абяцаньне Езуса Хрыстуса, то я лічу за асноўную ісьціну каталіцкай веры, што Бог ніколі не дапусьціць, каб Папа выкладаў Царкве нейкае веравучэньне проста з уласнага свавольства, без асаблівага прадстацельства сьвятога духа. Сябра, я нешта занадта доўга злоўжываў вашым цярпеньнем з гэтымі тэзісамі, якія Вам і без таго вядомыя; аднак я хацеў прывесьці маю споведзь, каб не трапіць у кіпцюры якому небудзь манаху інквізытару.

Тады, калі Папа мусіць абргунтоўваць прычынамі ўсе свае распараджэньні, каму б яны ні накіроўваліся; то наколькі больш мусіць ён рабіць гэта з тымі, што накіраваныя да біскупаў. Калі кожны хрысьціянін мае права рабіць свае ўяўленьні і прыпыняць ажыцьцяўленьне папскіх загадаў, пакуль ён не разгледзіць разважліва абгрунтаваныя складанасьці, якія паўстаюцб падчас: (добра зразумела, я кажу абгрунтаваныя складанасьці; бо я не хачу казаць тут ніводнага слова янсяністам і апелянтам, якія праз тысячы хітрык спрабуюць пазбавіць сябе ад падпарадкаваньня) наколькі больш будуць мець гэта парва біскупы, якія, бо яны зьяўляюцца сапраўднымі пастырамі і прызначаныя сьвятым духам кіраваць часткай паствы Езуса Хрыстуса, ажыцьцяўляюць уладу, якая канечне залежыць ад Папы, аднак пры гэтым уласьцівая іх характару.

Прымая гэта да ўвагі, я вяртаюся цяпер назад да майго сумненьня. Ці можа Папа загадаць біскупу, што той не павінен карыстацца тымі душпастырамі, якіх ён ведае як адзіных здатных людзей, і няздатнасьць якіх не была даведзеная Папай? Скажыце вашу думку, мае панове рымляне, біскупы, тэолагі ці кананісты, аднак не выпускайце з увагі, па-першае, што такі загад відавочна шкодны для выратаваньня душ, і супярэчыў бы мэтам духоўнага кіраўніцтва; па-другое, што папская ўлада мусіць аглядам падтрымліваць біскупаў у іх службе і настаўляць іх, калі яны нешта праігнаравалі, аднак не перашкаджаць іхняй службе; па-трэцяе, што немагчыма прывесьці ніводнага прыкладу, каб Папа прысвоіў сабе падобную ўладу. Першым і адзіным быў Ганганэлі, які аднак верагодна ніколі ня ведаў, што напісалі ад яго імя невуцкі піярыст і несумленны кардынал; па-чацьвёртае, што немагчыма выдумаць большага злоўжваньня папскай юрысдыкцыяй, чым зьяўляецца пасадзіць біскупаў у становішча, што яны ня могуць надзяліць духоўнымі паўнамоцтвамі дасьведчаных сьвятароў. Такім чынам біскупы былі б нічым іншым як папскімі служкамі, і Папа адхіліў бы іх таксама ад служэньня, выгнаў бы з іх рэзыдэнцый, і мог бы падмяць пад сябе вярхі і нізы царкоўнай іерархіі без ніякай іншай

прычыны, акрамя той, што ён гэтак пажадаў; па-пятае, што сьвяты Бэрнард[200] здаецца вырайшыў гэта сумненьне, бо ён пісаў да Папы Яўгена[201]: **чаму вы ўрываецеся ў чужыя межы? і чаму вы працягваеце свой сэрп да чужога ўраджаю? *)**[202] Я чакаю вырашэньня ўсіх гэтых сумненьянў; і пакуль тэолагмі Партыі займаюцца гэтым, я хачу падкінуць адно іншае сумненьне.

Не маглі б Вы мне сказаць, чаму антыезуіцкая партыя прыкладае столькі намаганьняў, каб выдаліць езуітаў ад духоўных і пісьменьніцкіх дзейнасьцей? Гэты сумнеў вырашаецца вельмі проста. Каб сэканоміць гэтую працу аўтару цыркуляра, якому трэба скарыстаць свой час на вырашэньне вялікай колькасьці іншых сумневаў; я хачу падвергнуць сябе гэтым клопатам. Гэтае імкненьне хаця й зьяўляецца несправядлівым, аднак мае свае добрыя нагоды. Езуіты былі акрамя іншых паклёпаў зьнішчаныя з прычыны іх злога вучэньня. Што сказаць тады, калі біскупы, нацыі і цэлы сьвет прытрымліваюцца гэтага псаваньня Эвангельля? Калі гэтыя настаўнікі распуснай маралі зьяўляюцца прапаведнікамі на царкоўных катэдрах, настаўнікамі ў школах, духоўнікамі ў спавядальнях і місыянэрамі ў землях няверных? Як? Іх зьнішчаюць як злачынных людзей, і маюць патрэбу ў іх дзеля апостальства? Гонар Партыі патрабуе, каб гэтыя складанасьць была вырашаная. Такім чынам вельмі неабходна прыпыніць дзейнасьць езуітаў, нават калі яны зьяўляюцца дасьведчанымі, нават калі яны зьяўляюцца неабходнымі. Усё мусіць быць ахвяравана гонару Партыі.

Праўда, гэтага не дастаткова каб супакоіць нацыі і пераканаць іх. Бо сапсаванае вучэньне хочуць прыпісацт не толькі сучасным езуітам, але ўсім, пачыная ад сьвятога Ігнацыя да айца Рычы. Аднак як жа Рым не зважаючы на гэта мог карыстацццы імі на працягу апошніх дзьвух стагодзьдзяў? З гэтай прорвы сапсаванасьцей і бязбожнасьці Рым выбіраў тэолагаў для пэнітэнцыярыяў; адтуль вырас грэгарыянскі універсітэт і дзьва першых пэнінтэнцыярыя цырквы, у Ватыкае і з Ларета? Гэтым ілжэнастаўнікам Рым даверыў сваю біскупскую семінарыю і выхаваньне місыянэраў, якіх потым паслаў у Грэцыю, Ірландыю, Шатладныю, Англію і да маранітаў[203]. Гэтых злодзеяў Рым пасылаў як апосталаў па ўсяму сьвету, у Азію і Амерыку, на Ўсход і Захад, у Кітай, Тункін і Японію, і падтрымліваў іх як папскіх давераных асоб буламі і загадамі. Узору Рыма пасьледвала потым усё хрысьціянства. Гэтыя ілжэнастаўнікі складалі большую частку афіцыйных настаўнікаў Гішпаніі, Францыі, Польшчы, Нямеччыны, Італіі і абедзьвух Індый. Гэтым спакусіцелям паўсюль былі давераныя афіцыйня выхаваўчыя дамы. Нарэшце, яны тырмалі ў руках духоўнае кіраваньне першых манархаў сьвету. Цяпер сьвет не можа

***)** Таксама можна прывесьці яшчэ і гэтыя словы сьв. Рыгора: L. XII. Ep. 32. Si ea destruerem, quae antecessores nostri statuerunt, non constructor sed eversor esse juste comprobater.

---

[200] Бэрнард Клервоскі (фр. Bernard de Clairvaux) 1091 – 21.08.1153 гг. – французскі багаслоў, містык, грамадскі дзеяч, цыстэрыянскі манах. Прымаў удзел у стварэньні ордэна тампліераў. Пад яго ўплывам папа Яўген III абвясьціў II Крыжацкі паход і Крыжацкі паход супраць вэндаў. Наогул амаль уся палітыка Яўгена III праходзіла пад дыктатам Бэрнарда Клервоскага.

[201] Яўген III (Eugenius PP. IV), сьвецкае імя Бэрнарда Паганэльлі (іт. Bernardo Paganelli) ? – 08.07.1153 гг. – папа рымскі з 15 лютага 1145 па 8 ліпеня 1153. Першы папа з ордэну цыстэрцыянаў, вучань Бэрнарда Клервоскага. Ініцыятар Другога Крыжацкага паходу і Крыэацкага паходу супраць вэндаў (палабска-прыбалцкіх славянаў).

[202] Калі вы разбурыце тое, што стварылі наші папярэднікі, то зробіцеся не заснавальнікам, але зьнішчальнікам.

[203] Мараніцкая каталіцкая царква — старажытная хрысьціянская царква, адна з шасьці Усходніх каталіцкіх цэркваў, якая мае статус патрыярхату. Большасьць абшчын царквы знаходзіцца ў Ліване, Сірыі і на Кіпры.

супакоіцца на гэты конт; бо калі гэта былі такія прыстойныя людзі, то чаму іх зьнішчаюць? А калі яны былі злачынныя, то чаму цэлы сьвет так доўга імі карыстаўся? Калі яны былі добрымі, то праз іх падзеньне была падарваная Царква; калі яны былі злачынныя, то Рым на працягу дзьвух стагодзьдзяў уводзіў у зман сьвет. На гэта няма што адказаць. Нават Партыя ня будзе гэтым займацца. Магчыма яна скажа, што Рым праз езуітаў, якія навучалі ілжывым уяўленьням, псаваў мараль і Эвангельле. Партыю займае яе ўласны гонар, паклёп на езуітаў, але не гонар Апостальскага Стальца.

Аднак адзінае, што не атрымліваецца ў антыезуітаў, гэта адмыцца ад сваёй ганьбы і апраўдаць свае несправядлівасьці. Яны ўжо не адзін год марна працуюць над гэтым. Калі яны заўважылі, што выгнаньне езуітаў было б ганьбай, яны адразу вырашылі адмыцца ад яе і ім дзеля гэтага была патрэбная рука Папы; аднак ганьба застаецца і робіцца толькі больш мярзотнай. Ром ганьбіць сябе сам, аднак Партыі няма да гэтага справы; чаму? Таму што Папа дзейнічае без свабоды і супраць кананічных правіл. Каб адмыць гэту новую ганьбу Кангрэгацыя насела на езуітаў; аднак гэта неразумна, адмываць пятны, таму што яны самі па сабе складаюцца з пяці сапраўдных ганьбаў Апостальскага калегіюма і з трох іншых, якія дапамагаюць першым зрабіцца яшчэ большымі; і таму што свае пятны можна адмыць толькі праз злачынствы езуітаў. З гэтай нагоды і шукаюць іх, і паколькі нічога не знаходзяць, учыняюць іх самі. 18 езуітаў, сярод якіх знаходзяцца гэнерал і асістэнты, бяруць у жалеза і путы; ведаеце чаму? каб выратаваць гонар трыбуналу. Над імі канечне немагчыма зладзіць суд, аднак іх пакінуць там паміраць у турме дзеля гонару Партыі. Сьвет, які звыкся мець павагу да трыбуналу, скажа, гэта не мало адбыцца без прычыны, без цяжкага злачынства. Але дарма! Сьвет ужо даўно зрабіў сапраўднае ўяўленьне пра гэтых абвінавачаных, пра гэты трыбунал і пра Партыю.

Насамрэч галава гэтых ворагаў дзяржавы, айцец Рычы, памірае. Рым, Італія і сьвет кажуць пра яго не інакш, як пра пакутніка. Адзін вядомы біскуп афіцыйна сказаў, што ён бы не вагаўся чытаць па а. Рычы замест Requiem æternam[204] месу: In virtute tua Domine[205], якую прынята чытаць на дзень пакутніка. Пій VI па меньшае аддаў належнае нябожчыку; ён не даў адносіцца да яго як да віноўнага, але загадаў, каб яму зладзілі пышныя хаўтуры ў фларэнційскай нацыянальнай царкве і пахавалі яго пры Езусе ў пахавальні гэнералаў суполкі. Кангрэгацыя тры разы рабіла захады, жадаючы адазваць гэты папскі загад: гэты лад абыходжаньня з віноўным, азначае ня менш, чым абвясьціць яго невінаватым, а трыбунал віноўным; абат Камолі[206], былы сакратар суполкі, які памёр у вязьніцы пры Ганганэлі, быў вядома не больш віноўны за Рычы; аднак ён быў дзеля гонару трыбунала выцягнуты на плячах дзьвух гружчыкаў і кінуты ў яму найнізкіх вязьняў; з Рычы трэба было зрабіць тое самае, па меньшае яго цела не павінна было зрабіцца публічным аб'ектам. Аднак Пій трымаўся цьвёрда і даў адказ, што ён мала клапоціцца аб гонары трыбунала, які зганьбіў сам сябе; ён хацеў паказаць Рыму а. Рычы, каб ён мог пераканацца, што той памёр ад хваробы, а не на вяроўцы, як гэта хацелі распаўсюдзіць дзеля гонару трыбунала. Бачыце; я ўкінуў адзін сумнеў, а праз

[204] Вечны спакой (лат.) — звычайная каталіцкая літургія па нябожчыку.

[205] Праз тваю моц, Гасподзь, ... (лат.) — псалом 21:2

[206] Габрыэль Камолі (іт. Gabriel Comolli) – гэнерал-сакратар Суполкі Езуса. 16.08.1773 разам з гэнералам Ордэна Ларэнцо Рычы і іншымі асістэнтамі быў арыштаваны і пасьля пераведены ў турму замка Анёла.

гэта распутаў шмат іншых. Усё, што надае гонар езуітам, прыносіць ганьбу Партыі. Таму і былі прыкладзены такія шматлікія намаганьні, каб выдаліць іх ад усіх духоўных і пісьменьніцкіх дзейнасьцей. Цяпер мы хочам разгледзіць іншы загад пана нунцыя.

## §. XII.

„Пасьля таго, як Клеменс XIV, дабраславёнай памяці, скасаваў Суполку Езуса, усе асобы, якія не жадаюць прыстасоўваць сябе да найвышэйшых распараджэньняў Ватыкана, павінны разглядацца як свавольныя", і з-за гэтага свавольства ён павінен быў супрацьстаяць адраджэньню прз паслушніцкія дамы.

Перадумова тут няверная, аднак прычына вельмі слушная. Няверна тое, што ў Беларусі маюцца сваольныя езуіты; аднак свавольства зьяўляецца важнай прычынай, чаму трэба прадухіліць іх непаслухмянасьць і выдаліць іх ад духоўнай дзейнасьці; хаця верагодна трэба было б паступіць зь імі яшчэ больш строга. Бо сваовльнага трэба не толькі выдаліць ад пастырскай катэдры, але таксама і ад алтара і аддаць анафеме.

Найгрошае тое, што, паколы прадумова зьяўляецца паклёпам, то і загад зьяшляецца несправядлівым. Крый Божа! Свавольныя? Калі было б сказана па меньшае, **непаслухмяныя**; то паклёп застаўся б паклёпам, але быў бы больш цярпімы. Аднак **свавольныя**? Можа аўтар, які ў мовазнаўстве гэтак жа моцны як і ў тэалёгіі, ня бачыць розьніцы паміж гэтымі дзьвума словамі? Аднак хто складае цыркуляры, каб мець гонар на перамовы з паважанымі суполкамі, якія закранаюць добрае імя бліжняга, той канечне павінен таксама крыху навучыцца мове, каб не рабіць памылак, якія б пашкодзілі чужое імя і яго ўласнае сумленьне.

Паміж **непаслыхмяным** і **свавольным** вялікая розьніца. Кожнае парушэньне справядлівага закону і разумнага запавету, які быў пастаноўлены законным кіраўнікам, робіць чалавека непаслухмяным; аднак каб называцца свавольным, патрабуецце, каб чалавек заснаваў разлад і бунт супраць уласных уладароў ці супраць Царквы. Калі нейкі манах, сьвятар, прэлат, нунцый, біскуп, кардынал праводзіць свой час, які павінен быць прысьвечаны вучобе, за гульнямі, калі ён едзе на шумныя паляваньні, калі ён зьяўляецца ў тэатры і на сьвяткаваньнях, то ён будзе хаця і непаслухмяным адносна царкоўных распараджэньняў, аднак не свавольным. Калі нейкі духоўніх праз падарункі ці абяцаньні дасягае першых тытулаў; то ён будзе хаця й непаслухмяным, нават вінаватым у сымоніі[207], аднак не свавольным. Калі нейкі нунцый пры сьвецкім двары атрымлівае ад Папы пакет пасьланьняў з дакладным загадам, перадаць іх адразу ж каралю, не раскрываючы іх да таго міністрам ці каралеўскаму духоўніку; калі ён усё ж такі, замест таго каб перадаць каралю, адкрывае іх міністрам і каралеўскаму духоўніку: то ён хаця й будзе непаслухмяным і пераступіўшым прысягу, аднак не свавольным. Гэтыя выпадкі не выдуманыя так, што сьвет мусіў ніколі іх ня бачыць.

Свавольнымі ў грамадскім слоўніку называюцца бунтары, якія зрынулі з сябе ярмо грамдскай улады, і хочуць адсекчы сябе ад грамадскай супольнасьці

[207] Сымонія — пакупка-продаж царкоўных пасадаў.

і зрабіць сябе незалежнымі ад законаў. Свавольнымі у Царкоўным разументні зьяўляюцца схізматыкі, ці тыя, хто зрынулі ярмо царкоўнай улады і аддзяліліся ад царкоўнага галавы, каб кіраваць сабой па свайму жаданьню. І зь якім сумленьнем можна назваць сваольнымі езуітаў у Беларусі, якія не толькі не адмовіліся ні ад аднаго распараджэньня, што было ім прызначана, але больш за тое, прынялі Апостальскага дэлегата і візытатара з поўным падпарадкаваньнем? Альбо няшчасны аўтар мусіў не разумець слова: свавольны, альбо ён напісаў найчарнейшы паклёп. Аднак кардынал сьвятой рымскай Царквы не можа так казаць.

Некалькі дзён таму ў кампаніі княгіні N.N. адзін іншы кардынал свабодна сказаў пра езуітаў менавіта, што ён дарэчы раззлаваны і ня жадае прьаьачаць іх паводзіны. Гэтай пані, якая захапляецца езуітамі, гэта было ўдарам у самае сэрца; і яна прадставіла гэтую справу аднаму дасьведчанаму чалавеку. Супакойцеся, княжна, сказаў той: знаходзіцца на высокай пасадзе яшчэ не дастаткова, каб мець здольнасьць выносіць верны вырак у справах. Купель сьв. Пятра больш вялікая за ўсех кардыналаў; і ўсё ж яна ня можа быць судзёй над расейскімі езуітамі. Дзеля слушнага вырака патрэбныя тры рэчы: вучонасьць, любоў і страх Боскі, якія не сустрэнеш ані ў гандлёвым доме, ані на галёрцы. Але скажыце кардыналу: вядома, што па Рыму ходзіць папскі загад, паводле якога вы, мой пан кардына, вылішаецеся ўсіх абацтваў, камендаў, пэнсіёнаў і пурпуру і звыш за гэта яшчэ будуць канфіскаваныя ўсе вашыя маёмасьці; калі Вы толькі пачуеце гэтае паведамленьне ад кагосьці, і нават прачытаеце ў публічнай прэсе, аднак ніхто не прыйдзе, каб вам гэтае папскае распараджэньне абвясьціць ды прывесьці да выкананьня: что б Вы рабілі, мой пан кардынал? Вы б зьнялі дабраахвотна свой пурпур? Пакінулі б ваш палац? Вы б самі пайшлі, каб перадаць фіску вашу спадчыну? І Вы будзеце верыць, што абавязаныя так рабіць? Дык гэта і ёсьць выпадак расейскіх езуітаў, якіх Вы не жадаеце прабачыць. Дух летуценнасьці пануе сёньня занадта відавочна; і мы бясконца судзім іншых больш строга, чым сябе.

Я ведаю, што Вы можаце запярэчыць мне ў гэтай гісторыі і сказаць: калі кардынал N.N. мой сказаць падобнае перад княжной, то канечне было магчыма іншаму кардыналу скласьці гэты цыркуляр да нунцыяў. Сябра, Вы здаецца хочаце яшчэ недачакаўшыся перамогі трубіць трыумф. Не жадаць прабачыць паводзіны езуітаў і называць іх сваольнымі, гэта не адное і тое ж. Дзеля першага дастаткова невялікага невуцтва; аднак дзеля другога патрэбная значная доза злосьці.

Я не хачу тут кідацца абараняць расейскіх езуітаў і адмываць іх ад кляйма свавольных людзей. Маё пасланьне зрабілася б занадта доўгім; ды акрамя таго, я ўжо раней дастаткова сказаў на іх абарону. Я толькі хачу тут прадставіць некаторыя сумненьні.

1. Калі загад Аркеці складаецца з таго, каб не толькі разглядаць езуітаў як свавольных, але і абвясьціць іх гэткімі: то ці можа быць біскуп Малінскі быць дасьведчанай асобай, каб прывесьці гэтае даручэньне да выкананьня? Ці можа ён абвясьціць езуітаў свавольнымі людзьмі, не абвястціўшы гэткім самаго сябе? Клеменскавы загад загадваў Біскупу скасаваць езуітаў, а езуітам падпарадкавацца біскупу ў гэтым скасаваньні. Ані той, ані іншыя не выканалі гэты загад; калі цяпер праз гэта езуіты зьяўляюцца свавольнымі, то гэткім жа зьяўляецца таксама і Біскуп; і калі езуіты свавольныя, то Біскуп вінаваты ў гэтым. Калі гэткім чынам Біскуп кажа езуітам: вы свавольныя людзі; то езуіты

павінны адказаць, што яны ўдзячныя за гэта нікаму іншаму, як яму. Ну, што думаеце Вы пра гэткага непрадбачлівага загадчыка? Вы хочаце ўзвесьці паклёп на расейскіх езуітаў, бо вы абвяшчаеце іх свавольнымі; і загадваеце гэта біскупу, які відавочна прымаў удзел у гэтым уяўным злачынстве? Гэта фактычна называецца, згубіць мазгі.

2. Калі гэтыя нешматлікія езуіты, якія ўратаваліся ад агульнага зьнішчэньня суполкі, сапраўды былі б свавольныя адносна Апостальскага Стальца, ці не павінны антыезуіты быць гэтым задаволеныя? Ці не было б гэта падвойным трыумфам для Партыі, якая ўвесь час ненавідзела ў езуітах асаблівуб залежнасьць ад Рыму? Ці не было мэтай іхнага духу перасьледваньня, альбо перавабіць езуітаў да сябе і прыплесьці ім змову супраць Царквы; альбо зрынуць іх? Даваце, мае панове антыезуіты, сьвяткуйце свой поўны трыумф; будуйце сваім Сцыпіёнам, зьнішчальнікам гэтага другага Картагена, трыумфальныя аркі ды калёны. Ваша канчатковая мэта дасягнутая. Суполка зьнішчаная, а тыя рэшткі, што яшчэ засталіся ад яе, перайшлі да вас пад вашыя харугвы. Гэтыя нешматлікія езуіты такія ж мяцежныя супраць Рыму, як і Вы; непадпарадкавальныя, як і Вы; і свавольныя, як і Вы; і ўсё роўна я бачу на вашых тварах пэўны выраз незадаволенасьці. Чаго ж Вам яшчэ трэба? Калі ж гэтыя людзі зьяўляюцца тым, што Вы жадалі зрабіць зь іх, чаму працягваеце Вы сваю варожасьць да іх? Гэта важнае сумненьне. Як бы не зьдзіvіліся Арно, Паскаль, Патуцы і Сарпі, калі б яны ведалі, што езуітаў ненавідзяць толькі за тое, што яны свавольныя супраць Папы?

Тое, што нянавісьць да езуітаў паходзіць ад іх асаблівай прыхільнасьці Рыму, зьяўляецца справай, якую ведае цэлы Сьвет. Толькі герцаг Монтмарэнсійскі часткова не хацеў дазволіць гэта, калі ён аднойчы сказаў айцу Le Forestier: **Нянавісьць да езуітаў, бо яны занадта любяць Папу, гэта ерэтычная нянавісьць; прыдворныя аднак ненавідязць езуіта, таму што той занадта шчыра любіць свайго ўладара. Паверце мне, мой айцец; я ведаю двары лепш за Вас**. Разважлівы герцаг меў рацыю; аднак можна ўвязаць усё разам. Хто любіць свайго ўладара з рэлігійных прычын, той мусіць таксама любіць і рэлігію і яе кіраўніка. Езуіт, калі таго патрабавалі абставіны, не саступаў ерэтыку дзеля абароны Папы; і інфармаваў таксама ўладара, каб няверныя прыдворныя не маглі яго спакусіць. Гэта падвойная крыніца езуіцкай нянавісьці. Толькі з іхнай адданасьці уладарам немагчыма было зрабіць ім прычыну для абвінавачваньня перад уладаром.

Праглядзіце ж без малага два з паловай стагодзьдзя; знайдзіце ў гісторыі ўсё, што было сказана ці напісана супраць езуітаў, пачыная з Кальвіна; і Вы знайдзёце ўсё тую ж старую песьню. Ці не было слова Папіст асабліва прызначанае для таго, каб азначаць езуіта? Прачытайце ў Апалогіі Бэнедыкта Морелі: **гэтых езуітаў, кажа ён, вы завеце папістамі і арцыпапістамі**. Ці не ўздыхалі Лютэр і Кальвін, што яны не маглі зьнішчыць са сьвету езуітаў, якіх яны называлі найбольшай апорай Апостальскага трону? **Езуітаў**, крычаў няшчасны Кальвін ў сваёй апантанасьці і ліхаманцы, **езуітаў, якія больш за ўсё супрацьстаяць нам, трэба альбо забіць, альбо, калі гэта не можа адбыцца, прагнаць, альбо па меньшае прынізіць іх праз хлусьню і паклёпы**. Бедны Мэлянхтон[208]! Як балюча было яму ад таго, што ён быў

[208] Філіп Мэлянхтон (ням. Philipp Melanchton) 16.02.1497 – 19.04.1560 гг. – нямецкі гуманіст, тэоляг і пэдагог, эвангелічны рэфарматар, сыстэматызатар лютэранскай тэалёгіі, паплечнік Лютэра, якога празвалі „Praeceptor Germaniae“ (настаўнік Нямеччыны)

вымушаны бачыць езуітаў на сьвеце! **Ах! Что нам рабіць?** заклікаў ён, **сьвет напоўнены езуітамі. Бязбожныя езуіты перашкаджаюць справе эвангелізму. У Нямеччыне не засталося б ніводнага папіста, калі б чорт не насадзіў іх**. Ці не надрукаваў Хэмніц кнігу пад назовам: **Пра новы Ордэн Езуітаў. у чым складаецца іх вера. Як яны змагаюцца супраць Езуса і яго сьвятога Эвангеля з адной толькі мэтай, каб прывесьці нямецкую нацыю да заняпаду вечнай славы і падставіць яе пад ярмо Папы**? Ці не пераклаў ён гэтую кнігу на латынь і не зладзіў новае выданьне яе? Ці не пісаў Тэадор Лінданус[209], што суполка была створаная, каб падтрымліваць папства; і таму **ён называў яе ахоўнікамі Сатаны і зборам чарцей**? Ці не кажа Ян Альберт Фабрыцыюс[210] у сваёй кнізе: Salutaris lex Evangelii, што **намаганьні езуітаў, якія хочуць усё падпарадкаваць Папе**, былі віноўныя ў перасьледзе каталіцкага хрысьціянства ў Японіі? Прачытайце 65 пасланьняў (Вэронскае выданьне 1613) Паоло Сарпі, сапраўднага гугенота ў каптуры; і Вы знойдзеце, што чалавек павінен імкнуцца ні да чаго іншага, акрамя дэскрыдытацыі езуітаў; калі яны падуць, то Рым прайграе, і рэлігія рэфармуецца сама сабой. Прачытайце працу Пауля Эрнэста Яблонскага[211]: **Уводзіны ў новае хрысьціянства**; і Вы знойдзеце, што езуіты **зрабілі сабе карысьць Папы рымскага асноўным законам ... таму гэты ордэн не без падставы заўсёды лічыўся адной з апораў папскай улады**. Я б увесь час свайго жыцьця не меў чым іншым займацца, каб я пажадаў апісаць усе напады, якія ерэтыкі калісь рабілі на езуітаў. Я моўчкі прапушчу сёняшнія модныя сэкты, янсяністаў, дэістаў і мацерыялістаў, якія ўсе кажуць адное і тое ж; бо сьвет і без таго дастаткова дасьведчаны ў гэтым.

Тое, што падступныя прыдворныя скоса разглядалі ў езуітах, была іх шчырасьць і вернасьць на баку Стальца; аднак яны скардзіліся толькі наконт іхнай залежнасьці ад Папы. Гэтую скаргу прыпадносілі ўжо Філіпу II каралю Гішпаніі, і ён ужо прытрымліваўся таго, што гішпанскія правінцыі павінны аддзяліцца ад гэнерала. Тое самае прадстаўлялі таксама Гэнрыху IV, каралю Францыі, на самым непрыязным баку; і, каб прыйсьці да нашых часоў, на Суасонскім Кангрэсе 1728 г. было дакладзена янсяністамі, што трэба зрабіць усіх Манархаў падазронымі да занадта вялікай прыхільнасьці езуітаў да Рыму, і трэба гэткім чынам падрыхтаваць агульнае крушэньне суполкі; якое ў нашы часы было пасьпяхова праведзена. Ва ўсіх публічных пасланьнях наконт выгнаньня езуітаў; у парляманцкіх заключэньнях, у прамовах гэнералпракуратараў, у каралеўскіх эдыктах, можна знайсьці прыведзеным у якасьці адзінай, ці ўсё ж такі ўзнёслай, прычыны тое, што езуіты былі занадта прыляпіліся да Папы. Экс-міністр маркіз Танучы кажа нават сёньня, і нават не сароміцца гэтага: што папізм быў бядой езуітаў; што яны былі скасаваныя проста дзеля таго, каб зьняважыць і аслабіць Рым; і што яны павінны быць неадкладна адноўленыя, калі яны пажадаюць адмовіцца ад прыхільнасьці Папе; пры тым, што немагчыма адмовіць, што гэта была адная з найкарысных духоўных супольнасьцей, калі наогул не адзіная. Чаго мы яшчэ хочам? Ці не

[209] Тэадор Лінданус (ням. Theodor Lindanus) каля 1530 – 13.09.1580 гг. – нямецкі тэолаг, канонік у Брэслаў.

[210] Ян Альберт Фабрыцыюс (ням. Johann Albert Fabricius) 11.11.1668 – 30.04.1736 гг. – нямецкі філёзаф; быў пастарам і прафесарам маралі і красамоўства ў акадэмічнай гімназіі Гамбурга. Заснаваў «Teutschübende Gesellschaft» — суполку практыкуючых нямецкую мову, дзеля удасканаленьня мовы.

[211] Пауль Эрнэст Яблонскі (ням. Paul Ernest Jablonski) 28.12.1693 – 13.09.1757 гг. – нямецкі тэолаг рэфармацыі і ўсходазнайца. Прафесар філалёгіі і доктар прафэсар тэалёгіі ва ўніверсітэце Франкфурта на Одэры. Сябра Бэрлінскай Акадэміі Навук.

кажуць сёньня нават у Рыме з поўнай свабодай, што езуіты мусілі быць скасаваныя праз свой непамерны папізм, і што не заставалася ніякага іншага сродку, каб іх рэфармаваць, бо папізм зрабіўся натурай езуітаў?

На гэты конт паслухайце цяпер мае сумненьні. Ці можна неяк зьвязаць гэтае злачынства езуітаў з намаганьнямі антыезуітаў? Калі папізм у вачах супраціўнай партыі быў злачынствам езуітаў, як можа яна лічыць ім цяпер антыпапізм у злачынства? Калі іх жадалі скасаваць, бо яны занадта прыляпіліся да Папы; чаму тады іх хочуць скасаваць за тое, што яны ад яго аддзяліліся? Хто ня бачыць тут сьляпой нянавісьці, якая намагаецца прынесьці шкоду праз усе шляхі, нават калі яны супярэчаць адзін аднаму? Паколькі езуіты знаходзіліся пад падтрымкай Рыму, іх спрабавалі зрабіць ненавіснымі сярод манархаў; цяпер, калі яны знаходзяцца пад аховай адной манархіні, іх робяць ненавіснымі ў Рыме. Ці не павінны былі гэтыя бязладныя паводзіны прыцягнуць увагу ўладароў і папаў, і нарэшце прывесьці да думкі, што іх падманулі? Плян агульнай анархіі, які сёняшнія філёзафы павесілі на шпалеру, больш не зьяўляецца сакрэтам. Энцыклапедысты і некаторыя іншыя шчыра прызналі, што зьнішчэньне езуітаў было трыумфам філасофіі; таму што калі філасофія ўзяла на сябе стараньне здабыць чалавеку яго натуральную свабоду і вызваліць яго ад падвойнага ярма рэлігіі і ўладароў, то з падзеньнем езуітаў яна мусіла зрабіць сабе пачатак, каб прыбраць са свайго шляху найбольшыя перашкоды. Калі гэтая філасофія будзе і далей кіраваць палітычнымі і рымскімі кабінэтамі, што ў хуткасьці застанецца ад дзьвух уладаў? Чалавек пачне атрымліваць асалоду ад свабоды, якой ён ніколі ня меў; і апусьціцца да ўзроўню дзікіх жывёлаў.

Маё сумненьне павяло мяне далей, чым я хацеў; аднак паколькі яно павяло мяне да супярэчных шляхоў, якія былі скарыстаныя дзеля крушэньня езуітаў; то я хачу крыху больш затрымацца на гэтым; што не столькі дапамагае выкрыць злосьць аднаго прадпрыемства, колькі розьніцу шляхоў, якімі яго ажыцьцяўлялі. Але Вы павінны заўважыць, сябра, што езуіты ва ўсе часы былі абвінавачаныя ў вядомых злачынствах, у якіх потым апыналіся вінаватымі іх скаржнікі. Я нагадаю вам толькі некаторыя зь іх.

1. Езуіты былі абвінавачаныя, што яны сапсавалі вучэньне веры і традыцыі: але кім абвінавачаныя? Лютэрам, Кальвінам, Хэмніцам, Мэлянхтонам, Бэза[212], Госпіньянам[213], Янам Паўлам Вэргерам, Антуанам Арно, Паскалем ці Мантальтам[214], ці Вэндрокам[215], Кенэлям[216], дэістамі,

---

[212] Тэадор Бэза (фр. Théodore de Bèze) 24.06.1519 – 13.10.1605 гг. – швэйцарскі рэфарматар, паплечнік і пераемнік Жана Кальвіна.

[213] Рудольф Госпіян (ням. Rudolf Hospinian), сапраўднае імя Рудольф Вірт (Rudolf Wirth) 07.11.1547 – 11.03.1626 гг. – швэйцарскі тэолаг, рэфарматар.

[214] Луі Мантальт (фр. Louis de Montalte) – выдуманы падарожнік, ад імя якога Паскаль напісаў "Лісты да правінцыяла" (1656-1657). Калі ў 1655м распачалася публічная спрэчка з нагоды таго, што Арно як янсяніст быў выключаны з тэалагічнага факультэта парыжскай Сарбоны, Паскаль умяшаўся ў яе і склаў у 1656-57м шэраг ананімных сатырычна-палемічных брашур. Яны былі пасьпяхова апублікаваныя ў Галандыі ў якасьці кнігі пад назвай : "Provinciales, ou Lettres de Louis de Montalte à un provincial de ses amis et aux R. R. PP. Jésuites sur la morale et la politique de ces pères" (Лісты да правінцыяла, ці лісты Луі Мантальта да яго сябра правінцыяла і таксама да езуітаў наконт маралі і палітыкі іхнага айца, 1657).

[215] Вэндрок (Wendrock) адзін з творчых псеўданімаў П'ера Ніколя (фр. Pierre Nicole) 19.10.1625 – 16.11.1695 гг. – вядомы французскі тэолаг і мараліст. Сябра і паплечнік Антуана Арно. Пазьней зьмяніў свае погляды і цалкам адрокся ад янсяністаў. Яго позьнія творы пераважна былі супраць пратэстантаў і пасварылі яго з былымі сябрамі па Пор-Раялю.

энцыклапедыстамі, вольнадумцамі і рознымі пісакамі дзьвух ордэнаў, якія мелі гонар даць сьвету дзьвух вялікіх патрыярхаў, Лютэра і Буцэра[217].

2. Езуіты былі абвінавачаныя ў выкладаньні ідэі каралеўскага забойства: але кім абвінавачаныя? Рэфарматарамі шаснаццатага стагодзьдзя, якія адкрыта браліся за зброю супраць сваіх уласных манархаў і зрабілі на поўначы вялікае спусташеэньне; Элізаветай каралевай Англіі і яе верным любімцам Эдўардам Кукам, якія аднялі жыцьцё Марыі Сьцюарт, каралевы Шатландыі; вядомымі манахамі, якія выкладалі каралеўскае забойства не толькі на паперы, але таксама практыкавалі яго з кінжаламі; сабратамі таго Якава Клеменса[218], які забіў Генрыха III[219] караля Францыі, і таго Вальвердэ[220], які грай першую ролю пры каралеўскім забойстве інкаў у Перу, бо ён падбадзёрваў шайку мяцежнікаў і узняў перад імі свой малітоўнік, у якім, казаў ён, стаіць загад адняць жыцьцё ў няверуючых уладароў.

3. Езуіты былі абвінавачаныя ў прабабілізьме[221]: але кім абвінавачаныя? Тымі манахамі, чый каптур пакрываў шаноўную галаву брата Медзіна[222], ***)** які быў айцом прабабілізма; тымі манахамі, якімі прабабілізм быў выгадаваны і агульна прыняты, і пасьля перарадзіўся ў лаксізм[223]; тымі манахамі, нарэшце, якія яго пакінулі толькі дзеля таго, каб прыняць аблуду праклятага

***)** Дамініканскі манах, які памёр у 1581 г. у Саламанцы.

[216] Паск’е Кенэль (фр. Pasquier Quesnel) 14.07.1634 – 02.12.1719 гг. – французскі тэолаг янсяніст. Праз езуітаў быў арыштаваны ў 1703 годзе, але уцёк у Амстэрдам, дзе пражыў да сваёй сьмерці.

[217] Марцін Буцэр (ням. Martin Bucer ці Butzer) 11.11.1491 – 01.03.1551 гг. – належыць да шэрагу выбітнейшых тэолагаў Рэфармацыі і лічыцца рэфарматарам Страсбурга і Эльзаса. Спачатку быў манахам дамініканцам, але пасьля асабістага знаёмства з Лютэрам стаў цьвёрдым пасьлядоўнікам Рэфармацыі. Пакінуўшы ордэн ён ажаніўся з былой манахіняй і стаў пастарам у Эдзенбурзе. З 1523 г. кіраваў рэфармацыяй у Страсбурзе, дзе на працягу часу быў найбольш аўтарытэтным тэолагам. У 1549 г. пасьля стычак з уладамі горада быў вымушаны пакінуць Струсбург і па запрашэньню арцыбіскупа Томаса Кранмэра пераехаць у Англію.

[218] Якаў Клеменс, Жак Клеман (фр. Jacques Clément), 1567 – 01.08.1589 гг. – дамініканскі манах. Пад уплывам каталіцкай лігі быў настроены супраць караля Францыі Генрэыха III. 31.07.1589 ён накіраваўся ў лагер караля. Раніцай наступнага дня ён пранік да караля, нібыта дзеля перадачы важных зьвестак са сталіцы, уручая каралю ліст Клеменс праткнуў яго атручаным кінжалам. Ахова караля адразу ж забіла манаха. Але ня гледзячы на гэта пазьней адбыўся суд над трупам Клеменса.

[219] Генрых III Валуа (фр. Henri III de Valois), 19.09.1551 – 02.08.1589 гг. – сын Генрыха II, караля Францыі і Марыі Медычы. Кароль польскі і вялікі князь літоўскі з 21.02.1573 да 18.06.1574. Ад 30.05.1574 – апошні кароль Францыі з дынастыі Валуа.

[220] Вінцэнт дэ Вальвердэ (гішп. Vicente de Valverde y Alvarez de Toledo), прыблізна 1495 – 1541 гг. – гішпанскі манах дамінікан, прымаў удзел у заваяваньні Амерыкі. Ён стаў першым біскупам рэзідэнтам Паўднёвай Амерыкі.

[221] Прабабілізм – каталіцкая тэалагічная канцэпцыя, якая абгрунтоўвае лад маральнага меркаваньня, калі ў сумнеўным выпадке трэба прыняць верагоднае за дакладнае, калі гэта карысна для Царквы. Гэтая трактоўка нашла прыхільнікаў сярод езуітаў. Супраць яе выступалі янсяністы.

[222] Барталамэ дэ Медзіна (гішп. Bartolomé de Medina), 1527 – 1581 гг. – гішпанскі тэолаг, дамінікан, прадстаўнік Саламанскай школы. Лічыцца заснавацелем маральнай тэорыі прабабілізма.

[223] Лаксізм (ад лац. laxus — слаба нацягнуты, адпушчаны) – цячэньне ў каталічкім маральным багасловіі XVII ст. Лаксізм, у адрозьненьні ад рыгарызму (які практыкавалі янсяністы), харакатаразаваўся паблажлівасьцю да чалавечай недасканальнасьці і мінімалізмам у галіне маральных патрабаваньняў. Прыхільнікі лаксізму шукалі драбнейшую нагоду каб апраўдаць грэшніка, ці па меньшае прадставіць сьмяротны грэх у якасьці даравальнага. Большасьць прыхільнікаў лаксізму належылі да Ордэна езуітаў, што дало нагоду Паскалю у “Лістах да правінцыяла” абвінавацiць езуітаў у стварэньні і прапагандзе лаксізму. Паколькі лаксізм пагражаў заняпадам маралі як сярод вернікаў, так і сярод духавенства і манахаў, рымскія папы Аляксандр VII і Інакенцій XI асудзілі шэраг тэзісаў лаксізму.

рыгарызму[224].

4. Езуіты былі абвінавачаныя ў ерасі і абагаўленьні: але кім абвінавачаныя? Тымі манахамі, якія доўгі час трымалі ў пашане пакой аднаго свайго сабрата, на якога было накладзена адлучэньне, і выставілі яго рэліквіі дзеля публічнага ўшанаваньня: той партыяй, якая, каб зрабіць свайму заганнаму вучэньню боскі выгляд, на магіле аднаго вядомага парыі ў Сэн-Мэдар вяртала здароўе людзям, якія ніколі не былі хворыя; тымі летуценьнікамі, нарэшце, якія ў нашыя дні рабілі з Ларэнца Ганганэлі, які не мог памерці больш натуральным чынам, пакутніка, і дзеялі цуды праз яго пантофлю.

5. Езуіты былі абвінавачаныя ў тым, што яны жадалі быць незалежнымі ад законнай улады; але кім абвінавачаныя? Мяцежным манахам капуцынам Норбэртам, які абышоў цэлы сьвет каб пазбегчы вязьніцы і пятлі, якія былі падрыхтаваныя яму яго начальствам у аддзяку за яго непадпарадкаваньне.

6. Езуіты былі ў гэтыя апошнія часы абвінавачаныя ў нявернасьці да ўладароў; але кім абвінавачаныя? У Партугаліі адным міністрам, які выдаліў ад трону кіруючую каралеву Марыю Францыску і спрабаваў перадаць лузітанскую карону каралеўскаму прынцу Англіі, гэрцагу Камбэрландскаму; у Гішпаніі гэрцагам Альбы, сынам мяцежнага дому Бурбонаў айца, чыі прыцязаньні на гішпанскую карону ён ніколі не жадаў прызнаваць; у Францыі вядомымі ўдзельнікамі парлямэнту, якіх Людвіг XV мусіў утаймаваць, бо яны жадалі ўзвысіць сваю ўладу над уладай караля; нарэшце, пэўнымі асобамі, якія дзеля дасягненьня сваіх мэтаў выдумалі ілжывыя паўстаньні, схавалі сапраўдныя, і, нарэшце, разьвярнуліся бязбожным чынам супраць славы аднаго вялікага манарха.

7. Нарэшце, езуіты былі абвінавачаныя як непаслухмяныя і мяцежныя адносна сьвятога Стальца людзі; кім? Апелянтамі, антыканстытуцыяністамі, ворагамі Прымата і пэўнымі папскімі міністрамі, пра нявернасьць якіх можа распавесьці нават найнізшая чэрнь. Іх ілбы мусяць быць жалезнымі, што яны не чырванеюць ад сораму!

Гэтыя сумненьні невырашальныя; толькі абвінавачаньне расейскіх езуітаў не павінна было быць абвержана праз сумненьні, якія толькі паказваюць несправядлівасьць аьвінаваццеля. Таму было неабходна прывесьці гэтыя рэчы. Аднак ці павінен я ніколі не дайсьці да канца? Калі б я дзеля апраўданьня рускіх закрануў бы тут толькі асаблівыя прычыны, што датычацца іх, то я бы ўжо даўно высказаўся; таму што яны раскіданыя тут і там у гэтым пасланьні і выстаўлены пад такое сьвятло, што іх мусіць убачыць нават сьляпы. Аднак натура абвінавачваньня і цяперашнія абставіны патрабуюць, каб гэты пункт быў разабраны паводле ўсёй яго разгалінаванасьці, і трэба паказаць, што скасаваньне ніякім чынам не абавязвае езуітаў да паслухмянасьці, але да цярпеньня і дараваньня абразаў; так як кожны прававерны чалавек абавязаны безуважна цярпець несправядлівасьць, крадзяжы і ілжывыя сьведчаньні, калі ён ня мае ніякага сродку пазбавіцца ад іх.

Але як жа павінны загад Клеменса XIV не абавязваць да паслухмянасьці? Ці не быў ён Папай? Так; але гэтага не дастаткова, каб яго загаду набыць абавязковасьць? Загад на скасаваньне езуітаў не абавязвае, бо ён патаемны:

---

[224] Рыгарызм (фр. rigorisme ад лац. rigor — цьвёрдасьць, строгасьць) – строгасьць правядзеньня нейкага прынцыау (нормы) ў паводзінах і думках. Рыгарызм выключае кампрамісы і не ўлічвае іншыя прынцыпы, што адрозьніваюцца ад першапачатковага.

бо ён прымушаны праз гвалт і грошы: бо ён парушае натуральныя правы: бо ён бескарысны і шкодны: бо ён зьмяшчае антыхрысьціянскае вучэньне і грунтуе на ім свае распараджэньні: бо ён праклінае сёняшніх асобаў за мінулыя злачынствы ўжо памерлых: бо гэтыя злачынствы былі ўзваленыя на езуітаў ерэтыкамі: бо шмат з гэтых абвінавачваньняў, якія прыводзіць загад, былі даследваныя судом і прызнаныя ілжывымі: як Клеменс XIV прыводзіць іх без дасьледваньня і без суду: бо ён вядзе да распуснага жыцьця, паколькі ён абавязвае шмат тысяч асобаў, якія знаходзіліся ў бяспечным месцы, жыць сярод спакусаў сьвету: бо ён касуе сьвятыя вузы зарокаў без прычыны і супраць жаданьня тых, хто іх прыняў: бо ён зьмяшчае хлусьню і ўзводзіць паклёп не толькі на езуітаў, але таксама і на папярэдніх папаў: бо ён перакручвае не толькі Апостальскія Канстытуцыі, але таксама і тэксты агульнай Царкоўнай Рады: бо ён сфармуліраваны без умовы: **са згодай нашых братой**, якая паводле канонаў патрабуецца для натуры кожнага дэкрэту: бо праз адзіны загад былі скасаваныя не толькі сотні папскіх бул і загадаў, але таксама і розныя Боскія запаветы, як: **не крадзі, не давай ілжывага сьведчаньня, любі свайго блізкага, як самога сябе**: бо ён зьмяшчае саляцызмы[225]: бо ён ніколі быў законна абвешчаны, нават у Рыме. Кожнага з гэтых пунктаў было б дастаткова, каб гэты загад паводле канонаў ня меў ніякай абавязковасьці; таму гэта не павінна было быць непаслухмянасьцю, калі нехта ім не кіраваўся; таксама як калі нехта прыстасоўваецца да яго, то гэта не праява паслухмянасьці, але церпялівасьці. З-за таго, што рымскія гвалтоўныя акты не маглі дацягнуцца да расейскіх езуітаў, праз гэта яны мелі асаблівы лёс; і іх церпялівасьць тут ня мела ніякай нагоды каб праявіць сябе; аднак Бог дзеля свайго праслаўленьня паставіць яе на выпрабаваньне ў іншы час.

Што да пунктаў вучэньня, якія я закрануў у гэтым пасланьні, то я трымаўся сьвятога Фамы, аднак не цыціраваў яго дзеля сьцісласьці. Аднак цяпер вы павінны адкрыць мне (1.2 dæ, q. 104.) наступную главу: **ці зьяўляюцца падначаленыя абавязанымі, ва ўсім падпарадкоўвацца сваім кіраўнікам**; аб чым ён у пятым артыкуле дае наступнае паведамленьне: **трэба адрозьніваць тры сорта паслухмяных людзей; адзін – дастаткова, хто паслухмяны толькі ў тых справах, да якіх ён абавязаны; другі – поўна, хто паслухмяны ва ўсіх дазволеных справах; трэці – неразумна, хто паслухмяны таксама і ў забароненых справах**. Калі кіраўнік загадвае ў межах сваёй улады і ў належнай форме; то гэты закон абавязвае да паслухмянасьці; калі Вы не слухаецеся, то вы не зьяўляецеся свавольным, але непаслухмяным. Калі кіраўнік выходзіць за межы сваёй улады, загадвае аднак дазволеныя справы, то Вы не абавязаны слухацца; калі Вы аднак усё ж такі слухаецеся, ваша паслухмянасьць поўная і залічваецца вам як найбольшая заслуга. Калі кіраўнік загадвае забароненыя справы, то вы абавязаны не слухацца; і ваша паслухмянасьць тут будзе неразумнай і будзе злоўжываньнем паслухмянасьці.

Клеменскаўскі загад жа выходзіць за межы папскай улады незвычайным чынам; таму, калі нехта яго не прымае, гэта не парушае закона паслухмянасьці. Тое, што астатнія езуіты яго прынялі і падпарадкаваліся яму, у гэтым іх паслухмянасьць была гераічнай. Ад расейскіх жа езуітаў патрабуюць відавочна забароненыя справы; бо забаронена пярэчыць сваёй манархіні ў справах, якія

[225] Саляцыз (ад др.-гр. σολοικισμός (лац. soloecismus), ад назвы др.-гр. Σόλοι (лат. Soloe)) – сінтаксічна няверны моўны зварот, які не скажае сэнса выказваньня.

належаць яе ўладзе; забаронена пярэчыць свайму біскупу і Апостальскім дэлегатам; забаронена самавольна ажыцьцяўляць загад, ажыцьцяўленьне якога было даручанае біскупу; забаронена вызваляць сябе самаго ад зарокаў і абавязкаў свайго прафэсіёна; што не адзін раз прадпісана ў самім загадзе; таму паслухмянасьць, якую патрабуюць ад расейскіх езуітаў, зьяўляецца забароненай і неразумнай паслухмянасьцю.

Некаторыя назвалі гэта рацыянальным канчатковым выракам, аднак толькі з дабрасардэчнасьці; па-першае, таму што паводле канонаў рацыянальны канчатковы вырак мае месца толькі ў абвешчаных фактах, якія зьяўляюцца вядомымі не толькі судзьдзе, але таксама і народу, як гэта дакладна пазначана ў шматлікіх месцах Корпуса Юрыс[226], асабліва ў другой кнізе дэкрэталій (tit. 23. c. 21. ad nostram)[227]; аднак што да справы езуітаў, то тут няма нічога іншага абвяшчаць, акрамя несправядлівасьці; па-другое, таму што канчатковы вырак завецца рацыянальным, калі не суд, але судовая вытворчасьць не выконваецца, ці, як кажуцб людзі, калі не прымаецца да ўвагі канцылярскі стыль: аднак з езуітамі абыйшліся нават без наяўнасьці суда; таму загад не зьяўляецца законным працэсам і, такім чынас, не зьяўляецца канчатковым выракам, таксама рацыянальным. **Мы ня можам супраць нікога**, кажа закон (2. q. 1.c.), **выносіць канчатковы вырак, выключаючы выпадкі, калі ён быў перакананы, ці дабравольна прызнаў яго**. Аднак езуітам, якія дзеля сваёй адказнасьці просьбітна прадсталі перад Папам, адклалі і забаранілі шлях да адказнасьці.

Можна было б выкарыстаць іншы плян дзеля абароны расейскіх езуітаў. У чым складаецца іх злачынства? у тым, што яны працягваюць заставацца езуітамі, пасьля таго як суполка была скасаваная праз Апостальскі загад. Гэта абвінавачваньне, супраць якога можна прад'явіць наступныя сумненьні:

1. Ці зьяшляецца загад Папы Ганганэлі Апостальскім загадам?

2. Ці мелі расейскія езуіты тую прыкмету, якая прадпісана канонамі, каб распазнаць яго як Апостальскі загад?

3. Закон, які зьяўляецца Апостальскім загадам, і які трэба прызнаць такім; ці зьяўляецца ён дагматычным загадам, які абавязвае як правіла веры? Ці зьяўляецца ён заканадаўчым загадам, які абавязвае да дзеяньня як правіла маралі? Ці зьяўляецца ён крымінальным загадам, які абавязвае як канчатковы вырак? Ці гэта закон, дзе камусьці прысуджаецца памілаваньне ці законнасьць?

4. Каб гэты загад абавязваў патрэбна, каб ён быў абвешчаны; і ці дастаткова ён быў абвешчаны, каб абавязаць расейскіх езуітаў?

5. Што загадваецца расейскім езуітам праз Клеменсаўскі загад?

6. Што зрабілі ці прадпрынялі расейскія езуіты супраць Клеменсаўскага загаду?

7. Ці мелі расейскія езуіты магчымасьць ажыцьцявіць усе распараджэньні Клеменсаўскага загаду?

8. Ці было расейскім езуітам дазволена, ажыцьцявіць усе распараджэньні Клеменсаўскага загаду?

[226] Corpus Juris – свод законаў, маецца на ўвазе Corpus Iuris Canonici, збор каталіцкіх царкоўных законаў.

[227] Падзел 23, глава 21 "Ad nostram" – аўтар кнігі зрабіў памылку. Дэкрэт "Ad nostram" знаходзіцца ў 21-й главе **24-га** падзела другой кнігі зборніка Decretalium Gregorii papae IX

9. Што мусілі рабіць езуіты, каб кіравацца паодле Клеменскаўскага загаду?

Бачыце, якое шырокае поле я меў бы перад сабой, каб перабегчы, і якое шырокае мора, каб пераплыць. Ці гэта так цяжка, скажаце Вы, каб на гэта адважыцца? Канечне не: толькі справа зьяўляецца настолькі шырокай, а я хачу калісьці дабрацца да канца. Я сапраўды зараз стаю перад апошнім пунктам, які я абяцаў вам закрануць наконт гэтага артыкула цыркуляра.

# §. XIII.

Дык вось мы дайшлі да адзінай прычыны, якой замацоўваюць інструкцыі і настаўленьні: а дакладна, **Клеменс XIV дабраславёнай памяці, паўсюль скасаваў Суполку**; таму расейскія езуіты зьяўляюцца свавольнымі людзьмі; таму трэба выдаліць іх ад духоўных адпраўленьняў, ня гледзячы на недахоп дасьведчаных сьвятароў; таму трэба пярэчыць Імпэратрыцы. О, сапраўды прыгожая прачына! Аднак паходзіць яна ад аўтара цыркуляра, ці ад сакратара Прапаганды, ці ад нунцыя Аркеці, ці ад Папы?

Калі б аўтар прывёў падобную прычыну ад свайго імя, ці ад імя роўнага сабе; то я бы не палічыў вартымі намаганьні абвергнуць яе, таму што нават дурак бачыць, у чым там справа. Як? Клеменс XIV ніколі ў сваім жыцьці не даваў абгрунтаванай прычыны сваім настолькі шкодным для царквы дзеяньням; і цяпер нехта жадае працягваць гэтыя дзеяньні з адной толькі прычыны: **таму што Клеменс XIV дабраславёнай памяці гэтага жадаў**? Ужо сем год, як сьвет поўны крыўды пытаецца, чаму, калі езуітаў немагчыма было скасаваць законным чынам, пачала практыкавацца новая судовая форма, якая на працягу 18-га стагодзьдзя ненавідзела Царкву насуперак Эвангельлю? Главы сем'яў заклікаюць, чаму іх пакінулі ў настолькі цяжкай складанасьці гадаваць і навучаць сваіх дзяцей? Добрыя біскупы скардзяцца, чаму ім не вяртаюць іх старанных і верных душпастыраў, зь якімі яны заўсёды дзялілі клопаты свайго пастырства? Народы пад абодвума зонамі енчаць, чаму ў іх скралі тую дапамогу, якую ім даслала Боскае наканаваньне два стагодзьдзі таму; і чаму ім даюць зноўку ўпасьці ў варварства, у невуцтва і ў нявер'е? Маёмасьці езуітаў паводле выказваньня ў законах: res clamat ad Dominum[228], заклікаюць клічам: з якім сумленьнем іх канфіскавалі, далучылі да казны, і і перамяшалі з тымі маёмасьцямі, якія былі адабраныя ў злодзеяў у якасьці справядлівага штрафу; і чаму іх не вярнулі іх гаспадарам? Самі езуіты енчаць пад розгай пакараньня і скардзяцца ўголас са словамі рахманага збавіцеля: калі мы рабілі злачыннае, **то дай нам сьведчаньне гэтага злачынства**; калі мы аднак рабілі правае, **чаму б'еш ты нас**? І ўче гэтыя скаргі нехта хоча супакоіць адзінымі толькі словамі: **гэтага жадаў Клеменс XIV дабраславёнай памяці**? І сьвет мусіць быць задаволены гэтым?

Аднак, каб мы падыйшлі да рускіх, якія яшчэ знаходзяцца ў законным валоданьні сваім станам; параўнайце вашыя прычыны з гэтым. Правы трона, правы біскупа, правы народаў, правы езуітаў, кананічныя правілы, узор іншых нацый, прадпісаньні самаго загаду, усё давказвае, што езуіты законным чынам зьяўляюцца езуітамі і павінны працягваць сваё езуіцкае жыцьцё. І гэтыя прычыны нехта хоча абвергнуць праз нішто іншае, як сказаць: **гэтага жадаў**

[228] Маёмасьць належыць свайму гаспадару.

**Клеменс XIV дабраславёнай памяці**? Ці вы ўжо, мае панове, настолькі далёка зайшлі, што не маеце ніякай іншай прычыны дзеля падтрымкі свайго шэдэўру?

Гэтага было б дастаткова каб абвергнуць гэтую вартую жалю прычыну аўтара, калі б ён выдаў яе ад свайго імя: аднак паколькі яна прадстаўляецца, нібыта яна паходзіць ад Папы, то я вымушаны крыху даўжэй спыніцца на гэтым, і выкрыць вам падвойны сэнс, які гэтыя словы маюць у разуменьні аўтара. Што хочуць сказаць гэтыя словы на языке Папы: Клеменс XIV паўсюль скасаваў суполку? Што вынікае з гэтага? Значыць Пій VI не можа паступіць з езуітамі па справядлівасьці? Значыць ён не абавязаны да гэтага? Гэта два вынікі, якія Партыя грунтуе на двух паклёпах. Яны кажуць, Пій VI не можа дамагчыся справядлівасьці да езуітаў, таму што ён абяцаў пакінуць усё паводле загаду аб скасаваньні: Першы Паклёп. Яны кажуць, Пій VI не лічыць сябе абавязаным да гэтага; таму што паколькі скасавеньне зьяўляецца творам яго папярэдніка, а не яго ўласным, то яму няма за што несьці адказнасьць: Другі Паклёп.

Не пасьпеў Пій VI стаць Папай, як антыезуіты ўжо разнесьлі, што ён стаў ім праз абяцаньне, якое ён даў бурбонскім дварам, нічога не зьмяняць у загадзе аб скасаваньні. Гэтыя чуткі раззлавалі сьвет: бо гэта азначала б, што ён падчас свайго кіраваньня пакіне пад прыгнётам шмат тысяч невіноўных ордэнскіх сьвятароў, што ён не вярне на сваё месца ніводнага з тых каменьняў, што былі вырваныя з сэрца сьвятыні; што ён будзе зачыняць усе шляхі руху справядлівасьці; гэта азначала б, як быццам бы Папа ўявіў сабе, што ён мог бы рабіць з Царквой, нібыта з адным са сваіх паветрных замкаў, што пажадае. Але хвала Богу! Падобнай несправядлівасьці сьвет ніколі ня верыў; ён ведае, што езуіты не зьяўляюцца часткай спадчыны дома Braschi[229]; ён ведае, што езуіты не рабы Папы, але ягняты статка Езуса Хрыста, якія былі прапанаваныя Папе не для таго, каб іх прадаваць, ці рабіць падарункам, але каб кіраваць імі паводле эвангельскіх і кананічных законаў у духу справядлівасьці, праўды і любові.

На самой справе, мы не маем ніводнага сьведчаньня аб падобным абяцаньні. Хаця адзін міністр аднаго замежнага двара распавядаў аднойчы кардыналу N. (абодва яшчэ жывы), што Папа сапраўды даў гэтае абяцаньне яго двару, што ён, аднак, не хацеў чуць ніякіх размоў аб цыркулярах Кангрэгацыі наконт езуітаў, якія, паводле яго словаў, **былі поўныя недарэчнасьцей**. Калі гэтая гісторыя зьяўляецца праўдай, то значыць Пій VI пабачыў недарэчнасьці цэркуляра, і ён павінен быў не пабачыць недарэчнасьцей загаду, якія значна больш шматлікія і грубыя? Не! Гэта не магчыма. Бо трэба ведаць, што, калі зьявіўся загад аб скасаваньні, і кардынал Braschi яго прачытаў, ён адразу выявіў грубыя і прыкрыя памылкі, зь якіх ён быў сплецены, так, што ён успыхнуў у справядлівым абурэньні і адкінуў загад ад сябе. Значыць гісторыя гэтага міністра мусіць быць падступна выкарыстанай і ілжывай; і калі Папа верыў, што нічога ня можа абяцаць у дачыненьні да цыркуляру; то ён павінен быў верыць, што ў дачыненьні да загаду ён можа зрабіць яшчэ менш. Акрамя таго, калі б Папа паабяцаў не касаваць загад, то ён бы нават не падумаў пацьвердзіць яго; у чым Партыя усімі сродкамі спрабуе запэўніць, аднак у яе гэта не атрымліваецца і, спадзяемся, ніколі не атрымаецца. Такім чынам Вы бачыце, што прычына: **Клеменс XIV дабраславёнай памяці паўсюль скасаваў**

[229] Пій VI, сьвецкае імя якога Джананджэлё граф Браска (Giovanni Angelo Graf Braschi).

**Суполку**, зьмяшчае цяжкі паклёп супраць Пія VI; аднак тут хаваецца яшчэ адзін.

Бо гэтыя словы прымушаюць нас паверыць, што Пій VI мяркуе наступным чынам: Скасаваньне езуітаў зьяўляецца не маім творам, але творам Клеменса XIV; таму потым можа адбывацца несправядлівасьць, прыкрасьць ці істотная шкода, то мяне ніяк не датычыцца спыняць справу ці дапамагаць ёй; ані Бог, ані сьвет ня могуць справядліва папракнуць мяне ў бядзе, якую я не зьдзяйсьняў. Жадаць прыпісаць нешта настолькі неразумнае Пію VI, ці не было б гэта паклёпам? Усё, што адбываецца з 1775 да сёняшнега дню ад імя сьвятога Стальца, зьяўляецца творам Пія VI, а не Клеменса XIV. Будучыя стагодзьдзі сказалі б, што Клеменс XIV скасаваў Суполку Езуса; аднак яны таксама сказалі б, што прыгнечаныя пры Піе VI не знайшлі ніякага шляху да справядлівасьці; і калі яны спыняцца на цыркуляры, то яны скажуць, што Пій VI яшчэ шукаў як зьнішчыць тыя рэшткі, якія пашкадаваў Клеменс XIV. Я не хачу тут дасьледваць, чаму сьвяты Айцец пакідае непачутымі шматлікія тысячы невіноўных, што заклікаюць да справядлівасьці? Магчыма ён ня можа іх пачуць? Магчыма ён чакае больш спрыяльнага часу; аднак тым, што ён павінен верыць, нібыта словамі: гэтага жадаў Клеменс XIV дабраславёнай памяці: ён дастаткова зрабіў дзеля сваёй славы і сумленьня; тым, што ён верыць, нібыта праз гэта ён задаволіў матак, супакоіў лямант публічнай прыкрасьці, і апраўдаў сябе перад Богам і сьветам: гэтым Пій VI не можа і не павінен сабе лісьлівіць.

Акрамя таго, гэтая прычына: **гэтага жадаў Клеменс XIV дабраславёнай памяці**, не вяжацца з нязьменнымі паводзінамі Пія VI. Ва ўсіх выпадках ён паказваў, што ён не йдзе па сьлядох свайго папярэдніка і не жадае дзейнічаць паводле яго правіл. У Рыме паўсюль трымаюцца думкі, што сьвяты Айцец надта захапляецца супраць ўсяго, што прадпрымаў Ганганэлі; хто ж пры ім пытаецца пра працяг нейкай міласьці, той пільна замоўчвае тую абставіну, што яна была яму дараваная Клеменсам XIV. Насамрэч, гэтая прычына, гэтага жадаў Клеменс XIV, не дапамагла ані біскупу, ані Пагліярыні, ані рабаўнікам удавы Грыльета, ані вялікай колькасьці манахаў, што дамагаліся секулярызацыі і спасылаліся на згаворлівасьць Клеменса XIV, праз якую ён спусташыў кляштары і адпусьціў такіх манахаў, якіх ён павінен быў замкнуць яшчэ мацней. Нягледзячы на распараджэньні Клеменса XIV, Пій VI скасаваў Кангрэгацыю па езуіцкай справе і вярнуў царкве Gesù частку скрадзеных габеленаў і срэбныя каштоўнасьці. Нарэшце, мы ведаем, што немагчыма было зрабіць Папе Пію VI ніякага больш горкай і адчувальнай прэтэнзіі, чым: **Ваша Сьвятасьць кіруецца паводле Папы Ганганэлі; зьяўляецца годным пасьлядоўнікам Ганганэлі; Вы – новы Гангнаэлі**. Калі гэта вядома, то што ж гэта будзе за супярэчнасьць, калі хтосьці мусіць пачуць з яго рота: што, паколькі Клеменс XIV дабраславёнай памяці паўсюль скасаваў суполку, ён не жадае прымаць ніякіх пчрэчаньней ані ад езуітаў, ані ад біскупаў, ані ад манархаў. Цыркуляр і яго аўтар канечне можа сабе супярэчыць, але Пій VI – не.

Другая заўвага. Ці Пій VI больш абавязаны трымаць увагу да Клеменса XIV, чым Клеменс XIV да Клеменса XIII і іншых яго папярэднікаў? Калі ж Клеменс XIV праз свой загад абверг і адкінуў тое, што дваццаць Папаў дабраславёнай памяці жадалі і рабілі; як можа Пій VI быць абавязаным так дакладна трымацца ганганэльскага загаду?

Трэцяя заўвага. Калі Бурбонскія двары рабілі свае пярэчаньні Папе Клеменсу XIV супраць загаду Папы Рэцоніка аб новаўвядзеньнях у Парме[230]; калі аўстрыйскі двор жадаў, каб было спынена зачытваньне булы Сäпä: ці не мог Папа Ганганэлі таксама адказаць, што, паколькі гэтыя пастановы паходзяць ад яго папярэднікаў дабраславёнай памяці, то ён не можа і не хоча іх скасаваць? Аднак ці засталіся бы двары задаволеныя падобным адказам? Вядома, што не. Як жа тады такім чынам павінен Пій VI верыць, што даў Катарыне II задавальняючы адказ, калі ён кажа, гэтага жадаў Клеменс XIV дабраславёнай памяці?

Чацьвёртая заўвага. Мяркуецца, што скасаваньне езуітаў адбылося паводле ўсіх законаў і таму мае ўсе магчымыя абавязаннасьці; то яно аднак павінна было абавязваць больш, чым царкоўны закон, напрыклад, закон посту, закон слухаць імшу ў сьвяточныя дні і г.д.; і тым не менш вядома, што гэтыя законы не абавязваюць, калі іх выкананьне вядзе да істотнай шкоды. Калі б Папа Пій VI сказаў, што, паколькі ўсе пасты наогул наказаныя Царквой, то таксама ўсе хворыя абавязаны пасьціцца, было б гэта годным рашэньнем Папы? Такім жа годным было б слова Папы, калі б ён сказаў: Паколькі Клеменс XIV дабраславёнай памяці паўсюль скасаваў суполу, то таксама і рускія павінны падпарадкавацца гэтаму, нягледзячы на вялікія страты, да якіх гэта прывядзе і якія значна большыя за тыя, што можа атрымаць чалавек з гарачкай праз слуханьне імшы ці праз трыманьне посту.

Нарэшце, прычына: гэтага жадаў Клеменс XIV дабраславёнай памяці, пахне фарысействам. Прачытайце 15-ую главу сьвятога Матфея, і Вы напаткаеце выпадак падобны нашаму. Твае хлопцы, казалі вядомыя фарысеі Госпаду, парушаюць статуты старэйшын; што азначае тое самае, што: яны непаслухмяныя супраць распараджэньняў нашых старых першасьвятароў; наш аўтар сказаў бы свавольныя. Вы добра бачыце падабенства гэтага абвінавачваньня нашаму. Езуітаў абвінавачваюць як людзей непаслухмяных і свавольных супраць статута ці распараджэньня Клеменса XIV, які на працягу пяці год быў старэйшынай у Царкве. (Так называе сябе супастыру сьвяты Пётр у першым сваім пасланьні.) Дык паслухаем, што даў ім у адказ наш Гасподзь: **чаму парушаеце таксама і вы запавет Боскі супраць вашых статутаў? Бо сказаў Бог: ты павінен шанаваць айца твайго і маці тваю; а вы з-за сваіх статутаў зрабілі бяссільным запавет Боскі**.

Прыміце ж, мае панове рымляне, гэты цудоўны адказ нашага Госпада. Чаму Вы патрабуеце выкананьня аднаго вашага статута, і аднаго вашага загаду, які зьяўляецца дакладнай процілегласьцю таму, што загадаў Бог? Бог кажа, **аддавай Ўсевышнему твае зарокі**; а ваш статут, ці клеменсаўскі загад, кажа: дваццаць тысяч вернікаў мусяць быць вызваленыя **ад усіх повязей сваіх зарокаў**, і потым жыць сярод небяспек распуснага сьвету. Бог кажа: не крадзі; а ваш статут, ці клеменсаўскі загад, кажа: **мы аднімем у людзей**, якія не зрабілі ніякага злачынства, **усе іх дамы, рэзыдэнцыі, калегіюмы, ... і ўсе месцы**; што ў эвангельскім разуменьні называецца рабаўніцтвам. Бог кажа словамі сусьветнага апостала: **не прымай супраць сьвятара ніякай скаргі, акрамя толькі пры дзьвух ці трох сьведках**; а ваш статут, ці клеменсаўскі загад, праклінае шматлікія тысячы сьвятароў без судовага абвінавачваньня, без

---

[230] Загад ад імя Папы Клеменса XIII складзены ў студзені 1768г. кардыналам Антнанэлі супраць новаўвядзеньня гэрцагства Пармы (якое далучылася да рэфарматарскага руху Італіі), паводле якога ўсе, хто прымаў удзел у антыцаркоўных публікацыях, мусілі атрымаць царкоўнае пакараньне.

сьведак. Бог кажа: **я паставіў цябе магутным выпрабавальніка сярод майго народу; таму ты павінен ведаць і выпрабоўваць іх шляхі**; а ваш статут, ці ваш загад, кажа: мы вылішым езуітаў **усёй улады і свабоды ажыцьцяўляць іх правы, і абвяргаць найцяжкія абвінавачваньні**. Бог кажа: **не парушайце вечныя межы, якія ўсталявалі вашы айцы**; а ваш статут, ці клеменсаўскі загад, кажа, што гэта зьяўляецца ўхвальнай справай, **адкінуць форму, паводле якой заўсёды вяліся грамадскія суды**. Бог кажа: **слухайце малага, як і вялікага; бо гэта суд Госпада**; а ваш статут, ці ваш загад, кажа, што ўсё, што толькі магутныя сьвета калісь прадпрымалі без аніякай судовай формы, **справядліва і дазволена**; што пярэчаньні няшчасных езуітаў, нават калі яны **таксама зьяўляюцца спарвядлівымі, разумнымі і грунтаванымі на прывілегіях**, павінны ніколі не адбывацца; і што аднак езуіты ніколі не могуць паскардзіцца, **што іх ніколі не заклікалі, ніколі не выслухоўвалі**. Бачыце, мае панове фарысеі, як Вы **зрабілі вашыя статуты бяссільнымі супраць запавета Боскага**? Гэта найбессаромнейшае фарысейства, пра якое калісь чулі. Калі вам пярэчаць, што ваш загад немагчыма выканаць, бо гэтага не жадае Бог; то вы не саромецеся казаць у адказ: так павінна быць, бо гэтага жадаў Клеменс XIV дабраславёнай памяці; і вы не страшыцеся прыпісываць Пію VI падобныя погляды?

Паколькі мы як раз маем перад сабой Эвангельле, то мы хочам завяршыць гэты артыкул адным месца са сьвятога Матфея, якое магчыма яшчэ больш за папярэдняе адпавядае нашаму намеру. Адным са звычайных абвінавачаньняў фарысеяў супраць апосталаў было, што яны не трымаюць шабат. Гасподзь так адказаў ім на гэта, што яны больш нічога не маглі супрацьпаставіць. Ён прадставіў ім злоўжваньне, якое яны робяць з законам Боскім, каб толькі праявіць сваю зайздрасьць і сваю злосьць; ён сказаў ім, што замест таго, каб дамагацца занадта дакладнага выкананьня закона іншымі, яны павінны самі пачаць яго выконваць. Толькі гэтыя страціўшыя гонар людзі нічога не маглі трымаць у цуглях; яны ўсё пелі сваю старую песьню і, нарэшце, бессаромным чынам зрабілі Езусу Хрысту дакор, што ён супраць запавету лечыць хворых у шабат. Хто з вас, сказаў Гасподзь, калі яму бык ці асёл у шабат падае ў калодзеж, пакідае гэтыю бедную жывёлу пайсьці на дно і не спрабуе, з жаху парушыць закон шабата, выцягнуць яе адтуль? Нэты адказ так зваліў фарысеяў з ног, што яны больш нічога не маглі адказаць.

Скажыце ж мне, мае панове рымляне, ці не быў закон шабата агульным законам, які Бог даў габрэям? І тым ня менш вучыць Езус Хрыстус, ён не абавязвае, калі праца ў шабат можа дапамоч быку, аслу, ці нейкай іншай жывёле, якая патрабуе дапамогі; і Вы хочаце, паколькі Клеменс XIV агульна скасаваў суполку праз прымусовы дэкрэт, каб гэты дэкрэт быў паўсюль выкананы, прытым што таксама незьлічоная колькасьць душ павінна будзе пайсьці на дно? І Вы зьяўляецеся настаўнікамі хрысьціянскага закону? Няшчасная Царква!

Глядзіце ж, сябра! гэта была адзіная прычына, якую змог адшукаць увесь розум аўтара супраць езуітаў у Беларусі. Што вам цяпер здаецца наконт езуіцкай справы? Яны былі з найвялікшай бесчалавечнасьцю выгнаныя з зямлі, кінутыя ў вязьніцы, раскіданыя, абгавораныя, абрабаваныя і раздушаныя нібыта вінаградзіны ў давільнях; паколькі ж увесь сьвет пытаецца пра прычыну, глядзі! Тут зьявіўся вораг езуітаў, які хоча даць народу справаздачу наконт гэтай важнай навіны; і замест таго, каб прывесьці злачынства, якое б патрабавала

такога суворага лёсу, ён не мае нічога іншага, як сказаць: гэтага жадаў Клеменс XIV дабраславёнай памяці. Тут мы маем злачынства; тут мы маем мы прычыну, чаму іх праклялі да страты іх уладаньняў, да паблічнай ганьбы і да агульнага зьнішчэньня.

## §. XIV.

„Біскуп Малінскі прыняў папскія інструкцыі і прапановы так добра, што ён не толькі адмыслова растлумачыў, што жадае кіравацца гэтым, але яшчэ й заверыў яго, што ён адгаварыў і адвёў расейскую Ўладу ад ужо прынятага адкрыцьця паслушніцкага дому.

Сьвятой Айцец ужо на працягу некалькіх месяцаў быў спакойны наконт гэтага пункту, калі ад пана Аркецi раптам дайшоў да яго надрукаваны пастырскі ліст пазначанага біскупа, якім ён сьцьвярджае стварэньне павіннага існаваць паслушэнства скасаванай Суполкі, і чыю легітымнасьць ён выводзіць праз прыкрае махлярства і паклёп з самога загаду аб скасаваньні Клеменса XIV, дабраславёнай памяці, і з аднаго іншага загаду сьвятой Кангрэгацыі па прапагандзе.“

Адказ пана Аркецi, які ён даў біскупу Малінскаму ад імя Папы, і які ў папярэднім артыкуле названы дабратворным настаўленьнем, носіць тут назву папскай інструкцыі, якая была з задавальненьнем прынятая. О! Прыгожыя інструкцыі пасьлдяоўніка вялікіх Рыгораў і Леонаў! Мы жадаем яшчэ раз паўтарыць іх.

1. **Расейскія езуіты павінны разглядацца як свавольныя, таму што жывуць паводле свайго сьвятога інстытута**. Ці здаецца Вам, што гэта папская інструкцыя, якая можа быць прынятая з задавальненьнем?

2. **Вядома, што Імпэратрыца не хоча дазволіць афіцыйнага скасаваньня езуітаў; таму аднак не ўстрымліваёцеся пры кожнай магчымасьці указваць ёй на гэта**. Ці павенна гэта быць адной з папскіх інструкцый, якую Біскуп так добра прыняў?

3. **Вядома, што ў Беларусі служба езуітаў зьяўляецца неабходнай, таму што там маецца недахоп іншых дасьведчаных сьвятароў; таму Вы павінны не карыстацца імі без неадкладнай патрэбы**. І гэтаму загаду руплівы біскуп павінен выказаць задавальненьне?

4. **Вядома, што вам немагчыма без дапамогі езуітаў належна кіраваць дыяцэзам, і што Вы вырашылі збегчы і пакінуць яго, калі езуіты будуць вымушаны спыніць працу: таму вы павінны імі не карыстацца, акрамя толькі надзвычайнай патрэбы**. І вось такія указаньні дае Пётр сваім апосталам? І вось такую недарэчнасьць павінен быў Папа сказаць, а Біскуп з задавальненьнем прыняць? О, апосталы! О, біскупы васямнаццатага стагодзьдзя! Па добрай волі ніхто па праўздзе ніколі не мог бы прыпісаць падобнае Пію VI, бо ён гэтага ніколі не казаў і не скажа; аднак яго гонар і гонар сьвятога Стальца пакутуе праз гэта.

„Біскуп Малінскі прыняў вышэй узгаданыя папскія інструкцыі так добра, што ён адмыслова растлумачыў, што жадае кіравацца гэтым.” Аўтар хоча тут сказаць, што біскуп Малінскі паабяцаў, падстасоўвацца пад меркаваныя папскія інструкцыі. Аднак, ці праўда гэта; ці можна ў гэта верыць? Хто можа калісь

паверыць, што біскуп, які меў бы нават толькі квінтачку разважлівасьці, без ваганьня ды яшчэ з пэўным задавальненьнем паабяцаў кіравацца інструкцыямі, пры гэтым выступіць супраць двара, зрабіцца непаслухмяным сваёй манархіні і выклікаць на сябе імпэратарскую няміласьць? Засталося ня доўга, як адзін грэцкі біскуп будзе выгнаны з імпэрскіх зямель, таму што ён трымаўся падобных інструкцый; і паводле гэткага ўзору лацінскі біскуп павінен увязацца ў падобныя інтрыгі? Гэта значыла б з найвялікшай неразумнасьцю жадаць атрымаць сабе на шыю аналягічны лёс.

Тут трэба сказаць, што пасланьне пана нунцыя у біскупа Малінскага зьведала зьмены, раўнаважныя авідійскім. Як раз перад гэтым, паводле цыркулыру, няшчасны Біскуп выказаў вялікі неспакой і скруху наконт рымскіх загадаў; і прадставіў супраць іх тысячу непераадольных складанасьцей. Усё было немагчыма; немагчыма абвясьціць езуітам аб іх скасаваньні; немагчыма адвесьці двор ад намечанага пляну; немагчыма кіраваць дыяцэзам без езуітаў. аднак у лістку пана Аркеці яму было загадана з трох сталпоў, не выдаліўшы ніводнай перашкоды, што ён павінен выканаць усе гэтыя немагчымыя справы: і глядзіце! У адначасьсе усё, што было немагчыма, зрабілася магчымым; тое воблака складанасьцей распалася; больш няма ніводнай перашкоды, ці Біскуп не бачыць іх; ён скараецца, з задавальненьнем прымае мяркуемыя папскія інструкцыі і абяцае імі кіравацца. Альбо гэта ёсьць жахлівае чарадзейства; ці жахлівая хлусьня. Сябра, я не хачу гэта вырашаць, але толькі зрабіць маю заўвагу адносна адной іншай хлусьні аўтара.

**Біскуп заверый на гэты конт** сьвятога Айца праз пана Аркеці, **што ён адгаварыў і адвёў расейскую Ўладу ад ужо прынятага адкрыцьця паслушэнства**. Адна хлусьня на другой; адна недарэчнасьць на другой! Прыгадайце сабе, што адкрыцьцё паслушэнства было для Рыма **нечаканым здарэньнем**. Такім чынам гэта выглядае, як мы паказвалі вышэй, што ніхто не меш аб гэтым ніякага папярэдняга паведамленьня. Адразу далей у гэтым самым цыркуляры сказана, што пра рашэньне адкрыць паслушэнства **да Італіі дайшоў ціхі шэпт:** і тут першае абвяргаецца другім. Такім чынам аб гэтым было вядома, гэтага страшыліся, аб гэтым казалі; і цяпер сам цяркуляр кажа, Папа быў праінфармаваны Біскупам, што двор пастанавіў адкрыцьцё паслушэнства. Што гэта за заблытаная сутнасьць? Ці не называецца гэта, відавочна супярэчыць сабе? Вы, мае панове, сапраўды для мяне адважныя хлопцы; пасьля стольскіх год, што Вы правялі ў школах, пасьля столькага навучэньня і пасьля стольскіх год практыкаваньня Вы нават не навучыліся ілгаць такім чынам, каб Вам можна было паверыць.

Толькі як мог Біскуп адвесьці расейскую ўладу ад прынятага адкрыцьця паслушэнства? І колькі часу яму было патрэбна на гэта? Таму што ўпартасьць Імпэратрыцы ў гэтым дачыненьні выглядае непераадольнай; гішпанскае золата, тайныя перамовы Францыі, інтрыгі рымскіх міністраў ня маглі мець посьпеху: і цяпер яна дае з такой лёгкасьцю адвесьці сябе ад задуманага, без таго, каб было вядома як? ці чаму гэта адбылося? О, гэта сапраўды нечаканае здарэньне! Каму трэба прыпісаць гэткі трыумф? Нунцыятуры? Ці біскупу Малінскаму? Я больш стаўлю на цуд біскупа Энгельштата, ці дух. Дыякана Парыжу.

Аднак, за які час біскуп Малінскі дасягнуў адвесьці расейскую ўладу ад прынятага адкрыцьця паслушэнства? З цыркуляру можна зразумець, што гэта павінна было адбыцца ў вельмі кароткі тэрмін; таму што ў тым самым тэксьце,

дзе Біскуп паведамляе, што ён з усёй падпарадкаваннасьцю прыняў меркаваныя папскія загады, ён таксама запэўнівае, што ён атрымаў перамогу над сваёй манархіняй і адвёў яе ад яе рашэньня. Перамовы Біскупа, такім чынам, павінны былі быць настолькі настойлівымі, што ён здолей адразу разаслаць па пошце найлепшыя паведамленьні аб гэтым у Варшаву і Рым. Толькі ці не значыць гэта, ужо даведзеную хлусьню рабіць яшчэ больш неверагоднай? Біскуп мае сваю рэзыдэнцыю ў Магілёве, які знаходзіцца на некалькі дзён далёка ад двара; таму перамовы праз лісты павінны былі адбывацца на адлегласьці. Аднак вядома, што адсутнасьць і адлегласьць зьяўляюцца прычынай таго, што нават найпростыя справы прыводзяцца ў стан толькі праз доўгі час; а тут, дзе справа сама па сабе зьяўляецца звыш цяжкай, ані адсутнасьць, ані адлегласьць Біскупа не прыводзяць да затрымак.

Акрамя таго меркаваныя папскія інструкцыі зьмяшчаюць розныя пункты: ён павінен разглядаць езуітаў як свавольных людзей; ён павінен абвясьціць езуітам скасаваньне; ён павінен выдаліць езуітаў ад духоўных адпраўленьняў; і ён павінен выступіць супраць рашэньня двара наконт паслушэнства ехуітаў. Не маецца ніякіх сумневаў, што апошні з гэтых пунткаў, выступіць супраць двара, быў найжорсткім, і настолькі больш жортскім, насколькі больш патрабуецца ўвагі да Імпэратрыцы. Гэты апошні пункт патрабуе настолькі больш часу, наколькі Пецярбург, дзе знаходзіцца двор, аддален ад Мала[231]; і, ня гледзячы на гэта, добры аўтар хоча, каб мы паверылі ў гэтую недарэчнасьць. Што да больш лёгкіх пунктаў, ён проста кажа, Біскуп папбяцаў кіравацца гэтым, што азначае, паступова прыводзіць іх да выкананьня; а наконт найжорсткага пункта ён запэўнівае, што ён яго ўжо пасьпяхова ажыцьцявіў і выканаў. Выдаліць езуітаў, абыходзіцца зь імі як з свавольнымі людзьмі, абвясьціць ім скасаваньне, што ўсё можна было зрабіць за пару гадзін; гэта Біскуп толькі абяцае зрабіць: аднак выступіць супраць двара, што патрабавала столькі асьцярожнасьці, і што было б сапраўдным цудам, калі б гэта было дасягнута нават праз месяцы і годы; аб гэтым Біскуп паведамляе з бягучай поштай, што ён гэта ўжо пасьпяхова рэалізаваў. І гэтыму Папа павінен верыць? З гэтага лабірынту я не бачу ніякага іншага выйсьце, арамя як сказаць, аўтар напісаў тут грубую хлусьню. Езуіты сапраўды шчасьлівыя людзі, супраць якіх не толькі не могуць сказаць нічога праўдзівага, але не могуць нават узьвесьці праўдападобнага паклёпу. Адзінае, у чым Біскуп мог запэўніць Папу, гэта не тое, што двор адмовіўся ад сваіх намераў адкрыць паслушэнства, але што ён скарыўся перад складанасьцямі, якія прадстаўлялі самі езуіты. Хаця яны паводле кананічных правоў мелі ўсе магчымыя паўнамоцтвы прымаць паслушнікаў; пакуль ім ад сьвятога Стальца не прыйдзе адваротны загад, які будзе дастаўлены ім паводле законаў. Аднак паколькі яны прадбачылі, што ў цяперашніх абставінах, калі яны былі б вымушаныя без прыцягненьня больш высокіх паўнамоцтваў прымаць паслушнікаў, іх ворагі атрымалі б падставу узьвесьці на іх паклёп і абвясьціць іх свавольнымі адносна сьвятога Стальца людзьмі: таму яны зьвярнуліся да Імпэратрыцы, каб Яна пажадала зрабіць ласку перанесьці гэты доказ яе шкодрасьці на больш добры і зручны час; каб сьвет не мог з некаторым сафізмам сказаць, што тыя шматлікія несправядлівасьці, зь якімі ўсе зьвяртаюцца да Рыму супраць езуітаў, маюць сваю абсалютнейшую незалежнасьць ад рымскай Царквы, і гэтым пахіснуць іх

[231] У першым выданьні напсіана “ад Магілёва”. Гэта ўжо другое месца гэтага выданьня, дзе замест Магілёва памылкова напячатаны Маляцічы (Mallo).

асаблівую адданасьць сьвятому Стальцу. Гэтыя паводзіны езуітаў і іх нязьменная падпарадкаванасьць заўсёды памнажала глыбокую павагу, якую разважная Манархіня мела да іх. Такім чынам Яна больш не патрабавала паслушэнства; аднак з-за гэтага Яна не адступілася ад свайго намеру іх распаўсюдзіць. Тады Яна зьвярнулася да Біскупа, каб ён пажадаў праз свой аўтарытэт скасаваць езуіцкія сумневы; аднак ён адказаў, што яго звычайныя паўнамоцтвы не дасягаюць так далёка, каб магчы наладзіць паслушэнства ордэнскім сьвятарам; і на гэтым ён тады застаўся.

Цяпер мы маем тут чыстую, непрыхаваную праўду, якую аўтар схаваў пад той бясзладнай кучай ілжы, якую мы цяпер высьвятлілі. Сьвяты Айцец, такім чынам, не мог быць запэўнены ні ў чым іншым, акрамя як у рашучасьці езуітаў, не прадпрымаць нічога наконт адкрыцьця паслушэнства без умяшаньня сьвятога Стальца. Аднак ці не павінен быў аўтар гэта ведаць? Я не магу гэтага пэўна сказаць, аднак усё ж такі выглядае, што ён павінен быў быць найдакладнейшым чынам праінфармаваны аб гэтай справе. Але чаму ж ён тады яе скажае? Чаму? Па-першае, таму што, калі нехта ўжо аднойчы прывык да хлусьні, то ён больш не можа казаць праўды; па-другое, таму што аўтар хацеў выставіць Біскупа хлусам; таму было патрэбна, прыпісаць сваю ўласную хлусьню; па-трэцяе, таму што справа, як яна была, рабіла гонар езуітам; таму ён быў вымушаны яе перакруціць; па-чацьвёртае, калі б ён распавёў справу, як яна адбывалася на самой справе, то можна было б заўважыць, што адкрыцьцё паслушэнства, якое толькі што было праведзена, адбылося супраць волі паноў Аркеці і Борджыа. Насамрэч, расейскія езуіты маюць шмат у чым быць удзячнымі гэтым дзьвум прэлатам, і хаця не іх добрым сэрцам, але іх вялікай разважлівасьці: бо ў тых абставінах яны ніколі б не адчынілі сваё паслушэнства, каб Кангрэгацыя Прапаганды праз дапамогу гэтых паноў не перадала ім ключ да гэтага ў загадзе Апостальскай Дэлегацыі біскупу Малінскаму. У Рыме адразу ж пабачылі, да чаго гэта прывядзець. Я не сумняваюся, Папа сам разглядзеў бы гэта, хаця ён адразу і не падаў выгляду, між тым ён перадаў справу Кангрэгацыі Прапаганды. Я дакладна ведаю, што добры кардынал Кастэлі, кіраўнік гэтай кангрэгацыі, заўважыў гэта. **Хвала Богу**, казаў ён адной сваёй даверанай асобе і майму сябру, **што злосьць сэрца асьляпляе розум. Біскупу Малінскаму выклапаталі рэскрыпт, каб зрабіць зло езуітам; аднак я прадбачу, што атрымаецца зусім адваротнае; таму што Біскуп не здолее скарыстацца ім ніякім іншым чынам, акрамя таго, як пажадае двор; які усё ж хоча гэтых айцоў**. Мяне зьдзіўляе, што рымскіе паны антыезуіты мусілі нічога гэтага не заўважыць; аднак Вы ж ведаеце, што сёняшнія антыезуіты хаця і маюць сэрцы папярэднікаў, Паскаля, Жур'ё[232], аднак не іх дух, не іх розум; і Вы таксама ведаеце, што Бог прасьвятляе і асбляпляе, каго Ён пажадае; і што шляхі чалавечай мудрасьці поўныя цемры. Яны паклаліся на Біскупа, якога яны лічылі ворагам езуітаў, і падбадзёрвалі яго праз слаўныя абяцаньні мантыі, пурпурнага капялюша, каб адпавядаць таму асабліваму даверу, які яны ўсклалі на яго; таму яны верылі, што праз той рэскрыпт яны **нанясуць езуітам апошні ўдар**. Аднак з-за таго, што яны спадзяваліся на гэта, **яны былі перапоўненыя безразважнасьцю**; і ня бачылі, што, калі той рэскрыпт даваў Біскупу паўнамоцтвы супраць езуітаў, як рэгулярных сьвятароў, яны мусілі зыходзіць з таго, што езуіты былі сапраўднымі рэгулярнымі сьвятарамі, і калі езуіты ў сілу гэтага загаду маглі быць скасаваныя, то яны маглі таксама быць

[232] П'ер Жур'ё (фр. Pierre Jurieu), 24.12.1637 – 11.01.1713 гг. – тэолаг французскай рэфармацыі, адзін з істотнейшых публіцыстаў гугенотаў.

пацьверджаныя і распаўсюджаныя. **Аднак яны былі перапоўненыя безразважнасьцю**, кажа сьвяты Лука пра фарысеяў, якія хацелі зрабіць зло Госпаду. Далей.

"Сьвятой Айцец ужо на працягу некалькіх месяцаў быў спакойны наконт гэтага пункту, калі ад пана Аркеці раптам дайшоў да яго надрукаваны пастырскі ліст пазначанага біскупа, якім ён сьцьвярджае стварэньне павіннага існаваць паслушэнства скасаванай Суполкі."

Я ня ведаю, наконт чаго я павінен больш зьдзіўляцца? Наконт таго, што аўтар прыводзіць, ці наконт таго, аб чым ён маўчыць. Чалавек, які распаўсюджвае цыркуляры, каб даць тэму размовам у суполках, павінен клапаціцца пра час, месца, асобаў і агульнавядомыя абставіны фактаў, і так складаць паведамленьне, каб падчас размоў не паўстала сумневаў, якія немагчыма было б вырашыць; у адваротным выпадку справа не прасьвятляецца, **туман не разьвейваецца**, і намер, зь якім распаўсюджваецца цыркуляр, не дасягаецца. Дык па-першае Вы заўважаеце тут, што біскуп Малінскі, які быў выбраны да кіраваньня руска-лацінскімі каталікамі, як кажа цыркуляр, не запаволіў падаць Папе справаздачу пра становішча езуіцкай справы ў той Імпэрыі; таму гэтую справаздачу трэба аднесьці да 1775 году, а значыць прызначыць яе да пачатку цяперашняга папства; яшчэ ў тым самым годзе праз пана Аркеці Біскупу мусіў быць дасланы папскі адказ; бо паколькі ён зьмяшчаў загады, распараджэньні і настаўленьні асаблівай важнасьці, як выказваецца цыркуляр; то ён безумоўна павінен быў быць складзены ў наймагчымай спешцы. Такім чынам Біскуп не заміне праз іншае пасланьне да сьвятога Айца запэўніць аб задавальненьні, зь якім ён прыняў папскія інструкцыі, і аб гатоўнасьці выконваць іх і да іх прыстасоўвацца. Адным словам, увесь цяг перапіскі паміж Папай і біскупам Малінскім мусіць быць прызначаны на 1775, максімум на 1776 год. Потым аўтар робіць незвычайны скачок у канец чэрвеня 1779 да адкрыцьця паслушэнства і да ненавіснага пастырскага ліста Біскупа. Ці на працягу трох ці чатырох год не адбылося нічога, што магло б паслужыць тэмай для размоў? Ці на працягу гэтага часу расейская ўлада больш не патрабавала адкрыцьця паслушэнства? Ці пан Аркеці не патрабаваў зноўку ад Біскупа, што ён павінен выканаць сваё абяцаньне абвясьціць езуітаў свавольнымі, пры ўсялякай нагодзе ўказваць ім на адбыўшаеся скасаваньне іх інстытуту, і выдаліць іх ад духоўных адпраўленьняў?

Калі рымскіе антыезуіты на такі доўгі час прыпынілі свае намаганьні супраць езуітызму, то яны сапраўды віноўныя ў дзяржаўнай здрадзе, і дрэнна выканалі спадзяваньні Партыі, якая іх добра падтрымлівала і ўзьняла да тытулаў. Калі аднак яны працягвалі працаваць , то яны б зноўку напісалі, абяцалі і патрабавалі; калі яны зрабілі новыя выданьні, каб заснаваць у Расеі антыезуіцкі корпус, падобна як той зьявіўся у Рыме праз цэхіны[233]: чаму не адбылося ніякага паведамленьня аб гэтым? Чаму ніхто не кажа, што, ня гледзячы на папскія загады не дазваляць езуітам працаваць, шляхетны калегіюм у Полацку, які стаіць пад іх наглядам, быў усё ж заняты польскай і рускай шляхтай? Чаму ніхто не кажа, што тады быў створаны плян, зьняць з прапагантыстаў цяжар місый і ўзваліць яго на плечы езуітаў? і што тады зьбіраліся пасласць езуітаў у сібір? Рэчы, якія патрабаваў двор, якія аднак езуіты не маглі поўнасьцю выканаць, таму што яны ня мелі дастаткова людзей. Акрамя таго Імпэратрыца ўвесь час настайвала на іх рашэньні адкрыць паслугэнства. І

[233] Цэхін – іншая назва італьянскага дуката, залатая манета.

ці магчыма, што Аркеці мусіў ня ведаць пра гэтыя рэчы, калі Эўропа ведала іх праз публічныя ўлёткі? І калі ён ведаў пра іх, ці магчыма, што ён Біскупу адразу ж з громам і маланкай не напісаў, не зьвярнуўся, не пакляўся, не паабяцаў, не запатрабаваў і не прапанаваў дабратворнага настаўленьня, як можна перашкодзіць гэтаму квітнеючаму росту паўночнай суполкі? Тады чаму гэта замоўчваецца? Ці яны не дастаткова дасведчаныя, **каб даць размовам абгрунтаваную тэму, ці разьвеяць туман двухсэнсоўнасьцей, якія альбо са злосьці, альбо ад невуцтва маглі б зьнявечыць аповед пра гэта**?

Дазвольце мне нагнаць тое нешматлікае, што паведамлялася ў гэтае міжгодзе. Вядома, што рымскія антыезціты не спалі і не пакідалі ніводнага камня нерухомым. Спачатку яны зьвярнуліся да караля Польшчы, каб ён праз свой каралеўскі зварот, які так шмат значыў для пецярбузскага двара, паспрабаваў пераканаць Імпэратрыцу прыняць у сваіх землях загад аб скасаваньні. Кароль, аднак, адмовіўся ад гэткага гонару: “ Не! Сказаў ён прэлатам, я не магу і не жадаю рабіць гэта; і я не раю Вам, працягваць патрабаваць гэтага; бо я ведаю настроі Манахіні.” Пра гэта яны пісалі і прымалі пасланцаў розных двароў, і катавалі бясконца няшчаснага Біскупа, які аднак адказваў, што ён не можа выдаліць імпэратарскае заступніцтва, пад якім езуіты працягваюць квітнець; так жа як ён кожны час даваў у адказ на няспынныя патрабаваньні двара захаваць езуітаў дзючымі, што ён з-за непадпарадкаваньня рымскім міністрам мала што можа зрабіць.

Тады адбылось тое, што Партыя часткова трапіла ў сумненьне і ўсклала справу на аднаго грэцкага аб’яднанага біскупа, якога яна лічыла больш дасьведчаным у інтрыгах, чым лаціняніна, які ніколі не быў на Тыбры. Няшчасны грэк трапіў у пастку, даў завабіць сябе рымскімі абяцаньнямі і паабяцаў падточваць двор, настроіць яго супраць езуітаў, і працаваць на агульнае іх зьнішчэньне. Аднак справа вельмі няўдачна раскрылася. Карэспандэнцыя паміж грэцкім біскупам і Партыяй была выкрытая; лісты былі перахопленыя; Імпэратрыца справядліва адчувала сябе абражанай; і таму, што Яна зьяўляецца ворагам усех інтрыгаў, яна адразу выгнала біскупа са сваёй імпэрыі; і у той жа час даслала Папе аб гэтым паведамленьне; зь якога ён зрабіў выснову забяспечыць аб’яднаных грэкаў лепшым пастырам; таму што выгнаны праўляў свавольства супраць новых поглядаў расейскай улады і прыхільнасьць да старых польскіх. Гэта быў жудасны ўдар для Партыі; і зрабіла баязьлівым лацінскага біскупа, які пасьля гэтага здарэньня не толькі з большай асьцярожнасьцю складаў свае лісты, але таксама усе тыя, якія паступалі да яго ад нунцыятуры ў Варшаве і ад Кангрэгацыі Прапагады, дасылаў да двару. ***)**[234] Колькі двухсэнсоўнасьцей магла б прасьвятліць гэтая гісторыя?

Аўтар змоўчыў, аднак, яшчэ іншую хітрыку, і іншую спробу, якая адбылася ў гэты час. Пасьля таго як стала бачна, што езуітам немагчыма нанесьці апошні ўдар ані праз лацінскага біскупа, ані праз таго ад грэцкай Царквы; была дано заданьне аднаму сьвятару нізкага рангу, які быў у Расеі невядомы. Гэты быў дасланы нунцыятурай у Беларусь з паўнамоцтвамі абвясьціць езуітам загад аб скасаваньні. Аднак калі гэты няшчасны недарэка прыбыў у Полацк, ён ня ведаў, што рабіць. Бо выступіць у калегіюме і зьвярнуцца да ўсёй абшчыны перад іншаземнымі сьведкамі і ў суправаджэньні публічнага натарыюса, як гэта

***)** Аб гэтым і яму падобных лістах ужо адбылося паведамленьне ў заўваге вышэй, у § IV на ст. 114

[234] Заўвага на 49-й старонцы.

павінна адбывацца падчас законнага абвяшчэньня, такім чынам, каб гэта не трапіла ў вушы намесьніку, гэта была цяжкая справа; і калі намесьнік нешта западозрыць; то заданьне адразу ж выляціць у трубу. Ён бачыў усю складанасьць і небяспеку. Нарэшце ён прыняў рашэньне, якое было найразумым; ён сам прадставіўся намесьніку і падаў яму справаздачу аб сваём загадзе. Той забараніў яму выкананьне яго задачы; і пасьля таго, як ён паведаміў аб гэтым здарэньні пры сваім двары, прыйшоў назад загад, што забараняецца пушчаць у землі замежных сьвятароў, якія не забяспечаныя пропускам ад біскупа ў Беларусі. Таксама і пра гэта аўтар даведаецца; такім чынам ён мусіў не змоўчваць гэта, таму што гэта дало б падставу размаўляць аб цяперашней тэме. Гэта дало б магчымасьць спытаць, ці падыходзяць духоўным міністрам падобныя інтрыгі і падманы? Ці прыгожа гэта, падобным чынам выпускаць з увагі належную павагу да ўладароў, і праз падобныя заданьні ставіць на кон іх гонар і жыцьцё сьвятара? Ці таксама ў выпадку посьпеху падобны лад абвяшчэньня царкоўных дэкрэтаў будзе законным паводле канонаў? Гэта дало б нагоду, каб зрабіць разнастайныя заўвагі, напрыклад: Скасаваньне езуітаў нясло ў сябе таксама і ўстраненьне іх ордэна, і перадавала Біскупу іх паўнамоцтвы і кіраваньне іх уласнасьцю. Тады ці ня дзіўна было бачыць, што зьяўляецца прышлы сьвятар і перадае Біскупу, безь яго ведама аб гэтым, усе паўнамоцтвы, пры абставінах, калі Біскуп праз забарону яго двара не можа ані прыняць іх, ані скарыстацца імі? Пасьля гэткага абвяшчэньня хто будзе кіраваць езуітамі, хто будзе несьці апеку над іх касьцёламі, над іх маёмасьцю? Не Біскуп, таму што гэта было б супраць волі двара; не езуіты, таму што гэта ім забаронена паводле загаду: такім чынам усё застанецца ў поўнай духоўнай анархіі. Хто даставіў бы скасаваным асобам патрэбную падтрымку, хто заплаціў бы павіннасьці, што ўскладзеныя на ўстановы калегюімаў і на легатаў? Бачыце, колькі ўсяго можна было б абмеркаваць наконт гэтага паведамленьня? Аднак чаму яго замоўчвалі? Таму што; бо кожны лічыць сябе дасканалым у сваёй спарве; і дасканаласьць паклёпніка складаецца, паводле сьвятога Аўгустына, не толькі ў тым, што ён кажа хлусьню, але таксама ў тым, што ён замоўчвае праўду. Тады мы жадаем таксама паслухаць яго пераканаўчыя няпраўды. Ён кажа, сьвяты Айцец ужо на працягу некалькіх месяцаў быў спакойны наконт гэтага пункту; Біскуп пацьвердзіў адкрыцьцё паслушэнства праз пастрыскі ліст; паслушэнства ёсьць пазаконнае; і езуіты зьяўляюцца ў той жа час ужо скасаванымі. Так шмат няпраўды ўсяго ў некалькіх словах!

Я не сумняюся, што сьвяты Айцец наконт гэтага пункту быў спакойны не толькі на працягу некалькіх месяцаў, але нават год. Хапае іншых клапот, якія акаляюць трон сьвятога Пятра. Штодзённы клопат добрага Папы, гэта, паводле Апостала, **догляд усех цэркваў**. Страх, што ерэтыкі могуць распаўсюдзіцца, і клопат іх вынішчэньня, справядліва непакояцб намесьніка Езуса Хрыста: аднак каб не распаўсюдзілісь езуіты, што яны павінны быць зьнішчаны, гэта было на працягу дзьвух стагодзьдзяў нязменным клопатам сяброў ерасі і разбэшчанасьці; зь якімі ў гэтыя апошнія часы зьвязаліся пэўныя рымскія – і пэўныя цыркуляры; якія зайшлі так далёка, што яны выхваляюцца мець Папу на сваім баку.

Тады зьяўляецца нечакана пастырскі ліст Біскупа, праз які ён пацьвярджае павіннае існаваць паслушэнства скасаваных езуітаў, і непакоіць сьвятога Айца ў гэтым яго абсалютным спакоі. Тут паўтараецца ўся недарэчнасьць, якая ўжо была сказаная на пачатку цыркуляра. Зьяўленьне пастырскага ліста было

настолькі нечаканым, насколькі **нечаканым было** адкрыцьцё паслушэнства; таму я хачу спыніцца на гэтым. Я толькі хачу адмеціць, што, калі паведамленьне пра пастырскі ліст Біскупа і адкрыцьцё паслушэнства былі сапраўды нечаканымі для Папы, то гэта яўны знак таго, што Папа нічога ня ведаў пра ўсе інтрыгі, падманы і падступныя захады, якія прадпрымаліся ад імя Папы супраць езуітаў з такім невялікім посьпехам, і што гэтыя паны зрабілі ўсё для сябе, бо яны злоўжылі імем і даверам Папы і характарам папскіх міністраў. Бо калі б ён ведаў, што Катарына II, ня гледзячы на вялікія намаганьні супраціўнай Партыі, засталася пры сваім рашэньні апякаць езуітаў; то як магло быць нечаканым паведамленьне пра якія б то не было зрухі, якія езуіты рабілі пад апекай Манархіні? Ці не бачыце Вы, мае панове антыезуіты, як далёка зайшла ваша дзёрзкасьць? Паколькі Вы жадаецца пераканаць нас у тым, што езуіцкія справы працягнулі свой рух без таго, каб Папа нешта ведаў пра гэта; то Вы робіце альбо самі сябе фальсіфікатарамі, альбо Папу ідыётам.

Словы, што біскуп Малінскі **пацьвярдзіў павіннае існаваць паслушэнства**; ці не павінныя яны быць раскрытыкаваныя як ілжывыя, таму што яны даюць зразумець, што паслушэнства існавала да пастырскага ліста, і што пастырскі ліст пацьвярдзіў паслушэнства, якое ўжо было самавольна заснаванае  езуітамі? Біскуп Малінскі ў сваім пастырскі лісьце дае езуітам дазвол, адкрыць паслушэнства, якога яшчэ ніколі не было ў Беларусі. **Паколькі на гэтых землях,** кажа Біскуп, **раней не было ніякага паслушэнства, ... таму мы перадаем ім у Госпадзе дазвол, адкрыць паслушэнства і прымаць паслушнікаў у сваю суполку**. Магчыма вы падумаеце, што я раблю боль аўтару, бо я яму ўсё лічу за зло, і што я, бо я абскарджваю кожнае слова, здаецца забыўся на вядомую прымаўку: хто паступае бесцырымонна, , напрыканцы псуе ўсю справу (няма ў нас выпадкова ніякага эквіваленту?). Не! Сябра, я таксама думаў пра гэта; у шматлікіх выразах я бачу нешта іншае, чым зло; я бачу невуцтва і неразважлівасьць. Аднак той, хто піша ў абарону зганьбаванай нявіннасьці, той мусіць зьвяртаць увагу на ўсе дробязі, якія маглі б даць нагоду няслушным перагудам. Можна ўзвадзіць паклёп з невуцтва, ці з нянавісьці, якая розьніца, калі пры гэтым ачарняецца нявіннасьць і церпіць праўда? Вы ўжо ведаеце, што, калі гаворка йдзе пра езуітаў, усе выразы будуць перацягнуты на горшы бок. Дакладна як, паводле ўявы сьвятога Яна, з дыму крыніцы ўзьнялася саранча[235]; так паўстаюць з выразаў, што могуць быць непасьлядоўнымі, неразважлівымі, ці злымі, няслушныя перагуды і жудасныя паклёпы; таму неабходна асьвятляць усё з факелам у руцэ.

Таксама біскуп Бургаса ў сваім пастырскім лісьце супраць езуітаў праслаўляе аўтарытэт арцыбіскупа ў Дубліне Георга Бронсўэля[236] магчыма не са злосьці, але таму што ён магчыма не ведаў, што той чалавек быў свавольным ерэтыкам супраць Царквы і адобрыў развод Генрыха VIII і яго сувязь з Ганнай Балейн. Аднак ці павінны мы пагэтаму даць сьвету надалей бесперашкодна верыць словам гэтага прэлата, што антыезуіцкі Бронсўэль быў вялікім чалавекам, чый аўтарытэт мае раўнавагу з аўтарытэтам сьвятога Францыска Сальскага, ці сьвятога Карла Барамэё? Таксама адвакат і абаронца

---

[235] Адкравеньне сьвятога Яна Багаслова (Апакаліпсіс) 9:2-3 “Яна (зорка) адчыніла крыніцу бездані, і выйшаў дым з крыніцы, як дым вялікай печы; і памеркла сонца і паветра ад дыму з крыніцы. І з дыму выйшла саранча на зямлю, і дана ёй была ўлада, якую маюць зямныя скарпіёны”.

[236] Пад Георгам Бронсўэлам (George Bronswel) магчыма маецца на ўвазе Георг Браун (ан. George Brown), ? – 1556 г. – ангельскі аўгустын, які па загаду Генрыха VIII быў абраны арцыбіскупам Дублінскім у 1534 г. і распачаў рэфарматарскую дзейнасьць у Ірландыі.

Бішы, які ўсімі намаганьнямі жадаў стаць пісьменьнікам і склаў пэўныя гістарычныя паведамленьні, пісаў магчыма не са злосьці, але з невуцтва, што расейскія езуіты былі кучкай мяцежнікаў, якія з розных правінцый уцяклі ў зацішны куток маскавіцкай Імпэрыі. Ці ня трэба пагэтаму прасьвятліць справу і паказаць, што гэта была старая віцэ-правінцыя, якая існавала ўжо на працягу дзьвух стагодзьдзяў?

Тут я мушу распавесьці вам, калі Вы гэта яшчэ ня ведаеце, адну гісторыйку, якая адбылася ў Балёньні адразу пасьля прыбыцьця выгнаных з краіны гішпанскіх езуітаў. Пасьля доўгіх бадзяньняў частка з правінцыі Кастылія, асабліва тыя, што вывучалі тэалёгію, са сваім рэктарам а. Францам Ксаверыям Ідыякезам[237] здолелі нарэшце пасяліцца ў загарадным доме пана сэнатара Мальвазіі ў Панцана[238], які знаходзіцца паміж Балёньняй і Мадэнай. Пасьля таго, як рэктар даў сваім падначаленным час, каб адпачыць ад такога працяглага падарожжа і ад такога зьнясільваючага плаваньня, ён сабраў іх, як гэта штогод было заведзена, у духоўную пустэльню сьвятога Ігнацыя[239]. Сяляне, якія штодня прыходзілі ў дом, каб прадаваць прадукты харчаваньня, бо яны заўважылі нязвычную адзіноту і цішыню, пыталіся, што гэта мусіць азначаць; і калі ім далі адказ, што айцы займаюцца практыкаваньнямі, то гэтыя наіўныя людзі не са злосьці, аде па наіўнасьці, разьнесьлі потым у Балёньні, што гішпанскія езуіты штодня практыкуюцца. Хто б у гэта паверыў? Паведамленьне адразу набыла іншы выгляд: загарадны дом у Панцана праз прыбыцьцё езуітаў зрабіўся крэпасьцю, плацдармам: усё там загрымела ад барабанаў і трубаў; там знаходзіцца арсэнал поўны куль і мушкетаў; штодня ў пэўныя гадзіны там праводзяць ваенныя вучэньні і рыхтуюць сябе невядома да якіх паходаў і бітваў. Здаецца зусім немагчымым, каб хтосьці мог паверыць у падобныя плёткі. І ўсё роўна цьвёрда лічылася, што некаторыя паны Балёньні ўласнымі сіламі прыйшлі ў Панцана, каб пабачыць войскі апошняга вынаходства і езуіцкія манёўры пад камандай шаноўнага графа, які нечакана абвясьціў сябе гэнэралам над войскам, пасьля таго як ён, як першародны сын, адрокся багацьця і спадзяваньняў высакароднага дому гэрцага Гранады і пасівеў у практыкаваньнях духоўнага жыцьця.

Так лёгка скажаюцца паведамленьні, асабліва калі яны закранаюць асобаў, якіх хочуць ачарніць усімі праўдамі і няпраўдамі. Тады вядома, што ў нашым цыркуляры зьмяшчаецца шмат выразаў, якія былі напісаныя з усёй наіўнасьцю і шчырасьцю, з усёй неразумнасьцю сялян з Панцана; таму ня трэба моўчкі прапускаць іх, калі яны даюць нагоду чамусьці, што зьяўляецца няслушным.

Тут зноўку вяртаецца наш аўтар са старай песенкай, што **езуіты былі скасаваныя**, і што **паслушэнства** зьяўляецца пазаконным! Крычыце ва ўсё горла, хачу я заклікаць іх, як Ілія заклікаў прарокаў Баала. Грамчэй, часьцей! Каб увесь сьвет даведаўся, што яны ніколі не зламалі сабе галаву вывучэньнем духоўнага права. Расейскія езуіты такія ж рэгулярныя сьвятары, такія ж езуіты,

---

[237] Фран Ксаверый Ідыякез (гішп. Francisco Javier de Idiáquez), 24.02.1711 – 01.09.1790 гг. – гуманіст, правінцыял і лідэр езуітаў правінцы Кастылья. Віконт, першародны сын герцага Гранады. Па айцоўскай лініі меў сувязь з дамамі Лаёла і Борджыя, а па матчынай з домам Ксаверыяў.

[238] Замак у вёсцы Панцана (Panzano), правінцыя Мадэны, які належыў арыстакратычнаму роду Мальвазія.

[239] Духоўныя практыкаваньні (экзэрцыцыі) сьв. Ігнацыя Лаёлы – мэтодыка хрысьціянскай медытацыі, малітваў ды роздумаў, якія дапамагаюць пазнаць сябе і Бога. Былі створаныя заснавальнікам ордэна Езуітаў сьв. Ігнацыям Лаёлам прыкладна ў 1522-1524 гг.

як і рымскія ў часы з 21-м ліпеня, днём падпісаньня загада, па 16-е жніўня, калі ён быў з усёй паспешнасьцю і гвалтам выкананы; і калі ў Рыме вырашанае скасаваньне не мела сілы, пакуль не было выкана, то гэта мусіць такім жа чынам працаваць і ў Расеі. Сьвет скажа, што езуіты дзьвума Апостальскімі дэлегатамі, біскупам Віленскім і тым Малінскім, прызнаныя існуючымі рэгулярнымі сьвятарамі; што Папа гэтае прызнаньне ніколі не абверг у кананічнай форме; і што разважаньні, якія робяць супраць гэтага нунцыятура ў прыватных лістах і аўтар у гэтым вартым жалю цыркуляры, ніколі не будуць успрымацца інакш, як шматлікія намаганьні ашалелай і роспачнай Партыі. Карацей: езуіты існуюць, як і раней; такім чынам яны могуць, як і раней, прымаць паслушнікаў; таму біскуп Малінскі, як Апостальскі дэлегат над усімі існуючымі рэгулярнымі сьвятарамі, мог пацьвердзіць паслушэнства езуітаў, таксама як і францысканаў, аўгустынаў і даміниканаў. Такім чынам расейскае паслушэнства мае сваю поўную кананічную легітымнасьць. Аднак, давайце не будзем губляць так шмат часу на такой зразумелай справе.

“Праз прыкрае махлярства і паклёп біскуп Малінскі выводзіць легітымнасьць паслушэнства з самога загаду аб скасаваньні Клеменса XIV, дабраславёнай памяці, і з аднаго іншага загаду сьвятой Кангрэгацыі па прапагандзе”.

Якім пачцівым, якім манэрным зьяўляецца аўтар! Біскуп Малінскі будзе яму моцна абавязаны за тую далікатнасьць, зь якой ён выстаўляе яго паклёпнікам і махляром. Аднак мы жадаем дасьледваць гэты паклёп і гэтае махлярства. Ці насамрэч праўда, што біскуп Малінскі выводзіць легітымнасьць паслушэнства з загаду аб скасаваньні Клеменса XIV, дабраславёнай памяці? І калі гэта было б праўдай, ці было б гэта паклёпам? Гэта ўсё ж такі магчыма, каб гэты чалавек не прывёў ніводнага слова, якое б не было недарэчнасьцю!

Прачытайце пастырскі ліст з пачатку да канца: і Вы нідзе не знойдзеце, што ён выводзіць легітымнасьць паслушэнства з загаду аб скасаваньні. Ён узгадвае Клеменса XIV адзін толькі раз, і вот яго словы: **паколькі Папа Клеменс XIV, варты найслаўнейшай памяці, праявіў такую вялікую схільнасьць выконваць пажаданьні магутнейшай расейскай Імператрыцы, нашай найлітасьцівай пані, што ён, каб дагадзіць Яе Моцы, адмовіўся ад выкананьня ва ўсіх раёнах Яе Імпэрыі загада, які пачынаецца з: Dominus ac Redemptor noster**. Гэта ўсё, што Біскуп кажа пра клеменсаўскі загад і пра яго стваральніка; і больш не ўзгадвае яго ва ўсім пастырскім лісьце ніякім складам. Такім чынам ён кажа, што Папа Ганганэлі з павагі да Імпэратрыцы дазволіў не выконваць загад у яе дзяржаве. І гэта мусіць значыць, што **ён выводзіць легітымнасьць паслушэнства з загаду аб скасаваньні**? Аўтар мусіць быць у цяжкім прыпадку ліхаманкі, бо ён прымае муху за слана!

Дапусьцім аднак, нібыта Біскуп сапраўды грунтуе легітымнасьць паслушэнства на загадзе аб скасаваньні: ці будзе гэта паклёпам? Скажыце мне на міласьць, пан аўтар, што такое паклёп? Бо калі з вамі размаўляеш, то трэба ўсе моманты зьвяртаць да слоўніка. Паклёп – гэта, калі нехта абвінавачвае іншага ў несапраўдным здачынстве. Калі ж біскуп Малінскі сказаў бы, што можна вывесьці легітымнасьць паслушэнства з загаду аб скасаваньні, то ён бы не сказаў ані **несапраўднага**, ані **злачынства** Ганганэлі.

Не першага; таму што гэта з загаду найяскрава бачна, што Папа Клеменс XIV не жадаў, каб гэта мела сілу там, дзе гэта не прымаецца ўладаром краіны. І ў Беларусі гэта было не прынята Імпэратрыцай, такім чынам Біскуп мог з самаго

загаду дакладна ўзяць, што скасаваньне рэшткаў езуітаў у Расеі нічога не выклікала; таму ён мог узяць з загаду, што іх паслушэнства было б такім жа легітымным, як гэта было да скасаваньня.

Не другога. Бо што д такога злоснага ў тым, што Папа склаў загад такім чынам, што ён павінен не мець ніякай сілы ці абавязаннасьці сярод тых нацый, якія па справядлівым прычынам не могуць яго прыняць? Калі гэта зьяўляецца злачынствам, то яго зрабілі ўсе Папы, якія рабілі канстытуцыі. Экс-езуіт Франц Антон Захарыя[240], адзін з адважнейшых змагароў за папскую юрысдыкцую ў гэтым стагодзьдзі, сам мусіў прызнаць у сваім Антыфеброніюсе (Дысерт. 2, гл. IX); што гэта зьяўляецца дастаткова агульным вучэньнем, што кананічныя законы не абавязваюць, калі іх не прымаюць, і прычынай гэтаму тое, што намер заканадаўцы можна растлумачыць такім чынам, што ён хоча абавязаць не інакш як толькі з умовай, што яго законы будуць прынятыя. Гэта той тэолаг падае як здаровае, разумнае вучэньне і цытуе цэлы ворах тэолагаў і кананістаў, Кардэнаса[241], Валенсію[242], Леса[243], Бэкана[244], Рэжынальда[245], Са[246], Філучы[247], Хокера[248], Сантарэля[249], Гамабона[250], Наваруса[251], Міранда[252], Лігорыюса[253], Бананчыну[254], Кабасуцыя[255], Юніна[256], Карла Файрета[257], Пятра дэ Марка[258], кардынала Агірэ[259] і іншых. Гэта праўда, што Захарыя разам з Суарэсам[260],Васкесам[261], Мальдэрам[262] і іншымі здаецца лічыць, што папскія законы, нават калі яны не прымаюцца, абавязваюць, і **што не застаецца нічога іншага, як прасіць Папу аб вызваленьні ад абавязку, калі яго лічаць шкодным для нейкай дзяржавы**; аднак я думаю, ьуь крыху прыхаваўся добра Гамэр; і мне здаецца, ён няверна ўспрыняў усё вучэньне Суарэса, які ў сотнях месцаў свайго Трактата de Legibus кажа, што закон, калі ён зьяўляецца шкодным для народу, не зьяўляецца законам, і ніякім чынам не можа абавязваць, таму што гэта

---

[240] Францыск Антоніё Захарыя (Цакарыя) (іт. Francesco Antonio Zaccaria), 27.03.1714 – 10.10.1795 гг. – итальянский езуіт, тэолаг, гісторык і раманіст.
[241] Бернардына дэ Кардэнас (Bernardino de Cardenas), 1562 – 1668 гг. – біскуп і губэрнатар Парагвая.
[242] Марцін дэ Валенсія (Martin de Valencia), 1473 – 1534 гг. – гішпанскі місыянэр.
[243] Готфрід Лес (Gottfried Less), 31.01.1736 – 28.08.1797 гг. – нямецкі лютэранскі тэолаг.
[244] Марцін Бэкан (Martin Becanus), 06.01.1563 – 24.01.1624 гг. – езуіт, каталіцкі багаслоў.
[245] Reginaldo
[246] Эмануіл Са (парт. Manoel de Sá), 1530 – 30.12.1596 гг. – партугальскі багаслоў, езуіт, аўтар шматлікіх прац, якія не былі прапушчаныя цэнзурай, за антыманархісцкія ідэі.
[247] Вінчэнца Філучыні (іт. Vincenzo Filliucci), 1566 – 05.04.1622 гг. – італьянскі езуіцкі мараліст.
[248] Johannes Chockier
[249] Антоніё Сантарэлі (Antonio Santarelli), 1569 – 1649 гг. – італьянскі езуіт і тэолаг.
[250] Homobon
[251] Вінцэнт Навара (Navarro Vicente), 1576 – 1649 гг. – гішпанскі езуіт.
[252] Miranda – езуіт, правінцыял Касьціліі.
[253] Альфонса Лігоры (іт. Alfonso Maria de' Liguori), 27.09.1696 – 01.08.1787 гг. – каталіцкі біскуп, тэолаг.
[254] Bonancina
[255] Cabassuzius
[256] Гаспар Юнін (Gaspard Juenin), 1650 – 1713 гг. – прафэсар тэалёгіі.
[257] Carl Feuret
[258] Peter de Marca
[259] Хасэ Саэнс д'Агірэ (гішп. José Saenz d'Aguirre), 24.03.1630 – 19.08.1699 гг. – вядомы багаслоў XVII ст., біскуп Картагены і Мурсія, кардынал з 1686.
[260] Францыск Суарес (гішп. Francisco Suárez), 05.01.1548 – 25.09.1617 гг. – гішпанскі філосаф і палітычны мысьляр.
[261] Габрыэль Васкес (гішп. Gabriel Vásquez), 18.06.1549 – 30.09.1604 гг. – гішпанскі тэолаг езуіт. Зьяўляўся супернікам Францыска Суарэса. Вядомейшы зь яго твораў, 8-мі томны каментар на Фаму Аквінскага.
[262] Ян Мальдэр (Johann Malder), 12.08.1563 – 21.10.1633 гг. – каталіцкі тэолаг, з 1611 біскуп Антвэрпэна.

зьяўляецца істотнай рысай наогул кожнага закону, што **ён павінен служыць агульнаму дабру**; і (Lib. 4 cap. 16 n.7 які цытуе сам Захарыя) у зносках ён дакладна кажа, з агульнага права можна ўзяць роўна столькі, што абавязаннасьць, каб прасіць вызваленьня ад яе, узьнікае толькі тады, калі шкоднасьць, якую закон прыносіць народу, зьяўляецца сумнеўнай; бо там дзе яна зьяўляецца вядомай, там ня трэба ніякага звароту, і можна адразу лічыць, што падобны закон не абавязвае.

Цяпер Вы зразумелі, пан аўтар? Біскуп Малінскі у сваім пастырскім лісьце не выводзіць легітымнасьць расейскага паслушэнства з загаду аб скасаваньні; адна ён мог бы зрабіць гэта, як добры тэолаг і кананіст, калі б захацеў зразумець сэнс Клеменса XIV паводле агульнага права і паводле агульнаша вучэньня дактароў, якія вядома разумеюць больш за Вас; і нават у гэтым выпадку яго нельга абвінавачыць ні ў якім паклёпе, ні ў якім махлярстве. Што ж цяпер рабіць? Сказаць, што Вы паклёпнік і махляр? Не, гэтага я не хачу. Я толькі хачу сказаць, Вы павінны наперад не складаць больш ніякіх цыркуляраў, выключаючы толькі пра тыя справы, якія Вы раней вывучалі; інакш Вы выстаўляеце сябе на пасмешышча.

З такой жа дзёрзкасьцю аўтар дадае, што біскуп Малінскі выводзіць легітымнасьць паслушэнства праз прыкрае махлярства і паклёп з аднаго рэскрыпту Прапаганды. Ці зьяўляецца гэта махлярствам, альбо паклёпам, мы хутка пабачым у наступным артыкуле.

## §. XV.

„Хаця несумленнасьць гэтага прэлата высьвятляецца ня толькі з прачытаньня загаду, але й са зьместу рэскрыпту, які толькі замацоўвае яго ў якасьці Візытатара і Апостальскага агента для нагляду за сьвятарамі, якія яшчэ існуюць, але не за скасаваным Інстытутам; тым ня менш, каб аспрэчыць хлусьню пазначанага пастырскага ліста, Яго Сьвятасьць тэрмінова загадаў свайму нунцыю ў Варшаве пісьмова абвясьціць усіх расейскіх міністраў, якія там знаходзяцца, аб празьмерных паўнамоцтвах, якія прысвоіў сабе біскуп Малінскі, і аб перайначаньні і недапушчальнасьці незаконным чынам прысвоенай ім сабе ўлады.

Адначасова сьвяты Айцец зрабіў даручэньне пану Аркеці абвесьціць біскупу Малінскаму яго папскае незадавальненьне, і жорстка папракнуць яго ў такім дзёрзкім прадпрыместве; ён павінен загадаць яму адазваць той дзёрзкі пастырскі ліст і замест яго выдаць іншы, які скасоўвае першы і ўсё, што мае нейкае да яго дачыненьне; нарэшце павінен ён пагразіць яму, што ён будзе зноўку вылішаны ўсёй атрыманай дзякуючы Прапагандзе ўлады, якою ён злоўжыў да вялікай спакусы тых каталікоў і зь відавочнай шкодай нязьменным перакананьням Яго Сьвятасьці.“

Што гэта за пачцівыя, манэрныя словы! Гэта той добры ўзор, які даецца сьвецкім людзям наконт належнай павагі да біскупаў, месца якіх паводле трыдэнтыйскай Царкоўнай Рады ўзвышана над усімі ўзроўнямі? Так мусіць размаўляць духоўная асоба? І Вы ўсё роўна верыце, што арцыбіскупа і кардынал сьвятой рымскай Царквы так размаўлялі? Але чаму Біскуп мусіць быць несумленным, чаму яго пастырскі ліст мусіць быць дзёрзкім? Чаму яму робяць жорсткія папрокі? У чым яго злоўжваньне атрыманай ад Прапаганды

ўладай? У чым той жаль, які ён прычыніў каталікам? **Несумленнасьць**, кажа аўтар, **высьвятляецца ня толькі з прачытаньня загаду, але й з рэскрыпту, які дае права толькі наглядаць за сьвятарамі, якія яшчэ існуюць**. Бесцырымоннаму невучу ўсё зразумела. Што рэскрыпт Прапаганды толькі дае яму права наглядаць за існуючымі сьвятарамі: гэта зразумела. Аднак, што езуіты ў Беларусі зьяўляюцца неіснуючымі, дзе гэта напісана? У Клеменсаўскім загадзе? Гэта грубае невуцтва. Загад, як я ўжо шмат разоў казаў, загадвае, што езуіты мусяць быць скасаваныя; ці ў далейшым расейскія езуіты былі скасаваныя, не стаіць у загадзе і наогул не можа там стаяць. Няшчасны аўтар не бача розьніцы паміж загадам і яго выкананьнем. Такім чынам мы хочам растлумачыць яму гэта праз зразумелае яму параўнаньне. Калі Вы, мой пан аўтар, загадваеце, што вам павінны зрабіць абед; аднак ваш кухар і ваш сталавы не бяруцца за працу, то ваша трапэза ніколі не будзе гатовая. Аналягічным чынам калі Папа складае нейкі дэкрэт каб скасаваць нейкі ордэн; то калі дэлегаты гэтага не выконваюць, то ордэн ніколі не будзе скасаваны і не згубіць нічога са свайго існаваньня.

Аднак, калі Вы скажаце, што, пакольки загад не быў абвергнуты праз рэскрыпт Прапаганды, Біскуп павінен кіравацца паводле абодзьвух дэкрэтаў, то гэта будзе новым доказам вашага невуцтва. Таму што той, хто валодае толькі пачатковымі ведамі ў праве, ведае, што (Tit. 3. De Rescriptis) пастаноўлена, што калі выдаюцца два загады, два рэскрыпты, ці два Апостальскіх пасланьня, зь якіх першы выключае другі ці абмяжоўвае яго, а другі ніяк не паведамляе пра першы, то, я кажу па-першае, што першы не вылішае другі яго сілы **ў справах, якія ўжо былі распачатыя, і калі партыі ўжо былі запатрабаваныя**. Па-другое пастаноўлена, што, калі другое Апостальскае пасланьне было прынятае да таго, як партыі былі запатрабаваныя ў сілу першага, тады другое павінна мець сілу ў поўным аб'ёме; **бо пакольки справа знаходзіцца яшчэ ў старым стане**, кажа заўвага**, то няма розьніцы паміж першым і другім**. Па-трэцяе пастаноўлена, што нават у выпадку, калі выкананьне першага загаду ўжо было пачатае праз запатрабаваньне пасртый, аднак калі ў далешым выкананьне было перапыненае на цэлы год, тады, я кажу, другі загад потым павінен быць выкананы не прымая да ўвагі першы. Цяпер да нашай справы.

Па-першае. Калі біскуп Малінскі атрымаў рэскрыпт Апостальскай дэлегацыі над рэгулярнымі сьвятарамі, яшчэ не было зроблена ніводнага кроку ў выкананьні загаду аб скасаваньні, таксама як і потым не было зроблена ніводнага; такім чынам стан езуітаў быў яшчэ старым; і нават паводле агульнага права не быў зьменены; таму далейшы рэскрыпт меў сілу над езуітамі, нібыта загад аб скасаваньні ніколі не быў выданы.

Па-другое. Паміж загадам аб скасаваньні і рэскрыптам дэлегацыі прайшоў не адзін год, але пяць. Загад датуецца 21-м ліпеня 1773, а рэскрыпт жніўнем 1778; таму кананічны час, калі загад мог абмяжоўваць рэскрыпт дэлегацыі, быў занадта перавышаны. Такавы правілы рымскага права; і ў Рыме іх ня ведаюць? І ў Рыме папракаюць біскупа, які кіруецца паводле гэтых правілаў? Магутны Божа! Што гэта мусіць быць за бязладдзе, што за новы дзяржаўны лад?

Калі Рым у рэскрыпце дэлегацыі меў жаданьне выключыць езуітаў з назвы рэгулярных сьвятароў, чаму аб гэтам не сказана дакладна? Можа там ня ведалі, што ў Расеі яны працягваюць надалей нязьменна трымацца свайго інстытута? Ці ня ведалі, што яны сябе лічаць рэгулярнымі сьвятарамі? Што яны бачацца такімі ў вачах двара і Біскупа? Такім чынам трэба таксама прыняць як

несумнеўнае, што ў Расеі пад назвай рэгулярных сьвятароў будуць разумець таксама і езуітаў. Калі іх хацелі выключыць, чаму не абвясьцілі гэтага дакладна? Калі манавіта ў Апостальскім распараджэньні не робіцца ніякага паведамленьня пра тыя выключэньні, якія паўстаюць з папярэдняга Апостальскага пасланьня, то гэта называецца відавочна несумленнай дзейнасьцю, як гэта дакладна адзначаецца (Cap. Ceterum. tit. De Rescriptis). Як адважваюцца тады папракаць Бтскупа ў несумленнасьці?

Бо Вы павінны заўважыць, што ў рэскрыпце Прапаганды ўсе тыя распараджэньні, якія Біскуп як дэлегат будзе рабіць рэгулярным сьвятарам, абвешчанныя законнымі, калі толькі яны не супярэчаць сьвятым канонам, дэкрэтам агульных кансілій, асабліва трыдэнтыйскіх, і статутам сьвятога Айца. Пра Апостальскія канстытуцыя не паведамляецца ані слова; таму Біскупу была наданая такая ўлада, што ён можа прадпрымаць зьмены нават супраць Апостальскіх канстытуцый, нават калі яны належылі Папе Ганганэлі.

Акрамя таго дадайце яшчэ тое, што вядома са словаў кардынала Кастэлі. У першым артыкуле рэскрыпта, які быў у гэты час зачытаны Кангрэгацыі Прапаганды, пасьля словаў: **паводле сьвятых канонаў і дэкрэтаў трыдэнтыйскай кансіліі**, былі дадания таксама наступныя: **і паводле Апостальскіх канстытуцый**. Кастэлі лічыў, што гэтыя апошнія словы трэба выкрасьліць, таму што яны даюць нагоду шматлікім сумневам, ці зьяўляецца тая ці іншая канстытуцыя прынятай, альбо не; і таму што яны ў тысячы вападках зробяць невызначанымі паўнамоцтвы дэлегата. Гэтая прадпрынятая зьмена была прад’яўленая Папе; і ён ухваліў як зьмену, так і яе прычыну. Той, хто чуў гэтыя словы Кастэлі, яшчэ жывы і гатовы, калі патрэбна, даць судовыя сьведчаньне. Такім чынам ані Папа, ані Кангрэгацыя не жадалі, каб паўнамоцтвы дэлегата былі нейкім чынам зьвязаныя з распараджэньнямі загада аб скасаваньні, які максімальна, калі быць занадта пачцівым, можна назваць Апостальскай канстытуцыяй. Дзе тады несумленнасьць? На баку Біскупа? Ці ...

Па чыіх хадайніцтвах быў тады складзены рэскрыпт Прапаганды? Біскуп Малінскі ніколі не хадайніцтвам пра гэта для сябе; але нунцыятура здабыла іх яму, не дзеля таго, каб рэфармаваць манахаў, але каб зрынуць езуітаў. Гэта агульна вядомая справа ў Магілёве, Полацку і С. Пецярбурзе, ня гледзячы на тое, што гэта ўсімі сродкамі намагаліся схаваць.

Біскуп Малінскі даў ведаць пану Аркеці, што загады яго двара ў дачыненьні да езуітаў складаюцца безумоўна ў тым, што ён павінен не абвяшчаць езуітам загад, што ён павінен разглядаць іх як рэгулярных сьвятароў, і што ён павінен нічога не мяняць у іх інстытуце. Такім чынам ён не мог ажыцьцявіць ніякай юрысдыкцыі над імі. Тады прыйшлі да наступнага пляну: яму будзе выданы з Рыму загад Апостальскай дэлегацыі над усімі рэгулярнымі сьвятарамі, і такім чынам над езуітамі. Паколькі Біскуп не мог абвесьціць ім загад, то яму было даручана, што ён павінен прымусіць іх зьмяніць адзеньне на падставе, што ў інстытуце не было прадпісана ніякага адзеньня, якое адрозьнівалася б ад адзеньня сьвецкіх сьвятароў; тады ён мог карыстацца імі дзеля духоўных адпраўленьняў восьтак у адзеньні сьвецкіх сьвятароў і спрабаваць распаўсюдзіць, што калігіюмы будуць спустошаныя; тым часам будзе зроблена намаганьне пераканаць Імпэратрыцу, што езуіты добраахвотна пакінулі свае калегіюмы. Такім чынам можна будзе ўпотай і без шуму зьнішчыць тыя рэшткі суполкі.

Хітрасьць удалася, аднак супраць намеру яе стваральніка. Калі двор убачыў рэскрыпт, ён загадаў Біскупу, што той павінен ім карыстацца, аднак не дзеля таго, каб спусташыць калегіюмы, але каб іх напоўніць. То падумайце, ці не разумеліся езуіты пад рэгулярнымі сьвятарамі? Ці не даў рэскрыпт Біскупу ніякай улады над езуітамі? І ці яны лічыліся скасаванымі? І тады падумайце, якое патрабавалася нахабства, каб папракаць Біскупа, што ён перавысіў межы сваёй улады, калі яна была наданая яму перад усім дзеля таго, каб ажыцьцявіць яе над езуітамі?

Астатняе ў гэтым артыкуле не патрабуе ніякіх каментараў. Апавяшчэньнее расейскіх паслоў у Варшаве аб перавышанай біскупам Малінскагім уладзе магло служыць толькі дзеля таго, каб дапячы яму, і пераканаць яго ў несумленнасьці і ў хітрых учынках рымскіх міністраў. Дарэчы, гэтая справа была па дзьвум прычынам бязглуздай; па-першае, таму што паслы пры сьвецкіх дварах ніколі не мелі загадаў у духоўных справах; па-другое, таму што ніколі ня трэба чакаць ад сьвецкага чалавека разуменьня межаў духоўнай улады. Акрамя таго заўсёды непрыстойна змешваць духоўныя справы з палітычнымі.

Нарэшце пагроза, што Біскуп можа быць зноўку вылішчаны ўсех атрыманых ад Прапаганды паўнамоцтваў, зьяўляецца насамрэч сьмяхотнай. Біскуп паказвае Папе сваё рашэньне пакінуць дыяцэзіі і скласьці з сябе не толькі паўнамоцтвы дэлегацыі, але нават і біскупскі сан; і ў адказ яму пагражаюць, што яго вылішаць паўнамоцтваў, якія ён атрымаў дзякуючы Прапагандзе.

Тое, што Біскуп спакусіў тых каталікоў, зноўку зьяўляецца глупствам. Што ёсьць спакуса? Давайце зноўку зазірнём у слоўнік. Спакуса гэта нішто іншае, як даваць падставу для духоўнага падзеньня бліжняга. Цяпер параўнайце паводзіны Біскупа з паводзінамі міністраў. Біскуп падтрымлівае служыцелей сьвятасьці; рымскія міністры жадаюць зьнішчыць іх са сьвету. Біскуп дзейнічае паодле кананічных правілаў; міністры з усім абыходзяцца непасьлядоўна. Біскуп абараняе прыродныя правы асобаў; міністры намагаюцца парушыць іх. Зь якога боку тады спакуса? Хто дае нагоду духоўнаму падзеньню тых народаў?

Я хачу нешта Вам распавесьці, што хаця і жудасна; аднак я мушу сказаць гэта і паступіць **з дуракамі паводле іх дурасьці**. Адзін расейскі сьвятар размаўляў аднойчы ў Варшаве з адным прэлатам, які быў заўзятым антыезуітам. Той выбухнуў, крычаў і лямантаваў; першы прыводзіў свае аргументы са спакоем. Нарэшце, пан прэлат, сказаў добры рускі, калі ў вас не адступяцца ад гэтых жахлівых намераў, то загінуць незьлічоныя душы. І што даў яму ў адказ прэлат? Тое, што можа адказаць першародны сын д’ябла: як па мне, сказаў ён, яны павінны загінуць. І хто дае тым каталікам спакусы? Што перакананьні Пія VI наконт езуітаў павінны быць нязменнымі; таксама глупства і паклёп. Тут варта сумнявацца, ці зьяўляюцца справядлівымі паводзіны супраць езуітаў; ці гэта тым больш ніякі не сумнеў; між тым, калі кагосьці асуджаюць беў суда, зачыняюць яму шляхі да абароны і караюць без злачынства, гэта заўсёды зьяўляецца відавочнай несправядлівасьцю. Што вам здаецца цяпер, калі пра Папу кажуць, што яго перакананьні наконт сумнеўнай справядлівасьці, ці тым больш наконт відавочнай несправядлівасьці, зьяўляюцца нязьменнымі? Сябра, мы падаем з адной прорвы ў іншую. Мы хочам пасьпяшацца да канца.

## §. XVI.

„Сьціслы пераказ прыведзеных вышэй фактаў, падтрыманы ўстойлівым характарам адкрытасьці і шчырасьці, якімі найсьвяцейшы Айцец кіруе і вымярае ўсе свае справы, будзе служыць Вашай Яснавяльможнасьці, каб мець магчымасьць даць грунтоўную даведку аб гэтых матэрыялах, кожны раз, калі аб тым будзе размова, і каб разьвеяць двухсэнсоўнасьць, якая можа крыху з-за глупства ці з-за нядобразычлівасьці сказіць пераказ.”

Гэтым завяршае аўтар цыркуляр і ставіць гэтым артыкулам пячатку на ім. Справы, якія зьмяшчаюцца ў ім, кажа ён, падтрыманыя характарам адкрытасьці і шчырасьці Папы. На самой справе, яны не могуць быць пацьверджаныя ніякім вартым веры сьведчаньнем, падобным гэтаму. Аднак у тым, што Папа сапраўды так пацьвердзіў іх, павінны мы вось гэтак адразу паверыць вашаму слову, пан аўтар? Дзеля гэтага не дастаткова, што характар адкрытасьці і шчырасьці Папы зьяўляецца вядомым; нам півінен быць таксама вядомы падобны характар за Вамі. У гэтым цяркуляры не бачна не толькі гэткага характару, але нават і найдробнага праблiску чэснага, справядлівага, разважлівага, шчырага чалавека, калі толькі не разумець пад шчырасьцю глупства, добрая порцыя якога сустракаецца ў вашым творы.

Справы, якія нам часта прадстаўляюць, як падтрыманыя Папамі, трэба усё ж такі дасьледваць, а не бязглузда верыць ім. Пануючая сёньня сэкта янсяністаў, дэістаў і індыферэнцістаў, зь якіх складаецца большая частка антыезуіцкай партыі, дастаткова дзёрзкая, каб пацьвярджаць свае аблуды і паклёпы папскім сьведчаньнем. Колькі падтрыманых фактаў расказвае Бонамічы[263] ў жыцьці Інакенція XI[264], каб выставіць яго не толькі ворагам езуітаў, але змагаром янсеністычнага фаталізму і сябрам тых сэктантаў? Калі верыць гэтым паведамленьням, як можна тады апраўдаць рэпутацыю сьвятасьці і адкрытай артадаксіі таго вялікага Папы? Альбо Інакенці мусіць быць надта дрэнным Папай, альбо гісторык Бонамічы мусіць быць вялікім махляром.

Каб зрабіць Бенэдыкта XIV непрымірымым ворагам езуітаў, колькі аўтэнтычных прамоў і блазнерскіх выбрыкаў было распаўсюджана пра яго? Колькі фантастычных гісторый чуюць яшчэ сёньня пра гэтага Папу, што падтрымліваюцца рэпутацыяй нейкага вялікага чалавека, а таксама мітрамі і пурпурнымі капялюшамі? Гэтая, настолькі аўтэнтычная нянавісьць не ўвязваецца з такімі шматлікімі ўсхваленьнямі і знакамі прыхільнасьці да езуітаў, якія можна прачытаць у шматлікіх аўтэнтычных загадаз і булах гэтага Папы. Калі Папа Лямбэрціні сапраўды мусіў граць у дачыненьні да езуітаў дзьве настолькі процілеглыя ролі; калі ён на самой справе мусіў адну рэч адначасова ўсхваляць і папракаць, любіць і ненавідзець, ахоўваць і перасьледваць; то ён павінен быў быць крывадушным чалавекам, тэатральным Папай, які выказваўся не паводле ўчынкаў, але паводле того, чаго патрабуюць абставіны. Нават толькі каб ратаваць гонар гэтага бессмяротнага Папы, трэба сказаць, што тыя аўтэнтычныя гісторыйкі зьяўляюцца аўтэнтычнай хлусьнёй, а ўсе, хто іх распавядае, бессаромнымі хлусамі.

---

[263] Філіп Марыя Бонамічы (іт. Filippo Maria Buonamici) 26.02.1705 — 1780 — італьянскі багаслоў і пісьменьнік.

[264] Інакенці XI (лац. Innocentius PP. XI), сьвецкае імя: Бэнэдэцьці Адэскалькі (іт. Benedetto Odescalchi) 19.05.1611 — 12.08.1689 — папа рымскі з 21.09.1676 да 12.08.1689 г.

Што можа быць больш аўтэнтычным, чым рашэньне скасаваць езуітаў, якое павінен быў скласьці Клеменс XIII? Нават загад аб скасаваньні хоча пераканаць нас у гэтым; аднак гэта няпраўда, аспрэчыць якую не проста. Папа Рэцоніка заўсёды заставаўся ўстойлівым і непахісным у абароне невіноўных, ён заўсёды патрабаваў судовага дасьледваньня і запэніваў, што ён не мае ніякіх паўнамоцтваў асудзіць кагосьці да таго, як ён будзе выкліканы ў суд, выслуханы і перакананы. Нарэшце, ён заўжды паказваў, што ведае межы сваёй улады, і што ён не хоча ніякім чынам іх пераступаць, раздражняць сьвет і губляць Нябёсы, дзеля таго, каб рабскі прывязацца да ўладароў зямлі. Аднак гэтую сваю непераадольную непахіснасьць ён ніколі так не выказваў, як у апошнія дні свайго жыцьця.

Колькі было расказана аўтэнтыхных рэчаў пра Клеменса XIV, якія маюць столькі ж абгрунтаваньняў, як і тыя, што прыведзены ў цыркуляры? Аўтэнтычнымі павінны быць яго звароты да караля Гішпаніі, напісаныя ўласнай рукой; што ён не можа скасаваць суполку без таго, каб спачатку склікаць агульную кансілію; аўтэнтычным павінен быць яго жах, калі гішпанскі міністр прызначыў яму тэрмін у чатыры месяцы на падпісаньне бурбонскіх патрабаваньня, і пагражаў яму, што па сканчэньню гэтага часу будзе абнародавана яго аўтэнтычнае абяцаньне, якое ён даў перад усхаджэньнем на трон; аўтэнтычнай была яго душэўная хвароба, бо ён чуў, што ў Рыме і ў Італіі кажуць пра яго будучую сьмерць, прызначая месяц, дзень і жахлівыя абставіны. Наконт гэтай душэўнай хваробы кардынал-дэкан[265] вырайшаў з Фантучы і іншымі, што будзе, калі Папа яшчэ больш, ці цалкам зьедзе з глузду. ***)**

Усё гэта, і яшчэ большае, што я ў маўчаньні прапушчу, падтрымліваецца, як і тое, што напісана ў цыркуляры, вартым павагі характарам нейкага Папы; і можа служыць у размовах пра езуіцкую справу, пра якую так шмат кажуць сёньня; і ўсё ж антыезуіцкая партыя не хоча верыць гэтым рэчам, бо яна крычыць, лютуе, абураецца і лямантуе супраць тых, хто прыводзіць гэтыя аргументы, і завець невыноснай саманадзейнасьцю, калі нехта хоча абараніць езуітаў, на шкоду памерламу Папе. Гэтыя паводзіны безумоўна не зьяўляюцца вельмі разумнымі. Калі справа йдзе пра справядлівую абарону, то трэба заўсёды спачатку глядзець на праўду, а не на званьне. Невіноўнасьць нават самага нізкага чалавека заўсёды пераважней за гвалтоўнае злачынства нават самых паважаных асоб. Аднак давайце на момант прымем гэтыя паводзіны за разумныя. Калі не дазваляецца дзеля абароны езуітаў прыводзіць аўтэнтычныя

***)** Як аўтэнтычным можа таксама дадаць наступнае. Кардынал Кавальчыні шмат разоў пытаўся, ці яшчэ не зайшло так далёка, што за ім трэба даглядаць. Пасьля адбыўшагася скасаваньня суполкі дагэтуль бадзёры Папа стаў буркліва, меланхалічна, непрыемна размаўляць са сваімі дагэтуль найверныммі, якія цяпер пачалі рабіцца яму невыноснымі. У жніўні 1774, у начы, ён бачыць у куту свайго пакою 2 маўраў, кліча з лямантам камердынера Барталамеё; гэты, каб супакоіць яго фантазію, кажа, што яны зноўку выйшлі ў вакно, што гэта тыя 3 маўра, што вечарам напярэдні стаялі насупраць фантана. Пасьля таго па яго загаду мусілі быць прызначаныя вартавыя; вечарам ніхто не дапускаўся да фантанаў; нікому не дазвалялася зьяўляцца ў палацы з палкай. Гэтыя загады былі неразумна абнародаваныя, і праз гэта горад Рым даведаўся аб хваробе свайго пана. Напачатку гэтай хваробы, падчас імшы чулі, як ён гучна казаў: чаго ж патрабуе каталіцкі кароль ад нас? Ці не дастаткова зрабілі мы, каб яму дагадзіць? Таму Буонтэмпі не дапускаў яго больш да публічнай імшы. Яшчэ больш аб гэтым ёсьць у Lettres à Mons. Carracioli; à Paris, 1776.12 ст. 240

[265] Дэкан Калегіі кардыналаў, (лац. Decanus Sacrum Cardinalium Collegium), да 1983 г. Дэкан Свяшчэннай калегіі кардыналаў — кіраўнік Калегіі кардыналаў Рымска-каталіцкай царквы.

факты, якія зьневажаюць памерлага Папу: то ці дазваляецца выстаўляць супраць езуітаў аўтэнтычныя факты, якія абражаюць гонар сучаснага Папы? Тое, што аўтар цыркуляра прыводзіць, як падтрыманае Піем VI, абражае не толькі езуітаў, але зьневажаюць празьмерна нават Папу, якому прыпісваюць няпраўды, неадпаведнасьці, парушэньні кананічных законаў, несправядлівасьці і відавочныя парушэньні прыродных правой. О, сьлепата! Можна рабіць злачыннасьць аўтэнтычнай колькі заўгодна; злачыннасьць заўсёды застанецца злачыннай.

Прыкрываць хлусьню рэпутацый Папы, гэта самы надзейны спосаб ашукаць сьвет і найбольшая абраза, якую можна зрабіць сьвятыне праўды і рэлігіі. Няпраўда, пра якую мяркуюць, што яна пацьверджаная Папай, лёгка здабывае сабе месца, заваёўвае публічны давер і прымаецца, як неаспрэчная праўда; што зьяўляецца наступствам належнай пашаны да галавы Царквы. Калі ж хлусьня выкрываецца, і яшчэ калі стваральнікам яе лічыцца Папа, то чым будзе ў вачах сьвета Апостальскі Сталец? Я не ў стане растлумачыць гэты пункт. Гонар сьвятога Стальца мне бліжэй да сэрца, чым гонар езуітаў. Калі б цыркуляр хадзіў толькі па Італіі, дзе вядома антыезуіцкая дзёрзкасьць і манчыма нават аўтар; то я бы не клапаціўся за яго; аднак езуіцкія справы разыходзяцца па ўсяму сьвету і перакладаюцца на ўсе мовы. То можа атрымацца, што нейкі тартарын, кітаец, сыбірак, ці яшчэ нейкі іншы далёкі народ, які не мае рымскіх ведаў, натрапіць на гэты цыркуляр. Ён навучыцца адтуль асуджаць езуітаў, пра якіх там сказана шмат злога; аднак ён знайдзе там таксама шмат такога, праз што ён будзе незадаволены Папай.

Дзякуй Нябёсам, што каноны прадбачылі гэта і пастанавілі, што ня трэба прымаць без разбору ўсе папскія сьведчаньні, але адрозьніваць сапраўдныя ад фальшывых. Таксама нават не ўсе сапраўдныя папскія прысуды зьяўляюцца аўтэнтычнымі паводле канонаў і маюць роўную вагу. Трэба дасьледваць, закранаюць яны вучэньні, альбо факты, былі яны выданыя ў судзе, альбо па-за судом; і таму падобнае, каб дух махлярства не мог схавацца ў цені Апостальскага Трона. Гэтыя правілы раскіданыя паўсюль у кананічным праве; я хачу прывесьці толькі некаторыя, якія аднак не толькі паказваюць невуцтва аўтара, бо ён падтрымлівае рэпутацыяй Папы настолькі ганебныя дзеяньні, але таксама даводзяць (калі нехта хоча сам зрабіць заяву), што загад Клеменса XIV не зьяўляецца аўтэнтычным.

Першае правала. **Толькі дзьве катэгорыі папскіх выракаў і сьвечаньняў прызнае Царква; першая, гэта вусныя выказваньні; другая, гэта Апостальскія пасланьні**. Першыя не зьяўляюцца аўтэнтычнымі, акрамя толькі ў дачыненьні да тых асобаў, якія чулі гэта непасрэдна з вуснай сьвятога Айца. Калі потым нехта хоча надаць ім публічны аўтарытэт, то гэта мусіць адбыцца не ад імя самаго Папы, але ад дзьвух альбо больей аб'ектыўных асобаў, якія, калі павінен будзе паўстаць сумнеў, змогуць даць сьведчаньне, што яны атрымалі гэта непасрэдна ад Папы. Карацей: аўтэнтычным зьяўляеца толькі такое папскае сьведчаньне, якое зьмяшчаецца ў Апостальскіх пасланьнях. Дык скажыце мне, пан аўтар, адносяцца тыя сьведчаньні, якія Вы выдаеце за падтрыманныя Піям VI, да першай, ці другой катэгорыі? Апостальскімі пасланьнямі яны не зьяўляюцца; такім чынам вусныя выказваньні аракула, не падтрыманыя ў наступстве ані Папай, ані, наколькі мне вядома, нікім іншым, акрамя Вас; аднак Вы зьяўляецеся ані аб'ектыўным, ані далёкім ад усіх прыналежнасьцей. Такім чынам гэта махлярства і невуцтва, калі кажуць, што факты з вашага цыркуляра падтрыманыя сьвятым Айцом.

Другое правіла. **Папскае сьведчаньне праз Апостальскія пасланьні не зьяўляецца аўтэнтычным, акрамя толькі калі нехта атрымаў іх непасрэдна з рук Папы, альбо іншай асобы, якая была прызначаныя ім дзеля гэтай задачы**. Таму не дазваляецца атрымліваць іх ні праз які іншы канал, пад пагрозай адлучэньня ад царквы для сьвецкіх, і зьняцьця з пасады для духоўнікаў. Гэты закон быў зроблены Інакенціям III[266], (Cap. Dura sæpe Mandata. 4. de Crim. fals.) і прычынай, якую прыводзіць каментар, зьяўляецца тое, што інакш **маецца небясьпека махлярства**. Калі баўтар ведаў пра гэты канон, ці распаўсюджваў бы ён факты свайго цыркуляру як аўтэнтычныя і нават прыналежныя Пію VI? Што Вы цяпер думаеце пра меркаваньне, што езуіты павінны быць абавязанымі прыняць загад аб скасаваньні з рук газэтных пісакаў? Паводле канонаў яны б трапілі пад нараканьне, калі б яны прынялі гэта з непаўнамочных рук і выканалі; аднак паводле сьведчаньня Пія VI, як марыць аўтар, яны зьяўляюцца свавольнымі людзьмі, таму што яны трымаліся гэтага канону і не прытрымліваліся вядомых Апостальскі газэт.

Трэцяе правіла. **Кожнае папскае сьведчаньне, нават у Апостальскім пасланьні, трэба дбайна дасьледваць**. Такім чынам, зноўку Інакенці III, (Cap. Ad Falsariorum 7.) і дадае, што трэба падыходзіць з найбольшай строгасьцю да таго, хто будзе мець нахабства, імем Аспостальскага Стальца падтрымліваць махлярства і хлусьню; не важна атрымалася гэта праз хітрасьць, ці невуцтва, ці нядбайнасьць.

Аднак што трэба дасьледваць? Па-першае, дасьледваюць зьнешняе, ці адпавядае гэта пастаяннаму і нязьменнаму канцэлярскаму стылю. Дасьледваюць паперу, літары, шво, ніткі, пячатку, пломбу і як пасланьне складзена; ці нічога не выкрасьлена, не сьцёрта, і сотню іншых дробязей, якія трэба дасьледваць паводле Інакенція III (cap. Licet ad regimen 5.); і калі заўважаюць толькі найдробную неадпаведнасьць, ці абгрунтаваную падазронасьць, то трэба лічыць пасланьне падробленым, а сьведчаньне, якое ў ім зьмяшчаецца, несапраўдным. Па-другое, дасьледваюць унутраны гістарычны склад: ці верна пазначаныя часы, асобы, справы; ці кожнаму паводле яго стану і рангу нададзены прыналежны тытул? Калі ўсё гэта знаходзіцца не найдакладнейшым, то пасланьне і ўмё, што ў ім прыведзена, зьяўляецца несапраўдным. Гэтыя правілы высьвятляюцца з аднаго рэскрыпта Люцыюса III[267] (cap. Ad aures 8.) і з іншага Інакенція III (cap. Quam gravi pœnæ 6.). Ня дзіва, што аўтар прайшоў міма гэтых канонаў. Ганганэльскі загад дзейнічае супраць іх настолькі безразважна, што называе сьвецкіх і студэнтаў сярод езуітаў, якія маюць толькі простыя зарокі, прафэсамі трох зарокаў. Відавочны доказ таму, што езуіты былі скасаваныя, без дасьледваньня іерархічнага парадку суполкі. Па-трэцяе, дасьледваюць мову; і калі там сустракаецца нават драбнейшы саляцызм ***)**[268], то трэба не лічыць сапраўдным нічога ў гэтым Апостальскім пасланьні. Так кажа Люцыюс III (cap. Ad audientam 11. de Resriptis). Да такой

[266] Інакенці III (лац. Innocentius PP. III), сьвецкае імя: Лятарыё Канці ды Сэньні (іт. Lotario dei Conti di Segni) каля 1161 — 16.07.1216 — папа рымскі з 08.01.1198 да 16.07.1216 г. Падчас пантыфікату ініцыяваў правядзеньне IV крыжовага паходу, які ў 1204 г. паклаў пачатак Лацінскай імпэрыі ў Канстантынопалі. Спрыяў стварэньню ў 1198 г. ў Палестыне Тэўтонскага ордэну й аказваў падтрымку ягонаму першаму вялікаму магістру Гэнрыху Вальпоту.

[267] Люцыюс III (лац. Lucius PP. III), сьвецкае імя: Убальда Алючыньнёлі (іт. Ubaldo Allucingoli) 1097 — 25.11.1185 — папа рымскі з 1.09.1181 да 25.11.1185 г.

[268] 13-я ст. пераклада, дзе прыводзяцца сьведчаньні аб пратэстах ад 300 біскупаў, што былі дасланыя Папе.

дакладнасьці і асьцярожнасьці грамадскія законы ніколі не даводзілі. Прычына, якую прыводзіць каментар, у тым, што папскі рэскрыпт, ці дыплём, перад тым як быць аўтэнтычна прадстаўленым публіцы, **вывяраецца з вялікай стараннасьцю**. Таму не так проста, ці наогул немагчыма, каб высьлізнула нават найдробная моўная памылка, замоўчваньне, парушэньне фактаў ці правоў. Дык ці вытрымае, пан аўтар, ваш цыркуляр гэта кананічнае выпрабаваньне? Ваш твор не зьяўляецца Апостальскім пасланьнем, бо правазнаўства, гісторыя і мова, усё аднолькавым чынам закінута ды спаскуджана; і Вы прадстаўляеце сьвету аўтэнтычнае папскае сьведчаньне, як Вам спадабаецца яго называць, у такой дрэннай форме, што яе б сароміўся нават атэстат вясковага пастара, ці вясковага судзьдзі. Гэта ўсё ж такі дзіўная справа, што ўсе аўтэнтычныя тэксты супраць езуітаў складаюцца такім жа нядбайным чынам! Загад аб скасаваньні хаця б крыху трымаецца гэтых кананічных правілаў.

***)** Саляцызм fulcita est (замест fulsit) у загадзе быў надта непрыстойным для жадаючага быць вопытным у латыні піярыста. Усё ж здаецца гэтаму ляпсусу дастаткова ў якасьці прабачэньня той неадкладнай сьпешцы, каб убачыць суполкі зьнішчанай без залішняга марнаваньня часу. Аднак чаго варты гэты саляцызм супраць шматлікіх недахопаў і супраць шкодных нават папскаму стальцу памылак у загадзе, якія былі прад’яўленыя Папе Ганганэлі арцыбіскупамі Парыжа і Арлена? Пра іх можна доўга чытаць у іх аўтэнтычных пасланьнях надрукаваных пасьля. Гэтыя, і яшчэ іншыя часта паступаўшыя неадкладныя запярэчаньні і пасланьні (гл. вышэй ст. 26) давялі Папу да сьмяротнай душэўнай хваробы.

Чацьвёртае правіла. **Папскае сьведчаньне, нават калі яно забясьпечана усімі легалізацыямі, зьяўляецца несапраўдным, калі яно ў судовых справах перашкаджае дасьледваньню працэса і правам кожнага, кім бы ён ні быў. Падобнае Апостальскае пасланьне павінна без далейшага дасьледваньня разглядацца як несапраўднае**. Так кажа Аляксандар III[269] (cap. Ex parte. 2. de Rescriptis). У розных месцах каментар называе дзьве прычыны гэтаму. Па-першае, недахоп улады з боку Папы. Бо кожная справядлівая ўлада ўсталяваная дзеля апекі праўды. Такім чынам калі нехта перашкаджае ёй выйсьці на дзённае сьвятло, то ён, уласна кажучы, не ажыцьцяўляе ніякай сапраўднай улады. Па-другое, якое дарэчы выцякае з першага і проста выказваецца іншымі словамі; таму што гэтая перашкода судовага дасьледваньня была б настолькі відавочнай і прыкрай несправядлівасьцю, што яе ніколі нельга падазраваць за Папы. Калі наш аўтар хоча штосьці сцьвярждаць, ён не прывязваецца да ўсіх гэтых правілаў. Ён распавядае нам, што Пій VI абвясьціў езуітаў скасаванымі, нязддатнымі і свавольнымі людзьмі; ён даў папракаць біскупа; ён загадаў, што трэба канфіскаваць маёмасьць не дазволіўшы дасьледваць справу і прычыны, якія прадстаўляюць гнаныя, Біскуп і Манархіня; і ўсе гэтыя несправядлівасьці павінны былі быць пацьверджаныя ўстойлівым характарам шчырасьці сьвятога Айца? Сябра, мы не зьдзіўляемся. Цыркуляр зьяўляецца вартым дадаткам ганганэльскаму загаду.

Пятае праваіла. **Кожнае папскае сьведчаньне, якое было здабыта хітрасьцю ці падроблена, мусіць разглядацца як несапраўднае, ці прымушанае праз злыя інтрыгі**. Калі ў ім знаходзіцца нешта несапраўднае, то яно называецца **падробленым**; калі ў ім нявечыцца ці замоўчваецца праўда, то

[269] Аляксандар III (лац. Alexander PP. III), сьвецкае імя: Арлянда Бандынэльлі (іт. Orlando Bandinelli) 1105 — 30.08.1181 — папа рымскі з 07.09.1159 да 30.08.1181 г.

яно называецца **здабытым хітрасьцю**. Гэтае правіла называецца ў кананічным праве **ключом усяго дакумента**; у якім вывучаецца лад і спосаб, якімі можна адрозьніць сапраўдыя Апостальскія пасланьні і сапраўдныя сьведчаньні папаў ад несапраўдных. Яно было ўсталяванае Аляксандрам III (cap. Siquando 3.), Люцыюсам III (cap. Super eo. 2.) і потым яшчэ Інакенціям III (cap. Super litteris. 2.). Каментар зноўку прыводзіць недахоп улады ў Папы як прычыну. Гэтым правілам выкрываецца ўся прыхаваная машына цыркуляра. Аўтар хацеў бы, каб усе меркавалі так: гэтыя факты падтрымліваюцца Папай; такім чынам яны праўдзівыя. Аднак сьвятыя каноны затыкаюць яму рот і загадваюць, каб усе рабілі такое заключэньне: гэтыя факты зьяўляюцца альбо несапраўднымі, альбо скажонымі; такім чынам гэта няверна, што яны пацьверджаныя Папай; ці калі гэта адбылося, то Папа павінен быў быць уведзены ў зман праз фальшывыя ці злачынныя даклады. Гэтае заключэньне не мая вынаходка. Яго робіць каментатар (cap. Ex parte 2. de Rescriptis): **у падобных выпадках,** кажа ён, **Папа разглядае факт ніякім іншым чынам, акрамя таго, як ён яму дакладзены**. Яго робіць Інакенці III (cap. Quam gravi pœnæ. de Crim. fals.): **на гэты конт**, кажа ён, **мы зьдзіўляліся, што ты верыш, нібыта падобнае пасланьне (у якім была знойдзенная несапраўднасьць) зыходзіць ад нас**. Яго робіць Аляксандар III (cap. Siquando 3. de Rescriptis.): немагчыма паверыць, кажа ён, каб сьвяты Сталец пацьвердзіў нешта фальшывае, выключаючы тое, **што было прад'яўлена нам праз фальшывы даклад**.

Шостае правіла. **Ніводнае папскае сьведчаньне, у дачыненьні нейкага факта, не выключае ўсіх выключэньняў ці аналізу ад адваротнага, акрамя дзьвух выпадкаў**. Першы, калі гаворка ідзе пра нейкі дагматычны факт; гэта значыць, калі факт настолькі цесна зьвязаны з догмай, што ніяк не магчыма вырашыць, дзе праходзіць мяжа паміж імі. У гэтым выпадку выказваньне пра факт робіцца часткай дагматычнага выказваньня: як гэта было вырашана супраць янсяністаў. Але гэта не наш выпадак. Другі, калі Папа нават па-за судом даказвае адно са сваіх уласных дзеяньняў; калі ён напрыклад кажа: мы зрабілі гэта, мы сказалі тое. Гэта адзіны выпадак, у якім трэба надаць поўную веру папскаму сьведчаньню, нават па-за судом, калі яно толькі зьяўляецца аўтэнтычным; і гэта ані прыстойна, ані дазволена, рабіць нейкія пярэчаньні супраць гэтага. Гэтае правіла высьвятляецца з главы (Si Papa. 10. de Priv. in 640.) і з клеменсаўскага прадпісаньня (Litteris nostris. Tit. De Probat.), і гэта, кажа каментар, асабістая прывілегія Папы, якая не распаўсюджваецца ані на нунцыяў, ані на легатаў, ані на яшчэ каго іншага. Калі аднак Папа пацьвярджае чужы факт, то ён заслугоўвае столькі ж даверу і не больш, як заслугоўваюць таго даклады, якія яму прад'явілі на гэты конт.

Так шмат патрабуецца, каб можна было называць справу аўтэнтычнай, і верыць слову рымскага папы. То ці гэта не саманадзейнасьць, калі нехта спрабуе ня гледзячы на шматлікія прадпісаньні, якія патрабуюць законы, так бессаромна ашукваць сьвет і распаўсюджваць пасланьні поўныя фантазійных аповядаў, якія яшчэ й падтрымліваюцца **праз устойлівы характар Папы**? Шарлатаны, што блукаюць па сьвеце, карыстаюцца такімі самымі прыёмамі. Каб здабыць прыязнасьць сваім пластырам, сваім мазям і скарбонкам з бальзамам, і каб прынесьці іх людзям, Яны размотваюць пакет атэстатаў разнастайных уладароў і прад'яўляюць народу, які зьбіраецца вакол іх з разяўленым ротам. Ад іх здаецца навучыўся аўтар свайму мастацтву, надаваць вагу сваім паклёпам праз імя Папы. Аднак, ціне павінен ён ведаць, што

царкоўныя законы прадпісані лад і чын, якім можна выкрыць падобныя махлярствы?

О! Насколькі дзіўная сьвятасьць і мудрасьць законаў рымскай Царквы! Яны тырмаюць папаў у межах іх улады, яны ратуюць іх гонар, трымаюць махляроў пад кантролям, засьцерагаюць невіноўнасьць, высьвятляюць праўду, выкрываюць паклёпы і праганяюць прадажную несправядлівасьць. Калі Рым будзе цьвёрда і непарушна трымацца дакладнага выкананьня гэтых правілаў: то ён будзе заўсёды разглядацца як найдасканалы ўзор справядлівай улады. На самой справе, выкананьне гэтых канонаў зрабіла хрысьціянскі Рым арбітрам над усім сьветам, над якім юыў валадаром паганскі Рым. Калі сёньня гэта менш шануецца, калі сьвет давярае яму не так, як раней, то гэта таму, што некаторыя рымскія міністры зьневажаюць гэтыя каноны. Царкоўная ўлада, якую занадта неабмежавана пераносяць на невукаў і на людзей сьвету, часта выконваецца без навукі, без праўды і без справядлівасьці; што неадкладна павінна зрабіць Рым пагарджаным. Таму выбіраў жа сабе, ты цэнтр хрысьціянства (бо я не магу казаць гэта занадта часта), лепшых міністраў і падначаленных; і выбіраў іх паводле прадпісаньняў кананічных правілаў, асабліва тых, трыдэнтыйскай царкоўнай рады.

Ну вось я і скончыў; аднак мой ліст ператварыўся ў нешта іншае, чым ліст. Некаторыя не захочуць чытаць яго цалкам. З любові да тых, хто мае надта мала церпялівасьці, я хачу зрабіць у заключэньні вытрымку з найбольш дзіўных рэчаў. Па-першае, я хачу прадставіць сапраўдны факт, які даў нагоду цыркуляру, каб яго можна была прагледзіць адным позіркам. Па-другое, я прывяду скаргі, якія ў ім зьмяшчаюцца, і нарэшце прычыны, якія паказваюць недарэчнасьць скаргаў, апраўдваюць паводзіны двара, Біскупа і езуітаў і неаспрэчна даказваюць законнасьць іх калегій і іх паслушэнства.

# Заключэньне.

## Факт.

У правінцыях, якія ў 1772 перайшлі з польскага ў расейскае валадараньне, знаходзіліся каталікі ў вялікім мностве; аднак іх біскупы не мелі там рэзыдэнцый. Два ліфляндскіх і смаленскі спыняліся падчас ў Варшаве, падчас у Вільні. Беларусь, дзе толькі і былі езуіты, належыла да віленскай дыяцэзіі. Гэтыя тры біскупы не хацелі ані прызнаваць у сваіх дыяцэзах ніякай чужой улады, ані прымаць прысягу на вернасьць ёй; таму немагчыма было спадзявацца, што новая Манархіня дазволіць ім ажыцьцяўляць іх юрысдыкцыі над яе падданымі.

Каб прадухіліць гэтую бяду, кароль Польшчы і Сэнат зрабілі прапанову, аб’яднаць гэтыя правінцыі пад адным лацінскім біскупам, якога трэба ўсталяваць у Беларусі, і між тым трэба было дазволіць сапраўдным біскупам працягваць іх юрысдыкцыю; і Імпэратрыца пагадзілася з гэтым. У ты час (1773) адбылося скасаваньне езуітаў, пра якую з ветлівасьці не аднойчы паведамлялі

двару Пецярбурга. Асяродзьдзе, якое мусіла прыняць загад праз двары, каб праз згоду ўладароў атрымаць нейкую законнасьць, якую яму не далі канонвы, не ўключала Пецярбург. Катарына II упершыню пабачыла яго, калі біскуп Віленскі прадаставіў яго Ёй, каб атрымаць Exequatur'у.

Як? сказала Яна, частку маіх падданых, якую ўсталявалі каралі, мае папярэднікі, якая выкарыстоўваецца дзеля службы народу; яе хочуць зьнішчыць; і я не павінна ведаць,чаму? Яе хочуць зьнішчыць па патрабаваньню чужых уладароў; і я павінна проста выканаць у маіх землях волю замежных уладароў? Хто будзе пераемнікам езуітаў у распаўсюдзе навук, у выхаваньні моладзі, у выкладаньні каталіцкага хрысьціянства і ў душапапячыцельстве? Рым кажа, гэта павінны замяніць іншыя духоўныя абшчыны. Аднак ці магчыма, каб Папа мусіў ня ведаць, што большасьць з іх перад тым як выкладаць, самі павінны быць навучаныя?

Карацей: выкананьне загада была забароненая Імпэратрыцай; таксама як яно ў той жа час было забаронена ў Прусіі. Біскупы паведамілі справу нунцыю ў Варшаве, той Папе Клеменсу XIV; і Папа распарадзіўся, што, каб дагадзіць гэтым дзьвум Манархам, расейскія і прускія езуіты павінны заставацца ў сваім папярэднім стане да новых распараджэньняў. Пасьля таго, яка гэтае папскае волевыяўленьне стала вядомым біскупам, той, што з Вільні, загадаў выдаць эдыкт па ўсёй Беларусі, у якім ён загадаў вікарыям, пастырам і рэктарам, каб ніхто зь іх не адважыўся абвясьціць скасаваньне, ці прадпрыняць нават найдробную зьмену у дачыненьні езуітаў, якіх ён ва ўсёй расейскай Імпэрыі абвяшчае законна існуючымі. Ані нунцый Гарампі, ані Рым не асудзілі гэтае пасланьне; і езуіты цяпер мелі замест скасаваньня новае і ўрачыстае пацьверджаньне свайго існаваньня ад абодвух уладаў. З гэтага часу на стол трапіла справа паслушэнства.

Паколькі цяпер дайшло да стварэньня лацінскаша біскупства ў Беларусі, выбары новага прэоата былі даручаныя нунцыю з прыцягненьнем расейскіх паслоў. Гэтыя аб'ядналі свае галасы за гэнерала вікарыя па сьвецкім справам біскупа Віленскага, пана Станіслава Сестранцэвіча, шляхетнага, вучонага і міралюбівага чалавека стваральнага ладу жыцьця; поўнага павагі да Пецярбурга і Рыма; аднак таксама поўнага прадузятасьцей наконт езуітаў, якія ён казаў у правінцыяльных лістах, ці падобных пасланьнях. Хаця аднаму з выбаршчыкоў спадаўся Біскуп, аднак новаабранаму не спадабалася біскупства. Ён адкінуў яго з такой непахіснасьцю, што нунцый быў вымушаны быў умольваць яго зьмяніць рашэньне. На шчасьце выбары біскупа былі працай нунцыя Гарампі. Спачатку не магчыма было ўвесьці яго ва ўладаньне, таму што тры польскія біскупы не хацелі выпускаць свае правы. Клеменс XIV альбо не жадаў, альбо лічыў сябе не ўпаўнамочаным, прымусіць іх да гэтага. Нарэшце было прынята настаўленьне, што новаабраны, пакуль жывы тры сапраўдных біскупа, будзе проста біскупам in Partibus[270] з тытулам біскупа Малінскаша, і будзе павінен кіраваць трымя аб'яднанымі дыяцэзамі як Апостальскі візітатар з поўнымі біскупскімі паўнамоцтвамі. Да таго, як гэты плян быў прыведзены ў

[270] in partibus infidelium – "у краіне няверных", словы гэтыя дадюцца да тытула тых каталіцкіх біскупаў, якія маюць біскупскі сан без адпаведнай яму юрысдыкцыі (бо прысьвячаюцца на фіктыўныя катэдры, што знаходзяцца ў некаталіцкіх краінах). Біскупы in partibus завуцца тытулярнымі біскупамі (episcopi titulares). Звычай прызначаць біскупаў на неіснуючыя кафедры мае ў аснове сваёй той прынцып, што аднойчы ўзніклая царкоўная кафедра юрыдычна не спыняе сваё існаванне, хоць для біскупа і немагчыма фактычна заняць яе. Папа такімі прызначэннямі як бы ахоўвае свае правы на колішнія епархіі.

выкананьне, Варшава атрымала новага нунцыя, а Царква новага Папу; калі пан Гарампі перайшоў у нунцыятуру Вены, а Клеменс XIV ў вечнасьць, Пій VI пацьвердзіў абранага біскупа; пан Аркеці мусіў паставіць яго на пост і **паведаміць яму аб асаблівым даверы, які ўскладаецца на яго**.

Гэты новы нунцый, чалавек энэргічнага характару, палкасьці, якасьці, што не дае часу на доўгія разважаньні, каб зразумець распараджэньні, ці прадбачыць перашкоды; чалавек, які прадпрыімчыва глядзіць проста да мэты, аднак незаўсёды дастаткова разглядае сродкі і складанасьці, гэты чалавек уцягнуў Біскупа ў антыезуіцкія справы; і прадставіў яму неабходнасьць гэтага прадпрыемства як першы абавязак Апосталальскай місыі і як справу Царквы; ён загадаў, прапанаваў і запэўніў, што ён павінен скасаваць езуітаў, аднак не падумаў пра складанасьці. Не пасьпеў Біскуп ступіць у Расею, як атрымаў ад двара зусім процілеглыя загады: ён павінен шанаваць у езуітах апеку Манархіні; замест таго, каб іх зьнішчыць, ён павінен абмеркаваць сродак, як можна законным чынам арганізаваць ім паслушэнства, у асаблівасьці ён павінен засьцерагацца ўказваць ім на загад аб скасаваньні; і наконт гэтага апошняга пунтку ад яго патрабавалася не толькі вуснае, але і пісьмовае абяцаньне.

Навіны пра гэтыя загады двара прывялі ўсю антыезуіцкую партыю ў замяшаньне. Імгненна яны прывялі ў рух свае старыя інтрыгі; і перад усім паспрабавалі падкупіць расейскіх міністраў пры іншых дварах і пераканаць іх у тым, каб яны пажадалі дапамагчы прывесьці езуітаў у імпэратарскую няміласьць. Яны працавалі нават у Канстантынопалі. Расейскі рэзідэнт каля брамы паведамляў, што ён быў зыпрошаны адным з бурбонскіх, каб прыняць удзел у гэтым новым крыжовым паходзе.

Нунцыятура закінула ўсё астатнее, мяркуя толькі над тым, як тут дапамагчы. З усё стараннасьцю яны намагаліся скласьці пляны для Бэрліна і Пецярбурга; зь якіх, наколькі мне вядома, чатыры зьяўляюцца найвядомымі.

Першы быў адным указаньнем біскупам, што яны павінны пераканаць свае два двары, што зачытаньне загада зьяўляецца проста цэрымоніяй; яно не прынясець езуітам нічога, акрамя зьмены назвы і адзеньня; і яны тады змогуць далей бесперашкодна працягваць свае адпраўленьні на службе народу. Хітрыка мела посьпех у прускай Сілезіі; і яна б мела посьпех таксама і ў Расе, каб Імпэратрыца не заўважыла пастку і не навучылася не давяраць некаторым рымскім міністрам; таму яна вырашыла адкідваць кожны плян, які прыходзіць не непасрэдна ад Папы.

Другім было: трэба было праінфармаваць нейкага сьвятара і тайна паслаць яго ў Полацк з паўнамоцтвамі скасаваць езуітаў. Бязглуздае прадпрыемства! Двор даведаўся пра справу і зрабіў супраць гэтага на усялякі выпадак наканаваньне, выдаўшы загад, што ў землі не павінен быць дапушчаны аніякі замежны сьвятар, які не мае пропуска ад Біскупа.

Трэці плян, пра які дарэчы ніхто ня ведае, у чым ён складаўся, быў дасланы грэцкаму арцыбіскупу Полацка і аднаму польскаму біскупу. Яны, аднак, так дрэнна распачалі справу, што грэк павінен быў збегчы з усех расейскіх зямель.

Чацьвёрты плян выглядае так, нібыта ён быў складзены са згоды біскупа Малінскага. Было вырашана, што Біскуп павінен пачаць скасаваньне праз шлях ажыцьцяўленьня; ён павінен быў спусташыць калегіюмы, а езуітаў, пад нагодай выкарыстаньня, разагнаць. Дзеля гэтага Біскупу не хапала паўнамоцтваў, бо

езуіты зьяўляюцца самастойнымі сьвятарамі. Таму прыйшлі да ідэі, зрабіць яго Апостальскім дэлегатам над усімі рэгулярнымі сьвятарамі; і адразу перайшлі да дзеяньня. Рэскрыпт быў састаўлены ў Рыме з пашыранымі паўнамоцтвамі; аднак гэта прывяло пры двары Пецярбурга зусім да іншага эфекту. Паколькі ён быў прадастаўлены для **Exequatur'ы**, Манархіня разглядзела ў ім дастатковую сілу, каб адкрыць жаданае паслушэнства; і загадала Біскупу, што ён павінен гэтым скарыстацца.

Біскуп адкладваў справу пад рознымі прычынамі на працягу года, бо ўвесь гэты час Прапаганда, нунцыятура і Партыя нястомна працавалі. Ім накіравалі на гэта, як кажуць, сто тысяч цэхінаў наяўнымі грошамі і ўвесь свой уплыў, які яшчэ засталаўся. Аднак гэта была ўсё роўна, што выкінуць. Двор патрабаваў; з Рыму нічога не прыходзіла, што магло б перашкодзіць паслушэнству; Біскуп не мог больш супраціўляцца; і паслушэнства было адкрыта.

На працягу гэтых падзей трэба не выпускаць з увагі дзьве рэчы. Па-першае, што езуіты ніякім чынам не садзійнічалі гэтаму. Імпэратрыца ня мела ніякага іншага стымула і не чула ніякага іншага голасу, акрамя свайго імпэратарскага сэрца. Па-другое, што Папа не напісаў ад сябе ніводнага слова дзеля асуджэньня паслушэнства ані Імпэратрыцы, ані Біскупу, ані езуітам, каб па ім адразу можна было зразумець, што ён жадае выказаць сваё меркаваньне. Калі цяпер хтосьці параўнае гэтае простае апавяданьне з тым, што ў цыркуляры, то яму ў вочы трапяць наступныя заўвагі.

## Няпраўды цыркуляра.

1. Што адкрыцьцё паслушэнства было для Рыма **нечаканным здарэньнем**. 2. Што гэтае паведамленьне прынесла Папе клопаты і непакой. 3. Што біскупскія юрысдыкцыі Беларусі, Смаленскаі Ліфляндыі былі прыроджаным правам польскіх біскупаў. 4. Што Імпэратрыца не прызнала ўладу польскіх біскупаў і перашкаджала іх дзейнасьці. 5. Што непадпарадкаваньне Манархіні дазволіць юрысдыкцыі пазначаных біскупаў, было непераадольным. 6. Што новае біскупства Беларусі было створана не ў сілу прэлімінарый, якія прадставіў кароль Польшчы, не таму што польскія біскупы адмовіліся прыняць прысягу вернасьці новай Манархіні, але толькі па патрабаваньню Імпэратрыцы. 7. Што цяперашні біскуп у Беларусі быў абраны Піям VI, а не Клеменсам XIV. 8. Што ён быў абраны супраць волю Папы. 9. Што Папа ўскладаў на біскупа Малінскага асаблівы давер. 10. Што біскуп Малінскі адчуваў некаторы неспакой адносна расейскіх езуітаў. 11. Што біскуп Малінскі выказаў незадавальненьне, што езуіты жывуць паводле інстытута сьвятога Ігнацыя. 12. Што Біскуп пахваляўся, нібыта ён адмовіў расейскія ўлады ад вырашанага адкрыцьця паслушэнства. 13. Што Папа даў Біскупу некаторыя неабдуманыя і прыкрыя інструкцыі. 14. Што Біскуп прыняў іх з задавальненьнем. 15. Што пастырскі ліст Біскупа выводзіць законнасьць паслушэнства з загада аб скасаваньні. 16. Што Біскуп праз пастырскі ліст даў каталікам вялікую спакусу. 17. Што ён адкрыта дзейнічаў супраць поглядаў Яго Сьвятасьці. 18. Што Папа калісь адкрываў Біскупу свае намеры скасаваць езуітаў. 19. Што гэтыя намеры Папы былі нязьменнымі. 20. Што гэтыя няпраўды (гэта нібыта карона над імі) падрымліваюцца характарам шчырасьці Папы. Дадайце да гэтых дваццаці няпраўд яшчэ дваццаць праўд, якія належным чынам замоўчваюцца (што

азначае тое самае, што ілгаць), то Вы атрымаеце ў адным цыркуляры сорак няпраўд, якія мы зараз выкрылі.

## Супярэчнасьці цыркуляра.

1. Папа мае прычыну, разьлічваць атрымаць шмат карыснага ад біскупа Малінскага: Папа ўскладае на яго асаблівы давер. І Папа выбірае біскупа Малінскага супраць сваёй волі. 2. Біскуп Малінскі трапіў у непакой, што ў Беларусі маюцца езуіты: біскуп Малінскі з-за недахопу дасьведчаных сьвятароў мае патрэбы ў езуітах у Беларусі. Біскуп Малінскій вельмі хацеў бы бачыць езуітаў у Беларусі скасаванымі: біскуп Малінскі хоча пакінуць свае дыяцэзы, калі ў Беларусі не будзе езуітаў. 3. Скасаваньне езуітаў у Беларусі яшчэ не было прыведзена да выкананьня. Скасаваньне езуітаў у Беларусі ўжо адбылося. Біскупу Малінскаму загадваецца, што ён павінен ажыцьцявіць у Беларусі ўжо адбыўшаеся скасаваньне. 4. Да Рыма ўжо дайшоў ціхі шэпт наконт адкрыцьця паслушэнства: біскуп Малінскі паведмаіў Рыму пра найвысшае рашэньне адкрыць паслушэнсвта. Адкрыцьцё паслушэнства было для Рыма нечаканым здарэньнем.

Інструкцыі і дабратворныя настаўленьні, якія Папа павінен быў даць Біскупу, зьяўляюцца магчыма найбольшай бязглузьдзіцай, якая толькі ёсьць у цыркуляры. Таксама да гэтага належыць вядомае прароцтва. Аднак, каб зноўку выкласьць усе гэтыя рэчы ў мяне няма цярпеньня і я не хачу злоўжваць таксама і вашым. Цяпер я падышоў да галоўнай мэты аўтара, якая складаецца ў тым, каб узьвесьці паклёп езуітаў. Я хачу дадаць у найвялікай сьцісласьці абвінавачаньне, аргумэнты і мае адказы.

## Абвінавачаньне.

### Езуіты зьяўляюцца свавольнымі.

**Першы аргумэнт**. Яны прытрымліваюцца скасаванага інстытута. **Адказ**. Свавольнымі такім чынам былі названыя хрысьціяне ў часы Юліяна адступніка[271], таму што яны прытрымліваліся адкінутага Эвангельля. Сьвятасьць інстытута была прызнаная Царквой нязьменным вердыктам; таму немагчыма яго забараніць як нешта злое; як тады таксама ва ўсім загадзе сьвятасьць інстытута застаецца некранутай. Такім чынам казаць, што людзі практыкуюць сьвятасьць гэтага інстытута, азначае абвінавачваць іх, што яны йдуць сьвятым шляхам. Мае панове антыезуіты, дазвольце ж сабе быць свавольнмі такім чынам!

**Другі аргумэнт**. Аднак яну не прыстасоўваюцца да найвысшых распараджэньняў Ватыкана. **Адк**. Гэта паклёп. Расейскія езуіты ніколі не ўстрымлівалія прымаць папскія распараджэньні. Распараджэньні папы Клеменса XIV былі накіраваныя не да езуітаў, але да біскупаў, з загадам

[271] Флавій Клаўдзій Юліян (лац. Flavius Claudius Iulianus), 331?332 — 26.06.363 — рымскі імпэратар (361-363) з дынастыі Канстаньціна. Апошні паганскі імпэратар, які за аднаўленьне паганства быў празваны хрысьціянскімі гісторыкамі Юліянам Адступніка (лац. Iulianus Apostata).

абвесьціць яго айцам. Гэтыя распараджэньні не абавязвалі паводле агульнага права і паводле відавочна выяўленай волі Папы, калі яны не будуць прынятыя ўладарамі дзяржаў і ажыцьцяўлённыя біскупамі. Дык у Беларусі гэта не адбылося; і больш за тое, два Апостальскіх дэлегата ўрачыста абвясьцілі, што гэтыя распараджэньні не закранаюць расейскіх езуітаў. Езуіты пыталіся ў Папы Пія VI яго поглядаў на гэты конт; аднак ён не хацеў пратлумачыць ім гэта сам; але праз аднаго свайго даверанага міністра ён ухваліў іх паводзіны. Паказаў бы мне хтось ва ўсёй гісторыі Царквы хаця б адзін узро падобнага падпарадкаваньня. Я лёга знаходжу добрую колькасьць кананічных сьвятых, якія відавочна выступалі супраць падобных папскіх распараджэньня, якія ім ужо былі абвешчаныя. Якім чынам тады зьяўляюцца езуіты свавольнымі?

**Трэці аргумэнт**. Клеменс XIV паўсюль скасаваў суполку Езуса. **Адк**. Аднак не праз настолькі ўсемагутную і непераадольную ўладу, каб гэта мела сваю сілу таксама і там, дзе рэгент не зьбіраецца гэтага прымаць. – Сюды падыходзіць таксама тое, што было ўжо сказана ў папярэднім адказе.

**Чацьвёрты аргумэнт**. Паслушэнства расейскіх езуітаў пазаконнае. **Адк**. Гэта невуцтва. Паколькі расейскія езуіты яшчэ не скасаваны афіцыйна, то яны валодаюць усімі парвамі, што належаць рэгулярным сьвятарам; пагэтаму яны маюцб таксама і права прымаць паслушнікаў; аднак з-за залішняй падпарадкаванасьці Папе яны не хацелі карыстацца гэтым правам: і ўсё ж ня гледзячы на гэта яны свавольныя? Біскуп, замест таго каб абвясьціць ім загад аб скасаваньні, паказаў ім Апостальскія паўнамоцтвы над усімі рэгулярнымі сьвятарамі; ён абвясьціў, што таксама і яны сапраўдныя рэгулярныя сьвятары, і пагэтаму падпадаюць пад сілу яго дэлегацыі; і загадаў ім адкрыць іх паслушэнства. З Рыму яны не атрымалі нічога, што было б супраць гэтага, па меншай меры ў кананічнай форме. Езуіты пакарыліся ва ўсім. Якім жа чынам тады яны свавольныя? Якім чынам іх паслушэнства пазаконнае?

Калі гэта так, то наколькі боль пазаконнымі былі паслушэнствы сэрвітаў, піярыстаў, братоў міласэрнасьці, французскіх рыцараў сьвятога Лазара, сьвецкіх канонікаў сьвятога Яна Эвангеліста ў Партугаліі, бегінак, мантэлатак, пад час скасаваньня іх ордэнаў! Калі расейскія езуіты свавольныя; насколькі больш свавольнымі былі сьвяты Філіп Бэніцыюс, сьвяты Ёзаф Каласанц, блаславёны Банавентура Пістойскі, блаславёны Андрэас Боргоскі, блаславёны Убальд Фларэнскі, сьвяты Перэгрын Лацыёзус, сьвятая Юліяна Фальконьерская і шаноўны Пэкадор, адны з якіх былі паслушнікамі пры падобных абставінах, а іншыя аднак патрабавалі гэтага паслушэнства. Ці ня лепш быць свавольным разам з гэтымі сьвятымі, чым падпарадкоўвацца з вядомымі людзьмі, якія заўсёды кажуць пра паслухмянасьць, аднак робяць тое, што ім спадабаецца, ці наогул забаронена?

**Пяты аргумэнт**. Паводле меркаваньня Папы езуіты не адносіліся да назвы рэгулярных сьвятароў у Апостальскім паўнамоцтве біскупа Малінскага; бо яны былі выключаныя. **Адк**. Гэта не так. Паводле меркаваньня пана Аркеці, які дамогся рэскрыпту, і пана Борджыа, які яго склаў, езуіты былі не толькі ўключаныя ў гэту назву, але магчыма былі нават адзінымі і толькі яны блі прынятыя да ўвагі; і Біскуп ведаў гэта. Якія меркаваньні меў Папа ўнутры свайго сэрца, гэтага ня ведаў ані Біскуп, ані езуіты; і былі не павінны гэта ведаць. Ва аўтэнтычным рэскрыпце езуіты не выключаныя; і паколькі ён быў створаны, то Папа добра ведаў, што расейскія езуіты не былі скасаваныя, і паколькі ён не невук, то ён ведаў таксама, што яны былі рэгулярнымі сьвятарамі; тым не менш

ён ведаў, што яны лічыць сябе такімі, і што двор, Біскуп і народ лічыць іх такімі: такім чынам, калі ён хацеў іх выключыць, то павінен быў выказаць гэта. У гэтым выпадку нельга казаць пра Біскупа і езуітаў, што яны не паслухаліся, але трэба сказаць пра Папу, што ён загадваў не паводле прававой нормы: **тлумачэньне робіцца супраць таго, хто мог бы даваць закон больш дакладна.**

**Шосты аргумэнт**. Погляды Папы былі пратлумачаныя Біскупу міністрамі; Біскуп, аднак, не кіраваўся імі. **Адк**. Міністры ў цяперашней справе зьяўляюцца ненадзейнымі сьведкамі, таму што яны зьяўляюцца ворагамі езуітаў, і таму што іх выкылі на супярэчнасьцях і відавочных падлогах. Кожны чалавек мае наспрэчнае права рабіць выключэньні супраць падобных падначаленых і ў некаторых выпадках патрабаваць непасрэднага выказваньня найвысшага галавы Царквы. На шчасьце Папа ніколі не хацей відавочна выказваць прыязь да езуітаў, таму што некаторыя ўладары гэтага не жадалі; аднак таксама і непрыязь, таму што гэтага яму не дазваляў закон Боскі і ўласны гонар. Пакуль ён выказаўся, немагчыма назваць свавольнымі ані біскупа, ані езуітаў.

Дапусьцім, што падначаленыя міністры не сфабрыкавалі папскія меркаваньні; тады паўстае пытаньн, ці маюць сілу закона гэтыя меркаваньні, якія былі праведамленыя тайна праз пісьмовае пасланьне аднаго падданага? Ці абязваюць яны ў гэтым выпадку без каралеўскай **экзэкутуры**? І ці можна было ў гэтым выпадку спадзявацца атрымаць яе? Гэта я пакіну вырашаць дварам Вены, Францыі, Гішпаніі, Неапаля, Турына, Венэцыі і Фларэнцыі. А пакуль езуіты не зьяўляюцца свавольнымі, Біскуп не зьяўляецца непаслухмяным, а паслушэнства пазаконным.

**Сёмы аргумэнт**. Расейскія езуіты існуюць толькі прах некаторую гвалтоўнасьць, якую расейская Імпэратрыца выкарыстоўвае супраць сьвятога Стальца. **Адк**. Гэта несьцярпімая дзёрзкасьць. Расейская Імпэратрыца робіць у сваіх землях не боль, чым каталіцкія ўладары ў сваім. Яна выказвае Папе пашану, якой ня маюць шматлікія каталіцкія ўладары. Згода паміж Рымам і каталіцкай Расеяй больш свабодная і непарушная, чым паміж Рымам і большасьцю каталіцкіх краін. Двор Пецярбурга, калі ён не прыняў клеменсаўскі загад, не рабіў нічога іншага, што астатнія лічуць магчымым рабіць, і што шмат хто з іх рабіў на працягу часоў. Рым здабыў ухваленьне іншых краін праз ахвяраваньне езуіцкай маёмасьці. Катарына жадае прадаць сваё за іншы кошт. Тое, што Яна не пагадзілася на такую дамову, мусіць гэта быць гвалтоўнасьцю? І з-за таго, што двор не даў сваёй згоды на гэта, езуіты мусяць быць свавольнымі?

Гэта сабраныя ў вытрымку мае адказы, якія я шырока раскрыў ва ўсім гэтым творы. Калі Вы прачытаеце яго цалкам, то Вы ўбачыце, які трыумф атрымалі б езуіты, калі б ім дазволілі абарацяцца; таму гэта цалкам зразумела, што яны будуць вылішаныя гэтага права. Вы ўбачыце, што пасьля столькі год, пасьля столькіх намаганьняў, інтрыг і выдаткаў не атрымалася ані канчаткова скасаваць езуітаў, ані паказаць, што яны заслужылі такі лёс, яні заставіць змоўкнуць лямант народаў, што скардзіліся на іх скасаваньне. Нарэшце Вы ўбачыце, што цыркуляр, каб растулмачыць які я прыклаў стараньне, як і іншыя антыезуіцкія творы, зьяўляецца відавочным доказам, што ніхто ніколі не пераканае сьвет, што езуіты, на якіх хочуць узьвесьці паклёп, зьяўляюцца вінаватымі. І ці гэта ня лепшая абарона; якую можна было б зрабіць ім? Такім чынам (і на гэтым я вяртаюся да асноўнай мэты гэтага твору, і заключаю) Такім

чынам к. дз. с. П.[272] не зьяўляецца яго стваральнікам. Бо ён вядома не зьяўляецца палкім сябрам езуітаў, каб зрабіць твор у іх абарону. Цяпер я заклінаю Вас, каб вы больш не ўвадзілі мяне ў спакусу пісаць такія доўгія лісты, і пра такія цудоўныя тэмы. Трымайце гэты ліст у таямніцы, каб ён на трапіў у рукі суда інквізыцыі; інакш я магчыма буду вымушаны, абараняць яго супраць нейкага рацыянальнага асуджэньня. Яшчэ больш мне да сэрца, каб імя аўтара засталося схаваным; і таму я не падпісваюся.

Рым, 4-е віннага месяца[273] 1780.

---

# Дадатак.

Прыведзены дагэтуль італьянскі твор не дасягае далей, чым да 1780 года. Аднак паколькі чытачу будзе цікава даведацца, што далей адбылося з езуітамі ў Беларусі, то мы хочам задаволіць гэтае жаданьне і працягнуць гісторыю да 1786 года; аднак не прыводзячы нічога акрамя таго, што мы атрымалі праз аўтэнтычныя і надзейныя паведамленьні.

Да 1779 году адносіцца таксама адзін адказ, які Яе Моц расейская Імпэратрыца перадала нунцыю ў Варшаве на яго зварот. Тое, што гэты нунцыйскі Pro Memoria да біскупа Магілёўскаша не абавязкова зьяўляецца карысным; і што ён прыкрывае ў ім непрыязь іншых двароў да езуітаў, добра высьвятляецца з даннага на гэта адказу, частку якога мы прыводзім[274]:

Par des preuves non équivoques, les sujets Catholiques Romains de l‘Imperatrice ont constaté jusqu’ ici leur fidelité, et par un attachement sincere de leurs devoirs, ils se sont acquis les droits les plus sacrés aux avantages, qui leur avoient été accordés.

L’Instruction de la Jeunesse a été de ce nombre. Abandonnée comme ci devant aux soins religieux, le Gouvernement a remarqué avec Satisfaction le Zèle, qui

---

[272] Кардынал дзяржаўны сакратар Прапаганды.

[273] Вінны месяц – старанямецкая назва кастрычніка, якая зьявілася ў VIII ст. у часы Карла Вялікага і ўказвае на пачатак вырабкі віна.

[274] Паводле неаспрэчных доказаў таго, што рымска каталіцкія суб’екты Імпэратрыцы дагэтуль выказвалі сваю вернасьць і шчырую адданасьць сваім абавязкам, яны атрымалі самыя найсьвятое права на прывілеі, якія ім былі прадастаўленыя.

Адным зь іх было выхаваньне моладзі. Вылішанае, як апісана раней, духоўнай дапамогі, ўлада з задавальненьнем адзначыла руплівасьць, якая суправаджала іх працу, і посьпех, якога яны заўсёды дасягалі. *І гэтага карыснага інстытута павінны быць вылішаныя жыхары Беларусі*? аднак яны павінны заставацца, пакуль духоўнікі будуць у стане ажыцьцяўляць сваё служэньне, ці, што па сутнасьці тое самае, *пакуль не скончыцца тэрмін іх існаваньня, прыклад іншых краін паказвае, што іх ніхто не мог замяніць*; і навошта касаваць менавіта тых, *хто сярод іншых ордэнаў прысьвяціў свае клопаты выхаваньню моладзі, а таму, агульнаму дабру?* Па гэтай прычыне, а таксама паводле прынцыпа, незалежна ад любога ўрада не адмаўляць нікому ў дамоўленасьцях, якія зьяўляюцца найкарыснымі для яго ўнутранай адміністрацыі, Імпэратрыца не можа дапусьціць іншаземнага меркаваньня наконт таго, што служыць на карысьць яе імпэрыі.

animoit leur travaux, et les Succès, qui les ont toujours couronnés. *Auroit il été juste de priver d'une Institution aussi precieuse les habitans de la Russie Blanche*? ils doivent cependant l'étre, dès que les Religieux seront mis hors d'êtat d'exercer leur ministere, ou, ce qui revient au meme, *des qu'il ne sera point pourvu à tems à la Continuation de leur existence, L'exemple des autres pays prouve, que dans aucun on n'a pu les remplacer;* et pourquoi en priver presentement ceux, *qui parmi tant d'autres Ordres ont voué leurs soint à l'education de la Jeunesse, et par consequent au bien publique?* Par ce motif et par le principe de tout gouvernement *independent, qui n'est pas responsable à personne des arrangemens, qui lui paroissent les plus convenables pour son administration interieure,* l'Imperatrice ne peut point admettre ees *Sentimens etrangers* sur ce, qui convient au bien de son Empire.

Пад датай 25 ліст. 1779 прыйшло пану нунцыю іншае пасланьне ад расейскага пасла, пана графа Штакэльберзскага, па загаду яго двара, зь якога я прывяду толькі тое, што належыць да справы[275].

Or en considerant la chose sans aucune prevention V.E. sentira aussi bien, que moi, quels avantages les Catholiques de la Russie Blanche peuvent retirer d'un établissement, qui seul peut procurer une education raisonable, et dissiper les tenebres, que la Superstition à repandûe du mal, qui en resulte pour la Religion. Le seul moyen d'y remedier efficacement, et constamment, étoit de confier l'education de la Jeunesse *à un corps pieux, éclairé, er permanent*. Par quells encouragemens, et quelles recompenses pourrions nous esperer d'attirer dans la Russie Blanche un nombre suffisant d'hommes instruits pour remplir des vûes aussi sages? Il n'y avoit, qu' une resolution, *comme celle de l'expulison des Jésuites du Midi de la Chretienneté, pour operer dans le Nord le reflux heureux de ces homes voués par état à la Culture des Sciences, et des Lettres*; ainsi les recueillir, et leur offrir une Patrie en dedommagement de celle, qui les rejette, rassembler en meme tems les membres épars de la Socitété, qui s'est trouvée chez nous, et ne perpetuer leur association, qu'à l'objet unique de l'Institution publique, comme le declare expressement ma Cour, me paroit un act de Sagesse autant, que d'humanité, et point du tout une infraction dans le Systeme hiérarchique, et spiritual de la Cour de Rome.

Тут файным чынам паказана, што ў Расеі лічыцца карысным тое, што было выкінута іншымі дварамі, як шкоднае.

Супраць пастаральнага пасланьня біскупа Магілёўскага (якое можна дззнайсьці ў §. II, на старонке 51[276]) дамініканскі манах, брат Філіп Бешэці[277],

---

[275] Аднак пры разглядзе гэтага пытаньня без папярэджаньня V.E. адчувае таксама, як і я, якія перавагі для каталікаў Беларусі могуць вынікаць з інстытута, які толькі адзіны можа забяспечыць разумнае выхаваньне, і развеяць цемру, што сутнасьць рэлігі, гэта забабоны для распаўсюджваньня зла. Адзіны спосаб дапамагчы эфектыўнасьці і нязьменнасьці, было даверыць выхаваньне моладзі *пабожнай, адукаванай і нязменнай установе*. Пры дапамозе якіх заахвочваньня і якіх узнагарод мы спадзяваліся прыцягнуць у Беларусь дастаткова адукаваных людзей, каб напоўніцца якасьцю мудрасьці? Таму была рэзалюцыя, *паводле якой езуіты выгнаныя на поўдні хрысьціянскага сьвету могуць працаваць на поўначы, шчасьліва атрымаўшы назад свае дамы прысьвечаныя культуры навукі і літаратуры*; і сабраць іх, і прапанаваць ім Айчыну і рэстытуцыю таго, што была аднята, і ў той жа час сабраць раскіданых чальцоў Суполкі, якія знаходзяцца ў нас, і пацьвердзіць іх існаваньня ў якасьці аб'екта адзінага дзяржаўнага інстытута, што, як адмыслова пазначана маім дваром, здаецца мне актам мудрасьці і гуманізма, а зусім не злачынствам супраць іерархічнай і духоўнай сыстэмы Рымскага двара.

[276] 23-я старонка перакладу.

[277] Філіп Анжэлус Бешэці (іт. Philipp Angelus Becchetti), 09.01.1742 — 27.08.1814 — дамініканскі манах, з жніўня 1800 біскуп горада Пьевэ.

адразу напісаў у Рыме твор пад назвай[278]: Dubbj proposti in Roma a Teologi e Canonisti sulle facoltà e confessioni Apostoliche accordate al Prelato Visitatore della Russia Bianca, e sull‘ uso da lui fattone quando a‘ Chierici della sopressa Compagnia di Gesù, con parecchie osservazioni Canoniche fatte ad illustrare convenientemente un si grave ed interessante argomento. Ён намагаецца паказаць, што Біскуп, як і езуіты ў Беларусі, былі схізматыкамі. Аднак гэты няўдалы твор быў падаўлены нават ворагамі суполкі, і абудзіў такую прыкрасьць, што адразу зьявілася падвойнае абгрунтаванае абвяржэньне: Dubia et interrogata &c[279] дзе неаспрэчна прыводзіцца з Царкоўнай гісторыі, што шматлікія духоўныя ордэны хаця й былі афіцыйна скасаваныя Папай і агульным Царкоўным сходам, аднак у некаторых краінах, дзе загад аб скасаваньні ані быў прыняты, ані выкананы, ані атрыманы, нават пасьля гэтага атрымлівалі ад наступных Папаў пацьвярджэньня сваіх інстытутаў.

У 1780м годзе адбылася дамоўленая сустрэча дзьвух Вялікасьцей, рымскаша Імпэратара і Царыцы. У Полацку Імпэратрыца паказвала сябе вельмі міласьцівай да езуітаў. Тагачасны віцэ-правінцыял, (потым генэрал-вікар С.Е.) а. Станіслаў Сестранчцэвіч, 31-га траўня перадаў Ёй, пасьля кароткага, але мэтазгоднага звароту да Яе Моцы, напісаны да канца верш, пад назовам: Augustissimæ Catharinæ II, totius Russiæ Imperatrici, Turcarum Triumphatrici, Regnorum Pacatrici, publicæ felicitatis Propagatrici, Societatis IESV Servatrici Clementissimæ, cum Albæ Russiæ oras inviseret, ab iisdem Religiosis Sociis, Imperatoriæ Majestati subditis ejsque præsidio tutis, Carmen oblatum[280]. Затым граф Чэрнішоў[281] прадставіў Яе Моцы езуіцкіх паслушнікаў; пасьля чаго ўсе накіраваліся ў езуіцкі касьцёл, каб прысутнічаць там на Te Deum[282]; калі ён скончыўся Яе імпэратарс. Моц наведала трапезную калегіюма; калі Яна ўбачыла яго ўпрыгожаным, Яна сказала: Je doute que les repas de mes Peres soient aussi magnifiques que leur Réfectoire[283]. Езуітам было прыемна, што Манархіня мела ласку выказаць сваю найлітасьцівую задаволенасьць іх паводзінамі і ўсталяванымі імі прыгожымі ілюмінацыямі іх будынку і надпісамі на 4 пірамідах, якія дасягалі вышыні іх касьцёла. – Яны таксама мелі шчасьце, 4-га чэрвеня ў Магілёве быць пашанаванымі прыстунасьцю прыбыўшага пад імем графа фон Фалькенштайна Імпэратара. Яго Моц даволі доўга гутарыла з біскупам Магілёўскім пра езуітаў. Пасьля таго, як той адкрыў Імпэратару ўсе абставіны і прычыны, чаму езуіты яшчэ знаходзяцца ў сваім старым стане, Імпэратар сказаў: Вы зрабілі добра, інакш Вы не маглі і не павінны былі рабіць. – 9-га чэрвеня Імпэратар зноўку наведаў езуіцкі касьцёл у Магілёве, каб паслухаць імшу, пасьля заканчэньня якой ён зноўку пагутарыў з езуітамі,

[278] "Сумневы, прапанаваныя ў Рыме тэолагамі і кананіствамі Апостальскага факультэта і канцэсіі адносна прэлата візытатара ў Беларусі: і яго карыстаньня клерыкамі са скасаванай Суполкі Езуса: з некалькімі кананічнымі каментарамі, зробленымі, каб зручна адлюстраваць гэтую сур'ёзную і цікавую тэму.

[279] "Сумневы і пытаньні і г.д."

[280] Аўгусьцейшай Катарыне II, Імпэратрыцы Рускай, Пераможніцы Турак, Мірнай Уладарыцы, Распаўсюдніцы народнага шчасьця, Літасьцівай Ахоўніцы Суполкі ЕЗУСА, якая наведала край Беларускі і яго рэлігійную суполку, Імпэратарскай Моцы, што трымае сваіх падданых пад аховай, прапануем верш.

[281] Чэрнішоў Захар Рыгоравіч, 18.03.1722 — 29.08.1784 — граф, расейскі выенны дзеяч, генэрал-фельдмаршал. У 1775-1781 першы намесьнік Полацкай і Магілёўскай губэрній.

[282] Te Deum (лац. Te Deum laudamus — «Цябе, Бога, славім») — хрысьціянскі гімн. Паводле паданьня, напісаны напрыканцы IV ст. Амвросіем Медыяланскім.

[283] Я сумняюся, што ежа маіх айцоў настолькі прыгожая, як іх трапезная.

сказаўшы ім аднак перад тым, як пайсьці далей, наступнае: Precor faustiora, et, ut auguror, meliora[284].

Напрыканцы 1780 года Царыца праз накіраваны да Папы ліст запытала для біскупа Магілёўскага паліюм і пасаду арцыбіскупа; як таксама і тое, што яму трэба даць коад'ютарам таго, каго Яна прызначыць на гэта. Гэты запыт, які быў паўтораны таксама яшчэ ў наступным годзе, мусіць не цярпець нават драбнейшай перашкоды з боку нунцыятуры, якая бачыцца з настойлівага пасьланьня Царыцы, што было выдана графу Штакельбэргу, у сілу чаго ён мусіў паведаміць нунцыю незадаволенасьць Яе Моцы наконт запаволенай згоды на тое, што Яна запыталася ў Папы, і паказаць, што падобная запаволенасьць больш не будзе разглядацца з абыякавасьцю. Такім чынам Яна сутыкнецца з неабходнасьцю вылішыць рымскую Царкву той аховы, якой яна мела дагэтуль асалоду карыстацца ў Яе Імпэрыі: у рэшце рэшт трэба дадаць, што ніякія звароты ці хадайніцтва, ад каго б яны не паступалі, не адхілілі б Яе ад гэтага рашэньня. – У наступстве высьвятлілася, што прапанаваны коад'ютар пан Станіслаў Беніслаўскі зьяўляецца былым езуітам, і акрамя таго пастарам у Дюнабурзе і канонікам у Полацку.

1782 год быў для езуітаў асабліва спрыяльным. Паколькі яны былі запэўненыя, што двор жадае захаваць іх нязьменнымі ў іх стане і інстытуце, то яны з поўным спакоем чакалі будучыні. Нечакана губэрнатар Беларусі прыбыў у калегіюм Полацка 31-га ліпеня, у сьвяточны дзень сьвятога Ігнаця, з апавяшчэньнем, Яе імпэратарская Моц патрабавала, каб дзеля атрыманьня далейшага існаваньня Ордэна прыступілі да выбараў галавы, які, пакуль у Рыме няма ніякага штатнага гэнерала, павінен насіць званьне і ўладу віцэ-гэнерала, з паўнамоцтвамі прызначаць правінцыялаў, рэктараў і іншых кіраўнікоў. – Да таго і да новых выбараў а. Станіслаў Сестранцэвіч быў толькі віцэ-правінцыялам.

2-га жніўня губэрнатар паслаў складзены на латыні дэкрэт двара з нагоды пазначаных выбараў у вышэйпазначаны калегіюм, дзе гэта ў перакладзе на польскую павінна было быць зачытана ўсім тамашнім езуітам, у ліку 66-і, і потым абвешчана па ўсёй Беларусі. У гэтым дэкрэце Царыца паведамляе, што хаця Яна й жадае, каб езуіты мусілі выказваць арцыбіскупу, як духоўнаму пастыру, належнае падпарадкаваньне, аднак Яна адначасова таксама загадвае, каб іх канстытуцыі ўсё такі заставаліся ў сваёй сутнасьці, што іх нельга было ані крыху парушыць. – Беніслаўскі потым даведваўся ў С. Пецярбурзе пры двары, ці езуіты былі таксама ўключаныя ў Імпэратарскі дэкрэт, у сілу якога (як ён лічыў) усе ордэнскія структуры павінны падпарадкоўвацца арцыбіскупу, аналягічна тым, што ў нямецкіх спадчынных землях Аўстрыі? Аднак ён атрымаў у адказ, што Яе Імпэратарс. Моц выключыла адтуль адных толькі езуітаў.

Такім чынам, днём выбараў гэнерала была прызначанае 17-е кастрычніка, як актава[285] сьвята сьв. Францыска дэ Борджыя, былога трэцяга гэнерала Суполкі Езуса. Пасьля таго, як а. Віцэ-правінцыял атрымаў ад арцыбіскупа Магілёўскага, як папскага ўпаўнаважанага над усімі ордэнскімі структурамі свайго біскупства, блаславеньне і неабходныя паўнамоцтвы для маючых адбыцца выбараў, у прызначаны дзень прыступілі да іх. Праз аднадушнае

[284] Зычу спрыяльнага, і, мяркую, лепшага.

[285] Актава (літургіка) – у хрысьціянскім календару, восьмы дзень пасьля сьвята.

галасаваньне сабраных у ліку 31 прафэсаў, на пасаду віцэ-гэнерала быў абраны айцец Станіслаў Сестранчэвіч. На наступны пасьля таго дзень ён прызначыў правінцыялам а. Франца Карэ[286], а сакратаром а. Люпія. – Праз некалькі гадзін пасьля адбыўшыхся выбараў, у Полацк прыбыў князь Пацёмкін і выказаў сваё задавальненьне наконт гэтага выбару, тым больш паколькі ён добра ведаў, што а. Сестранцэвіч зьяўляецца адной з прыемных Царыцы асоб. Князь Пацёмкін дадаў, што таксама трэба прыняць да ўвагі, заснаваць езуітам у нейкім выбітным горадзе прафэсіённы дом, і запэўніў айцоў у сваёй непахіснай волі, дапамагаць ім у кожным выпадку.

У гэтым 1782-м годзе падчас сьвята сьв. Ігнацыя Тэнорыё дэ Карваяля у паслушэнства быў прыцянты, ужо ў 30-і гадовым узросьце, адзін высакародны ураджэнец Амерыкі з Папаяна[287], які, калі езуіты яшчэ былі ў Амерыцы, вырайшыў уступіць у іх суполку. Пасьля таго, як ён даведаўся, што гэты Ордэн усё яшчэ існуе ў Расеі, ён пайшоў за ўсё яшчэ нязгаслым у ім клічам, пераплыў цераз вялікае мора і прыбыў праз Лісабо і Данцыг у Польшчу. Сярод яго сапаслушнікаў ён быў ідэяльным узорам, аднак пасьля таго зрабіўся настолькі хворым, што ўсе сумняваліся ў яго акрыяньні.

У 1783 годзе у Дюнабурзе быў заснаваны дом, названы езуітамі Domus tertiæ probationis, у якім яны на працягу года павінны былі рыхтавацца да наступнага прафэсіёна.

Напрыканцы 1782 году пан Станіслаў Беніслаўскі ў якасьці дэлегата ад С. Пецярбурга адпраівўся ў Рым. На падарожныя выдаткі ён атрымаў 6000 рублёў; яму былі пакінутыя іншыя 15000 рублёў, якія ён па сваім вяртаньні павінен быў скарыстаць на заснаваньне біскупскага палацу і рэзыдэнцыі. Беніслаўскі меў загад ад сваёй Манархіні патрабаваць у Рыме тры рэчы; а менавіта для біскупа Магілёўскага паліюм і прызнаньне пасады арцыбіскупа; акрамя таго, каб ён, пасол, быў прызначаны коад'ютарам Біскупа; і трэцяе, каб Суполка была зацьверджаная ў яе ранейшым стане. На развітальнай аўдыенцыі Царыца сказал яму: “Памятайце, што я даверыла вам найважныя справы Маёй Імпэры”. Аркамя таго Яна загадала яму, калі Папа будзе нязгодны хаця б толькі па аднаму пункту яе патрабаваньняў, то ён павінен адразу пакінуць Рым.

У лютым 1783 Беніслаўскі прыбыў у Вену, адтуль Яго Імп. Моц загадьдзя выдаў распараджэньне кардыналу Гэрцану[288], так прыняць Беніслаўскага пры яго прыбыцьці ў Рым, як таго заслугоўвае міністар яго вялікай саюзніцы, Імпэратрыцы Расейскай. Калі гэты пасол 1-га сакавіка прыбыў у Рым, ён адразу перадаў свае прывезеныя даверчыя граматы расейска-імпэратарскаму агэнту Сантыні, праз якога яны на наступны дзень былі прадстаўленыя Яго Сьвятасьці, які праз пазначанага пана Сантыні прызначыў паслу для аўдыенцыі наступны дзень, у які таксама пан Беніслаўскі быў дастаўлены пазначаным агэнтам, ласкава прыняты Яго Сьвятасьцю і выслуханы на працягу дзьвух гадзін. Пасьля скончанай аўдыенцыі пасол зрабіў у супраываджэньні агэнта візыт да кардынала дзяржаўнага сакратара Палавічыні, што аднак здавалася вельмі дзіўным, бо пасол ужо меў аўдыенцыю ў Папы. – Зьяўленьне расейскага пасла ў Рыме зрабіла там вялікае абуджэньне сярод антыезуіцкай партыі. Зьвязаныя зь імі

[286] Францішак Ксаверы Карэі (пол. Franciszek Ksawery Karü), 10.12.1731 — 11.08.1802 — генэральны вікар у Расеі (1799-1801) і гэнерал (1801-1802) Суполкі Езуса. Нарадзіўся ў Воршы ў сям'і выхадцаў з Англіі.

[287] Папаян, ці Папайян (Popayan) – горад у Калумбіі, цэнтр дэпартамента Кавука.

[288] Францішак фон Паула Гэрцан з Гарасава (ням. Franziskus von Paula Herzan von Harras), 05.04.1735 — 01.06.1804 — кардынал каталіцкай Царквы.

газетчыкі мусілі адразу ж разнесьці па сьвету (і нашыя нямецкія газетчыкі пасьледвалі за імі), Беніслаўскі не зьяўляецца Імпэратарскім паслом, але толькі прадстаўніком біскупа Магілёўскага; ён мае слабую рэпутацыю ў Рыме; напрыканцы, кажуць яны, Папа дазволіў яму аўдыенцыю на некалькі хьвілін; Папа даў яму разумець, што ён цяпер можа пакінуць Рым. Як! чаму ж вядомая купка людзей так жудасна намагаецца зьнішчыць усё, што магло б быць на карысьць езуітам, і пры том з настолькі відавочнымі няпраўдамі?

На самой справе ўсё было зусім інакш. Беніслаўскі ў суправаджэньні пазначанага агента наведаў кіраўнікоў Кангрэгацыі Прапаганды, рымска-імпэратарскага пасла, кардынала Гэрцана, і Каралеўскага Французскага пасла кардынала Бэрні[289], ад якіх ён таксама атрымаў візыты ў адказ, якія ён ніколі б не атрымаў з боку гэтых высакародных асобаў, калі б ён быў толькі пасрэднікам біскупа Магілёўскага, паколькі падобныя высокія паслы добра ведаюць свае абавязкі і выконваюць іх, як таксама і свае асноўныя point d'honneur[290], з асаблівай далікатнасьцю. Пасьля першай аўдыенцыі Беніслаўскі быў шмат разоў, і кожны раз вельмі істотны час, у перамовах з Яго Сьвятасьцю. Ён атрымаў у Рыме ўсё, чаго яму было загадана яго дваром дамагацца. Вядома, што Папа самаго Беніслаўскага хацеў зрабіць біскупам у Рыме, як тады ж ад Яе Моцы, Царыцы, прышоў пісьмовы зварот да Папы, у якім яна агаворвала, што хацела б прысьвяціць коад'ютара на біскупства ў Пецярбурзе: адначасова хадайнічала Папе даслаць нунцыя ў Пецярбург.

Беніслаўскі пакінуў Рым і вярнуўся ў С. Пецярбург, дзе Імпэратрыца аказала яму шмат прыхільнасьцей, і сярод іншага выказалася пра яго такім чынам: “Вы павінны блі шмат пацярпець з-за езуітаў; аднак гэта мусіць быць вялікім унёскам” (асабліва праз Гандарэнзійскае біскупства). Таксама ў С. Пецярбург прыбыў польскі нунцый Аркеці, які надзеў паліюм на біскупа Магілёўскага, і прадставіў яго ў якасьці арцыбіскупа над цсімі каталікамі ў Расейскіх землях. – – Ня гледзячы на тое, што нунцыю аднак было загадана Рымам: Iesuitas ne tangas[291], ён павінен не закранаць нічога, што мае дачыненьне да езуітаў; ён не мог усё ж такі стрымацца пры Імпэратрыцы не накіраваць свой зварот на езуітаў; аднак ён мусіў пачуць у адказ: “магчыма пан пасол не атрымаў ніякага даручэньня на гэты конт”.

Іншы раз ён размаўляў з унтэр-канцлерам, ці можна і якім чынам падвесьці Імпэратрыцу хаця б да таго, каб езуіты толькі зьмянілі сваю вопратку (як адбылося ў Прусіі); у адказ ён атрымаў аднак, што не дазволена нават толькі думаць пра падобнае прадпрыемства.

Так нунцый быў ушанаваны ў Пецярбурзе пад час свайго першага візыту, і такім агідным зрабіў ён сябе напрыканцы 1783 года праз наступнае. 18-е кастрычніка было абранае для асьвянчэньня новага каталіцкага касьцёлу ў С. Пецярбурзе, якое нунцый зрабіў толькі 4-га сьнежня; на наступны дзень ён павінен быў надзець паліюм біскупу Магілёўскаму; аднак ён запратабаваў ад Біскупа, што той павінен дадаць да тэксту прысягі: Schismaticos omni ope persequar: “Я хачу перасьледваць схізматыкаў з усімі сіламі”. Біскуп больш сьціпла, чым легат, адмовіўся рабіць гэта, таму што гэтага не дазвалялі ані сучасныя абставіны, ані таксама любой да бліжняга; на што нунцый сказаў

---

[289] Франсуа Яўхім П'ер дэ Бэрні (фр. François-Joachim de Pierre, Kardinal de Bernis), 22.05.1715 — 03.11.1794 — кардынал і міністар Людовіка XV, палітык і паэт.

[290] Пытаньні гонару

[291] Езуітаў не кранаць

Біскупу: Si non vis, ego tibi pallium non dabo; “Калі ты адмаўляешся ад гэтага, я не дам табе паліюм”. Гэта абудзіла вялікі гоман сярод народу, і вялікае абуджэньне сярод эліты. Справа была пасьпешліва дакладзеная ў Рым, адкуль прыйшоў загад, прыступіць да перарванай урачыстасьці апусьціўшы той сказ. Такім чынам 10-га студзеня 1784 года новый арцыбіскуп быў упрыгожаны паліюмам, таксама пасьля таго 8-га лютага Беніслаўскі быў прысьвечаны біскупам і адначасова абвешчаны коад’ютарам арцыбіскупа Магілёўскага. Гэтая прысьвячэньне на біскупства было зроблена з усёй урачыстасьцю. Пры гэтым прысутнічалі паслы Вены, Неапаля, Польшчы, Сардыніі як таксама рэзідэнты Гішпаніі і Партугаліі. Багатая царкоўная вопратка як для прысьвячаемага, так жа сама і для новга біскупа, была дастаўленая канцлеркаў Польшчы, Барховай[292]. Пасьля адбыўшагася прысьвячэньня князь Пацёмкін узяў біскупа Беніслаўскага з сабой у Маскву, і адтуль ён павінен быў таксама зрабіць падарожжа ў Хэрсон.

Новы арцыбіскуп не жадаў больш карыстацца духоўнікамі, якія звычайна накіроўваліся Прапагандай з Рыму на патрэбу каталікоў ў Рызе, С. Пецярбурзе і ў іншых месцах, але ён заняў гэтыя пасады іншымі сьвятарамі, якія былі падпарадкаваныя непасрэдна яму і яго дыяцэзу, чым адразу быў здабыты надзейны спакой для езуітаў. Бо вядома, што езуіцкія місыі не толькі шмат разоў сустракаліся з непрыязьзю з боку Прапаганды, асабліва ў апошнія часы, калі кардынал Пасіёнэ[293] быў заўзятым панам супраць езуітаў; і нарэшце, калі найгоршы вораг езуітаў, кардынал Марэфошы, якраз кіраваў прэзідыюмам Кангрэгацыі па Прапагандзе, і таксама пан Борджыя, сакратар Прапаганды, з падтрымкай эліты жорстка перасьледвалі езуітаў.

У 1784 годзе па патрабаваньню двара езуіцкі правінцыял з некаторымі сваімі спадарожнікамі езьдзў у С. Пецярбург па пытаньню сярэдніх школ, дзе ён заставаўся на працягу месяца. Калі ён там наведаў шаноўнага сьляпца пана Ойлера[294], той вельмі абрадваўся гэтаму візыту, абняў езуітаў і сказаў ім: “калі я ўжо не магу бачыць **нашых айцоў**, то для мяне ўсё ж вялікая радасьць мець магчымасьць дакрануцца да іх.”

У 1784 г. князь Чэрнішоў, вялікі ваенны і дзяржаўны дзеяч, памёр ад няшчаснага выпадку з перагарнуўшайся карэтай. Ён быў адным з магутнейшых езуіцкіх патронаў, хаця ён ужо быў падданы не уніяцкай грэцкай веры. Ён заснаваў у сваім маёнтку Чэчэнск, ва Мсьціслаўскім раёне, рэзыдэнцыю для езуітаў, а дакладней невялікую кватэру для некаторых чальцоў гэтага ордэна, якую ён пашырыў з цягам часу да калегіюма і навучальнай установы. Незадоўга перад сваёй сьмерцю ён загадаў, пабудаваць у адной зь яго гаспадарак новы каталіцкі касьцёл, які ўжо павінен быць скончаны. Яму належыць ганаровае імя айца бедных. Калі ён спыняўся на адной з сваіх гаспадарак, ён штодня

[292] Верагодна маецца на ўвазе жонка Яна Андрэя Борха, вялікага кароннага канцлера Рэчы Паспалітай.

[293] Даменіка Сільвія Пасіёнэ (Domenico Silvio Passionei), 02.12.1682 — 05.07.1761 — кардынал і бібліятэкар.

[294] Леанард Ойлер (ням. Leonhard Euler), 15.04.1707 — 18.09.1783 — швайцарскі, нямецкі і расейскі матэматык, які ўнёс значны ўклад у разьвіцьцё матэматыкі, а таксама фізыкі, мэханікі, астраноміі і шэрагу прыкладных навук. Ойлер — аўтар больш за 800 работаў па матэматычнаму аналізу, дыфэрэнцыйнай геамэтрыі, тэорыі лічбаў, набліжаным вылічэньням, нябёснай мэханіцы, матэматычнай фізыцы, оптыцы, балістыцы, караблебудаваньню, тэорыі музыкі і інш. Амаль паўжыцьця правёў у Расеі, дзе ўнёс істотны ўклад у станаўленьне расейскай навукі. У 1726 годзе ён быў запрошаны працаваць у С. Пецярбург, куды пераехаў годам пазьней. З 1731 па 1741, а таксама з 1766 году быў акадэмікам Пецярбурскай Акадэміі Навук (у 1741—1766 гадах працаваў у Бэрліне, застаючыся адначасова ганаровым чальцом Пецярбурскай акадэміі). Добра ведаў расейскую мову і частку сваіх сачыненьняў (асабліва падручнікі) публікаваў на расейскай. Першыя расейскія акадэмікі-матэматыкі і астраномы былі вучнямі Ойлера.

накіроўваўся зранку на вуліцы і пытаўся ў мінакоў, ці яны не маюць якой недастачы, бо ён тады адразу працягваў руку дапамогі маючым патрэбу.

Таксама езуіты карысталіся асаблівай прыхільнасьцю князя Пацёмкіна, які таксама мае славу вернага, дасьведчанага і пры гэтым пабожнага хрысьціянскага міністра. Ён не дазваляў у сваім палацы ніякіх іншых карцін, акрамя толькі тых, што вядуць да дабра, ці багабаязьні, аднак усё ж такі маюць вялікую каштоўнасьць.

Адразу пасьля сьмерці князя Чэрнішова зьявіліся людзі, якія пастараліся прымяніць супраць езуітаў ўжо прывычны на працягу 200 год мэтад перасьледу, а дакладна, распаўсюджваць супраць іх паклёпніцкія творы. Гэта адбылося праз надрукаваныя ў Маскве публічныя газэты, у якіх пачалі разносіць сярод народу кароткую, напоўненую грубейшай хлусьнёй гісторыю езуіцкага ордэна. Гэтая нягоднасьць данак была адразу прыдушаная дваром, і нават усе надрукаваныя экзэмпляры павінны былі быць сабраныя назад у Маскву, а потым дасланыя ў С. Пецярбург.

Арцыбіскупу Магілёўскаму нядаўна былі адноўленыя атрыманыя ім некалькі год таму з Рыму паўнамоцтвы над усімі сьвятарамі, зь якіх зноўку выключана Суполка Езуса, якая цалкам павінна была настойваць на яе першым выключэньні. Нямецкія газэты неўзабаве распаўсюдзілі зусім адваротнае гатаму, аднак памылкова.

Пасьля таго, як папскі легат дастаткова доўга заставаўся ў Расеі, ён напісаў у Рым шмат ухваленьняў пра езуітаў; ён паведаміў, што ён цяпер сам паглядзеў на абставіны Суполкі, і з гэтага часу пераканаўся ў карысьці іх захаваньня. У гэтую зьмену настрою зрабіў вялікі ўнёсак князь Пацёмкін, які растлумачыў яму становішча каталіцкай веры ў Расеі. Яе Моц Імпэратрыца, цяпер лепш задаволеная Аркеці, параіла яго Папе на хуткае атрыманьне кардынальскага капялюша, які яму таксама быў прадастаўлены; пасьля чаго расейскі пасол пры Турынскам двары, князь Юсупаў, накіраваўся ў Рым, каб ад імя сваёй Манархіні выказаць падзяку Папе наконт гэтай аказаннай Ёй паслужлівасьці.

У 1785 годзе губэрнатар Беларусі атрымаў ад Яе Моцы загад праінфармаваць віцэ-генэрала езуітаў, што ён павінен адразу паслаць у Пецярбург 2 ці 3 слушных людзей. Мэта гэтага падарожжа была не яшчэ вядомай нават у Беларусі. Яны адразу адправіліся ў падарожжа і 12 траўня пасьля цяжкай 636 вёрстнай дарогі прыбылі ў С. Пецярбург. Туды былі адпраўленыя 2 немцы і італьянец.

18-га ліпеня 1785 у Стайках, адной вёсцы, што належыла да езуіцкага калегіюма Полацку, пасьля двухдзённай хваробы памёр гэнерал-вікар а. Станіслаў Чарневіч, які быў у вялікай пашане як дзякуючы сваёй дабрачыннасьці і пабожнасьці, так сама і дзякуючы сваёй вучонасьці. Ён нарадзіўся 15 жніўня 1728 і 16 жніўня 1743 ў Вільні ўступіў у Ордэн. У тыя часы ён быў пасланы ад сваёй правінцыі ў Рым, дзе ён пры апошнім рымскім гэнерале Рычы кіраваў канцэлярыяй аднаго субстытута, а пасьля гэнеральнай пракуратурай польскай асістэнцыі. Калі ён у 1770 годзе вярнуўся ў сваю правінцыю, ён быў прызначаны рэктарам калегіюма ў Полацку. Паколькі пры абвяшчэньні Ганганэльскага загаду правінцыял Мазовіі знаходзіўся ў Варшаве, ён прызначыў яго віцэ-правінцыялам Беларусі.

Калі ў 1772 г. дамы Суполкі ў Беларусі перайшлі пад расейскае панаваньне, хаця ўсе сьвятары, што знаходзіліся на гэтай тэрыторыі, былі спалоханыя, аднак больш за ўсіх былі спалоханыя езуіты, таму што выявіўсямандат Пятра Вялікага, у сілу якога ніякаму езуіту не было дазволена наведвацца ў расейскія землі. Сэнат Пецярбурга таксама прадставіў Імпрэратрыцы гэты самы мандат; аднак слаўная Манархіня адказала: Улада, якую меў Пётр, каб выдаць падобны мандат, такую саму ўладу маю і я, каю яго скасаваць: езуіты павінны застацца. У наступным 1773 годзе, калі чуткі аб скасаванай суполцыі загучалі сярод езуітаў Беларусі, яны трапілі ў жах; бо, паколькі таксама яны павінны былі быць скасаванымі, іх і без таго ўжо скараціўшыеся маёмасьці будуць няздольныя даць ім дастатковай пенсыі. У гэтым жаху і смутку галоўнакамандуючы Беларусі пан Кречэтнікаў[295] выклікаў да сябе а. Чарневіча і абвясьціў яму загад свайго двара, езуіты павінны працягваць існаваць пры сваім інстытуце; Імпэратрыца забараніла абвяшчэньне загада ад скасаваньні на яе землях. Паколькі аднак антыезуіцкі Рым праз нунцыятуру ў Варшаве падымаў навальніцу за навальніцай супраць гэтых невілікіх рэшткаў Суполкі, і нават самі езуіты спалохаліся таго, што іх бачаць і абвяшчаюць непаслухмянымі да папскага Стальца людзьмі; то віцэ-правінцыял а. Чарневіч уласна накіраваўся ў Пецярбург і хадайнічаў ў пераданым да князя Чернышова пасланьні аб тым, каб ім было дазволена зачытаць Загад. Чэрнішоў, зьдзіўлены гэтым нечаканым хадайніцтвам, адказаў, што віцэ-правінцыял павінен хутчэй дамагацца чаго заўгодна, толькі не гэтага. Яму далі паняць, спакойна вяртацца назад і толькі тады выказваць падпарадкаванасьць Загаду, калі ён будзе ім абвешчаны. Па прашэсьці часу езуіты пазбавіліся сваіх жахаў. Падчас чытаньня і паўтарэньня Загаду а. Чарневіч са сваімі знайшоў, што яны могуць з чыстым сумленьнем працягваць кіравацца сваім інстытутам. З Царкоўнай гісторыі ён убачыў некаторыя іншыя выпадкі, калі нават сьвятыя мужы лічылі добрым, не падпарадкоўвацца сьлепа адразу папскім загадам. Ён ведаў, што сьв. Філіп Беніцы, распаўсюднік сэрвітаў, працівіўся Інакенцію пятаму, які хацеў скасаваць яго інстытут. Ды нават калі гэты Папа загадаў яму, паводле аўтарэтытэту ліёнскага Кансіліюма разглядаць Ордэн у якасьці скасаванага, ён усё ж працівіўся гэтаму пакуль жыў Інакенці V.

У прыватнасьці а. Чарневіч знайшоў падобны выпадак з ордэнам міласэрных братоў, якія хаця ўжо і былі закранутыя на ст. 41[296], аднак тут бачыцца добрым паведаміць яшчэ больш. Фундатарам гэтага ордэна зьяўляецца Ян de Deo[297]. Спачатку Ордэн быў пацьверджаны Піям V у 1572, Рыгорам XIII у 1576 і памілаваны Сykстам V[298] у 1586, у 1591 асабліва ўхвалены і прывеліяваны Рыгорам XIV[299]; у наступным годзе аднак скасаваны Клеменсам VIII, і ў 1596 гэтае скасаваньне яшчэ раз было паўторанае тым самым Папай у яшчэ больш жорсткай форме. Ня гледзячы на гэта ніводны з тых дзьвух зашадаў аб скасаваньні не быў прыняты ў Гішпаніі, таму першы генэрал

[295] Граф Міхаіл Нікіціч Кречэтнікаў, 1729 — 09.05.1793 — генэрал-аншэф кацярынінскага часу, якому было даручана ўіраваньне землялі, далучанымі да Расейскай імпэрыі падчас I і II Падзелаў Рэчы Паспалітай.

[296] 19-я сторонка перакалада.

[297] Сьвяты Ян Божы (ням. Johann de Deo), сапраўднае імя Ян Сідадэ Дуартэ (ням. Johann Cidade Duarte), 8.03.1495 — 08.03.1550 — каталічкі сьвяты, фундатар абшчыны, якая потым ператварылася ў кангрэгацыю боніфратаў, “міласэрных братоў”.

[298] Сыкст V (Sixtus PP. V), сьвецкае імя: Фелічэ Перэці ды Монтальта (іт. Felice Peretti di Montalto) 13.12.1521 – 27.07.1590 — папа рымскі з 24.04.1585 па 27.07.1590 г.

[299] Рыгор XIV (Gregorius PP. XIV), сьвецкае імя: Нікола Сфрандраці (іт. Niccolo Sfrondrati) 11.02.1536 – 15.10.1591 — папа рымскі з 05.12.1590 па 15.10.1591 г.

гэтага ордэна Ян Пэкадор тады абсалютна спакойна працягваў кіраваць гэтым ордэнам у Гішпаніі, пакуль не памёр у арэоле сьвятасьці ў 1600. Сёньня ў Рыме працуюць над яго далучэньнем да ліку сьвятых. У 1611 папе Паўла V[300] праінфармавалі, што гэты ордэн усё яшчэ існуе ў Гішпаніі: аднак ён не хацеў з гэтай нагоды ані экскамуніцыраваць чальцоў гэтага ордэна, ані абвяшчаць іх непаслухмянымі, таксама як і прызнаваць гішпанскіх бускупаў цьвёрдахрыбетнымі ці схізматычнымі, таму што яны не падпарадкаваліся абодвум загадам яго папярэдніка; але ён ухваліў Ордэн значна больш за яго карысную службу, пацьвярдзіў яго для Гішпаніі, і ў 1617 пашырыў гэтае пацьверджаньне на ўвесь сьвет ***)**. У 1730, падчас распачатага ў Рыме працэса далучэньня да ліку сьвятых шаноўнага Яна Пэкадора ён быў названы ордэнскім сьвятаром свайго Ордэна; і што яшчэ больш, сам Клеменс XIV у 1774 годзе прызнаў гэтага дабрачыннага ў гераічнай ступені.

У нябожчыка генэрала Чарневіча яго падданыя асабліва ўсхвалялі яго вялікае спадзяваньне на Бога, якому аднаму ён удзячна прыпісваў нават захаваньне Суполкі. Амаль восем разоў, казаў ён, гэтая суполачка была блізкая да падзеньня, і восем разоў яна была цудоўным чынам выратаваная. Іншым разам ён запэўніваў Сваіх, асабліва тых, якія далучыліся да яго як чужакі, што іх Суполка там захавалася ўсё ж не праз звычайныя чалавечыя сродкі, але што гэта сапраўды зьяўляецца дзеяй Божай. Яго скон выклікаў у яго людзей вялікі жаль, таму што ён з асаблівай айцоўскай любоўю клапаціўся пра ўсіх і кожнага з яго Ордэна.

Біскуп Беніслаўскі адразу паведаміў пра сон гэнерал-вікара князю Пацёмкіну, які даў паведамленьне аб гэтым Імпэратрыцы. Пасьля чаго выйшаў загад да арцыбіскупа Магілёўскага і да сэната, зрабіць усё магчымае для выбараў і праінфармаваць аб выбары праз кур'ера.

Нябожчык гэнерал яшчэ пры жыцьці, як таго патрабуюць прадпісаньні інстытута, прызначыў у запячатаным лісьце вікара, які пасьля яго сьмерці да выбару новага павінен працягнуць кіраваньне Ордэнам. Ім быў а. Габрыэль Лянкевіч[301]. Калі ён таксама даў паведамленьне аб гэтым двару, адтуль не праз арцыбіскупа, як гэта было ў папярэднім разе, але праз губэрнатара Беларусі,

***)** Калі Варшаўская газэта зрабіла аднойчы паведамленьне пра законнае існаваньне езуітаў у Беларусі і дзеля падмацаваньня прыняла існаваньне ордэна сіласэрных братоў і іншых, гэта абудзіла вялікую незадаволенасьць папскай нунцыятуры, якая з гэтай нагоды паскардзілася каралю і запатрабавала абвяржэньня. Аднак нунцыятура атрымала ў адказ, калі газэта павінна была прывесьці нешта ілжывае, то гэта мусіць быць абвержана; аднак калі яна прывяла праўду, то нельга патрабаваць абвяржэньня праўды, і на гэтым усё засталося да вялікай крыўды нунцыятуры.

---

[300] Павел V (Paulus PP V), сьвецкае імя Камільлё Баргезэ (іт. Camillo Borghese) 17.09.1552 – 28.01.1621 — папа рымскі з 16.05.1605 па 28.01.1621 г. У 1616 дэкрэт папскай Кангрэгацыі «Індэкса забароненых кнігаў» асудзіў працу Капэрніка «Аб зваротах нябесных сфэраў». З ініцыятывы папы быў пачаты таксама інквізыцыйны працэс супраць Галілео Галілея (1564—1642), самага выбітнага фізыка і астранома таго пэрыяду, прапагандыста ідэяў Каперніка. Забаронена было, у прыватнасьці, прапагандаваць тэзіс, што «Сонца ня рухаецца вакол Зямлі і Зямля не зьяўляецца цэнтрам Сусьвету».

[301] Габрыэль Лянкевіч (пол. Gabriel Lenkiewicz), 15.03.1722 – 10.11.1798 —каталіцкі дзяяч, пэдагог, архітэктар з шляхецкага роду Лянкевічаў. У 1747—1748 прэфэкт будаўніцтва касьцёлу Пятра й Паўла ў Бабруйску. У 1752—1754 матэматыку, астраномію й архітэктуру ў Віленскай акадэміі, у 1754—1758 тэалёгію ў Варшаве. У 1765—1768 выкладаў філязофію й матэматыу ў Нясьвіжы, у 1768—1773 — архітэктуру ў Полацку, тамсама прэфэкт будоўлі. Ператварыў Полацак у культурна-навуковы цэнтар з багатай бібліятэкай, лябараторыяй, музэем натуральных навукаў. Аўтар шэрагу архітэктурных праектаў. 8.10.1785 - 10.11.1798 генэральны вікар ордэну езуітаў.

прыйшло паведамленьне да вікара, што ён з дазволу Яе Моцы паводле статутаў інстытута павінен зладзіць выбары новага гэнерала. З гэтай мэтай вікар адправіўся ў Магілёў, каб там (як гэта звычайна адбывалася ў Рыме) пытацца ў арцыбіскупа, як паўнамочнага папскага дэлегата, блаславеньня на павінныя адбыцца выбары, якое ён таксама і атрымаў. Дзеля гэтага ў Полацк сабраліся трыццаць найстарэйшых айцоў і 27 верасьня 1785 ў першым разгледжаньні абралі гэнералам пазначанага вікара, а. Габрыэля Лянкевіча, чалавека выдатных талентаў, які раней таксама знаходзіўся некалькі год у Італіі. Ён нарадзіўся 15 сакавіка 1722 і састаіць у Ордэне з 15 жніўня 1745.

Гэты выбар быў адразу паведамлены двару і адтуль пацьверджаны, аб чым губэрнатар Беларусі праінфармаваў новага гэнерал-вікара ў наступным пасланьні[302]:

“Ayant reçu du Sénat-Gouvernant un *Ukaz* en datte du 18 du present mois de Décembre, Numero 750, par lequel S.M.I. vous confirme dans la charge de Vicaire-Général de la Societé des *Jésuites*, je regarde comme un bonheur à moi, de vous en envoyer la copie, pour votre propre information, étant avec une vénération sincere, de votre Révérence le tres humble Serviteur,

De Mohilow 28 Decembre, 1785.

*Pierre Passek*[303].

*Copie de l’Ukaz Impérial.*

*Ukaz* de S.M.I. Authocratrice de toutes les *Russies*, par le Sénat-Gouvernant, à Monsieur le Général-en Chef, Général-Gouverneur de la *Russie-Blanche*, Sénateur et Chevalier d’Ordres, Pierre Bohdanowicz *Passek*. Vû l’Approbation Suprême accordée par S.M.I. le 15 du present mois de Décembre, sur l’information donnée par le Sénat (à l’effet d’obtenir la dite Approbation Suprême) comme quoi la Sociètè des Jésuites a choisi le P. Recteur *Lenkewicz* pour remplir la charge de Vicaire-Général, et sur laquelle information étoit écrit de la propre main de S.M.I. *Approuvé*: le Sénat-Gouvernant a ordonné en conséquence d’envoyer le présent *Ukaz* d’Approbation

---

[302] Атрымаўшы ад начальніка сэнату *Ўказ* датаваны 18-м гэтага месяцу сьнежня, за номерам 750, праз які Я.ІМ.. [Яе Імпэратарскай Моцы] пацьвярджае пасаду гэнерал-вікара Суполкі *Езуітаў*, я лічу шчасьцем для сябе даслаць вам яго копію дзеля вашай ўласнай інфармацыі, са шчырай павагай, вельмі пакорны слуга вашай прападобнасьці,

Магілёў, 28 сьнежня, 1785.

Пётр Пасек.

*Копія Імпэратарскага Указа*.

*Указ* Я.І.М. Валадарыцы ўсяе *Русі*, да начальніка сэнату, пана генэрал-аншэфу, гэнерал-губэрнатара *Беларусі*, сэнатара і кавалера ордэна, Пятра Багданавіча *Пасека*. Прымая да ўвагі Вярхоўнае Зацьвярджэньне прадастаўленае Я.І.М. 15-га чысла гэтага месяца сьнежня, выданае на зварот сэната (з мэтай атрыманьня пазначанага Вярхоўнага Зацьверджэньня) аб тым, што Суполка Езуітаў выбрала а. рэктара *Лянкевіча* на пасаду гэнерал-вікара, і на якім было ад рукі Я.І.М. напісана *Пацьверджана*: начальніку сэната загадваецца накіраваць гэты *Указ* Вярхоўнага Зацьвярджэньня дзеля абвяшчэньня а. *Лянкевіча* гэнерал-вікарам да арцыбіскупа Магілёўскага *каталіцкай* царквы, Сестранцэвіча, і вам, пану гэнерал-губэрнатару, 18 сьнежня 1785. *Подпіс*. Обэр-сакратар, Ян *Ананьеўскі*. Сакратар, Васілі *Мацьвееў*. Сакратар суда, Павел *Ікосаў*.

Зьверана з арыгіналам сакратаром Цімафеем *Пуцімцовым*.

[303] Пётр Багданавчі Пасек, 18.02.1736 – 22.03.1804 — расейскі дзяржаўны дзеяч, генэрал-аншэф (з 1782), сэнатар, кіраўнік Магілёўскага намесьніцтва (1777-1781), генэрал-губэрнатар Беларусі (1781-1796), актыўны ўдзельнік дзяржаўнага перавароту 1762 г., кавалер ордэна Андрэя Першазваннага.

Suprême pour le dit P. *Lenkewicz* Vicaire-Général, à l'Archevêque de Mohilow des Eglises *Romaines*, Siestrzencewicz, et a vous, Monsieur le Général-Gouverneur, le 18 Decembre 1785. *Signé*. Ober-Sécrétaire, Jean *Ananiewski*[304]. Sécrétaire, Bazile *Matwiew*. Greffier, Paul *Ikosow*[305].

Collationné avec l'Original par le Sécrétaire Timothée *Putimcow*."

Таксама князь Пацёмкін і шматлікія знатныя прыдворныя ў вельмі ветлівых і сяброўскіх слвоах пажадалі новаму гэнэралу посьпехаў на атрыманай ім пасадзе.

3-га сьнежня 1785 памёр а. Міхаіл Рот[306]. Ён нарадзіўся 1 кастрычніка 1721 і 12 ліпеня 1737 далучыўся да Суполкі Езуса. Праз свае пропаведзі як па-літоўску, так і па-польску ён прынёс суцяшэньня вялікай колькасьці абывацелей Дагдзенскага раёну. Усё, што ён атрымліваў, ён раздаваў бедным. На пачатку гэтага 1786 году а. Антон Шэдлер, які быў прыдворным прапаведнікам Яе Каралеўскай Высокасьці прынцэсы Марыі Анны[307] ў Клагэнфурце, пераехаў у Полацк і жывець у тамашнім калегіюме.

Дарэчы на пачатку гэтага 1786 году колькасьць езуітаў у Беларусі складала 178 чалавек. Іх было б яшчэ больш, калі б 6 тамашніх калегіюмаў маглі б атрымаць лепшае забеспячэньне. Шмат іхных уладаньняў, якія раней ляжалі на тагачаснай польскай зямлі, былі затрыманыя палякамі і адабраныя, праз што яны тады зрабіліся бядней. – Хаця ў вышэй пазначанай колькасьці 178 і знаходзяцца езуіты з розных народаў, палякі, расейцы, немцы, італьянцы, французы, гішпанцы, але ж паміж імі пануе цудоўнае аднадумства, плён іх адухоўленага інстытуту. Дзякуючы сваёй цяжкай працы, і пры гэтым узорнаму духоўнаму ладу жыцьця, яны знаходзяцца ў вялікай пашане.

---

[304] Іван Сяргеевіч Ананьеўскі — обэр-сакратар, сэнатар.

[305] Павел Паўлавіч Ікосаў, 1760 – 24.04.1811 — расейскі паэт. У 1781 г. прыняты на службу ў Сэнат. У 1797 г. прызначаны штатным сакратаром Сэната.

[306] Міхаіл Рот (пол. Michał Roth), 01.10.1721 – 22.11.1785 — місыянэр езуіт, пісьменьнік і прапаведнік.

[307] Эрцгерцагіня Марыя Анна Язэфа Антонія Габсбург-Латарынгская (ням. Maria Anna Josepha Antonia von Habsburg-Lothringen), 06.10.1738 – 19.11.1789 — дачка імпэратрыцы Марыі-Тэрэзіі.

## *Designatio Personarum præcipuarum Soc. Iesu in Alba Russia. 1786.*[308]

A. R. P. *Gabriel Lenkiewicz*, Præpositus Vicarius Generalis a die 27 Septembris Anni 1785.

R. P. *Franciscus Kareu*, Assistens. Præpositus Provincialis a die 18 Octobris Anni 1782, simulque Rector Collegii Osrensis.

R. P. *Franciscus Lubowicki*, Assistens simulque Rector Düneburgensis.

R. P. *Hieronymus Wichert*, simulque Rector Collegii Mohiloviensis.

R. P. *Franciscus Loupia*, Admonitor.

R. P. *Matthias Rakiety*, Secretarius Societatis.

P. *Petrus Estka*, Substitutus.

*Thomas Minkowski*, Adjunctus.

P. *Dominicus Brzezinski*, Socius R. P. Provincialis, Consultor Provinciæ.

## *Consultores Provinciæ*[309].

R. P. *Ioannes Schwarz*.

R. P. *Casimirus Przestrzelski*, simulque Rector Collegii Vitebscensis.

## *Collegia S. I. in Alba Russia*[310].

I. Collegium Polocense, et Domus I et II Probationis.

II. Collegium Düneburgense, et Domus III Probationis.

R. P. *Franciscus Lubowicki* Assistens, et Rector a die 22 Ian. 1784.

III. Collegium Mohiloviense.

R. P. *Hieronymus Wichert*, Rector a die 1 Iunii 1779.

IV. Collegium Mscislaviense.

R. P. *Martinus Strusinski*, rector a die 1 Novembris, 1783.

V. *Collegium Orsense*.

R. P. *Franciscus Kareu*, Provincialis albæ Russiæ, et Rector a die 1 Iunii 1779.

VI. Collegium Vitebscense.

R. P. *Casimirus Przestrzelski*, Rector a die 1 Ianuarii 1784; Consultor Provinciæ.

---

308 Пералік выбітных асоб Суполкі Езуса ў Беларусі. 1786.

309 Кансулянты правінцыі.

310 Калегіюмы Суполкі Езуса ў Беларусі.

*Index Collegiorum, Domorum, et Missionum, ac Numerus Sociorum Provinciæ Albæ Russiæ. 1786*[311]*.*

| | Sac. | Schol. | Coadj. | Univ. |
|---|---|---|---|---|
| Coll. Poloc. et Dom 1 et 2. Prob. | 39 | 18 | 20 | 71 |
| Coll.Duneb. et Dom. 3. Prob. | 14 | 1 | 8 | 23 |
| Missio Dagdensis | 2 | — | — | 2 |
| Missio Puszensis | 3 | — | — | 3 |
| Colleg. Mohiloviense | 7 | 2 | 3 | 12 |
| Missio Chalczensis | 2 | — | — | 2 |
| Missio Czeczerscensis | 2 | — | — | 2 |
| Colleg. Mscislaviense | 6 | 2 | 5 | 13 |
| Missio Losovicensis | 2 | — | 1 | 3 |
| Missio Rasnensis | 2 | — | — | 2 |
| Colleg. Orsense | 11 | 6 | 7 | 24 |
| Collegium Vitebscense | 8 | 3 | 4 | 15 |
| *Numerantur* | 98 | 32 | 48 | 178 |

[311] Сьпіс калегіюмаў, катэдральных сабораў і місый, і колькасьць чальцоў правінцыі Беларуст. 1786.

# Паляпшэньні і дапаўненьні.

С. 115, р. 19[312] дадаць пасьля **царквы**: гэта значыць, у янсяністаў, якія выдаюць сваю сэкту за абраную царкву.

С. 123 р. 15 – 21[313] паўтараюцца, і таму мусяць быць выкрасленымі.

С. 150, р. 4[314] пасьля слова **заўвага** трэба дадаць яшчэ вось гэткі каментар:

***)** Аўтар мог бы зрабіць заўвагу яшчэ пра тое, што езуіты праз сваё скасаваньне нарэшце вымруць, і пры гэтым, пасьля іх зьнікненьня, хрысьціянская чарада ў Беларусі адразу трапіць у небяспеку адчуць недахоп дасьведчаных душпастыраў.

С. 167, р. 2[315] дадаць заўвагу пасьля слова Мацэдоніё: У сьлед за Мацэдоніё сышлі тым часам у вечнасьць, каб атрымаць там сваю ўзнагароду, таксама Альфані і магутны праціўнік езуітаў, дзяржаўны сакратар Палавічыні; за кім з 1780 шмат хто з разных краёй сьвету ішоў, і яшчэ будзе ісьці; так, што нарэшце гэта можна назваць: Societas! Ubi sunt, qui te accusabant? Ioh. VIII, 10.[316]

С. 334[317]. Як тут, так і ў папярэднім паведамленьні, ідзе гаворка пра дабрасумленнасьць расейскіх міністраў, якія не жадалі даць павярнуць сябе праз хабар да пашкоджаньня суполкі. Гэта дае мне нагоду, распавесьці чытачу яшчэ нешта пра подкуп іншых собаў, справу, якую ня трэба выпускаць з увагі ў гісторыі скасаванай і захаваўшайся суполкі.

Багатая, заснаваная пабожным панам П’ерам Ніколям янсянісцкая каса, названая la boite à Perette[318], чый гадавы даход складае зараз звыш 40000 ліўраў, мела мацнейшы ўплыў на падзеньне суполкі. За прайшэдшыя трыццаць год гэтага стагодзьдзя яньсяністы паводле сьведчаньня знакамітага каралеўскага лэйб-медыка Сальватора Франсуа Марана[319] каштавалі каля 500000 ліўраў, каб рабіць вальшывыя цуды праз дыякана Парыжу, дзеля атрыманьня сьвятой рэрутацыі для іх сэкты. Чаго б яны не зрабілі зараз, каб, гэдак кажучы, прыбраць адзіны вялікі камень, які ляжаў на шляху да прызнаньня іх сэкты, г. зн. езуітаў? Так, гэтая каса была дзеля гэтай мэты некалькі разоў спустошаная; і чаму зьдзіўляцца? Міністры, парляментарыі, прэлаты і інш. Не задавольваюцца малым. Наконт вышэй пазначанага багатага ўнёску янсяністаў запэўнівае нас пан прэзідэнт Роланд у адным з неўзабаве выдадзеных ім твораў, у якім ён спрабуе аспрэчыць тэстамэнт свайго дзядзькі з-за зробленых у ім шматлікіх празмерных завяшчаній у пазначаную касу. Ён сам прызнае, што рабіў

---

312 Старонка 50, радок 8 перакладу: “... на выдаткі маленькай царквы”.

313 Старонка 53, радкі 10-13 перакладу “Калі яны перашкодзілі распаўсюджваньню веры...” ў арыгінальным тэксьце паўтараюцца, у перакладзе адразу выпраўлена.

314 Старонка 63, радок 20 перакладу: “... зрабіце разам са мной яшчэ адну заўвагу”.

315 Старонка 70, радок 9 перакладу: “... акрамя сакратара Мацэдоніё”.

316 ”Грамадства! Дзе твае абвінаваўцы?” Перафраза з Эвангельля паводле Яна 8:10: “Жанчына, дзе яны? Ніхто не асудзіў цябе?”

317 Старонка 129 перакладу.

318 “Скарбонка Перэ”. Паводле лягенды П’ер Ніколь перадаў грошы янсяністаў свайму лёкаю Перэ, які схаваў іх у скрынке малака.

319 Саў’ё Франсуа Маран (фр. Sauveur François Morand), 02.04.1697 – 21.07.1773 — французскі хірург і энцыклапедыст.

узнос туды ў памеры 60000 ліўраў (верагодна каб дагадзіць свайму дзядзьку). Можна прачытаць, што ён піша ў сваіх Memoire imprimé[320] 1781: J'avois beaucoup depensé avant la mort de M. De Fontferrieres, et l'affaire des Jésuites me coutoit de mon argent plus de 60000 livres. Et en verité les travaux que j'ai faits et sur-tout relativement aux Jésuites qui n'auroient pas été eteints, si je n'avois consacré a cette oeuvre mon tems, ma santé et mon argent, me ne devoient pas attire une exhéredation de mon oncle.[321] – – Што зрабіў яшчэ Помбаль, які акрамя каралеўскай улады трымаў пад сабой усю езуіцкую маёмасьць у Эўропе і па-за яе межамі? У Рыме ведаюць, што партугальскаму паслу Альмада была выдадзена Помбалем 9 мільёнаў скуда, зь якіх адзін мільён і звыш таго былі выкарыстаныя толькі на шпіёнаў. У надрукаваным скарочаным запісу працэсанад Побмалем стаіць тое самае, што дзеля скасаваньня езуітаў, дзеля штогадовых пэнсій для Яго Правялебнасьці N.N.N. і іншых у Рым была даслана 3 мільёны, што бачна з гадавых квіткоў яго архіва, нум. 13. Аднак каб Помбаль не нёс заўсёды ў адзіноце ўвесь цяжар выдаткаў, ён атрымліваў брацкую дапамогу з гішпанскага боку, дзе таксама (без таго, каб кароль штосьці ведаў пра гэта) міністры маглі па свайму жаданьню распараджацца езуіцкай маёмасьцю, а таксама і іншымі даходамі. – Герцаг Шуазёл ледзь не разарыўся каб паставіць падножку езуітам; аднак ж яго яшчэ пажыцьцёва падтрымлівалі часткова янсяністы, часткова іншыя разам зь ім выступаўшыя супраць езуітаў сябры, з удзячнасьці, што ён быў адным з галоўным вынішчальнікаў езуітаў. У 1750 г. граф Хр... быў запрошаны ў Лігу супраць езуітаў з абяцаньнем, пры першым уваходзе атрымаць узнагароду ў 12000 скуда. Сумленны граф аднак даверыў гэта а. Захарыі з дадаткам, каб ён, калі прыедзе ў Рым, паведаміў пра гэта свайму гэнералу.

У Рыме былі падкупленыя нават тыя, хто спачатку былі вакол Папы. Помбаль мусіць назваць 80 прэлатаў і афіцыйных асобаў, якія праз подкуп далі схіліць сябе да антыезуіцкай партыі. Папскі гаспадарчы служыў супраць свайго пана з заробкам у 14000 ліўраў. Калі папе Клеменсу XIII паведамілі пра нявернасьць падобных людзей, пабожны Папа не жадаў у гэта паверыць. Аднак кардынал Чэнчы[322] взяўся за тое, каб давесьці яму гэта. Чэнчы затраціў 500 скуда, каб здабыць спіс антыезуіцкіх пэнсіянэраў: ён атрымаў яго і паказаў яго Папе. Калі гэты кардынал быў адпраўлены Папай на Пантыйскія балоты, яго знайшлі на сьвітанку мёртвым. Пры ім была знойдзена яго генэральеную споведзь (у якой гэты пабожны прэлат трымае сябе кожны час гатовым да сьмерці) побач з пазначаным сьпісам тых пэнсіянэраў. Паколькі аднак на целе нябожчыка не было бачна ніякай прычыны сьмерці, то гэта абудзіла падазрэньне, што ён магчыма быў забіты менавіта за знойдзены сьпіс.

---

[320] Надрукаваныя мэмуары.

[321] У мяне былі вялікія страты да сьмерці пана дэ Фонферьеса, і справа езуітаў каштавала мне 60000 ліўраў маіх грошай. І насамрэч тая праца, якую я зрабіў, і асабліва адносна езуітаў, якія не былі б выгнаныя, калі б я не траціў на гэта мой час, маё здароў'е і мае грошы, не павінна прывесьці да пазбаўленьня мяне спадчыны майго дзядзькі.

[322] Бальтазар Чэнчы (іт. Baldassare Cenci), 01.11.1710 – 02.03.1763 — італьянскі кардынал з шляхецкага роду Чэнчы. Вучыўся ў Папскай акадэміі духоўнай шляхты, дзе атрымаў доктарскую ступень па грамадскаму і кананічнаму праву. Быў прызначаны Клеменсам XIII на пасаду кардынылa-сьвятара ў кансісторыі. Пазьней Папа прызначыў яго дэлегатам і камісарам з шырокімі паўнамоцтвамі на высушэньне Пантійскіх балотаў.

Пры папе Клеменсе XIV быў выкарыстаны дрэнны манах Buontempi, каб дапамагчы прынудзіць Папу да зьнішчэньня Суполкі. Напрыканцы гэтага ён атрымаў (па франц. кошту) звыш 160000 ліўраў, не ўлічваючы каштошных падарункаў гадзіньнікаў, залатых табакерак, карцін, ювелірных вырабаў і інш. Маючы магчымасьць распараджацца гэтым багацьцем па свайму жаданьню, ён атрымаў ад Папы асаблівы загад, які ён паказаў свайму гэнералу не без засмучэньня апошняга. Ён так добра ўклаў свае грошы, што ён штогод бярэ для свайго забеспячэньня 13500 ліўраў. Калі прэлат Мацэдоніё ўбачыў, што яго абыйшлі, ён паспрабаваў схіліць Папу да захаваньня езуітаў. Партыя зусім не зьвярнула на гэта ўвагу і адразу зьявілася да Мацэдоніё з прымірыцельным ахвяраваньнем у 6000 крузадаў, і з таго моманту ён быў ужо іхны і горача сцьвярджаў, што езуіты мусяць быць зьнішчаныя. Я прапускаю прэлата Альфані, які быў для езуітаў у Рыме тым жа, чым быў Помбаль у Лісабоне: таму ён таксама і завецца рымскім Помбалям.

Гэтыя цікавыя апавяданьні знайшлі тут сваё месца яшчэ таму, што яны праз кантраст узвышаюць добры характар расейскіх міністраў: як тых, хто закрывае вочы перад тымі асьляпленьнямі, перад якімі кардыналы, прэлаты, міністры і інш нецерпяліва адчыняюць свае.

Аднак ці ня трэба пры гэтым лічыць, што як наш Збаўца быў прадааны габрэям за грошы, то таксама і Суполка за грошы была аддадзеная, прададзеная і зьнішчаная? Але тут ёсьць розніца ў тым, што Збаўца быў прададзены ўсяго за 30 срэбранікаў, а Суполка за многія мільёны. Аднак там знайшоўся толькі Адзін Юда, тут жа – вялікая колькасьць тых, хто прагнуў грошай.



# Зьмест:

Уступ. .... 2
Першы ліст. .... 4
Другі ліст. .... 10
§. I. .... 11
§. II. .... 20
§. III. .... 38
§. IV. .... 40
§. V. .... 46
§. VI. .... 49
§. VII. .... 55
§. VIII. .... 63
§. IX. .... 70
§. X. .... 78
§. XI. .... 82
§. XII. .... 92
§. XIII. .... 101
§. XIV. .... 106
§. XV. .... 117
§. XVI. .... 121
Заключэньне. .... 127
Факт. .... 127
Няпраўды цыркуляра. .... 130
Супярэчнасьці цыркуляра. .... 131
Абвінавачаньне. .... 131
Дадатак. .... 134
*Designatio Personarum præcipuarum Soc. Iesu in Alba Russia. 1786.* .... 146
*Consultores Provinciæ.* .... 146
*Collegia S. I. in Alba Russia.* .... 146
*Index Collegiorum, Domorum, et Missionum, ac Numerus Sociorum Provinciæ Albæ Russiæ. 1786.* .... 147
Паляпшэньні і дапаўненьні. .... 148